# ЗМЕСТ

Крыніца

# Я | Максім ТАНК



*Магчыма,*
*Сярод тых,*
*Што прыйдуць развітацца*
*І пажадаць, каб зямля*
*Мне лёгкаю была,*
*Будуць і тыя,*
*Што ўсё жыццё*
*Мне кідалі*
*Пад ногі валуны.*
*О, мір табе,*
*Шчасліві дзень яднання!*







***

*«Няма ніякіх беларусаў і іх мовы».*

З рэакцыйнай газеты

**Калі няма на свеце маёй мовы,**
**Майго народа і мяне самога, —**
**Дык для каго будуеце, панове,**
**Канцлагеры, катоўні і астрогі?**
**Супроць каго рыхтуеце расправы**
**І шыбеніцы ўзносіце пад хмары,**
**Штодня арганізуеце аблавы**
**І ўсіх мабілізуеце жандараў?**
**Супроць каго рыхтуеце вы змовы**
**З прадажнымі і юдамі і з Богам, —**
**Калі няма на свеце маёй мовы,**
**Майго народа і мяне самога!**

1931

## *КАБ ДРУГІ РАЗ БЫЎ...*

**Песні весялей**
**Пець бы я пачаў,**
**Працаваць раней**
**За ўсіх уставаў,**

**Больш бы пасадзіў**

## *Пра Мяне*

*17.09.1912 — у вёсцы Пількаўшчына, што на Мядзельшчыне, нарадзіўся ў сялянскай сям'і Яўген Іванавіч Скурко. Скончыўшы пачатковую польскую школку, пасля ўзбагачаў свой адукацыйны досвед у Вілейскай рускай ды Радашковіцкай беларускай гімназіях, і ўжо з апошняй быў выключаны за ўдзел у школьным страйку (!).*

*Аднак цяга да ведаў перасіліла бунтарскі дух, пра што сведчыць далейшая вучоба ў Віленскіх рускай і беларускай гімназіях.*

*1927 — у пятнаццацігадовым узросце ўступае ў камсамол і пачынае актыўнічаць у заходнебеларускім падпольным руху.*

*1932 — пад Плешчаніцамі пераходзіць мяжу ва Усходнюю (савецкую) Беларусь, адкуль неўзабаве быў вернуты назад, ці то на шчасце, збярогшыся ад будучых рэпрэсій, ці то для далейшай падпольнай камсамольска-камуністычнай дзейнасці (гэты біяграфічны факт дарэшты не праяснены).*

*1932 –1933 — інструктар ЦК камсамола Заходняй Беларусі на Віленшчыне і Навагрудчыне. З гэтага ж часу пачынае друкавацца ў часопісе «Пралом», што*

# СЛОВА НА РАЗВІТАННЕ З ПАЭТАМ

**У такія ўжо далёкія даверасенёўскія часы Максім Танк быў для мяне легендай. Калі я жыў у сваіх Бандарах на Беласточчыне і вучыўся ў польскіх школах, то беларускае друкаванае слова трапляла да мяне рэдка. Толькі ў суседняй вёсцы, У Рыбаках, у шчырага прыхільніка беларушчыны Валодзі Хлябіча я бачыў беларускія выданні, у тым ліку і «Калоссе». Адтуль мне запомніліся прозвішчы чатырох беларускіх паэтаў: Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Танка. І найбольш блізкім з іх аказаўся якраз Максім Танк.**

**Шмат чым умеў ён прывараджыць чытача і перш за ўсё — праўдзівымі малюнкамі жыцця заходнебеларускай вёскі, глыбокім непадробным пачуццём. Праз нейкія мастацкія дэталі ў сваіх вершах Максім Танк непаўторна перадаваў каларыт эпохі, паказваў добра знаёмыя адчуванні чалавека з майго, сялянскага асяроддзя.**

**Па-свойму праніклёна сказаў пра гэта яшчэ ў 1936 годзе ў прадмове да паэтычнага зборніка «На этапах» Р.Баравы (Рыгор Шырма): «Ідзе паэт сваімі шляхамі-этапамі, выскубае народныя словы і эпітэты, як валошкі з жыта, нібы**

*выдаваўся паэтам Я Гарохам, а таксама ў часопісе «Для ўсіх» ды газетах-аднадзёнках, у адной з якіх – «Беларускае жыццё», што выдавалася ў Львове, і быў змешчаны верш «Заштрайкавалі гіганты-коміны», упершыню падпісаны псеўданімам МАКСІМ ТАНК.*

*1933 – 1934 – адбываў пакаранне за антыдзяржаўную дзейнасць ў віленскай турме «Лукішкі».*

*1936 – у Вільні выходзіць першы зборнік вершаў «На этапах», які тут жа канфіскуецца. Факсімільнае выданне яго адбудзецца ў Мінску ў 1983 годзе.*

*1937 – там жа выдаюцца зборнік «Журавінавы цвет» і паэма «Нарач».*

*1938 – пабачыў свет зборнік вершаў «Пад мачтай».*

*1939 – горача вітае прыход савецкай арміі і ўз'яднанне Усходняй і Заходняй Беларусі ў адзіную БССР Накіроўваецца ў Вілейку супрацоўнікам абласной газеты «Вілейская праўда». Напрыканцы года ў газеце «Літаратура і Мастацтва» з'яўляецца артыкул Аркадзя Куляшова «Паэзія Максіма Танка» – першая публікацыя пра творчасць паэта ў савецкім друку.*

*1940 – прымаецца ў члены СП СССР У Мінску выходзіць яго кніжка «Выбраныя вершы».*

*1941 – 1945 – працуе ў газеце Бранскага фронту «За Савецкую Беларусь» ды ў агітацыйным плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну». Пад час вайны была выдадзена паэма «Янук Сяліба» (1943).*

На зямлі садоў,
Лепшых бы нажыў
Дружбакоў-сяброў,

І не шкадаваў
Сваіх ног і плеч,
І не прапускаў
Незабыўных стрэч,

Больш бы я прайшоў
Сцежак і дарог,
І сваю любоў
Я мацней бярог,

Больш бы даражыў
Кожным днём сваім, –
Каб другі раз быў
Маладзюсенькім!

1955

## *У ЛУЎРЫ*

Джыяконда! Я, можа, адзін з закаханых,
Што прызнаннем не будзе табе дакучаць,
Хоць праехаў нямала дарог, акіянаў,
Каб пабачыць цябе, каб цябе прывітаць.

І таму мне не лёгка расстацца з табою
(Хоць даўно ўжо мінуў аўдыенцыі час),
Не спытаўшыся, што ты за ўсмешкай сваёй
Скрыла ад Леанарда, хаваеш ад нас?

1956

жартуючы сыпе метафарамі і вобразамі, якім, здаецца, цесна робіцца ў рамках астрожнай тэматыкі. «Паміж ночы хмар» падаюць ягоныя песні «залацістымі іскрамі», сабірае іх працоўная Беларусь і пляце вянок славы маладому паэту». І гэта была не завышаная ацэнка паэтычнага зборніка 24-гадовага аўтара.

Прывяду канкрэтны прыклад таго, што мяне, як чытача, уражвала – праўда, з больш позняга перыяду. У «Лістках календара» пад датай 7.VIII.1936 г. Максім Танк запісаў: «З апошняга нумара «Сігналаў» пераклаў дзве вострыя палітычныя эпіграмы: першая – Т. Галендара, другая – С. Е. Леца.

*Фронтам да Лоппа, фронтам*
*да хлопа,*
*Фронтам і фронтам.*
*Няма як дыхнуць.*
*Паны, даруйце, – што ж рабіць*
*з попай,*
*У які бок попу нам павярнуць.*

У каментарыях тут жа ўдакладняецца: «ЛОПП – Ліга Обронь Поветшнэй Паньства (Ліга Супрацьпаветранай Дзяржаўнай Абароны)».

Сам паэт сціпла называе свае радкі «перакладам». Аднак гэта не зусім дакладна, бо тут мы маем справу з сатырычнай перафразіроўкай польскай эпіграмы. Як мне памятаецца, яна мела наступны выгляд:

Było frontem do morza,
Było frontem do LOPPa,
Było frontem do handlu,
Dziś jest frontem do chlopa.

Że tam gdzie front istnieje
Być tez musi i tył.

«Фронтам» «да мора», «да ЛОППа», «да гандлю», «да хлопа» – гэта лозунгі, пад якімі праводзіліся чарговыя грамадска-палітычныя кампаніі ў даверасьнёўскай Польшчы. У польскім арыгінале не было гаворкі пра попу, і таму перафразіроўка М.Танка значна ўзмацняе сатырычны эфект твора. (Што ж датычыць самога ЛОППа, то мне ён запомніўся як «Ліга Обронь Поветшнэй і Пшэцівгазовэй».)

Не падазраваў я перад вайною, што Максім Танк у сваіх вандроўках па Беларусі наведваў нашу мясцовасць, быў зусім блізка ад нас. Аднойчы, згадваючы колішнія часы, ён мімаходзь сказаў: «Недзе каля Белавежскай пушчы жыў доктар Марцінчык. Я прыязджаў да яго, і ён даваў грошы на беларускія выданні. Рабіў я гэта па даручэнні Рыгора Раманавіча Шырмы».

Тут ужо і я мог нешта дапоўніць. Доктар Марцінчык Мікалай Міхайлавіч жыў у мястэчку Нараўка, сапраўды недалёка ад Белавежскай пушчы, побач з чыгункай Свіслач – Гайнаўка (перарэзанай пасля другой сусветнай вайны дзяржаўнай мяжою), каля 15 кіламетраў на поўнач ад Гайнаўкі.

Прозвішча Марцінчыка да вайны вельмі часта згадвалася ў нашай хаце: у яго лячыўся мой бацька, інвалід рускай арміі, ранены ў снежні 1916 г. на Рыжскім фронце. А доктар карыстаўся добрай славай у наваколлі. Пасля вайны ён жыў у горадзе Гродна (230 002, вул. Лермантава, 8, кв. 3) і працаваў рэнтгенолагам. У яго, я думаю, павінны былі б захоўвацца нейкія матэрыялы, звязаныя з Максімам Танкам. У 1995 годзе прозвішча яго з нейкай нагоды згадвалася ў «ЛіМе». А канкрэтныя і надзейныя звесткі аб ім захаваліся ў архіве Зоські Верас.





## *ВЕНЕРА МІЛОСКАЯ*

Як жа знайсці мне яе тут, дзе поўна
Розных Палад, Афрадытаў, Медэяў?
Добра, што ты мне, Вергілій, прыпомніў:
«Et vera incessu petuit dea» [1]

Бачу: ідзе яна лёгкай хадою.
Рук няма. Пэўна, маланка скрышыла,
Каб перад небам і перад зямлёю
Імі грудзей сваіх не засланіла.

1956

## *AVE MARIA*

Звон кафедральны кліча на Ave.
З цесных завулкаў злева і справа
Гуртам манашкі ў чорным адзенні
Цягнуцца, быццам сумныя цені.
Тут і старыя, і маладыя, –
Ave Maria...

Я не звярнуў бы і ўвагі, можа,
Каб не пабачыў між іх прыгожай
Стройнай манашкі, якая мае
Не больш хіба як семнаццаць маяў;
Чорныя вочы, бровы густыя, –
Ave Maria!

Нат пад жалобнай вопраткай чорнай

[1] Сапраўдная багіня пазнаецца па паходцы (лац.).

*1945 – 1948 – працуе літаратурным рэдактарам часопіса «Вожык».*

*У 1948 годзе атрымлівае Дзяржаўную прэмію СССР за зборнік паэзіі «Каб ведалі...», чым і засведчыў сваю вядомасць у чытача, аўтарытэт у літаратурных колах і прыязнасць у кіруючага камуністычнага істэблішменту.*

*1948 – 1966 – займае пасаду галоўнага рэдактара часопіса «Полымя». З таго ж часу прытрымліваўся завядзёнкі друкавацца ў згаданым часопісе з нізкамі сваіх вершаў адзін раз у год і менавіта ў верасьнёўскім нумары (ці не ў знак той знамянальнай у яго жыцці падзеі – ўз'яднання Беларусі?).*

*Пад час гэтай працы быў яшчэ двойчы ўзнагароджаны. Літаратурнай прэміяй імя Я.Купалы за зборнік вершаў «След бліскавіцы» (1959) і Дзяржаўнай прэміяй імя Я.Купалы за кніжку «Мой хлеб надзённы» (1966).*

*З 1961 па 1966 быў кандыдатам у члены ЦК КПБ, а з 1966 – членам ЦК КПБ.*

*1966 – першы сакратар праўлення СП БССР і сакратар праўлення СП СССР*

*1968 – нададзена званне народнага паэта БССР*

*1971 – стаў лаўрэатам прэміі польскага аўтарскага аб'яднання ЗАІКС за пераклады польскай паэзіі і ўмацаванне дружбы паміж двума суседнімі народамі.*

*1971 – старшыня праўлення СП БССР. (Да 1990 г. уключна.)*

*1972 – акадэмік АН БССР*

*1974 – Герой Сацыялістычнай Працы.*

*1978 – атрымлівае Ленінскую прэмію за зборнік вершаў у перакладзе на рускую мову «Нарочанские сосны».*

*1980 – Літаратурная прэмія імя А. Фадзеева за кніжку «Прайсці праз вернасць».*

*З 1947 па 1971 быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР Выбіраўся Старшынёй Вярхоўнага Савета БССР у перыяд VI – VII склікання, а на працягу 1969 – 1989 гг. – дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР*

*1994 – выйшаў апошні прыжыццёвы зборнік паэзіі «Мой каўчэг».*

*Напрыканцы гэтага ж года здаў у выдавецтва «Мастацкая літаратура» апошні ўласнаручны рукапіс кніжкі «Errata».*

*Цяжка хварэў. Быў адзінокі. Вёў пераважна замкнуты вобраз жыцця. Магчыма, натаваў дзённік, аб чым прагаворваўся...*

*1995 – памёр Яўген Іванавіч Скурко. Жалобная паніхіда была* ***азначана*** *прэзідэнтам Беларусі А Р Лукашэнкам, а сама развітальная працэсія прайшла пад схіленым долу забароненым бел-чырвона-белым гістарычным сцягам нашай Айчыны.*

*Адзіны народны паэт Беларусі, які ўрэшце дамогся свайго* ***поўнага народнага прызнання****, лёгшы сваім сярод сваіх на кладах у вёсцы Пількаўшчына. .*

**Падрыхтаваў**
**Л. ГАЛУБОВІЧ.**

**Ты адгадаеш: стан непакорны,**
**Ножкі, якімі б на карнавалах**
**I захапляла і чаравала,**
**Смуглыя рукі, грудзі тугія, –**
**Ave Maria!**

**Глядзіць набожна на крыж пятровы,**
**А я малюся на яе бровы:**
**Няўжо, красуня, ты не шкадуеш,**
**Што харэство і жыццё марнуеш?**
**Як танцавалі б ножкі такія, –**
**Ave Maria!**

**Цябе атрутаю апаілі,**
**Ружанцам рукі табе скруцілі.**
**Смялей парві ты яго, не бойся!**
**У полі недзе шуміць калоссе...**
**О, як бы жалі рукі такія, –**
**Ave Maria!**

**А потым хутка прыйшло б каханне,**
**Страчала б з мілым свой золак ранні.**
**А потым стала б ты гаспадыняй**
**I калыхала б сваю дзяціну!**
**О, як кармілі б грудзі такія, –**
**Ave Maria!**

**Не знаю, можа, мая малітва**
**Выйграць бы мне памагла гэту бітву,**
**Але пазвалі яе; манашка**
**Пайшла за ўсімі, ўздыхнуўшы цяжка,**
**Пад зводы змрочныя і глухія, –**
**Ave Maria!..**

1957

**Пасля верасня 1939 г. на ўвесь перыяд вайны Максім Танк выпаў з майго поля зроку. І толькі пасля вайны вярнуўся ён да мяне як да студэнта філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта.**

**... Быў конкурс ведаў па французскай мове. Сярод пытанняў было і такое: «Як называецца апошні зборнік Максіма Танка?» Кнігу – «Каб ведалі» – трэба было назваць па-французску. Сама выкладчыца пераклала» «Si vous savies». А мне ўяўлялася, што на французскай мове ён павінен называцца «Qu`on sache».**

**Пакуль Максіма Танка я бачыў толькі ў прэзідыумах, кінахроніках, на старонках падручнікаў, то ён рэальна ад мяне быў вельмі далёкім, хоць вершы яго спадарожнічалі мне, а ў іх заўсёды нешта кранала мяне, аказвалася блізкім. Але здарылася так, што з 1977 года я жыў у адным доме і сустракаўся з ім у двары, у магазінах, на пошце. Хадзіў ён заўсёды задумлівы, не аглядваючыся па баках. Калі ў магазіне станавіўся ў доўгую чаргу, то ні разу не згадзіўся стаць перада мною або на маё месца.**

**Пры сустрэчах у апошнія гады неаднаразова заводзілася гаворка пра падзеі ў Польшчы – спачатку пра тое, з якім размахам праводзіліся палітычныя забастоўкі, якія расхіствалі эканоміку краіны і раскручвалі спіраль інфляцыі. Калі «Салідарнасць» узяла ў свае рукі ўладу, то мы страцілі доступ да польскай перыёдыкі, да навінак мастацкай і навуковай літаратуры. На працягу ўжо некалькіх гадоў нельга нічога ні выпісаць, ні заказаць. Польшча, з якой у нашым жыцці было звязана асабліва многа, аказалася адрэзанай ад нас. Не спынялася толькі карэспандэнцыя**





## *МОЙ ХЛЕБ НАДЗЁННЫ*

**Непакой за цябе, зямля мая,**
**За твой ураджай, спакойны сон,**
**За дрэва кожнае ў гаях,**
**За весніх песень переразвон,**
**Непакой за цябе, зямля мая, –**
**Мой хлеб надзённы.**

**Часамі ён горкі ад пылу быў,**
**Часамі салёны ад слёзаў быў,**
**Часамі гарачы ад пораху быў,**
**Але і салодкі ад дружбы быў**
**Мой хлеб надзённы.**

**I не кладзіце мне хлеб другі**
**У кайстру, калі я ў дарогу іду,**
**На стол, калі бяседу вяду,**
**На сэрца, калі на ім рукі складу.**

1957

## *РОЗДУМ*

**Не знаю, калі я паспеў пастарэць,**
**Расстацца з юнацкімі марамі;**
**Амаль развучыўся смяяцца і пець,**
**Узброіў свой нос акулярамі.**

**Больш стаў ў прэзідыумах засядаць.**
**Чытаць усім праўды вядомыя.**
**Дзяўчаты зусім на мяне не глядзяць,**
**І «дзядзем» завуць незнаёмыя.**

## *З «Лісткоў календара»*

### 1935 год

Прачытаў дзве, нашумеўшыя ў свой час, паэмы: А. Радзевіча «Беларусь» і У. Жылкі «Уяўленне» Іх мне вельмі хваліў В. Г-ыч, лічачы іх пераломнымі ў нашай літаратуры, паэмамі з глыбокім філасофскім падтэкстам. Відаць, кожны ўспрымае найбольш блізкія і сугучныя яму песні, творы мастацтва. Мяне ж гэты, спознены на нашым грунце, сімвалізм не захапіў Відаць, я з ім размінуўся, калі ішоў за плугам і кожную грудку зямлі, кожны камень яе адчуваў сваімі босымі нагамі. Ну, а ў камеру, калі сядзеў, праз заслон вартавых дайсці да мяне ён не мог.

Ледзь змусіў сябе дачытаць Хлебнікава. Мне здаецца, што падобнымі эксперыментамі могуць займацца паэты, перад якімі ніколі не стаяла пытанне: быць ці не быць іх мове? Аж зайздросна, што ёсць на свеце пісьменнікі, якіх ніколі не трывожыла гэта праблема.

На некалькі дзён запасся лінгвістычнай літаратурай і маладнякоўскімі зборнікамі вершаў. Творы маладнякоўцаў мне здаюцца да таго шматслоўнымі, кучаравымі, што нагадваюць барок, толькі – пралетарскі. Праўда, мова значна багацейшая за нашу, заходнебеларускую, бязбожна засмечаную дыялектызмамі і рознымі паланізмамі. Я ўсё больш пачынаю

**са знаёмымі, і радыё даносіла да нас навіны адтуль.**

**А навіны былі цікавыя. Вяліся, напрыклад, перагаворы пра газаправод Сібір – Заходняя Еўропа праз Польшчу. І нідзе ні слова не гаварылася ў афіцыйных паведамленнях (у тым ліку і па радыё), як гэты газаправод будзе з Расіі ў Польшчу пракладвацца: праз космас ці па дне Балтыйскага мора з Пецярбурга ў Калінінград і далей? Беларусь згубілася і для палітыкаў, і для радыё.**

**Між тым і мы дачакаліся пры панаванні В.Ф. Кебіча і А.Р. Лукашэнкі часу, калі ў нас раскруцілася інфляцыя тэмпамі, якія ў некалькі разоў перавышалі польскія. Хоць тут і не было «Салідарнасці», якая магла б аказацца вінаватай у мэтанакіраваным разбурэнні эканомікі. Было і ёсць затое начальства, страшэнна некампетэнтнае ды і пазбаўленае пачуцця элементарнай адказнасці за лёс недасведчаных і бездапаможных людзей.**

**Як бы там ні было, але Польшча знайшла выхад з народнагаспадарчых тупікоў, пераадолела крызіс, эканоміка там развіваецца хуткімі тэмпамі, а мы ўсё коцімся і коцімся ўніз, да нейкай небывалай катастрофы. І ніякай прасветліны, толькі працягваецца небывалы падман народа на ўрадавым узроўні.**

**Мне ў апошнія гады моцна пашанцавала. Добры і даўні знаёмы з Варшавы Аляксей Апалінскі рэгулярна прысылае мне найбольш цікавыя польскія перыядычныя выданні «Polityka», «Nie», «Wiadomosci Kulturalne», «Przeglod Tygodniowy», «Gazeta Wyborcza» і некаторыя іншыя. Аднойчы ў час чарговай сустрэчы Максім Танк паведаміў мне, што перачыт-**

думаць, што сапраўдная паэзія пачынаецца не ад слоўнай і рытмічнай эквілібрыстыкі, але – ад думкі.

Паэзія падобна да таго казачнага арла, які, несучы свайго героя, патрабуе ад яго корму Апошні пад канец свайго падарожжа нават змушан быў ахвяраваць самім сабой.

Ад уплываў розных бясплодных мадэрнізмаў заходнебеларуская літаратура атрымала надзейную прышчэпку, зробленую нашымі «апекунамі» пры дапамозе гумавых палак. Паэзія наша – цяжкая, як камень, вырваны з бруку пад час вулічных баёў, немілагучная – як стогн ці крык, чырвоная – як пралітая кроў Іншай яна сёння і не можа быць. Што да мяне, дык я цікавіўся і цікаўлюся рознымі школамі і напрамкамі, але асцерагаюся, каб не траціць на пракрустава ложа іх тэорый. Пакуль што мяне ратуе, як старога каня, адчуванне галоўнага напрамку – дарогі.

Цэлы дзень праседзеў у бібліятэцы імя Урублеўскіх, у аддзеле савецікі. С. даў мне некалькі перакладзеных на польскую мову вершаў Элюара. Яны былі падарожжам у яшчэ адну нязнаную для мяне краіну паэзіі. Бяда толькі, што я са спазненнем адкрываю даўно вядомыя іншым часткі свету

Прабую вызваліцца са старых паэтычных канонаў, з палону пявучасці, традыцыйнай вобразнай сістэмы, хоць пакуль што на гэтым шляху ў мяне больш паражэнняў, як удач. Адчуванне крызісу архаічных форм яшчэ нічога не дае. Да новага цяжка

**Мо ў дурня згуляць мне суседа пазваць?**
**Ноч месячная над ваколіцай.**
**Ад рыфмаў дакучных баліць галава,**
**Да раніцы мучыць бяссонніца.**

**Прывык да дыеты, да цёплых галёш,**
**Да лазні з бярозавым венікам.**
**Пісаць пачынаю ўсё горш я і горш –**
**Пара выбіраць акадэмікам.**

1959

## *ТАПОР*

**Ва ўсім, вядома, вінават адзін тапор:**
**Я не пайшоў бы, каб не ён, у цёмны бор,**

**Не высек бы хваіны гулкай і з яе**
**Не змог бы змайстраваць цымбалы я свае.**

**А не было б цымбалаў гэтых –**
**хто б пазваў,**
**Каб на вяселлі я «Лявоніху» іграў?**

**А не іграў бы – не паднесла б мне яна**
**З усмешкай ветлівую хмельнага віна**

**І пад вясёлы смех і чарак перазвон**
**Не захапіла б майго сэрца у палон.**

**Цяпер штоноч іду, крадуся ў яе двор...**
**Ва ўсім, вядома, вінават адзін тапор.**

1960

**вае парыжскія лекцыі Адама Міцкевіча. Аднак пры ўсёй іх гістарычнай і літаратурнай каштоўнасці яны непамерна далёкія ад нашых надзённых праблем – і беларускіх, і польскіх, і сусветных, ды і наогул ад творчых. Так я даведаўся, што ад сучаснай польскай перыёдыкі, ад новых літаратурных, крытычных, гістарычных публікацый ён адарваны зусім, хоць яму зрэдку прысылаюць з Польшчы адзінкавыя нумары некаторых літаратурных часопісаў. А між тым і польская, і руская літаратуры былі для яго заўсёды блізкімі, можна сказаць – роднымі. Толькі чалавек, які вырас на стыку трох культур – беларускай, рускай і польскай, – можа ведаць, што гэта такое.**

**З гэтага часу пасля атрымання кожнай новай перадачы я ў першую чаргу адносіў навінкі Максіму Танку, што яго вельмі і вельмі цешыла. І не толькі таму, што надарылася магчымасць аказацца ў курсе падзей у Польшчы. Шырэй адчыніліся вокны і на шырокі свет, тым больш, што доступ да рускіх выданняў таксама аказаўся абмежаваным.**

***

**Не магу не сказаць пра адно з апошніх здзяйсненняў паэта. У 1977 г. пасля спецыяльных пошукаў мне ўдалося знайсці ў Публічнай бібліятэцы Рачынскіх у Познані невядомую паэму Гальяша Пельгрымоўскага «Гутарка аднаго Паляка з Маскалём на маскоўскім замку ў годзе 1601», напісаную на беларускай і польскай мовах прыблізна ў 1603 годзе (сам аўтар – пісар Вялікага княства Літоўскага Гальяш Пельгрымоўскі – памёр у 1604 г.). Твор настолькі цікавы і самабытны, што заслугоўвае таго,**





***

**Калі балансіруе**
**Нейкі там канатаходзец,**
**Ад жаху замершы, маўчыце**
**Ці просіце: «Годзе!»**

**Чаму ж тады кожны**
**Галёкае: «Біс!» – і смяецца,**
**Калі над бяздоннем іду**
**Свайго сэрца?**

1962

## *НОЧЧУ*

**–Ты чуеш, прыйшоў я!**
**–Цішэй!**
**–Ледзь хату знайшоў я.**
**–Цішэй!**
**–Дзе ж клямка, не знаю.**
**–Цішэй!**
**–Што ж не адчыняеш?**
**–Цішэй!**
**–Ці ўсе спяць, Анэта?**
**–Цішэй!**
**–Ноч цёмная. Дзе ты?**
**–Я тут.**

1963

***

**Парог, вычасаны з успамінаў,**

знайсці ключы. Можа іх і не знайду, бо новае само па сабе не існуе. Яго кожны мастак мусіць стварыць.

Пачаў завіхацца каля радыёпрыёмніка. Доўга не мог зловіць Мінск. А калі зловіў, мы толькі пачулі гоман Краснай плошчы і бой крамлёўскіх курантаў.

Пішу нарыс пра лесарубаў, пра іх катаржную працу Пішу на польскай мове, каб хутчэй прабіўся наш голас у шырокі свет Э. Ажэшка лічыла Д. Конрада здраднікам за тое, што ён пісаў на англійскай мове. Тут яна яўна, як кажуць, перагнула палку Праўда, Д. Конрад, пакінуўшы мову бацькоў, з якімі ў свой час пакутаваў у Сібірскай ссылцы, пакінуў і свой народ у самыя цяжкія гады яго паднявольнага жыцця. Дзіўныя і загадкавыя гэтыя старонкі біяграфіі аўтара «Негра з «Нарцыса», «Лорда Джыма», «Настрома»

Запісваю, каб не забыць, выказванне С. Буднага аб мове: «Глупствам з'яўляецца пагарджаць мовай адной краіны, а словы другой узносіць пад нябёсы».

### 1936 год

Сваткаўская паліцыя распаўсюджвала ўспаміны Ф Аляхновіча аб Салаўках. Хлопцы смяюцца, што аўтар змясціў у гэтай кнізе дзве фатаграфіі – адна салавецкая, другая віленская – і што на першай ён куды лепш выглядае. Кнігу хутка, нават не дачытаўшы, скурылі нашы заядлыя курцы.

Калі сціхаў вецер, чуваць было,

**каб заняць ганаровае месца ў залатым фондзе беларускай літаратуры і каб з ім знаёміліся вучні сярэдняй школы. Але для гэтага патрэбен быў пераклад твора на сучасную мову.**

**У арыгінале напісаную лацінкай «Гутарку...» я апублікаваў у беларускім часопісе «Спадчына» і ў польскім «Kresy Literackie» (горад Хэлм). Пасля гэтага я прапанаваў зрабіць пераклад паэмы на сучасную беларускую мову некаторым нашым паэтам, але беспаспяхова. І тады я звярнуўся да Максіма Танка. Ён адразу ж узяўся за работу і праз пару тыдняў, у студзені 1994 г., закончыў яе. Прытым зрабіў гэта бліскуча, з непараўнаным майстэрствам перадаўшы і каларыт эпохі, і найтанчэйшыя нюансы пачуццяў, выяўленых у дыялогу прадстаўніка літоўскага пасольства Івана і маскоўскага баярына Ігната. Так паэма Гальяша Пельгрымоўскага нарадзілася на свет другі раз. Пабачыла яна гэты свет у сёмым нумары часопіса «Полымя» за 1994 год.**

**Будзем спадзявацца, што наступіць пара, калі ўвагу перакладчыкаў прыцягнуць празаічны і паэтычны дыярыушы падарожжа Гальяша Пельгрымоўскага ў Маскву ў складзе вялікага пасольства пад кіраўніцтвам Льва Сапегі восенню 1600 года для перагавораў з Барысам Гадуновым аб заключэнні вечнага міру. Тым больш, што ёсць там і значныя ўстаўкі на беларускай мове.**

**Шмат выпрабаванняў выпала на долю Максіма Танка ў апошнія гады: страта найбліжэйшых людзей, цяжкая хвароба, якая з цягам часу ўсё больш абяссільвала яго. Аднак калі я наведваў яго, то ён пра**

як недзе ў Нявераўскім vылі ваўкі. Да позняй ночы перапісваў свае новыя вершы, якія трэба будзе даць у «Нашу волю» ці ў які часопіс. Усё яшчэ не магу ўнезалежніцца ад розных уплываў. Здаецца, Шатабрыян казаў, што арыгінальны пісьменнік – гэта не той, які нікому не наследуе, але той, якому ніхто не патрафіць наследаваць.

Захапленне – у нашым заходнебеларускім літаратурным асяроддзі – урбанізмам, тэхнікай, астранамічнымі сюжэтамі (на што адзін час перахварэў і я) было смешнай данінай модзе, занесенай усходнімі і заходнімі вятрамі ў краіну курных хат, скрыпучых сох, лапцей і лучыны. А пакуль што некранутай цалiной у нас ляжыць гістарычная тэма, чакаючы свайго Вальтэра Скота, Сянкевіча. .

Чуў, некаторыя гаварылі: «І я пісаў вершы.. Гэта такая пераходная хвароба...» Але не было каму лячыць, так і астаўся паэтам.

У ацэнцы літаратурных твораў у нас існуюць дзве меры: адна – беларуская, другая – еўрапейская. Паводле першай – усе выдатныя, усе класікі. Паводле другой.. Другой пакуль што няма каго і мераць.

У нас вельмі цяжка стаць пісьменнікам, вядомым замежнаму чытачу, хоць ёсць такія таленты, якімі мог бы ганарыцца любы народ – малы ці вялікі. Справа ў тым, што кожны з нас мусіць біцца над рознымі пакінутымі праклятай спадчынай пытаннямі – пытаннямі, якімі ўжо даўно перасталі цікавіцца на Захадзе.

**Астаўся за мной;**
**Дзверы, на завесах цвыркуновай песні,**
**Асталіся за мной;**
**Вокны, зашклёныя вачамі блізкіх,**
**Асталіся за мной;**
**Хата, пакрытая крыламі ластавак,**
**Асталася за мной, –**

**Як жа мне не азірнуцца назад,**
**Нават калі б я застыў**
**Слупом солі?**

1965

***

**Можа, таму, што ў маладосці**
**Часта прыходзілася даношваць**
**Нечыя боты,**
**Нечую вопратку,**
**Якія заўсёды былі**
**То завялікія,**
**То замалыя, –**
**Я цяпер асцерагаюся**
**І чужых думак.**

1966

***

**У музеі – маска паэта**
**Акамянелая.**
**Абыякавая да ўсяго.**
**Разбіце або прыміце яе!**

**свае пакуты гаварыў няшмат і хутка пераключаўся на агульныя тэмы. Памяць у яго заўсёды заставалася светлай, хаця пасля чарговай бяссоннай ночы мог паскардзіцца на тое, што галава ў яго нейкая туманная. Але пра ўсё сваё забываў, калі пачыналася гаворка пра чарговы нумар «ЛіМа», «Полымя», пра публікацыі на тэмы нашай гісторыі, далёкай і блізкай. Лёс роднай мовы, культуры, навукі турбаваў Максіма Танка непамерна больш, чым уласныя беды, збалелыя ногі, алергія, бяссонніца. Гаворачы пра нашых пісьменнікаў, ён не раз выказваў шкадаванне, што такі майстар мастацкага слова, як Васіль Вітка, да гэтага часу не ўдастоены звання народнага паэта Беларусі.**

**І не спынялася яго творчая работа. Даўно падрыхтаваў падборку вершаў для традыцыйнага вераснёўскага нумара часопіса «Полымя». Да яе значна пазней далучылася вясёлая байка пра лёс Вожыка. А ў паэта тым часам нараджаліся новыя творы. І калі з рэдакцыі часопіса «Крыніца» мне паведамілі, што там збіраюцца прысвяціць частку аднаго з нумароў Максіму Танку, я прапанаваў яму найнавейшыя вершы перадаць туды.**

**Паэт спакойна, без скаргі развітваўся з жыццём. Апошнія вершы ён перапісваў акуратна ў сшытак. Баючыся, што можа сам ён не паспее перадаць іх мне для «Крыніцы», на ўсякі выпадак на вокладцы сшытка напісаў маё прозвішча, каб сын з дачкой ведалі, што з гэтымі вершамі рабіць.**

**Але я яшчэ паспеў перадрукаваць усе творы, удакладніць некаторыя мясціны ў сшытку. Некалькі вершаў з гэтай падборкі змясціў у газеце «Літаратура і Мастацтва» да дня**





**Ці ж вы не знаеце,**
**Што, каб ён быў такім,**
**Як гэта маска,**
**Напэўна, яшчэ жыў бы.**

1968

## *АНТЫСАНЕТ*

**Што сваёй Музе рупнай, працавітай**
**Я падару на схіле сваіх лет?**
**Мо з дрэва райскага прынесены ранет,**
**Пярсцёнак Палікрата срэбраліты?**

**Мо чару, поўную вясновага блакіту,**
**Ці нейкіх кветак палявых букет,**
**А мо гарэзу прыбяру ў санет –**
**У вопратку багіняў старажытных?**

**Як гэты вабны ўбор да твару ёй!**
**Чаму ж не радуешся, дарагая?**
**–Як мне ў ім дзіцянё карміць, не знаю,**

**Як працаваць і цешыцца з табой,**
**Калі санет твой грудзі і стан мой**
**Чатырнаццаццю клямрамі сціскае.**

1974

***

**Старажытныя амфары.**
**Гэта, што была з вадой,**

Амаль цэлы дзень прасядзеў над артыкулам Панфёрава «Аб сацыялістычным рэалізме» і Гопенштата «У справе пралетарскага рэалізму», на якія надыбаў у часопісе «Левар» Трэба крыху падкавацца тэарэтычна перад абмеркаваннем ідэйнай платформы Саюза пісьменнікаў Заходняй Беларусі, аб якім ужо колькі год вядзём перагаворы Мяне даўно перасталі цікавіць паэты з «божай ласкі», якія не арыентуюцца ў палітыцы, як і калектыўныя аўтарытэтныя ацэнкі твораў нашымі крытыкамі Да ўсяго – нават да разумення табліцы множання – трэба даходзіць самому Горш, што я, устанавіўшы для сябе гэтыя «ісціны», не заўсёды іх прытрымліваюся

Я знаю, што няма адзінага хараства на ўсе часы і на ўсіх, але яшчэ і не магу згадзіцца з думкай Апалінэра, што некалі ўсе галіны сучаснага мастацтва страцяць ранейшае сваё значэнне, бо на змену ім прыйдуць новыя.

Сёння атрымаў ад Паўліка цудоўны падарак – два тамы У І. Леніна, выдадзеныя ў Варшаве «Домам кнігі польскай» Зараз можна будзе, не хаваючыся, чытаць гэтыя творы

На Завальнай сустрэў Я. Шутовіча, ад якога даведаўся аб смерці М.Горкага. Не стала аднаго з самых любімых маіх пісьменнікаў і настаўнікаў.

Рыльке лічыў бяздарным таго аўтара, чый твор напісаны мовай, цяжкай для чытання Тады як жа быць з Дастаеўскім? Сёння І., ад-

**нараджэння паэта і да 40-га дня з таго моманту, калі ён пайшоў ад нас.**

***

**На працягу ўсяго пасляваеннага перыяду прысутнасць Максіма Танка адчувалася ў нашай літаратуры – перш за ўсё як аўтара шматлікіх паэтычных зборнікаў, такіх патрэбных, як «наш хлеб надзённы», як «глыток вады». Яго мудрыя словы быццам выгравіраваны на вякі «на камні, жалезе і золаце». Мы разам з аўтарам перамерваем дарогі, «закалыханыя жытам», «праходзім праз вернасць». У цэнтры ўсіх падзей літаратурнага жыцця быў ён і як галоўны рэдактар часопіса «Полымя», і як шматгадовы кіраўнік пісьменніцкай арганізацыі, як бясконца адданы беларушчыне чалавек, з кожным словам якога лічыліся на ўсіх узроўнях недаверлівых і пільных да крамолы партыйных і збюракратызаваных дзяржаўных структур.**

**Тут яшчэ раз выпадае звярнуцца да ўспомненай прадмовы Рыгора Шырмы, які так пранікліва і прадбачліва заўважыў і ўсвядоміў значэнне паэзіі Максіма Танка: «Закончыўшы свой першы этап, Максім Танк прыйшоў у беларускую літаратуру з гэтым зборнікам і тут, на нашым Заходнім небасхіле (...), адразу загарэўся зоркай першай велічыні. Думаем, што нам яшчэ прыйдзецца быць сведкамі, калі ягоны талент падымецца да Вялікага Сузор'я – Купалы-Коласа». Далёка глядзеў наперад Рыгор Раманавіч Шырма.**

**Аддаючы належнае Максіму Танку, ушаноўваючы яго, найвышэйшай меркай ацэньваючы яго заслугі перад роднай літаратурай, ці не перабольшваем мы, ці не**

стайваючы сваю апалітычнасць, спаслаўся на верш нейкага Ю.Эйсланда пра птушку, якая на пытанне: ці яна на левай ці на правай старане? – адказала, што яна – панад партыямі, угары

Многаму маглі б мы навучыцца ў Дантэ, як пісаць пра сучаснае пекла, а ў Міцкевіча – як змагацца з творцамі гэтага пекла. Цікава, што ў нас да гэтага часу папулярызавалася і перакладалася творчасць пасрэдных паэтаў, а не гэтых волатаў

Знаёмячыся з сучаснай авангардысцкай паэзіяй, я ўсё часцей сабе задаю пытанне: чаму авангардысцкай паэзіяй называюць нейкі адзін напрамак, быццам другія нічога новага не адкрываюць? І чамусьці вельмі ахвотна прысвайваецца гэта званне паэзіі, якая ўсё больш і больш адыходзіць ад жыцця шырокіх мас, абмяжоўваючы, звужаючы круг свайго ўздзеяння Мне цяжка быць прыхільнікам хараства, ключ ад якога – я павінен верыць на слова – знаходзіцца ў няпэўных руках аўтара. Называлі ж некаторыя авангардысты мастацтва «масавым», калі акрамя іх яго разумела яшчэ некалькі чалавек.

Адзначылі дзень нараджэння М Машары Я не быў на гэтай урачыстасці, якая, здаецца, адбывалася ў цесным хадэцкім асяроддзі. Чуў толькі, што М. Машара здорава перасварыўся з арганізатарамі гэтага вечара, а ў рэдактара «Калосся» запусціў пустой бутэлькай. Беларус поўнай бутэлькай не кінецца.

Калісьці Ф.Дастаеўскі скардзіўся,

**Расказвае пра дзяўчыну,**
**Якая з яе спаталяла смагу.**
**Гэта, што была з вінам,**
**Расказвае пра песні.**
**Якія спявалі на свяце Дыяніса...**
**Але чаму з іх адна маўчыць?**
**Няўжо была ў ёй цыкута?**

1976

### *НЕПАДСУДНАЯ*

**Я на яе хацеў у суд падаць**
**За скрадзены мой сон,**
**Парушаны спакой**
**І за сваё,**
**Як пелася ў старых рамансах,**
**Разбітае сэрца.**

**Ды следчы,**
**Перагарнуўшы –**
**Ад рымскага да нашага –**
**Ўсе фаліянты права,**
**Развёў са спачуваннем рукі:**
**–Непадсудная.**

1976

### *НА ЭКЗАМЕНЕ*

**У мяне спыталі:**
**–У якой імперыі**

**перастараліся? На самай справе то яшчэ не паспелі ацаніць належным чынам. Памагае ўсвядоміць нам гэта польскі пісьменнік Ян Гушча, даўні сябра і перакладчык беларускай літаратуры: «Паэт Максім Танк! Каго ж з ліку сучасных савецкіх паэтаў, пасля смерці незабыўнага Аляксандра Твардоўскага, можна побач з ім паставіць? Літоўца Эдуардаса Межалайціса? Магчыма. Андрэя Вазнясенскага і Яўгенія Еўтушэнку, аднагодкаў з 1933 года? Магчыма. Аднак, нягледзячы на свае здзяйсненні, абодва вызначаюцца нейкай маладжавай ганарыстасцю і нясталасцю. Дынамічныя і эфектныя, яны даволі часта становяцца ў позу, што ўяўляецца адным з галоўных грахоў паэзіі». Так было сказана ў 1979 г. у пасляслоўі да польскага перакладу кнігі Янкі Брыля «Ніжнія Байдуны».**

**Для нас толькі пачынаецца сапраўднае асэнсаванне ўсёй спадчыны Максіма Танка. Для яго беларуская ідэя, беларуская нацыянальная свядомасць былі заўсёды чымсьці святым. Хай пасведчыць аб гэтым запіс у «Лістках календара» пад датай 16.IX.1938 г.: «Думаю пра «Пана Тадэвуша», «Новую зямлю» – дзве нацыянальныя паэмы двух народаў. Толькі, мне здаецца, паэма Міцкевіча нацыянальная больш у палітычным сэнсе, а Коласа – у сацыяльным. Ідэя дзяржаўнасці нашага народа яшчэ не знайшла свайго ўвасаблення ў манументальным творы, можа, таму, што яе апераздзілі падзеі».**

**Варта нагадаць пры аказіі, што ў Савецкай Беларусі ў 1938 годзе на паэме Якуба Коласа яшчэ стаяла кляймо ідэйна заганнага твора. Яно было знята толькі ў наступным годзе дзвю-**





**Не заходзіла сонца?**
**Я адказаў: – Толькі ў адной –**
**У імперыі паэзіі...**

**І праваліў экзамен**
**Па гісторыі.**

1976

### *НАЧНАЯ ВАРТА*

**–Ну што, яшчэ пусціць па кругу чарку?**
**Хто пра Рэмбранта нешта там пляце?**
**Я знаў яго, заўсёды з ім страчаўся,**
**Як толькі ў Амстэрдаме швартаваўся,**
**Які быў для мяне карчмой заезджай.**
**Ён мне памог з-пад носа капітана**
**Бенінга Кока выкрасці дачку –**
**Яго красуню Маргу, за якую**
**Не раз хапаліся матросы за нажы.**
**Дык вось дамовіліся мы з ёй уцячы**
**У Новы Свет на «Альбатросе» – шхуне.**
**Прыйшоў я да Рэмбранта і прашу:**
**–Дапамажы!**
**–А як?**
**–Калі прыйдуць стралкі,**
**Дык зацягні сеанс да поўначы, скажы,**
**Што сёння ты хацеў бы дапісаць**
**Высакародныя іх бюргерскія морды,**
**Навесці бляск на іх мушкеты, пікі...**
**Чакай! Тут пэўная няўвязка ёсць!**
**Сваю «Начную варту» ён пісаў,**
**Здаецца, у семнаццатым стагоддзі...**

што Еўропа не знае Пушкіна. Мяне непакоіць другое: мы знаем многіх пасрэдных – я ўжо не гавару пра класікаў – заходнееўрапейскіх пісьменнікаў, а там – амаль нічога не знаюць і можа ніколі не будуць знаць пра нашых самых выдатных.

Спазненне – нацыянальная наша хвароба. А праз адсутнасць сваіх школ яна стала хранічнай. Псіхіка маладога пакалення па-за фальклорам і некаторымі жывучымі яшчэ традыцыямі фарміруецца пад уплывам чужой літаратуры, чужога мастацтва.

### 1937 год

Пшыбышэўскі піша, што мастацтва не мае ніякае мэты, з'яўляецца мэтай само ў сабе, з'яўляецца адбіццём абсалюту душы. Вельмі цьмянае і метафізічнае акрэсленне ролі мастацтва. У ім – не зародак жыцця, а зародак смерці мастацтва.

Чытаю апошнія вершы нашых піітаў. Вершы вельмі слабыя. Папулярнасць некаторых з іх магла зарадзіцца, разрасціся і разлапушыцца толькі ў нашым бедным і прымітыўным літаратурным асяроддзі.

На пасяджэнні Беларускага навуковага таварыства, якое сабралася ў інжынера Трэпкі, я ўпершыню сустрэўся з Н.Арсеньевай. Агулам, я – не прыхільнік яе паэзіі, хоць некаторыя яе вершы, прачытаныя на гэтым вечары, мне спадабаліся сваім лірызмам, вобразнасцю. Трэба прызнаць, што са сваіх інтымных пачуццяў яна ўмее вязаць прыгожыя

**ма публікацыямі ў «ЛіМе» (спачатку рэдакцыйным артыкулам, а потым артыкулам М.Р. Ларчанкі). Тагачасныя ацэнкі Максіма Танка па сваёй сутнасці апярэджвалі беларускае савецкае літаратуразнаўства на цэлых некалькі дзесяцігоддзяў.**

**Не будзем забываць, што мастацкая літаратура – і перш за ўсё паэзія – аказалася найбольш надзейным носьбітам нацыянальнай свядомасці, ратавала яе, выцягвала з небыцця і ў першай палавіне XIX, і на рубяжы XIX – XX стагоддзяў. Дзякуючы мастацкай творчасці нашых самаахвярных – вядомых і ананімных – аўтараў, беларуская мова перажыла і вытрымала найбольш цяжкія выпрабаванні, якія выпалі на яе долю ў розныя перыяды гісторыі апошніх стагоддзяў. І з-пад саламяных стрэх трапіла на старонкі друку.**

**«Scripta manent» – «Напісанае застаецца», – сцвярджалі яшчэ старажытныя рымляне. І паэзія Максіма Танка застанецца для новых пакаленняў як прыклад небывалай самаахвярнасці, як узор, як запавет.**

**Наступленне на беларускую нацыянальную свядомасць працягваецца і ў наш час. І таму сапраўднае мастацкае слова кожнага пісьменніка – асабліва паэта такога маштабу, як Максім Танк – надзейная перашкода здрадніцкай дзейнасці ўсіх тых, хто пажадаў бы расправіцца з беларушчынай і ў наш час і ў будучым.**

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

карункі Зараз пасля доўгага маўчання яна перажывае нейкі стан прабуджэння. Апошнімі часамі пачала актыўна выступаць у друку Увесь вечар мы сядзелі побач. Гаспадар нават нас сфатаграфаваў Пасля Н. Арсеньевай папрасілі і мяне прачытаць свае вершы Я прачытаў прывезеныя з Атвоцка заключныя фрагменты «Нарачы» Нехта, калі разыходзіліся, выказаў думку, каб я напісаў пра Арсеньеву Ды я і сам збіраўся адклікнуцца вершам аб нашай сустрэчы. Я заўважыў, што сярод прысутных шмат было сватоў, якім хацелася, каб паміж намі завязалася нейкая творчая дружба. Няўжо яны не бачаць, што мы – людзі рознага складу, розных поглядаў? Выпадкова сустрэліся, і не ведаю, ці сустрэнемся больш калі. Дарогі нашы разыходзяцца ў процілеглых напрамках. Відаць, калі буду нешта пісаць, і выкажу гэту сваю думку

Мне здаецца, што беззваротна мінулі часы сельскай-анельскай паэзіі, якой у нас усё яшчэ шмат хто займаецца Нават фальклор – непаўторная з'ява мінулай эпохі. Трэба шукаць і шукаць новых форм. Мы забываем, што без адкрыцця новага не можа быць сучаснай паэзіі. А пакуль што ходзім, трымаючыся за мыліцы старых традыцый, уяўленняў, густаў, глухія на крык новых дзён у кожным наступным тыдні, новых месяцаў – у годзе. У музейнай бібліятэцы напазычаў розных слоўнікаў і зараз цэлымі днямі і начамі чытаю. Некаторыя словы, якія да гэтага часу не ўжываў, выпісваю. Некалі прыдадуцца. Аж страх узяў – з якім абмежаваным і бедным слоўным багажом выправіўся я на Парнас!

–Няўжо аж столькі год ужо мінула!
Тады яшчэ па кругу пусцім чарку!..

1976

### *ТАКАСАГА*

Каб любві і вернасці
Лівень не разліў,
Каб ніякі сівер
Душ не астудзіў,
Каб не разарваў рук
Ні агонь, ні меч,
А жыцця нягоды
Не сагнулі плеч –
Тройчы абмяняемся
Кубкамі сакэ,
Кубкамі вясельнага,
Хмельнага сакэ!

1976

### *ТРЭСКА З ДОМА ШЭКСПІРА*

Прайшлі майстры ў былы Шэкспіра дом,
Каб адрамантаваць вуглы старыя.
І іх сякераў перастук і гром
Абрушыўся на сцены векавыя,
Пашчэрбленыя часам і дажджом.
І разбудзіў дні Страдфарда былыя,
Калі паэт тут бегаў хлапчуком
І слухаў, як норд-ост шалёна вые.

Я ля майстроў спыніўся. Прывітаў.
Здзівіліся нямала, што з-за свету
Прыехаў, каб наведаць дом паэта.

Тут нехта з трэсак вогнішча расклаў.
Я асцярожна з іх адну падняў,
Якая аказалася санетам.

1978

### *СЯРЭДНІ ВЕРШ ПРА КАХАННЕ*

Мне здаецца,
Статыстыкі вінаваты
Ў нараджэнні такіх паняццяў,
Як «сярэдні век жыцця»
(А куды падзець несмяротных?),
«Сярэдні рабочы»
(А як быць з тым,
Што ўчыніў Рэвалюцыю?),
«Сярэдні паэт»
(Няўжо гэта нейкая
Рэальная вартасць?),
«Сярэдні закаханы»
(Быццам ён здольны
Прадоўжыць людскі род!).

Я сёння хацеў напісаць
Верш пра цябе



Выпадкова гэтымі днямі трапіў на даклад «Спадара» – Янкі Станкевіча. Чалавек гэты з немалымі ведамі, зайздроснай энергіяй і напорыстасцю, але сляпы ад ненавісці да ўсяго савецкага і, як філолаг, да таго глухі, што зусім не адчувае жывой беларускай мовы. Калі б дазволілі яму яе зрэфарміраваць па яго рэцэпту, пачалося б сапраўднае стаўпатварэнне і мы перасталі б адзін другога разумець.

Вечарэе. Перад сном прачытаў артыкул у «Калоссі» пра аднаго нашага «класіка» і здзівіўся. які паэт! А потым пачытаў вершы і яшчэ больш здзівіўся: які крытык! У літаратуры і мастацтве няспынна адбываюцца змены, рэвалюцыі, нават тады, калі яшчэ пяюць пануючым манархам і дынастыям «Доўгія леты» ці «Сто год. »

У бібліятэцы імя Урублеўскіх дастаў 69, 70 нумары «Звязды» з артыкуламі Александровіча і Кучара аб выкрыцці ворагаў народа ў літаратуры. Трэба будзе пагаварыць з Паўлікам, даведацца больш пра ўсю гэтую справу. Відаць, зноў пачнецца ва ўсім варожым друку антысавецкая шуміха.

Я люблю музыку і песні, толькі жыццё мяне прывучыла часта абыходзіцца без іх, як і без хлеба. Што да хору дзядзькі Рыгора, дык я ўжо даўно стаў яго гарачым прыхільнікам. Часта прыходжу нават на спеўкі. Каб крыху меў лепшы слых, папрасіўся б у яго студэнцкі калектыў Адно бяда – усе песні спяваю на матыў «Інтэрнацыянала»

Я часта адкрываю даўно вядомыя

# ЗАПАВЕТНАЯ ПУШЧА МАКСІМА ТАНКА

**1. ХАЙ БУДЗЕ СВЯТЛО!**

У яго кнізе з гэтай біблейскай назвай ёсць верш з шасці радкоў:

*У Гамера ён вучыўся быць сляпым,*
*У Байрана – кульгаць,*
*У Поля Фора – донжуаніць,*
*У Хемінгуэя – піць віскі...*

*І дзівіцца, чаму яго*
*Не лічаць класікам.*

На першы погляд, дробязь, экспромт, кінуты жартам. А ўдумаўшыся – штуршок для куды большай развагі. І аўтар з яго высокім узроўнем эстэтычнай эрудыцыі, з'едліва іранізуючы над эрудыцыяй навыварат, па сабе ведаў, што не стаў бы ён паэтам і, як цяпер усе мы ўбачылі, сапраўдным класікам, калі б не меў болей важных жыццёвых гарантый і стымулаў для творчасці.

Цераз сорак старонак пасля гэтага вершыка вы не зможаце не звярнуць увагі на верш «Як я стаў паэтам». І таму, што і ён напісаны верлібрам, падамо ўвесь суцэльным тэкстам:

«Паходжу я з тых ваколіц, дзе, павітаўшыся, пытаюцца: – Ці ёсць новыя песні? Помню: У кірмашовы дзень я ўстаў да пеўняў, каб паспець, калі мядзельскія крамнікі і рыбакі, крывіцкія гарбары і рымары, смаргонскія абараншчыкі і бортнікі, даўгінаўскія кавалі і чаканшчыкі, пастаўскія ганчары і забаўнікі, куранецкія бондары і рэзчыкі параскладаюць свой тавар.

Тут набыў я за прададзеныя лапці і венікі вялізнае рэшата. І калі пачаў на ім – жменьку за жменькай – прасяваць нашу зямлю, убачыў на дне рэшата песні».

Калі вы, чытач, і ўсміхнецеся вясёлай, або нават іранічнай усмешкай, згадзіцеся, радаслоўе, паходжанне, карані і вытокі сваёй паэзіі Максім Танк вызначыў, можа, дакладней і лепш за многіх даследчыкаў яго творчасці.

Яго паэзія, надзвычай актыўная адчуваннем часу і прасторы, злучылася з імклівай плынню рэальнага жыцця, з падзеямі і на зямлі, і ў сусвеце:

*Ляту Млечным Шляхам*
*І чую: нехта плача.*

Плача, аказваецца, яна, зямля-матухна, скардзіцца на свайго сына – чалавека. І паэт гаворыць аб гэтым з горкім адчуваннем вінаватасці перад ёю.

Метафара мастацкай умоўнасці не пярэчыць жыццёвай праўдзе. Сялянскае, вясковае, мужыцкае, самае блізкае яму асяроддзе, само стаўшы ўжо міфалагічным, тая родная Пількаўшчына, яго дзяды, бацькі, нарачанскія сваякі і знаёмыя з блізкай дыстанцыі ўжо не ўбачацца, а толькі з гістарычнай. І сын, верны гэтай зямлі, не можа іх іначай убачыць як з адлегласці часу, якому высокаму і знанаму роду, якой легендарнай генеалогіі абавязаны ён сваёй адказнасцю перад паэзіяй.

*Відаць, ніводная з каралеўскіх*
*дынастый*
*Не можа пахваліцца такой*
*вечнасцю,*
*Як мой працоўны род,*

ісціны. Але паколькі я сам даходзіў да іх, яны мне не здаюцца такімі вядомымі і простымі. У нас апошнімі часамі любяць гаварыць аб «паэтычнасці», «прыгажосці» Ва ўгоду гэтым літаратурным і модным фетышам колькі пішацца фальшывых і бяздарных твораў! «Мастацтва – гэта соты раз бачыць па-новаму тое, што да цябе бачылі другія» (А.Франс) А ў нас вельмі насцярожана адносяцца да ўсяго новага, хоць мы намнога адсталі ад нашых суседзяў Бадай, ніхто гэтага так не разумеў, як М.Багдановіч, пасля смерці якога ўсё яшчэ не знайшлося ў нас прадаўжальніка яго цікавага і надзвычай плённага напрамку

### 1938 год

Пачаў перачытваць свае ранейшыя творы. Некаторыя выправіў, а некаторыя – такія бездапаможныя, што шкада і часу, каб іх выпраўляць. Наша беларуская літаратура – адна з самых маладых, але ў ёй ужо столькі «класікаў», што хапіла б імі абдзяліць і суседзяў Творы гэтых «класікаў» усё больш і больш абрастаюць каментарыямі, і скальпель часу ці дабярэцца калі да іх. Мне смешна, калі нашы крытыкі радаслоўную таго ці іншага паэта пачынаюць, як у святым пісанні: А нарадзіў Б, Б нарадзіў В і г.д., і г.д. Ці трэба мне было вучыцца ў Чарота ці ў Труса, калі я мог вучыцца непасрэдна ў Блока, Ясеніна, Маякоўскага.

Наш засцянковы патрыятызм узвёў у сан святых і геніяў вельмі шмат пасрэдных вершаплётаў, даўшы іх творам завышаныя ацэнкі, гучна

**І прапусціць праз яго радкі**
**Мільёнавольтны ток маёй любові,**
**Ад якой перагарэлі б**
**Усе ізалятары ўмоўнасці,**
**Усе заштампаваныя рыфмы і рытмы.**

**Але статыстыкі перасцераглі,**
**Што сярэдні чытач**
**Такіх вершаў не любіць,**
**Што рэдактары**
**Такіх вершаў асцерагаюцца**
**І нават пошта не прымае,**
**Калі б хацеў іх паслаць**
**Тэлеграфам.**

**Так і з'явіўся яшчэ адзін верш –**
**Верш сярэдні пра каханне,**
**Які, здаецца, збіраюцца ўключыць**
**У школьныя падручнікі.**

**Даруй мне за гэта.**

6.V 79

### *КАЛІ*

**Калі ў хлебе**
**Больш сілы, як хлеба,**
**Калі ў віне**
**Больш хмелю, як віна,**
**Калі ў агні**
**Больш цяпла, як агню,**
**А ў застоллі**





**Больш сяброў, як застолля, –**
**Пара пачынаць песню.**

**Калі ў хлебе**
**Больш хлеба, як сілы,**
**Калі ў віне**
**Больш віна, як хмелю,**
**Калі ў агні**
**Больш агню, як цяпла,**
**А ў застоллі**
**Больш застолля, як сяброў, –**
**Пара канчаць песню.**

7 VI 80

***

**Некалі нейкі гісторык,**
**Філосаф,**
**Разважаючы аб чалавечых**
**Недахопах,**
**Успомніўшы пра слабасць**
**Пяты Ахілеса,**
**Пра няўтольную прагнасць**
**Мідаса да золата,**
**Пра цягу Калумба**
**Да вар'яцкіх вандровак,**
**Пра захапленне Каперніка**
**Ззяннем зор, –**
**Напэўна,**
**Не абміне сказаць**
**І пра мой недахоп –**
**Пісанне вершаў.**

1989

справаяючы 5 –10 –20-годдзі іх «плённай» літаратурнай дзейнасці. Мо таму «не разумеюць» нас і мала цікавяцца намі на шырокім свеце. Amicus Plato.

Дачытаў Біблію, пазычаную ў знаёмага клерыка Д., які калісьці на гарышчы бернардынскага касцёла перахоўваў мой канфіскаваны зборнік. Хоць Кандрат Крапіва ўжо выкарыстаў гэту кнігу, але і я вывудзіў з яе мора легенд і паданняў, шмат не толькі антырэлігійных, але і лірычных тэм, метафар, параўнанняў, вобразаў Гэту цікавую кнігу трэба было б вывучаць у школах разам з міфамі Егіпта, Грэцыі, Рыма.

Аж да ванітаў начытаўся розных авангардыстаў і іншых мадэрністаў Часамі здаецца, што ў мычанні каровы – больш паэзіі і зместу А наша крытыка ад гэтых вершаў у захапленні. Пішуць розныя даследаванні, разборы, даказваюць, хто на каго ўплываў, як атрымаўся ў галаве паэта той ці іншы вобраз. Адна з самых страшных хвароб нашай крытыкі – уплывалогія. Яна выступае ў двух відах: універсальным і нацыянальным. Першы даказвае, што ўсе нашы творы паўсталі пад уплывам узораў сусветнай літаратуры і ў нас амаль нічога няма самастойнага; другі сцвярджае ўплыў беларускай народнай творчасці на сусветную.

Зайшлі мы з ім у Студэнцкі саюз. Уключыліся ў спрэчкі аб паэзіі. Чамусьці ўсе бяздарныя лічаць сябе несмяротнымі. А можа яны і маюць рацыю, бо, як вядома, чалавечая глу-

*Трон якога быў з простага лемяша,*
*Абапёртага на касу і серп,*
*На сякеру і гнаявыя вілы.*

**У «Дарозе, закалыханай жытам» нездарма і сваё з'яўленне на свет паэт засведчыў, не без вясёлай іроніі, вядома, такімі знамянальнымі і вешчымі прыкметамі, як світальны ўскрык пеўня і трубны голас рабой каровы. Бытавыя, нават натуралістычныя падрабязнасці ад таго спалучэння ў яго станавіліся амаль роўнымі біблейскім. Шчаслівая перавага паэзіі перад іншымі жанрамі, мабыць, яшчэ і ў тым, што яна здольна закадзіраваць і цэлыя эпохі і людскія лёсы ў адной метафары, у адным вобразе. Міфы, створаныя на зары чалавецтва, Максім Танк уключыў у сваю вобразную арбіту, і яны выдатна служылі яму маштабнасцю сваіх алегорый і аналогій.**

**Цікава прасачыць адносіны паэта да формы, якой ён ніколі не аддаваў перавагі над зместам. Класічны радок і верлібр, строгая метрыка і вольны, інтанацыйны верш – усё гэта дзейсны арсенал яго практычнай паэтыкі. Параўнайце два санеты з гэтай жа кнігі. Першы санет, з дапамогай якога Шэкспір адкрыў сусвет, у Танка так і называецца – «Санет». Другі, каторы яго сучасны, рупны і працавітай Музе сціскае грудзі чатырнаццаццю клямарамі, называецца «Антысанет».**

**У яго вельмі выразныя сімпатыі і антыпатыі да формы і нават катэгарычнае адмаўленне каналізацыі традыцыйных сродкаў паэтыкі. У творчым асваенні сучаснай тэмы Танк шукаў іх, новых, настойліва і смела. Праўда, не заўсёды з гарантаваным поспехам. Як ні дзіўна, але і творчыя пралікі паэта – ад багацця яго таленту. Экспромт, імправізацыя, калісьці ўзаконеныя жанравай класіфікацыяй, у наш час, бадай, па сіле мала каму, хіба што народным акынам. Танк быў здольны на імправізацыю. Але слова, залежнае ад свайго гукавога радовішча, графічна занатаванае, не заўсёды здольна захаваць гарманічную суладнасць і сінхроннасць. І мы мусім успрымаць яго толькі зрокам, як той айцец Амброзі, што па сведчанню Аўгусціна Аўрэлія, чытаючы, «водил только очами, а уста его безмолствовали».**

**Танк – не гранільшчык, не шліфоўшчык, ён хутчэй – скульптар, разбяр, які з глыбы адсякае лішняе, загадзя бачачы патрэбны яму вобраз, у якім мы часта пазнаём рэшткі пароды, пласты і прожылкі, і сляды разца – і ўсё гэта, разам узятае, – доказ смелага абыходжання з матэрыялам, засведчанага праўдай творчасці.**

**Нездарма з такім захапленнем і шчырай зайздрасцю паэт прызнаваўся свайму далёкаму папярэдніку:**

*– Шчаслівы ты, што можаш Галатэю*
*У мармуры стварыць, Пігмаліён.*

**Максім Танк – паэт думкі, вобраза, якія заўсёды акрыляюць яго лірычныя сюжэты. І мне заўсёды здавалася, што ён якраз найбольш магутны ў лірыцы, чым у эпіцы. Пасля паэм, напісаных у маладзейшыя гады, ён фактычна болей іх і не пісаў. Цікава, што і лірыку ён ніколі не пісаў тэматычнымі цыкламі. Хаця творчы настрой, форма гатоўнасці думаць вершам, жыць паэзіяй заўсёды заставаліся ўласцівымі яму. Вершы друкаваў ён вялікімі падборкамі, па даўно заведзенай традыцыі, звычайна, у «Полымі» ў верасні, месяцы**

пасць – вечная. Калі пра пісьменніка гавораць, што ён – «тыповы прадстаўнік», мне ўжо не цікава і знаёміцца з ім. У кожным выпадку, будучыня будзе больш суровай у ацэнцы нашых твораў, і ў першую чаргу – твораў, кананізаваных нашай адсталай крытыкай.

Ужо некалькі дзён не браўся за вершы Тапчуся на месцы То прызямлю сваю паэзію, то ўзды маю на рамантычныя вышыні А што, каб адкінуць уяўную прыгажосць, прызнаную, апрабаваную аўтарытэтамі ўмоўнасці? Відаць, трэба было б забыць усё, што напластавалася і адклалася ў памяці, – нанава нарадзіцца. А пакуль што воз сваёй паэзіі цягну па старой прасёлачнай дарозе, пракладзенай нашымі папярэднікамі, па дарозе, дзе кроме пылу ды калдобін мала чаго можна сустрэць цікавага. Пошукі новага ў мастацтве не менш небяспечныя, як падарожжы ў невядомае, асабліва ў наш час, калі трэба мінаць не адну Сцылу і Харыбду Не знаю, ці ўдасца мне калі сфармуляваць свае эстэтычныя тэзісы і прыбіць іх да лукішскіх сцен ці да муроў нейкага Вітэмбергскага сабора, які я яшчэ толькі пачаў будаваць

За апошнюю галодную дэкаду прачытаў каля дваццаці кніг А.Якімовіча «Вершы», Дудара «Сонечнымі сцежкамі» і «Беларусь бунтарская», Дубоўкі «Credo», Зарэцкага «Сцежкі-дарожкі», Хурсіка «Першы паўстанак», Чорнага «Срэбра жыцця» і «Апавяданні», Бабарэкі «Апавяданні». Да гэтага яшчэ

***

**Упершыню ўзлятаючы на крылах, я**
**Стараўся праз навалу хмар прабіцца**
**І ўбачыць за другімі небасхіламі**
**Нябачаных галактыкаў зарніцы.**

**Ды вецер мяне збіў з абрыву горнага.**
**Я доўга лячыў раны ў безнадзейнасці.**
**Цяпер да ўзлёту новага, паўторнага**
**Ці хопіць часу, ўпартасці і смеласці.**

**Хоць ведаю, што з гэтым не змірыцца мне,**
**Бо немагчымае заўсёды будзе, мабыць,**
**Сваёю неадлучнай таямнічасцю**
**Да скону дзён і аклікаць і вабіць.**

2 VII 95

### *З альбома Л.*

**Казала: «Ніколі мяне не здабудзеш**
**Дарамі ніякімі, ні песнапеннем.**
**Дакуль жа хадзіць навакол мяне будзеш?»**
**«Пакуль не падуць ерыхонскія сцены».**

***

**Хваляць парфумеры**
**Ды розныя дурні**
**Пах духоў парыжскіх,**
**Хоць са смалакурным**
**Водарам жывіцы**

**свайго нараджэння, як чарговую гадавую справаздачу перад сваімі чытачамі. За пяць гадоў збіралася новая кніга. У паэта былі свае пяцігодкі.**

**Звярніце ўвагу на даты пад яго вершамі. Былі такія плённыя перыяды, калі пісаліся яны па тры-чатыры за дзень. І не абавязкова звязаныя адным настроем, рытмічным ладам, думкай. Часцей – абсалютна розныя тэмы і матывы, сюжэты. Для яго адзіным прынцыпам і складання кнігі быў – храналагічны. Усё жыццё ён фактычна пісаў дзённік у вершах, дзённік душы, які вызначаўся маштабнасцю яго індывідуальнасці, яго асабістага «Я».**

**Праўда, любімыя ім матывы, як ручаіны, падуладныя галоўнай плыні, хоць і не адразу, а, бывала, нават праз дзесяткі гадоў, абавязкова зліваліся разам у агульную сімфонію яго лірыкі.**

**Не часта здараецца, калі адзін верш становіцца з'явай паэзіі і па сваёй значнасці варты цэлых кніг. Такім вершам быў «Ave Maria». Многім з нас і дагэтуль помніцца яго цудоўная архітэктоніка і сама атмасфера, у якой няма святла для душы найвялікшага тварэння прыроды – жанчыны, яе хараства, што не спазнала ні радасці дзявочага кахання, ні шчасця пачуццяў маці: «Як танцавалі б ножкі такія... О, як кармілі б грудзі такія...» Разумеючы трагедыю свайго лёсу, прыгажуня, аднак, ідзе «пад зводы змрочныя і глухія».**

**Праз пятнаццаць гадоў пасля напісання «Ave Maria» з'яўляецца «Готыка «Святой Анны». Калі я пасля дапытваўся ў Яўгена Іванавіча, ці думаў ён аб'яднаць абодва гэтыя вершы, ён шчыра прызнаўся – не. Але пачытайце іх адзін за адным і**





**Ці ў полі са збожжам**
**Або свежым сенам**
**Што зраўняцца можа?**
**Недарма пах гэты**
**Нават лечыць раны,**
**Памагае птушкам**
**Іх спяваць песні.**
**Нат на канцы свету**
**У пару любую**
**Непаўторны гэты**
**Пах заўсёды чую.**

2 VII 95

### *ПІСЬМО БРАТУ*

**Магчыма, гэты атрымаеш ліст,**
**Вярнуўшыся з арбы на схіле дня,**
**Ля нашай студні пількаўскай, калі**
**Прыпынішся, каб напаіць каня.**

**Зайдзі ў старую хату. Помню, там**
**За абразамі недзе мусіць быць**
**Наш дапатопны соннік, які нам**
**Дапамагаў таемнае раскрыць.**

**Бо зараз, на бальнічным ложку мне,**
**Чамусьці сняцца плёсы, паплавы,**
**І чую, як наяве, у паўсне**
**Кудысьці мяне клічуць журавы.**

**Ты не марудзь з адказам, хоць вясной –**
**І неэпісталярная пара,**
**Штодзённа трэба быць на пасяўной**

А.Васілеўскага, А.Фарэля, Давідова, М.Прэво, Аскара Уайльда. Вось колькі спажыў духоўнай стравы! Можа і грэх называць гэту дэкаду «галоднай»?

Прачытаў творы Карскага, Вікі Баума, Тувіма, Фрэйнета, Меражкоўскага, а з беларускіх – Крапівы і Александровіча.

Зараз не помню, у каго з пісьменнікаў я знайшоў гэта хвалюючае апісанне ўражання ад маўзалея Леніна.

«Здалося ёй, што будыніна гэта магла быць яшчэ прыгажэйшай, калі б яна была вышэйшай, але раптам спыніліся ўсе яе крытычныя заўвагі, калі ўбачыла простае, кароткае слова, у якім яны хацелі сказаць усё, што маюць сказаць: Ленін – і больш нічога»

Бедна мы выглядаем у параўнанні з нашымі суседзямі. Нейкая сустрэча за шклянкай чаю двух-трох беларусаў, нейкая вечарынка ці самадзейны спектакль, нейкая малазначная брашура ці зборнічак слабенькіх вершаў – усё гэта адзначаецца ў нашым жабрацкім друку як гістарычная падзея. У літаратуры амаль ніхто не клапоціцца аб форме, хоць абыякавыя адносіны да яе сведчаць і аб несур'ёзных адносінах да любой ідэі – нават самай перадавой.

«Я прачнуўся аднойчы раніцай, – пісаў Байран, – і ўбачыў сябе выдатным» Я ўпэўнены, што некаторыя нашы «выдатныя» некалі прачнуцца раніцай і ўбачаць, якія яны пасрэдныя. А можа такія людзі ніколі і не прачынаюцца?

Сачу за развіццём сучаснай поль-

**вы ўбачыце, як яны аб'ядналіся і развіццём сюжэта, і ходам падзей, і трагічнай іх развязкай.**

**Хто мог падумаць, што юная безабаронная істота, якая нават страціла ўласнае імя, здольна паднялцца да ўсведамлення бунту! Але вось ён выбухае, гэты бунт. Позна і бескарысна павучаць і спавядаць. «Грахаводніцы» Анне ўжо не страшна нават смерць. У ката, які павінен быў споўніць прысуд, тройчы выпадае з рук сякера.**

*І вось высокі касцёр палае,*
*Ды дзіва-дзіўнае бачаць людзі:*
*Агонь, палаючы, абдымае*
*Сваёйахвяры і стан, і грудзі*
*І застывае гатыцкім храмам,*
*Дзе быццам з бронзы гараць чаканнай*
*Званіцаў вежы, абсіды, рамы...*
*І вусны шэпчуць. «Святая Анна!..»*

**Максім Танк сваім натхненнем, як сасмаглы вандроўнік па многіх дарогах свету, дападаў да ўсіх крыніц народнай памяці – ад міфаў Старажытнай Грэцыі, сюжэтаў і матываў італьянскага Адраджэння, Арабскага Усходу, Індыі, Скандынавіі да незлічоных скарбаў славянскага фальклору з яго цнатліва чыстымі вытокамі, што жывілі не толькі нашу народную песенную лірыку, а і заўсёды былі асновай этычна-маральных уяўленняў аб супольнасці і сяброўстве.**

**Пэўна ж задумваючыся, і не раз, аб выпрабаванні часам усяго, што выйшла з-пад яго нястомнага пяра, паэт і сам не быў ружовым аптымістам, калі пісаў:**

*Пракладаючы новую дарогу,*
*Я ўсё збіраюся прайсці*
*Праз пушчу сваіх вершаў*
*І пакінуць толькі тыя,*
*На якіх шчэрбіцца*
*Сякера часу.*

скай і заходняй паэзіі. Хоць цяжка нешта меркаваць аб апошняй па перакладах, але мне здаецца, што нараджаецца нейкая паэзія – паэзія без радзімы. Баюся, што будучым археолагам і іншым вучоным лягчэй будзе акрэсліць культуру і жыццё народа па старажытных асірыйскіх гліняных таблічках ці егіпецкіх папірусах, як па некаторых сучасных зборніках.

Вярнуўшыся ў Вільню, як п'яніца на гарэлку, накінуўся на газеты і кнігі. Чытаю без ніякай сістэмы – усё, што трапляецца і што ўдаецца дастаць. Чорны, Галавач, Гарніч, Баліцкі, Стачынскі, Бранеўскі, Карэеў, Гудзій, Ніцшэ, Бокль, Тувім, Круіт

Прачытаў у адным з савецкіх часопісаў верш І.Бехера «Помнік» – верш пра Леніна. Перапісаў у свой блакнот. Можа паспрабую яго перакласці.

Ёнас Каросас крыху пазнаёміў мяне з вершамі Янsocis. Божа, якая гэта недасяжная вяршыня рэвалюцыйнай паэзіі! Аж шапка злятае, калі глядзіш на яе. Яноніс на цэлую галаву перарос усіх сваіх сучаснікаў, якім выпала шчасце песнямі вітаць Вялікі Кастрычнік...

Пасля Рэмбо і Бадлера не стала там «паэтычных» і «непаэтычных» Яшчэ да знаёмства з іх творчасцю я адчуваў гэта ў адносінах да слоў Дарэчы, зараз са сваёй запісной кніжкай усюды палюю на рэдкія словы, якіх пакуль што няма ў слоўніках. Ды слоўнікі заўсёды пазніліся і ніколі не маглі ўгнацца за жывой мовай.

**І пальцы не прывыклі да пяра.**

**Як добра, што цябе не заўраклі**
**Кругі парнаскіх німфаў і багоў,**
**Застаўся верным плугу, і зямлі,**
**І спаконвечным звычаям бацькоў.**

**А я, знаць, змарнаваў свае ўсе дні**
**На справы непатрэбныя, мой брат,**
**Як сейбіта былога памяні**
**Мяне на полі жменяю зярнят.**

24 I.92

## *ПЕРАД РАССТАННЕМ*

**Да ўсіх расстанняў немінучых**
**Яшчэ адно мне лёс дадаў –**
**Расстанне з кнігамі, з якімі**
**З юнацкіх год я сябраваў.**

**Заашчаджаючы на хлебе,**
**Падзёртай світцы на плячах,**
**Іх набываў у букіністаў,**
**На выпадковых кірмашах.**

**Часамі ў сцюжную завею,**
**Даведаўшыся ад сяброў**
**Пра нейкую навінку, з ёю**
**Я пазнаёміцца ішоў.**

**Таму прашу і завяшчаю,**

**Удакладнім толькі, што абышлося без сякеры. Час ужо выпрабаваў адвечнасць жыцця чарадзейнай і запаветнай пушчы паэзіі, якую пакінуў нам Максім Танк.**

**Казённыя падсадкі не прыняліся, не прыжыліся, засохлі на корані. З часам і сама пушча вызвалілася, ачысцілася ад сухастою і сушняку. Жывая, яна будзе гаманіць і спяваць усімі сваімі галасамі, як і спявала заўсёды.**

**II. ХЛЕБ НАШ НАДЗЁННЫ**

**Усе народы тварылі свае песенныя скарбы, і прафесійная паэзія дасягла сусветных класічных вяршынь, і ў той жа час заўсёды заставалася неабходнасць свабоднага самавыяўлення душы як непасрэднай імправізацыі: «Хлеб наш насущный даждь нам днесь...»**

**Гэта зварот да Усявышняга. Аднак, параўнайце ўсе звароты ў словах да зямных уладаў. Узвышанасць, пафас, але ўжо нават не імправізацыя, а імітацыя і думкі, і пачуцця.**

**Хлеб надзённы цяжка даецца паэту. Улада яго душы наўрад ці калі паразумеецца з зямнымі багамі.**

*У музеі – маска паэта*
*Акамянелая,*
*Абыякавая да ўсяго.*
*Разбіце або прыміце яе!*
*Ці ж вы не знаеце,*
*Каб ён быў такім,*
*Як гэта маска,*
*Напэўна яшчэ жыў бы...*

**Супраць лому няма прыёму. У паэта ён ёсць і адзіны – алюзія.**

**Хто не ўспомніць купалаўскага «О так! Я – пралетар!». Цікава, што многія творы яго ляжалі забароненымі пад замком у сховах цэнзуры, і толькі гэты, магчыма, адзіны маленькі**





**Калі свой век я дажыву,**
**Хоць пару беларускіх казак**
**Пакласці мне пад галаву.**

30 VI 92





Эх, багрыме...

Эх, багрыме, багрыме!
Знаць, няма канца бедствам.
Пасля крошынскай трызны,

Мне здаецца, што кожны пісьменнік павінен мець апроч усеагульнага слоўніка яшчэ і свой асабісты. І справа не ў тым, хто карыстаецца большай колькасцю слоў, а хто – меншай Справа ў безпамылковым адчуванні паху, колеру, значэння кожнага слова, часу і месца для яго.

Успомніў, што ў мяне ляжыць яшчэ непрачытаны нумар часопіса «Камэна», дзе надрукаваны вершы Апалінэра, Навамескага, Незвала, Выгодскага, Бжэстоўскай, Вайнтраўба.

Няма чаго крыўдаваць: з харошымі сябрамі сёння будзем сустракаць Новы год. Да кампаніі можна было б запрасіць яшчэ і Э.Карузу Недзе ў новай хаце сярод старых грамплацінак ляжыць яго «Санта Лючыя» Хай бы праспяваў яе пад акампанемент нашых снежных завей, што шумяць за акном

### 1939 год

Быць паэтам мінуўшчыны – я спазніўся нарадзіцца, паэтам будучыні – паспяшаўся Ды што мы можам сказаць аб нашай будучыні? Яшчэ ніводнаму варажбіту, пачынаючы ад утапістаў, не ўдалося яе намаляваць такой, якой яна прыходзіла. І хоць, можа, прыгожа гучыць слова «прарок» або «пясняр будучыні», мы – песняры праклятай сучаснасці. І быць песняром гэтай сучаснасці – куды больш цяжка. Тут, калі пачынаюць біць, не схаваешся ні за прадзеда, ні за праўнука. І знайсці свой шлях у гэтай сучаснасці – не так лёгка. Хоць упэўнены, што некалі

**вершык ніколі не забараняўся. Пільных наглядчыкаў ён падкупіў сваёй рэвалюцыйнай лексікай: «Зямлі ўладар і над царамі цар магутны! Мне бацькаўшчынай цэлы свет, ад родных ніў я адвярнуўся... Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед: (а, прызнайся-такі ў перажытках!) «Мне сняцца сны аб Беларусі». (Няхай сняцца. Ці мала што можа сніцца.)**

**На памяці яшчэ прыклад і з Якубам Коласам, калі незабыўны Мікіта намагаўся засеяць кукурузай усе імперскія прасторы, у тым ліку, вядома, і Беларусі. А паэты мусілі ўслаўляць дзіва-дзіўнае ў сваіх песнях. Напісаў адну песеньку і народны паэт, якая адразу ж палюбілася заказчыкам. А сам народ, спяваючы, так пацяшаўся, што траха не клаўся покатам ад з'едлівай Коласавай іроніі і адкрытага сарказму:**

*Кампазітар, мёней фузу*
*Тромкай, брат, пра кукурузу.*
*Кукурузка, кукурузка,*
*Ты для ўсіх жывёл – закуска.*

**Алюзія надта ж дакладна трапляла ў цэль.**

**На пачатку гэтага года мы з Танкам апынуліся ў бальніцы, дзе я ляжаў яшчэ з леташняга. У першы ж дзень так зайшлося болем сэрца, калі ўбачыў, як везлі яго па калідоры пасля рэнтгену з белым абліччам ад яшчэ не змытага барыю, бездапаможнага, і ў той жа час нейк і ўсцешыўся, калі каталку павярнулі ў адчыненую палату побач з маёй. Можа, і я яшчэ хоць чым памагу ў бядзе свайму даўняму сябру. Неўзабаве ўбачыў яго, калі ён ляжаў пад цёмна-барвовай крапельніцай: рабілі пераліванне крыві. Паэт ужо дзесяць апошніх гадоў жыў са стымулятарам, ужыўленым яму хірургамі над сэрцам. Пра**

пра нас напіша нейкі боўдзіла. «Ім усё было ясна і зразумела». Чорт бы яго забраў!

Прачытаў апошнія літаратурныя навінкі, якія прыслаў мне з Варшавы Я-ка. Усё больш пераконваюся што для папулярызацыі таго ці іншага паэта, ці нават цэлай літаратуры, патрэбна адпаведная званіца. Званіца гэтая – дзяржаўнасць і тое месца на зямлі, якое займае народ і яго мова. А наш голас усё яшчэ не вырваўся нават на волю з падвалаў астрожных карцэраў Аб якім рэзанансе нашай творчасці сёння можа быць гаворка!

Сёння ў рэдакцыі «Калосся» гутарка зайшла аб рэцэнзіях, якія друкуюцца ў часопісах. У нас шмат людзей усё яшчэ баіцца сказаць праўду, каб не сапсуць адносін з аўтарам, але чамусьці не баіцца іх сапсуць з чытачом. Калі ж ацэньваюць творчасць людзі з іншымі, як у аўтара, палітычнымі поглядамі, аб`ектыўнай ацэнкі нечага і спадзявацца.

Узяўся за Ніцшэ, у асобе якога паэзія страціла вялікага і арыгінальнага паэта, які зрабіў уплыў на многіх сучасных творцаў

«Камэна» змясціла некалькі вершаў французскіх надрэалістаў· «Пацалунак» П.Элюара і «У напрамку ночы» П Супа, якія ўслед за Б.Сандрам ужо адмовіліся ад знакаў прыпынку Не знае Еўропа, што мы даўно абагналі ўсіх мадэрністаў, навучыўшыся пісаць толькі пры дапамозе кропак, бо ўсё іншае канфіскуе цэнзура.

Твой разбураны помнік...
Няўжо з вандалізмам
Набліжаецца зноўку
Пара людаедства?
Няхай бронза твая
У расплаўленай сталі
Прагрыміць, як набат,
Над зямлёй анёлаў.

8.VI.95 г.

*Раскладанне лыжак*

**Хаця б, як у пацерах,**
**Не памыліцца.**

**Вось бульбу высыпалі**
**На настольнік.**
**Пара ўжо раскладваць лыжкі.**

**Першая – дзедава.**
**Сам выстругаў**
**На дрывотні**
**З асінавага кругляка.**

**Другая – салдацкая,**
**Бацькава,**
**Якую год колькі**
**Насіў за халявай.**

**Трэцяя – бабіна,**
**Вышчарбленая каля печы,**
**Калі ад прынады**
**Ката-памаўзу**
**Адганяла.**

**Чацвёртая – матчына,**
**Прывезеная з Задубенскім**
**Пасажным**
**Куфэркам.**

**Побач – іншыя лыжкі,**
**Адлітыя ў кузні суседа**
**З ваеннага лому**
**І так сцёртыя**
**Амаль да дзяржання**
**Скробаннем па дзнішчах**
**Гаршкоў і глякоў,**
**Што зараз**
**Не кожны патрапіць**
**Насёрбацца імі бацвіння.**

**У любой з раскладзеных**
**Лыжак –**
**Цікавая біяграфія.**
**Шкада, што толькі пра ўсё**
**Часу няма расказаць,**
**Бо дзень – пасяўны,**
**Як вядома,**
**Нас цэлы год корміць.**

3.VI 95

Рэмбо ў сваёй «Алхіміі слова» адкрыў колеры галосных літар, а я – колеры сваіх галодных дзён: панядзелак – белы, аўторак – сіні, серада – блакітная, чацвер – зялёны, пятніца – чырвоная, субота – чорная..

Ад Т Буйніцкага дастаў некалькі вершаў Апалінэра. Хачу ўжыцца ў яго свабодны рытм, хоць у перакладах, гаварыў святы Геранім, найбольш красамоўны паэт становіцца заікам.

Цэлы месяц не браўся за паэму. Прачытаў Славацкага, Тувіма, Пентака, Вітвіцкага, Скузу, Бялінскага ( збортвораў, падораны В.Труцькам), Шчадрына, Шэрбурга, Ластоўскага.

Пазычыў у Мілянцэвіча Хэмінгуэя «Развітанне са зброяй» Відаць, нікуды не пайду, бо да вечара абяцаў прачытаць і вярнуць гэту кнігу Кніга з першых старонак захапіла мяне сваім рэмаркаўскім настроем, суровым рэалізмам і бязлітасным трагізмам герояў, праўдай без ніякіх прыкрас. Нідзе не магу дастаць Мальро «Часы пагарды» Шкада, што я да гэтага часу не прачытаў гэтай кнігі.

Паэзія павінна адкрываць новае. Інакш яна перастане быць паэзіяй. А новае трэба шукаць на жыццёвых шляхах не толькі свайго, але і іншых народаў

У К-ра дужа цікавая бібліятэка паэзіі. Я пазычыў у яго Рэмбо, Рыльска, Валеры, Малярмэ, Лесьмана. – усіх найбольш выдатных сімвалістаў

**гэта мала хто і ведаў. Танк заставаўся Танкам – аптымістам. Але аптымізм быў ужо на зыходзе. Столькі бед, няшчасцяў і ўсяго самага жудаснага, як на таго пакутнага біблейскага Іова, абрынулася на паэта. «Хуткая дапамога» прывезла яго ў бальніцу, а ён усёй душой ірваўся дадому, дзе жонка гэтак ужо абнямоглая, што перамяшчалася з пакоя ў пакой толькі ў калясцы, адзінае, як саломінка паратунку для душы, заставаўся пажыццёвы рэфлекс – слова, радок, якія наплывалі на памяць і трэба было занатаваць у запісны сшытак.**

**Тут Яўген Іванавіч дапісваў штогадовую вераснёўскую падборку для «Полымя», ужо не тоячы, што гэта яго апошняя справаздача. І пасля таго, як выпісалі і мяне, і яго, і ён правёў у апошні шлях Любоў Андрэеўну, часта перазваньваючыся па тэлефоне, я зноў-такі дамагаўся, толькі каб ён усё яшчэ не выпускаў з рук выратоўчай саломінкі. – Жэнечка, я ж усё жыццё бачыў, як ты думаеш словам, радком. Як нават, бывала, на любым сходзе ці седзячы ў прэзідыуме якога пленума – з`езда, забудзешся пра ўсё і толькі мыляеш губамі, слібізуючы, выпрабоўваеш на зуб новы верш. Прызнаюся шчыра, можа, я нават перабраў меру сваёй настойлівасці, калі ад тэлефонных размоў перайшоў на нашы эпісталярныя зносіны з ім. Напісаны яшчэ ў бальніцы і прысвечаны яму верш паклаў у канверт і паслаў па пошце. Праз нейкі тыдзень атрымліваю ў адказ цудоўную казачку «Вожыкава зброя» з прыпіскай: «Справакаваў ты мяне – былога вожыкаўца – да напісання гэтай казкі. 25.5.95.»**

**Скажу яшчэ раз – цудоўная казачка, блізкая да народных сюжэтаў. Пасля таго, як Бог для самаабароны ўзброіў усіх птушак і звяроў, апошнім з'явіўся вожык і мусіў узяць з астатняе непатрэбшчыны толькі калючкі. І як жа быў шчаслівы, упэўніўшыся, што болей магутныя нават лапай не могуць крануць яго!**

*З тых дзён і малы Вожык,*
*Не знаючы трывогі,*
*Жыве, як кажуць людзі,*
*За пазухай у Бога.*

**Дайшоўшы да гэтай страфы, я на ўсю сілу, якая яшчэ знайшлася, выбухнуў шчаслівым, радасным рогатам, тут жа па тэлефоне павіншаваўшы аўтара з бліскучай метафарычнай знаходкай.**

**«Сказка ложь, да в ней...» Пасля Пушкіна кожны ведае, што ў казцы галоўнае. Маленькая, наіўная для дзетак, а вучыць і дарослых: калі ты вожык не ў казцы, а ў жыцці, то спадзявайся толькі на свае калючкі, на запазуху зямных заступнікаў не разлічвай.**

**Напрыканцы чэрвеня атрымаў ад яго чарговы ліст: «У адказ на тваіх «Герастратаў», сціснуўшы зубы ад сваіх пакутаў, паспрабаваў напісаць нешта падобнае:**

*Старажытныя папярэджвалі*
*Нас, быццам,*
*Што больш за ўсё*
*Зямля наша дрыжыць і баіцца,*
*Каб не стаў блазан над ёй каралём,*
*Каб ненажэрны не сеў за сталом,*
*Каб фаварытка, што ўсіх пацяшала,*
*Пасля смерці пані, ды паняй*
*не стала..*
*Забылі разумнікі толькі аб тым,*
*Што трэба, каб быў*
*І народ не нямым.*

**Як у ваду глядзеў нябожчык!**

**30.8.1995**

Чамусьці зусім не хацелася спаць. Гутарка зайшла аб творчасці У Уітмэна, потым аб нацыянальным характары. Дарэчы, здаецца, ніхто ў нас гэтым пытаннем не займаўся Самі мы сябе захвальвалі аж да ташнаты а чужыя людзі часта няслушна і абразліва чарнілі нас. А характар кожнага народа складаецца не толькі з сумы адных станоўчых рысаў, але і з адмоўных. І, напэўна, ёсць шмат супольных рысаў у характары розных народаў, асабліва – блізкіх. Але ёсць у нас адна «свая» ад'емная рыса, якой, здаецца, ні ў кога з нашых суседзяў не сустрэнеш і якая складалася ў выніку розных гістарычных працэсаў, гэта – абыякавасць да сваёй мовы і культуры.

Ламаю галаву· якой павінна быць новая эпіка? Ды і ў лірыцы сучаснай адбываюцца нейкія тэктанічныя зрухі. Я іх яшчэ не магу акрэсліць, хоць і адчуваю, улоўліваю ў творчасці некаторых сучасных паэтаў. Відаць, у літаратуры не апошнімі былі канфлікты і баталіі паміж класікамі і рамантыкамі, рамантыкамі і пазітывістамі.. Ды, відаць, не канфліктаў, не спаборніцтва трэба баяцца, а адсутнасці іх.

Памалу адыходжу ад старой метафары Шукаю новай. Час перабудовы – самы цяжкі. Пры адсутнасці сур'ёзнай крытыкі і больш патрабавальнага чытача я мог бы яшчэ шмат год пісаць так, як пішу, але я перастаў бы быць цікавым сам для сябе. І таму мы такія нецікавыя і нудныя, што мы гаворым і адкрываем шмат бясспрэчных ісцін.

Прачытаў апошнія нумары нашых

*Раніца*

**Пахне сенам,**
**Сырадоем.**
**Дробны дождж**
**Ходзіць па дранічнаму даху,**
**Быццам кот,**
**Палюючы на вераб'ёў.**

**Сусед-інвалід**
**Стаіць ля скрыпучых варот,**
**Часамі**
**Зіркаючы на акно.**
**Што так цікавіць яго?**
**Ці то, як пячэ**
**Гаспадыня дранікі,**
**Ці то, на якім яна месяцы,**
**Каб потым,**
**Як гамсунаўскі валацуга,**
**Хваліцца,**
**Што гэта – яго работа.**

**А ў садзе, відаць,**
**Нехта пагаспадарыў.**
**Сусед божыцца,**
**Што не ён,**
**А пралазы-падпаскі,**
**Хаця пад антонаўкай**
**Добра відаць**
**Не замыты дажджом**
**След пратэза.**
**–Ну, памажы, зубаскал,**
**Пазбіраць**
**Яблыкі.**

***ПАМЯЦІ ПАЭТА***

**У ЧАС РАЗВІТАННЯ**

У апошнія перад дальняй дарогай хвіліны
Калі паэта выносілі ў казённай скрыні
З вялікадзяржаўным вянком «от президента»,
Следам ішлі мы, зняважаныя дашчэнту.

Раптам заварушыліся ўсе, як уваскрэслі –
Перад натоўпам мужныя рукі ўзнеслі
І развінулі сцяг бел-чырвона-белы –
Знайшоўся-такі хоць адзін смелы!

Можа, нарэшце, і мы паразумнеем,
Убачыўшы, хто Беларусь перад светам бэсціць і топча.
Слава табе, маладая наша надзея,
Сын Беларусі, родны мой хлопча!

9.08.95

**БЛІСКАВІЦЫ ЎЛАДАР**

Каб спасцігнуць існасць творца,
Не спачатку чытайце – з канца.
Маладому было няўцям,
Сам спасціг у канцы жыцця
Спасціжэння шлях некароткі,
Як з бінокля – наадварот
Пачынайце з апошняй старонкі
Хай раскручваецца калаўрот

Сам сабою ён спыніцца – стоп,
І сама перапыніцца плёнка.
Вось адкуль пачынаецца ўзлёт
І становіцца на крыло
Бліскавіцы ўладар – Зеўс!

Так было.
А іначай быць не магло.
Так нанова творэц
Уваскрэс.

27 09.95

**Васіль ВІТКА**





*Памяці Л.*

**Баі ўжо над Волгай і Донам.**
**«Дай раненым кроў сваю, донар!»**
**І ты, як магла, ратавала**
**Байцоў ад смяротнай навалы.**
**Магчыма, што і ў маім сэрцы**
**І сёння кроў нейчая б'ецца...**
**А вось, што часінай трывожнай**
**Не змог аблягчыць твайго болю,**
**Пасля ўсіх амністый – і Божай –**
**Сабе не дарую ніколі.**

17 VI 95

***

**Кажуць, устаць трэба рана**
**І ўзяць з сабой грош, хоць зламаны,**
**Ў весны дзень закукаваны:**
**Ў цябе неразменным ён стане.**

**А з грошам такім на базары**
**Любыя набудзеш тавары,**
**Аб'ездзіш зямныя абшары**
**І здзейсніш юнацкія мары.**

**І хоць шмат гадоў прамінула,**
**Я веру сказанням матулі**
**Пра дзівы вясновага гулу**
**І пра кукаванне зязюлі.**

18 VI 95

літаратурных часопісаў Аж набіў аскому аднапланавымі, адназначнымі, аднатоннымі, адна колернымі пазбаўленымі ўсякага падтэксту творамі Другі раз не захочаш такія суслы для бяззубых браць у рукі

Радуюся што вечары робяцца даўжэйшыя і ў мяне з кожным днём прыбывае больш вольнага часу Прачытаў Талстога, Конрада Бранеўскага, Шэмплінскую, Галендара, Гамсуна, Дзікенса, Дobліна, Бурдацкага, Харамінскага, Бэнду

«Чырвоная Змена» дала вялікую падборку вершаў паэтаў Заходняй Беларусі і фотаздымкі А.Іверса, Н Тарас і мяне Гэтымі днямі выступалі ў Мінскім педінстытуце П Пестрак, М.Машара, Н Тарас, Б.Гелер, А.Іверс, Маргентой і я Не магу прывыкнуць да гэтых няспынных літаратурных вечароў і велізарнейшых аўдыторый, і асабліва да прыёмаў, прамоў і тостаў У параўнанні з маімі новымі мінскімі сябрамі адчуваю сваю адсталасць і ненатрэніраванасць, бо ні піць не ўмею, ні прамоў застольных гаварыць не ўмею і зусім слаба арыентуюся ў рангах, іерархіі А гэта, здаецца, трэба ўлічваць.

Як пасля паэзіі бунту перайсці на паэзію будаўніцтва? Мне трэба будзе даганяць тых, хто з першых дзён свайго жыцця зжыўся з новай тэмай, з новай рэчаіснасцю. Хоць ты садзіся за адну парту з першакласнікамі. Ёсць адзін – самы лёгкі – спосаб: апяваць тое, што бачыш і што хацеў бы бачыць. Але такія перспектывы – не для мяне.

# ЯГО ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ

**«Хвалі Нёмна, наднёманскія сенажаці, лясы і нівы былі калыскай для мастацкай музы многіх беларускіх паэтаў на чале з Якубам Коласам. Харaство беларускай прыроды, «брыльянцістыя росы» на лугох, дзе бяжыць Нёман, разложыстыя дубы ў гаі, адзінокія грушы на полі, сыпелыя нівы з валошкамі, высокія хвоі прыбярэжных лясоў... Да гэтага часу ліра беларускіх паэтаў апявае абшары, дзе «струменіць Нёман срэбраводны».**

**Але ў сівога дзеда, беларускага Нёмна, ёсць ня менш слаўная і прыгожая сястра Нарач. Яна нібы пакрыўдзілася, што так доўга абміналі яе ў беларускай паэзіі, і, пакрыўдзіўшыся, пасылае туды свайго прадстаўніка – маладога песняра. Вось крыніцы, адкуль выцякае багатая лірыка Максіма Танка. Яго мастацкая муза зарадзілася ў звонкім шуме меднасасновага наднарачанскага бору.**

**... Ідзе паэт сваімі шляхамі-этапамі, выскубае народныя словы і эпітэты, як валошкі з жыта, нібы жартуючы сыпе метафарамі і вобразамі...»**

**Хай даруецца мне такая даўгаватая цытата. На фоне некаторых мудрагелістых пасажаў і «найноўшых» інтэлектуальных роздумаў на старонках**

«Крыніцы» такія развагі сяму-таму здадуцца занадта старамоднымі. І хай будзе дазволена мне яшчэ адна ўжо невялікая цытата:

«Утульная хата, маленькі кусочак зямлі, дваіх бацькоў і мы з мужам пакуль што – але хутка ж яму трэба ехаць, канчаць мэдыцыну, – так, вось у Зэльве. Муж вельмі ласкавы, стараецца мяне пазнаёміць з беларускай літаратурай, якой амаль ня знаю. Ведаю М.Танка й вельмі захапляюся яго творчасцю, гэта на ўзроўні, гэта тое, што трэба».

Паміж імі – ледзь не паўвека прайшло...

Першая цытата – урыўкі з прадмовы Р.Баравога да першага зборніка вершаў Максіма Танка «На этапах» (1936 год, факсімільнае выданне 1983 года).

Р. Баравога (Рыгора Раманавіча Шырму) нарадзіла не менш прыгожая, хоць і без такіх знакамітых сімвалаў нашае Бацькаўшчыны, пружанская зямля (ой, якія там прыгожыя бэзавыя прысады вакол такіх харошых дарог!..)

Які ж дзівосны партрэт юнага Максіма Танка ў факсімільным выданні той яго першае кнігі. Які абаяльны твар у гэтага дваццацічатырохгадовага вясковага хлопца, і якое духоўнае і душэўнае багацце прытоена ў ягоных вачах. Яшчэ больш люблю я глядзець на твар ужо знакамітага Яўгена Іванавіча ў першым томе чатырохтомнага выдання 1966 года. І ўсяго толькі пяцьдзесят чатыры!.. Які ж прыгожы, мудры і адначасна просты і харошы чалавек перад намі.

Нічога, бадай, не страціў ён у сваёй аўры і цяпер, яшчэ ледзь не праз трыццаць гадоў, гэты змучаны не толькі бясконцымі хваробамі, але і душэўнымі ранамі і духоўнымі пакутамі Чалавек.

І як тут не прыгадаць твары Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, М. Арла і Сяргея Палуяна, Уладзіміра Дубоўкі і Уладзіміра Жылкі, Алеся Жаўрука і Аляксея Коршака...

Другая цытата – са «Споведзі» Ларысы Геніюш (1993 год).

Ларыса Антонаўна Геніюш – ледзь не самы геніяльны, ва ўсякім выпадку, найбольш папулярны апошнім часам сярод часткі нашае інтэлігенцыі чалавек. Рыгор Раманавіч Шырма, чалавек, які навекі, што б нас ні чакала ў нашай такой трывожнай і такой няпэўнай будучыні, застанецца годнасцю і гонарам любога беларуса.

Тут не месца даваць грунтоўны літаратуразнаўчы аналіз гэтае сапраўды неардынарнае кнігі Л.Геніюш, проста так, між іншым, ацэньваць гэты стогн збалелае душы. Але ж проста не магу не сказаць і пра тое, што ці не і ад гэтае кнігі ідзе ў нас ой якая не бяскрыўдная штучная паланізацыя ў мове?

Бог нам усім суддзя! І нікога не збіраюся я судзіць.

Але чаму ў кнізе, напісанай у 80-я гады, чалавекам, які пражыў каля трыццаці гадоў на радзіме, у каментарыях трэба даваць пераклад стольких польскіх слоў? Не прынята было савецкае падданства, але як жа быць... з беларускім?..

І хто нам даў права на такую «максімальную абярэжлівасць», калі «формы аднаго і таго ж слова, часам на адной старонцы, да адзінай нормы не прыводзяцца»?!.

«Паланізацыі мы не баімся...» – заяўляюць на старонках газеты «Культура» дарагія майму сэрцу людзі.

Але ж доўга мы будзем «адраджацца» – а многія з нас, каму ўсё-такі маці спявала над калыскаю чысцюткай беларускаю моваю, проста перамруць – калі цэлыя аркушы ў адной газеце і нават цэлыя кнігі будуць аддавацца пад «персанальную» арфаграфію.

І якім жа трэба быць страшэнна глухім, каб не ўспрымаць музыкі нашага чыстага роднага слова ну хоць бы ў той жа прадмове Р.Р.Шырмы, напісанай так даўно і ў такіх неспрыяльных для нашае мовы жыццёвых абставінах...

Такая гаворка, зрэшты, вымагае і большае глыбіні, і большае прасторы.

Цяпер жа мне найважней тое, што менавіта пра Максіма Танка сказана: «... гэта на ўзроўні, гэта тое, што трэба».

Пры ўсёй маёй шчырай любові да Танка-чалавека і Танка-паэта і пры маім глыбокім перакананні, што ніякія нашы «найноўшыя» дасягненні не зацьмяць паэзіі Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, Якуба Коласа і Максіма Танка (а пералік жа з самай чыстай душою можна доўжыць – Аркадзь Куляшоў і Уладзімір Караткевіч, Пімен Панчанка і Рыгор Барадулін...), я вельмі пакрыўдзіў бы душою, калі б сказаў, што і цяпер мяне, як некалі Р.Баравога, прыводзяць у захапленне ўсе вершы з таго першага зборніка «На этапах».

Але – хочаце верце, хочаце не – адкрываю наўгад якую-небудзь старонку і не раз, не два маю ўсе правы заявіць, што сказанае маладым хлопцам з нашае глухое мядзельскае вёсачкі шэсцьдзесят гадоў таму назад і цяпер гучыць «на ўзроўні», што гэта – паэзія:

*«Падымалася зара ды апоўначы,*  
*у расе сьцюдзёнай мыла свае вочы;*  
*і пайшла яна баразнамі ды боса,*  
*праз пакосы распусціўшы*  
*свае косы. .»*

І няма аніякае патрэбы сённяшняму Максіму Танку адхрышчвацца ад такога свайго «Вянка» 1936-га года:

*«Зара ўжо затлела, а трэба ісьці*  
*і сыпаць на труны пясок...*  
*Так цяжка ў далонях мазольных*  
*нясьці,*  
*штандары схіліўшы над вамі,*  
*Байцы,*  
*і класьці апошні вянок...*

Разумею, што на фоне некаторых усё тых жа «выкшталцоных» разваг на старонках «Крыніцы» мае прызнанні пададуцца сяму-таму і праставатымі, і мелкаватымі. Ну што ж, пра Максіма Танка, зрэшты, ужо столькі сказана – і пра яго сапраўдную народнасць і гуманістычнае стаўленне да любога чалавека, і пра адметнасць, непаўторнасць яго паэтычнага свету, пра пластычнасць і афарыстычнасць яго вобразнасці, і пра многае-многае іншае.

Але апошнім часам ніяк не выходзяць з галавы словы вядомага рускага крытыка, які яшчэ не так даўно сказаў так многа харошых і пераканаўчых слоў і пра нашу літаратуру (пра Васіля Быкава, Алеся Адамовіча):

«Я не я і кабыла не мая – няўжо гэта мы, абсалютна свабодныя, нешта там крэмзалі, а цяпер усё пакідалі і праклялі і пусцілі на вецер. Нібы нешта робім, чагосьці хацелі, нібы думалі, нібы жылі... Харошанькія ж мы былі б, аднак, з такой сваёй нахабнай свабодай. А што? І вельмі нават харошыя, тлумачаць дасведчаныя людзі. Толькі тупыя жывёліны і сапраўдныя ідыёты не змяняюць сваіх перакананняў. Трэба было паспешліва пагадзіцца, каб не праходзіць цяпер па разраду тупасці і ідыятызму, каб быць у перадавых лініях прагрэсу, але штосьці перашкаджае...»

Ці ж не ад гэтае «абсалютнае свабоды» так рана назаўжды адышоў ад нас Ігар Дзядкоў?.. Але як яно там ні будзе далей, сапраўды нешта перашкаджае рвацца на «перадавыя лініі прагрэсу»...

З перачытанага апошнім часам пра Максіма Танка адно з самых прыемных уражанняў пакінуў артыкул, надрукаваны да яго 80-годдзя (гл. газ. «Советская Белоруссия» ад 18.IX.1992) маім малодшым другам Леанідам Дранько-Майсюком, прыгожым не толькі тварам, але і душою, адукаваным чалавекам і неардынарным паэтам і ўжо ніяк не меншым патрыётам, чым некаторыя нашыя «юныя адраджэнцы», ідэалам якіх сапраўды сталі «сціплыя літаратары з эміграцыі».

Цалкам далучаюся да яго двух «банальных ісцін»: «Паэт пачынаецца са Слова...» і «паэт немажлівы без Радзімы». Сапраўды ж, наўрад ці паможа стварэнне як «псеўдафальклору» так і «псеўдагеніяў» нашаму цяперашняму адраджэнню, якому «так не стае яркага артыстызму і глыбокай індывідуальнай свядомасці». І як бы мы ні напіналіся, каб прыўзняць на нейкую нечуваную вышыню многіх літаратараў з эміграцыі, вышэй Максіма Танка ці Рыгора Барадуліна паставіць няма каго. Іншая рэч, што мы павінны спаталяць іх тугу па Радзіме і вяртаць нашаму народу ўсё вартае таго. Што мы, зрэшты, спакойна, без экзальтацыі робім...

Але хіба можна без душэўнае скрухі чытаць у чалавека вельмі цяжкага лёсу, але не страшнейшага, чым у многіх іншых, што паспыталі не менш гулагаўскіх пакут, але да канца дзён сваіх захоўвалі чалавечую і мастакоўскую годнасць, у «самага палымянага адраджэнца» ну хоць бы такое вось: «...Там было бесьпячней, чымся ў Вільні, але не гэтулькі, каб ужо быць зусім спакойным. Дык няма дзіва, што першыя гукі ўзрываў нямецкіх бомбаў паказаліся мне цудоўнай райскай музыкай, якая сьпявала мне аб вызваленні...»

І не толькі камсамольскай апантанасцю і юначай наіўнасцю Максіма Танка, але і «менталітэтам» свайго народа я тлумачу сабе такі «нявыгадны» цяпер запіс у яго «Лістках календара»: «Сваткаўская паліцыя распаўсюджвала ўспаміны Ф.Аляхновіча аб Салаўках. Хлопцы смяюцца, што аўтар змясціў у гэтай кнізе дзве фатаграфіі – адна салавецкая, другая віленская – і што на першай ён куды лепш выглядае. Кнігу хутка, нават не дачытаўшы, скурылі нашы маладыя курцы» (2.1.1936).

І наўрад ці з нейкага зла выдумала ў сваіх успамінах куды больш непрывабныя факты з жыцця маладога Ф.Аляхновіча Паўліна Мядзёлка. Што ж. У жыцці нашым столькі ўсяго наварочана. Не трэба нам толькі адкінуўшы і растаптаўшы адных, ствараць цяпер новых псеўдагерояў (аж да самога Барыса Рагулі). Куды важней для нас усведамляць, што творчасць – гэта не нейкі давесак да біяграфіі, і радавацца, што і ў той час, калі Ф. Аляхновіч «страшэнна піў і да таго, што не раз знаходзілі яго на вуліцы ў якойсь канаве без просыпу п'яным», ён напісаў усё-такі шмат п'ес, і «некаторыя з іх вельмі добрыя» (П.Мядзёлка).

І хіба магу я сказаць, што і адзін з самых мне дарагіх на гэтым белым свеце людзей, адзін з найвыдатнейшых сыноў нашага народа, сапраўдны чалавек і адзін з самых лепшых нашых паэтаў выпускаў увесь час у свет творы «вельмі добрыя». Не кажу ўжо як пра шчырыя, так і пра змушаныя панегірыкі, якіх таксама ладнавата за шэсцьдзесят гадоў актыўнае творчай працы выйшла з-пад яго пяра. Іншая рэч, што я не магу іх назваць бездапаможнымі і тым больш – халтурнымі.

Але вось сяджу, слухаю ансамбль скрыпачоў маскоўскага Вялікага тэатра і гартаю каторы ўжо раз яго апошнюю кнігу «Мой каўчэг».

Я веру не толькі ў шчырасць «ідэйнасці», у праўду творчых імпульсаў, мяне прываблівaюць многія афарыстычна выказаныя думкі, але – не ведаю, як гэта выказаць больш дакладна і справядліва – у некаторых вершах гэта ўсяго толькі разумная і па-свойму арыгінальная... канстатацыя.

Але ж калі я чытаю пад выпадковы акампанемент «Народнага егіпецкага танца» А. Эль-Шуана «Баладу пра гліну», то... нешта працінае ўсяго наскрозь, яднае з роднай зямлёй і адначасна неяк прыўздымае над ёй, узвышае і абчалавечвае:

*Якая дзіўная*  
*На нашай Мядзельшчыне*  
*Гліна!*  
*Ганчары з яе калісьці*  
*Такія цуды выраблялі.*  
*Што нават*  
*Ад купцоў замежных*  
*Не было адбою.*  
*Калі з яе зрабіў*  
*Ты міску*  
*Або збан,*  
*Любата з іх*  
*Верашчаку сёрбаць,*  
*Прыгубіць бярозавік*  
*Ці сырадоем*  
*Смагу ўталіць.*  
*А зрабіў свісцёлку –*  
*Сама грае,*

*Змудрагеліў пеўніка –*
*Ён кукарэканнем сваім*
*І мёртвага разбудзіць.*
*Таму не верце,*
*Што там з нейкай*
*Месапатамскай гліны*
*Усемагутны*
*Вылепіў Адама.*
*Ён вылепіў яго,*
*Калі разводдзем веснім,*
*Гразнучы*
*Аж па калені,*
*Ішоў з сяўнёй*
*Па Мядзельшчыне нашай.*

*Тут і сягоння*
*Сляды ягоныя відаць.*
*Іх толькі ўсе*
*Азёрамі завуць.*

**... Якое ж гэта ўсё-такі шчасце, што лёс паслаў мне на маім, мякка кажучы, няпростым жыццёвым шляху, такіх людзей.**

**Мне пашчасціла быць у самых блізкіх добрых адносінах, а з многімі па-сапраўднаму дружыць, з І. Мележам і У. Дубоўкам, М. Ларчанкам і Ю. Пшырковым, У. Караткевічам і М. Стральцовым, В. Палтаран і В. Бечыкам, Я. Скрыганом і В. Хомчанкам, Ф. Янкоўскім і У. Калеснікам... А колькі ж іх, – дзякаваць Богу – сяброў і паплечнікаў і цяпер у мяне, хоць апошнім часам мы неяк знiякавелі, сцяліся і кожны, як можа, змагаецца з нашым цяперашнім жыццём.**

**Калі б у мяне быў талент празаіка, пра кожнага з гэтых слаўных сыноў і дачок нашага такога нябеднага на сапраўдных людзей народа можна было пісаць цэлыя аповесці.**

**Хіба магу я забыць той візіт Уладзіміра Мікалаевіча Дубоўкі перад самым Новым 1967 годам з ёлачкай і ладным цэлафанавым мяшком апельсінаў у бальнічную палату ў рэспубліканскай касцёватуберкулёзнай бальніцы на вуліцы Дастаеўскага ў Маскве, дзе мне наш мінскі ўрач Сагаловіч зрабіў восьмую, нарэшце, удалую аперацыю і дзе я трэці месяц ляжаў на жываце, не павярнуўшыся ні разу, і дзе нас ляжала ў адной палаце ажно васемнаццаць чалавек – рускія, беларус, самаліец... – і яго гарачыя гаючыя слёзы на маёй патыліцы і яго словы: «Трымайся, родненькі...»**

**Ці тое, як праз сем гадоў, у студзені 1975 года, на пасяджэнні прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР да мяне падышоў Іван Мележ, сеў побач, шчыра абняў і сказаў: «Пабачыш – усё будзе добра...»**

**Я тады, вярнуўшыся з Масквы ў Рэчыцу, а пасля і ў сваю хату, якую мне – аспіранту, без мінскае прапіскі – «выбіў» Яўген Іванавіч, літаральна выцягнуўшы мяне з пелькі (пра гэта я ўжо крыху пісаў) – апублікаваў шэраг артыкулаў, на якія звярнулі ўвагу. Сам Іван Мележ рэкамендаваў прыняць мяне ў члены Саюза пісьменнікаў. Але на прыёмнай камісіі, якой ён тады кіраваў, адзін «справядлівец» (ён, адзін з найактыўнейшых змагароў «за справядлівасць», даўно ўжо пакінуў нас, грэшных), нягледзячы на тое, што двойчы выступаў сам Іван Паўлавіч, а за ім Віктар Каваленка, Барыс Сачанка, дамогся таго, каб мяне «зарэзалі».**

**Тады ж да Мележа падышоў Кастусь Губарэвіч і сказаў: «А гэтага хлопца ўсё роўна пастаў на пасяджэнне прэзідыума...»**

**І як жа Іван Паўлавіч шчыра абняў і прытуліў да грудзей, калі Генадзь Бураўкін яшчэ да афіцыйнага аб'яўлення паказаў пальцамі: «Перамога!..»**

**А хіба патрэбны нейкія каментарыі, калі больш чым праз дваццаць гадоў, ужо ў студзені 1992 года (як жа могуць людзі саграваць адзін аднаго нават у студзені...), такі жэст зрабіў Яўген Іванавіч.**

**Уручаў наш тагачасны спікер вялікай колькасці людзей Ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Знаходзіў кожнаму нейкія цёплыя і нават дасціпныя словы. Мне ж чамусьці торкнуў папку ў рукі і прамармытаў адно слова «Віншую...» Іду я праз вялізную залу нейкі знiякавелы. І тут раптам... падымаецца з свайго месца і ідзе насустрач Максім Танк (яму і Янку Брылю ўручалі тады медаль Францыска Скарыны). Абдымае, цалуе. За ім віншуе Янка Брыль. Усе глядзяць...**

**Калі я стаў членам Саюза пісьменнікаў, то мы, вядома ж, не раз сустракаліся. Што б там ні было – ці з'езд Саюза пісьменнікаў, ці якая-небудзь тагачасная «прэзентацыя» – пабыдзе, распытаецца пра здароўе, неяк падбадзёрыць. Пашчасціла разоў колькі прайсціся пехатою па вуліцах Мінска, паслухаць яго бясконцыя дасціпныя жарты і найцікавейшыя, як цяпер кажуць, «аповеды».**

**Але вельмі хочацца расказаць хоць збольшага пра адну-адзіную нашу сумесную паездку, тым больш што пра яе ў рэспубліканскім друку не было ні слова (дзе ж там, калі нам так собіць апошнім часам пісаць пра іншых «найлепшых» нашых сыноў – пра камандзіраў карных батальёнаў і таму падобных).**

**Гэта была паездка на родную Мядзельшчыну 28 кастрычніка 1994 года, на літаратурна-музычную вечарыну.**

**Колькі ж шчырае народнае любові пашчасціла мне пабачыць да гэтага, кажучы словамі Івана Мележа, «цудоўнага паэта і чалавека».**

**З год упрошваў Яўгена Іванавіча прыехаць апантаны руплівец на ніве беларушчыны Канстанцін Арсенавіч Каратай, навуковы супрацоўнік Мядзельскага музея народнай славы.**

**Па стану здароўя Яўген Іванавіч даўно адмаўляе ўсім у Мінску – землякам адмовіць не змог.**

**Паехаў ён, седзячы побач з другам-урачом – занадта небяспечная для яго была паездка. Але, як і ў лепшыя часы, голас яго гучаў не толькі разумна, але і дасціпна, весела. Як слухалі мы ўсе – Марыя Захарэвіч, Вячаслаў Рагойша, Канстанцін Каратай, доктар і я, вядома ж.**

**Ехалі мы са спазненнем на дзве гадзіны – на тэлебачанні, хоць і была папярэдняя дамоўленасць, ніяк не маглі знайсці машыну. І яго ўгаварылі не заязджаць... у Пількаўшчыну. Такога мы – Марыя Захарэвіч, Рагойша і я – вытрываць не маглі. Ледзь не крыкам прымусілі заехаць: чалавек жа найперш развітацца з роднаю хатаю ехаў.**

**Божа мой Божа! Якая гэта была людская сустрэча двух братоў – пра адну яе можна расказваць і расказваць. Як, зрэшты, і пра адзін жэст на могілках у Слабадзе. Дайсці да родных магіл ён ужо не мог без нашае дапамогі. Пастаяў каля дзядоўскіх і бацькоўскіх магіл, пакланіўся, памахаў рукою і прашаптаў: «Да хуткай сустрэчы...»**

**А ў Мядзеле яго чакалі многія сотні людзей самага рознага ўзросту. Не што іншае, як толькі павага і любоў, змагло сабраць у наш час столькі народу. І стомлены, змучаны выдатны сын сваёй зямлі зноў ажыў і прабыў з народам да самага позняга вечара, і ўжо ноччу паехаў у Мінск.**

**Гучалі словы прызнання і гордасці, былі цудоўныя песні і не менш выдатныя танцы. Якім пяшчотна-расчуленым голасам чытаў ён свае старыя і новыя вершы. Громам апладысментаў адказалі яму людзі на такія яго словы: «Дарагія сябры, дарагія землякі! Ад усяго сэрца хачу падзякаваць вам за гэту цудоўную сустрэчу! І дзякуй Богу, што мы сустрэліся!..»**

**Пра многае можна было б расказаць, многае хочацца цытаваць. Ну хоць бы тое, як Максім Танк адказаў на пытанне, як ён ставіцца да нашага Прэзідэнта: «Які б ні быў Прэзідэнт, шмат чаго залежыць ад самога народа. А мы часта рукі прыкладаем неўпапад, не туды, куды трэба».**

**Хіба ж не так?..**

**З якой чалавечай цеплынёю і мудрасцю гучаў яго голас у пачатку студзеня гэтага года, калі ён чытаў мне і Алесю Ставеру свае яшчэ не апублікаваныя вершы ў час майго адзінага за ўсё жыццё візіту ў яго хату.**

**Дзверы нам адчыніў спакутаваны, страшэнна змучаны ад цяжкае хваробы і, відаць, не менш цяжкіх апошнім часам роздумаў, але і цяпер яшчэ нейкі вонкава і ўнутрана прыгожы чалавек. Якая нязмушаная і ветлая была яго ўсмешка, колькі шчырае радасці было ў яго голасе: «Дзякую, браточкі, што завіталі. Так жа нешта было самотна. Адны і адны...»**

**Двое прыгожых тварам і душою сапраўдных беларусаў...**

**І вось са спазненнем даведваюся, што і яго мілай Лю ўжо няма. Як і чым памагчы ў такім невыноснa цяжкім горы?..**

**Чытаю, перачытваю «Мой каўчэг».**

**Вось яго «Пісьмо брату»:**

*... А я, знаць, змарнаваў свае ўсе дні*
*На справы непатрэбныя, мой брат,*
*Як сейбіта былога памяні*
*Мяне на полі жменяю зярнят*

**А з душы маёй рвецца крык: «Не змарнавалі Вы свае дні! Не здарма ж Бог даў Вам іх столькі. Выплыць з нашае сённяшняе брыдоты і бядоты многім з нас будзе памагаць і Ваш «Каўчэг»!..»**

**...Не перараджацца б сямутаму з нас як найгучней палітычна (да чаго найчасцей зводзіцца наша «адраджэнне»), а тым, каму не пашчасціла слухаць матуліну песню над калыскай і хто дыхаў «водарам» усяго толькі «сена на асфальце», нырнуць бы ў першародныя народныя крыніцы і ў сапраўдную нашу Літаратуру.**

**Трэба мець талент. Але галоўнае – трэба быць Чалавекам сярод людзей пры самых цяжкіх абставінах, любіць свой народ, родную зямлю і само жыццё, якое яно табе ні выпала...**

**І вось што хочацца сказаць у заключэнне:**

**«Нам няма чаго бегчы за іншымі, нам трэба шчыра ацаніць сябе, зразумець, што мы за такое, выйсці з маны, пераканацца ў ісціне. Тады мы пойдзем наперад, і пойдзем хутчэй за іншых, таму што прыйшлі пазней за іх, таму што мы маем увесь іхні вопыт і ўсю працу цэлых вякоў, якія папярэднічалі нам».**

**Гэтыя словы, сказаныя 160 гадоў таму назад Пятром Чаадаевым, які так многа чаго не прымаў у тагачасным жыцці сваёй дзяржавы, так ярасна многае адмаўляў, але які так горача любіў свой народ, так ганарыўся ім і яго культурай, здаюцца мне вельмі актуальнымі і нашаму сённяшняму дню...**

Генадзь ШУПЕНЬКА





# «ЦІ ДАЎНО Я ДРУЖУ З АПАЛОНАМ?..»

Нашыя дні ўжо прывабныя тым, што пра лепшых беларускіх паэтаў, раней называных яшчэ і савецкімі, можна пісаць проста як пра паэтаў, не згадваючы іх разнастайных узнагарод, шчодрых званняў, багатых пасад і нядаўняй адзінапартыйнай прыналежнасці.

Надоўга не спыняючыся на старонках, што з'яўляліся з мэтаю дагадзіць ідэалогіі, мы можам нарэшце проста гаварыць аб тых творах, якія назаўсёды застануцца ў нашай літаратуры, разумеючы, што іх і зусім магло б не быць, калі б іх аўтары не праспявалі ў свой час «патрэбнай» оды, «патрэбнай» паэмы.

Творчасць – гэта значыць, лепшае з напісанага – галоўная мера аб'ектыўнай ацэнкі мастака, а не прымусовае літаратурнае чаляднiцтва, месца якому ў архіве...

Максім Танк – імя хрэстаматычнае. І гэта наша шчасце, што менавіта ў школьныя гады мы чыталі і вучылі на памяць – «Паслухайце, вясна ідзе...», «Спатканне», «На пероне», «Яна хату бяліла», «Люцыян Таполя», а таксама іншыя вершы паэта.

Я люблю гэтыя вершы і люблю кнігу «Лісткі календара», якая таксама хрэстаматыйная, бо яе не без карысці шмат хто прачытаў, асабліва тыя раманісты, асноўная

тэма якіх – былая Заходняя Беларусь. Дарэчы, шматлікія дэталі з «Лісткоў календара» перавандравалі ў іхнія раманы без ніякіх зносак ці спасылак на першакрыніцу.

Паэт пачынаецца са слова – ісціна, якая ўжо даўно зрабілася банальнаю. Паэта цяжка ўявіць без спадчыннага ўплыву радзімы – яшчэ адна, не менш банальная ісціна. Добра, калі тваё роднае слова мае волю, і цудоўна, калі твая радзіма незалежная.

Максім Танк пачынаўся не са слова, а з абароны роднага слова, з палітычнага змагання. Паводле яго прызнання, усе песні ён спяваў на матыў «Інтэрнацыянала». Ці магло гэта плённа паўплываць на яго паэзію? Пытанне рытарычнае, але што цікава – у вышэй названых вершах, і не толькі ў іх, палітычныя погляды аўтара не засланілі яго мастакоўскага дару, і ў гэтым сэнсе талент беларускага паэта роднасны таленту паэтаў-камуністаў Бранеўскага, Арагона, Пабла Нэруды.

І нават у «Лістках календара», кнізе «свядома» палітычнай, ідэалагічны вектар не абсалютны, таму ў гэтай кнізе – і развагі пра хараство, паэзію, мастацтва; і праніклівая цікавасць да «Рэмбо, Рыльке, Валеры, Малармэ, Лесьмяна... – усіх найбольш выдатных сімвалістаў»; і шмат перспектыўнага клопату аб роднай літаратуры.

На апошнім, бадай, варта засяродзіць увагу.

«У ацэнцы літаратурных твораў, – піша ў 1936 годзе Максім Танк, – у нас існуюць дзве меры: адна – беларуская, другая – еўрапейская. Паводле першай – усе выдатныя, усе класікі. Паводле другой... Другой пакуль што няма каго і мерацъ».

Падкрэслю – запіс 1936 года. Паэту – дваццаць чатыры гады!

Можа, гэта сказана ў маладой гарачнасці ці ў нейкім палемічным запале?

Непадобна на тое, бо думка даволі-такі ўзважана.

А, можа, гэта ацэнка толькі заходнебеларускай літаратуры, якая не мела яркіх талентаў і марудна развівалася ў неспрыяльных умовах польскай напаўдыктатарскай дзяржавы?

Вядома ж, не. Гаворка пра ўсю нашу літаратуру, пра што двума гадамі пазней у тых жа «Лістках календара» засведчана: «Наша беларуская літаратура – адна з самых маладых, але ў ёй ужо столькі «класікаў», што хапіла б імі абдзяліць і суседзяў... Наш засцянковы патрыятызм узвёў у сан святых і геніяў вельмі шмат пасрэдных вершаплётаў, даўшы іх творам завышаныя ацэнкі, гучна спраўляючы 5 –10 –20-годдзі іх «плённай» літаратурнай дзейнасці. Мо таму «не разумеюць» нас і мала цікавяцца намі на шырокім свеце».

Вельмі надзённыя словы, беручы пад увагу нашу нядаўнюю мадрыгальную крытыку, а таксама паводзіны пераважнай большасці пісьменнікаў, паводле самаатэстацыі якіх, яны – «творцы-геніі». Магчыма, і «геніі», але ўпэўнены, перш за ўсё яны – наглядная прaва засцянковага патрыятызму, які, дарэчы, даспадобы той частцы нацыянальнай інтэлігецыі, што схільная да міфалагізацыі рэчаіснасці. Такі, я сказаў бы, ірацыянальны падыход да жыцця ў апошні час набывае форму своеасаблівага канона, нейкага амаль абавязковага правіла, якое катэгарычна абвяшчае: міфы патрэбны для ўмацавання беларускай ідэі!

Не будзем спрачацца. Можа, і патрэбны. Аднак жа варта памятаць, што міфатворчасць – атрыбут калектыўнай свядомасці, і беларусы ўжо маюць тое, што стварылі калектыўна – багаты фальклор. Стварэнне ж новых міфаў – гэта стварэнне псеўдафальклору, натуральна з псеўдагероямі і псеўдагеніямі. Наўрад ці гэта дапаможа нацыянальнаму Адраджэнню, якому так бракуе яркага артыстызму і глыбока індывідуальнай свядомасці. І, дарэчы, само паняцце Адраджэнне самы час ураўнаважыць больш аб'ёмным паняццем – Нараджэнне, бо іншы раз мы спрабуем адрадзіць тое, што не адраджаецца, а калі адраджаецца, то набывае раптам незразумелы, а часам і непажаданы сэнс. Такім чынам, мы дарэмна выдаткоўваем сілы. Трэба нараджаць. Грэцыя не адбудоўвае античныя храмы – ахоўвае і ганарыцца іх руінамі. Разумны гонар дапамагае пазбавіцца комплексу другараднай краіны, разрывае ланцугі правінцыялізму і стымулюе імкненне да Нараджэння.

Багдановіч першы папярэдзіў нас пра тую вялікую небяспеку, што хавае ў сабе правінцыялізм (ці ўсё той жа засцянковы патрыятызм!) і першы пераадолеў нашаніўскае прыцягненне. У гэтых адносінах Максім Танк – паслядоўнік Багдановіча. Ён не стаў чакаць, пакуль «загляне сонца і ў наша ваконца» – сам пайшоў будзіць свой паэтычны ранак. Дзякуючы новай еўрапейскай паэзіі ўбачыў іншыя вышыні слова і думкі і, што самае галоўнае, не згубіў свой арыгінальны голас у інтэлектуальнай прасторы свабоднага вершаскладання:

*Едуць цыганы.*  
*Конь цяжка брыдзе:*  
*Ці то ад таго,*  
*Што дарога гразкая*  
*І калёсы западаюць да ступіц,*  
*Ці то ад таго,*  
*Што едзе з імі*  
*Восеньскае сонца,*  
*Якое не ўсцягнуць*  
*На гару поўдня,*  
*Ці то ад голаду дзяцей,*  
*Што плачуць,*  
*Зарыўшыся ў салому,*  
*Ці то ад таго,*  
*Што маці іх*  
*Вязе калоду карт,*  
*А з ёй – людскія лёсы,*  
*У тым ліку – і мой,*  
*Якога досыць,*  
*Каб прыстаў іх конь.*

Твор мастака, чыё мысленне не абцяжарана засцянковасцю. І да чаго ж нечаканая гэтая думка-метафара: цыганскага каня стаміла не гразкая дарога, не цяжкі воз і г.д., а калода карт у кішэні старой цыганкі! Паэт катэгарычна не сцвярджае, што гэта менавіта так, верш вытрыманы ў інтанацыі некалькіх здагадак, але з усіх здагадак, з усіх меркаванняў менавіта калода карт, са змешчанымі ў ёй таямніцамі чалавечых лёсаў і лёсам самога паэта, набывае сілу вобраза, які хвалюе найбольш, набывае знак цудоўнага паэтычнага адкрыцця, у якім артыстычныя фарбы атрымалі перавагу над тым, што можна назваць даматканым падыходам да паэзіі.

У трыццатыя гады Максім Танк не прайшоў міма вопыту Апалінэра, Незвала, Чэслава Мілаша, будучага лаўрэата Нобелеўскай прэміі – заўважым, тых паэтаў, для якіх праблема абароны роднай мовы ніколі не была актуальнай, для якіх мова заўсёды была тым, чым і павінна была быць – сродкам выказвання, а паэзія – лёсам.

Для аўтара ж «Лісткоў календара» амаль у той жа ступені, як для Купалы і Багдановіча, родная мова з'яўлялася перш за ўсё цяжкім знакам лёсу і толькі пасля ўжо – прарочым сімвалам творчасці. Дарэчы, як і да сённяшняга дня для ўсіх нас, нацыянальна арыентаваных беларусаў. У гэтым наша горкае і, бадай, вечнае адрозненне ад іншых.

*Калі няма на свеце маёй мовы,*  
*Майго народа і мяне самога, –*  
*Дык для каго будуеце, панове,*  
*Канцлагеры, катоўні астрогі...*

Так, былі вершы-пракламацыі. Аднак жа было і разуменне, што такая пракламацыйная тэматыка для развіцця літаратуры – з'ява анамальная, што неабходна працаваць не на слова, а словам, таму малады Максім Танк, рамантычна зайздросцячы еўрапейскім паэтам, і звяртаўся да заходняй паэзіі з яе дасканаласцю вершаванай культуры.

У вершы «Марк Шагал», вершы 1977 года, паэт сказў: «Пайшоў я ў будучы Парыж...» і нібыта сфармуляваў свой папярэдні пошук.

Гэта быў удалы пошук, бо з'явіліся творы майстэрскага, калі так можна сказаць – скрыпічнага гучання, нечаканыя і па сімволіцы, і па рытму – ад тэматычна арыентальных «Я гляджу на дываны» (1938) і «Наракаці» (1970) да блакнотна-акварэльных «Смак віна» (1973) і «Трэска з дома Шэкспіра» (1978); ад антычнавобразных «Венера Мілоская» (1956) і «Вы думаеце, гэта – шчасце...» (1962) да малітоўна-рыцарскіх «За пацалункі, і за вочы...» (1938) і «Готыка «Святой Анны» (1972); ад поўных светлага гумару вершаў «Сентыментальная трагедыя» (1956) і «Слаўны майстар Бенвенута...» (1956) да фрывольна-пастаральных эцюдаў «Добры дзень» (1956) і «Я знаю яе» (1957); ад самаіранічных прызнанняў «У дождж» (1965) і «Роздум» (1959) да хрэстаматыйна сумнага маналога «Ц.Норвід» (1975) і г.д.

Вядома, не будзем забываць і пра той час, які забіваў паэзію, якому скрыпічнае гучанне было чужое. Прыкладна з 1940 па 1956 год, калі так можна сказаць, не патрабавалася дружба з Апалонам, і Максім Танк, як і шмат хто з яго калег, пражыў гэты час, нібыта забыўшы пра сябе – паэта.

У 1939 годзе са старонак свайго дзёніка ён усклікнуў: «О Апалон! Даруй мне ўсе мае ранейшыя вершы-аднадзёнкі! Абяцаю больш іх не пісаць...»

Цалкам відавочна, што гэтая малітва не так падыходзіць да заходнебеларускага перыяду творчасці, як менавіта да глухога ў сэнсе паэзіі часу з 1940 па 1956 год...

Калі гаварыць пра сённяшняга Танка, пра яго паэзію 80-х, пачатку 90-х гадоў, – значыць, перш за ўсё гаварыць пра стабілізацыю творчасці, адзначаную новымі ўдачамі («Іудавы сярэбранікі», «Чаму настаў вечар» – вершы з кнігі «Мой каўчэг») і адзначаную таксама фармальнымі паўторамі сваіх ранейшых знаходак. Стабілізацыя – гэта й ёсць засваенне вопыту заходняй паэзіі, работа словам, а не на слова, шматгадовы паэтычны вынік, супрацьлеглы эфемернаму выніку цяперашніх шматлікіх вершагонцаў з іхняй павярхоўна-адраджэнскай публіцыстыкай.

Творчы вопыт Максіма Танка ў лепшых сваіх праявах не так павучальны, як актуальны. Гэты вопыт нацыянальнальнага паэта, чыя хрэстаматыйная прысутнасць дапамагае нам здабыць упэўненасць у хаосе дэклараванай беларускай дзяржаўнасці.

Усё далей і далей адплываючы ад камуністычнага берага, не варта забываць, што і ў савецкіх пісьменнікаў быў свой крыжовы шлях і што пытанне аб дружбе з Апалонам маладому Максіму Танку задавалі не літаратурныя крытыкі, а паліцэйскія чыноўнікі.

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК  
5 снежня 1994





# ТЭМПЕРАТУРА СЭРЦА

Кожны раз, калі даводзіцца чытаць вершы без рыфмы, рытму і знакаў прыпынку, але з прэтэнзіяй на арыгінальнасць і шматзначнасць, успамінаюцца танкаўскія верлібры, напоўненыя сэнсам і музыкай, у якіх знакі прыпынку не перашкаджаюць руху думкі, яе глыбіні і шматмернасці.

Часам лаўлю сябе на тым, што пачынаю думаць ягонымі вобразамі: «дарога, закалыханая жытам», «прайсці праз вернасць», «вокны, зашклёныя вачыма блізкіх», «азёры – сляды Бога», «ты падарыла: добры дзень, дык падары і ноч», «Можа, мы – апошнія паэты, што вось так цікавяцца зямлёй» і г.д.

Паэзія Максіма Танка прымушае актыўна працаваць душу і думку. Пасля кожнай сустрэчы з яго паэтычным светам хочацца паўтарыць услед за Паскалем: «Прыемна, калі чытаеш кнігу і шукаеш аўтара, знаходзіць чалавека». Чалавека шчырага і шчодрага, які ў любых варунках застаецца самім сабою. Ці не таму з заўсёдным нецярпеннем чакаю верасьнёўскую кніжку часопіса «Полымя», бо добра ведаю, што там абавязкова будуць яго вершы, а, значыць, будзе ні з чым не параўнальная радасць адкрыцця, будзе хвалюючае і ўзрушанае спатканне з новым Танкам. Для такой упэўненасці ў мяне ёсць усе падставы – паэт заўсёды верны аднойчы абранаму правілу:

*Вершы – мае часовыя*  
*прыстанішчы,*  
*Якія будую ўсё жыццё.*  
*Але пасля таго, як заб'ю*  
*Апошні цвік у рытмы,*  
*Устаўлю вокны ў строфы,*  
*Навешу дзверы на цэзурах,*  
*Прымацую клямку да pointe –*  
*У гэтым доме*  
*Ужо мяне не шукайце.*

Танк заўсёды ў дарозе, ён

**ніколі не спыняецца на дасягнутым, а ўпарта шукае сваё Слова. Яго паэзія – выклік аднастайнасці і шэрасці. Багацце вобразна-выяўленчых сродкаў і прыёмаў выклікае захапленне і нараджае жаданне таксама шукаць. Праўда, пошук новых формаў для яго не самамэта:**

*Вы памыляецеся,*
*Калі думаеце,*
*Што паэт – штукар,*
*Які валодае чарамі верша.*

*А ён толькі тады*
*Бывае сапраўдным паэтам,*
*Калі вырываецца*
*З іх ланцугоў.*

**Думаецца, што менавіта вось гэтае ўменне вырывацца з ланцугоў уласных знаходак дае паэту магчымасць у кожнай новай нізцы паўставаць перад чытачом знаёмым незнаёмцам.**

**Часам з вуснаў сучасных нігілістаў можна пачуць, што Танк быў вялікім паэтам толькі да верасня 1939 года, а пасля верасня яго талент ва ўмовах савецкай рэчаіснасці дэфармаваўся і даў збой. Так сцвярджаць могуць толькі зайздроснікі альбо максімалісты ад палітыкі, якія Танка сур'ёзна не чыталі, ці проста пазбаўлены элементарнага густу. Танк заўсёды быў Паэтам – яго кнігі «След бліскавіцы», «Мой хлеб надзённы», «Перапіска з зямлёй» былі сапраўднай рэвалюцыяй у літаратуры і далі магутны штуршок для далейшага развіцця паэзіі і не толькі беларускай. Сённяшні Танк, як і той, дawераснёўскі, умее не толькі здзіўляцца, але і здзіўляць. Ён валодае дзівосным дарам самаабнаўлення: «Я не лічыў бы паэтам сябе, каб кожны мой дзень не быў днём нараджэння». Народны паэт умее быць сапраўды глыбока народным і эстэтычна вытанчаным, урачыста-пафасным і замілавана-пяшчотным. Яго верш можа гучаць як народная песня («У чыстым полі») і ўздымацца да нябёс, як высокая ўзнёслая малітва («AVE MARIA»). Танкава паэзія ўвабрала ў сябе думны пошум нарачанскіх соснаў і яркае сонца антычнасці. Нечужая яму і самабытная культура Усходу. І ўсё гэта асветлена непаўторнай, па-беларуску мяккай, усмешкай мудраца і жыццялюба («Гісторыя вёскі Пількаўшчына», «Селядцы з вершамі»).**

**Ужо сёння відавочна, што Максім Танк услед за самаахвярным Максімам Багдановічам узняў беларускую паэзію на якасна новы ўзровень, геніяльна паяднаўшы наш традыцыйны верш і еўрапейскі мадэрн. І пры гэтым яго паэтычнае дыханне засталося абсалютна натуральным, свабодным і нязмушаным. Уся творчасць Максіма Танка пазначана высокім майстэрствам, але без слядоў рамяства. Высокая культура яго верша вырастае з высокай культуры пачуцця – яго Слова заўсёды эмацыянальна забяспечана. Невыпадкова ў адным з вершаў Танк сцвярджае, што**

*Тэмпература сэрца, я знаю,*
*Не трыццаць сем градусаў,*
*на якой*
*Не прыгатуеш нават чаю,*
*Не зварыш кашы бульбяной.*
*І калі ад сэрца загараюцца*
*Вусны,*
*вочы, нават ільды,*
*Калі песні ў ім выплаўляюцца*
*З тугаплаўкіх слоў руды –*
*Значыць, тэмпература такая,*
*Якой нават сонца не мае.*

**Тэмпература яго песні адпавядае тэмпературы сэрца.**

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

* * *

**Напрыканцы стагоддзя нeяк асабліва кідаецца ў вочы стары вырок: чым больш вялікая ідэя, тым пачварней яна ў жыцці вульгарызуецца. Суцяшацца даводзіцца хіба тым, што ўжо людзі заўсёды як мае быць канкрэтныя. Анёлы пад месяцам не жывуць, затое рэпрэзентуюць нацыю, скажам, слынныя палачане ды белавежцы, мікалаеўцы ды нарачанцы...**

**М.Танк – паэт-камуніст, які аднойчы выбраў сабе зусім характэрны псеўданім. І ён – вялікі паэт. Ён з беларускіх феноменаў: гэта найперш асоба вельмі моцная, і ён увасабляе беларускі 'аптымізм, інтэлект, упэўненую годнасць. Гэта паэт з тэмпераментам змагара за нацыянальную ідэю. (Між іншым, цягам дзесяцігоддзяў, што наша школа «праходзіць» М.Танка, яе шараговыя навучэнцы як не ведалі, так і цяпер толкам не ведаюць, дзе тыя Лукішкі знаходзяцца і каго ды за што туды саджалі.) М.Танк роўна і паэт вялікай ідэі сацыяльнай справядлівасці. Пра яе ж асабліва балюча сёння пісаць: пасля гэтакай крыві чалавецтва, – а мы дык і пагатоў, – яшчэ не мела нават на даляглядзе ні той сапраўднай волі, ні той годнай роўнасці, ні таго ўсеагульнага шчырага братэрства.**

**Паэтычны дар Максіма Танка – гэта трыумф беларускага генафонду.**

**Беларускі менталітэт стагоддзямі калечыла няволя. Таму паводле нацыянальнага самапачування ў нашай псіхалогіі, свядомасці, у нашай культуры склалася шмат балючых комплексаў. І сёння, калі самыя грубыя дэфармуючыя спраты адпалі, публічна адкрыўся і гвалт беларускай культуры, і яе застарэлыя стыгмы. Беларускі менталітэт аказаўся на гістарычнай сцэне пакалечаны, нібы той Гуінплен са сваёй вязніцы. Душа беларускага інтэлігента, як вядома, зачаста мусіла дваіцца, разрывацца паміж рознымі патранатамі. Да 30-х савецкіх гадоў нашую «дастаеўшчыну» яшчэ засцерагала найтрывушчая земляробчая Атлантыда. Пасля – зусім вусцішна стала. На гэтым фоне бадай што нацыянальную неўміручасць засведчыў талент Максіма Танка – поруч з іншымі выбітнымі з'явамі беларускага мастацтва. Засведчыў не толькі таму, што ў гады татальнай асіміляцыі ён выснаваў сваю касмалогію,ператварыўшы ў нацыянальную першакарціну свету і крэўнае слова, і песню, і той пейзаж, што «знаёмы, як матчын настольнік». Не адно з-за таго, што ў часы атэізмуцынізму ён ушанаваў «у парэпанай раме дзвярэй», як на іконе, святых беларускіх пакутнікаў, сялян, чым цяжкім рукам «у дзверы раю грукаць». І не толькі таму, што, пачаўшы некалі пісаць як яркі, адметны сучаснік еўрапейскай мадэрновай літаратуры з усімі яе вілюгамі праз пост... і неа..., М.Танк у самыя сацрэалістычныя часы разгарнуў на цэлыя кніжкі верлібраў свае вольныя, філасофскія ды асацыятыўныя, згадкі і медытацыі. Не толькі.**

**Вялікім паэтам (нават па-за ідэямі, тэмамі, прафесіяналізмам, густам) робіць М.Танка ягоная энергетыка: праніклівасць мастацкага мыслення ды інтэнсіўнасць пачуццёвых перажыванняў, пафасу. Максіму Танку-творцу ў вышэйшай ступені ўласціва светаадчуванне беларуса ўнутрана свабоднага і адукаванага, які заўсёды звыкла пэўны, чым у свеце культуры яму ганарыцца. А гэта многа, гэта скарб для беларусаў «забраных» і «падзеленых», бо і XX стагоддзе было, ёсць бязлітаснае да нашых сумленных – усіх.**

**КОРАНЬ Л.**

# ПАМІНАЛЬНЫ ДОЖДЖ

*Пасля дажджу – зноў дождж,*
*Пасля начы – змярканне.*
**М.Танк. «Мой каўчэг».**

**Чытаю апошнюю кнігу Танка, і згадваецца даўно чутае. Быццам няма ў часу працягласці і жывём мы адразу і ў мінулым, і ў сёння, і ў будучыні. І што не бачым гэтага не сёння, гэтак жа, як не чуем шэпту ў вялікай зале, напоўненай гоманам свята. А перапыніся на момант гаворка – далёкі гук стане чутным і ясным.**

**Часта гаворым – магія музыкі, магія жывапісу, магія babершаванага радка. І хоць на першае месца ставім слова «магія», па сэнсу гаворым аб дадатку. Між тым, само мастацтва было раней толькі дадаткам, антуражам, прыладай магіі, з яе пачыналася, вырастала і ў рэшце рэшт станавілася самастойным, вялікім, нечым большым, чым магія, як становіцца рака нечым большым, чым крыніца, з якой яна вынікае.**

**Еднасць магіі і мастацтва відавочная. Яны ведаюць адказ на спрадвечнае пытанне думаннікаў – як пазбавіцца жыццёвага тлуму, што абнёс нас высокай сцяною, як пачуць сябе ў шматгалоссі свету, як разамкнуць кола сённяшняй рэчаіснасці. Мастацтва і магія валодаюць сродкам бачыць адначасова ўчора, сёння і заўтра.**

**Сучаснасць і мінулае: маленькі сын задаў пытанне, якое задавала я ў дзяцінстве сваёй маці, і ўжо мне адказваць – яе словамі... Сучаснасць і будучыня: прачытала «Мой каўчэг» Танка і здалося, што пражыла жыццё. Адагнала чары, але паспрабуй цяпер не чуць у дождж скрыпу непадмазаных калёс расхлябанага цыганскага воза, якім кіруе вечны вазніца, а ў ясна – не заўважыць неабсяжнай велічы далёкай вяршыні, на якой нічога няма, акрамя кінутых стойбішчаў.**

*–Гэй! Ці ёсць хто*
*Жывы тут?*

*Толькі з крыжа*
*Сарваўшыся,*
*Чорны крумкач*
*Адазваўся.*

**Праўду, відаць, гавораць: старасць – гэта не колькасць гадоў, а колькасць магіл, да якіх прыходзім. Бадзягі і каралі, заможныя і ўбогія, геніі і прайдзісветы – з пэўнага моманту мы ўсе толькі развітваемся.**

*Мне больш гаварыць тут*
*Не з кім, не з чым,*

**зазначае паэт, якога ведаюць бадай усе, хто хадзіў у савецкую школу. Паэт, чыё жыццё ўжо чвэрць стагоддзя падзелена на два экзаменацыйныя білеты: «Дaвераснёўская творчасць М.Танка» і «Пасляверaснёўская...» А хочацца ж сапраўднага дыялога – каб адкрылі, каб прачыталі, каб пачулі сказанае цяпер ужо назаўсёды... Каб зразумелі, хто мы, і, дай Божа, выправіліся.**

*Калі памёр*
*Змагар за волю – Байран,*
*Жалоба Грэцыю*
*Праз год не пакідала.*
*А ў нас –*
*Нат і сцягоў не прыхілілі*
*Ў дні смерці*
*Каліноўскага, Купалы,*
*Трагедыі Чарнобыля,*
*У гадавіны*
*Тваіх Галгоф*
*І Курапат, краіна...*

**Можа гэта ўжо і не выправіць? Можа гэта наш нацыянальны характар – лёгка забываць і адбудоўвацца на свежых магілах? Што ўжо на дзяржаву крыўдаваць, што мёртвых не шануе, калі малады «свядомы» інтэлігент у друку жартуе з нагоды таго, што памёр Ул. Калеснік і не будзе каму рабіць генія з Танка!**

*Хоць Дарыя папераджалі скіфы,*
*Каб ён магіл бацькоў іх не кранаў, –*
*Не верыў, покуль яго войска грыфы*
*Не пахавалі ў акіяне траў.*

**Якая ж будучыня чакае нас, калі мы ўласны некропаль не можам не кранаць?**

**Жыве ў Паўднёвай Амерыцы, у лясах Амазонкі невялікае племя людажэраў. Прадметы побыту іх самыя што ні ёсць прымітыўныя, бо няма сэнсу іх удасканальваць: рэчы належаць толькі свайму стваральніку і кладуцца ў магілу пасля яго смерці бескарыслівымі супляменнікамі.**

**Пакуль не пачнём мы, беларусы, ахоўваць памяць пра сваіх папярэднікаў, пакуль не перастанем рушыць няхай і не дасканалы, але наш нацыянальны творчы Пантэон, пакуль не возьмемся развіваць, а не ствараць наноў культуру – нічым мы не лепшыя за першабытных людажэраў.**

**Ганна КІСЛІЦЫНА**

# ПАЭТАВА СКІНІЯ

**Калі Гасподзь убачыў, што людзі з-за слабасці сваёй сталі патанаць у брудзе, загадаў будаваць ім храм – міфічную скінію. Але ўсё ж, відаць, першыя свае святыні Ён стварыў у найчысцейшых душах, якім, разам з гэтым, падарыў святло таленту. І нараджаліся ў свеце паэты, гусляры, барды...**

**Узвёў сваю паэтычную скінію і Максім Танк, змацаваўшы багатымі разматімі формамі яе чатыры сцяны: Думку, Троп, Пачуццё і Эмоцыю. Паэтава муза, думаецца, нараджаецца і пачынае свой шлях са скрыжавання думкі і вобраза, думкі і метафары. Гэта – «чырвоны» кут яго творчасці, аснова паэтычнага светабачання. А пачуццё і эмоцыя – паэтава душа, што выпраменьвае чалавекалюбнае святло, паэтава сэрца, якое поўніцца неспакоем і цяпер, калі да яго ў наглядчыкі-лекары прышыта халодная тэхнакратычная батарэйка.**

**«У Максіма Танка ёсць усё». Сёння б я дазволіў сабе перастварыць гэтую думку Алега Лойкі і сказаць: «Максім Танк ёсць усё». Ён уваходзіць у сваю скінію з вечнымі словамі – «Хай будзе святло», ён мае доступ да яе святога святых – каўчэга мастацтва, але, здараецца, у сваёй штодзённай службе, ускладаючы на ахвярнік і сябе, гіне, гіне як Мастак, і адвечнае Святло звужаецца да залпа «Аўроры» ці Ільічовай лямпачкі (верш «Хай будзе святло!»). Але ці не ў гэтым таямнічая загадка: зрадзіўшыся з чэрствага прыску, ён паўстае перад намі ў яшчэ найбольшых светачах і ззянні? Паўстае і ахвярна працягвае служэнне! З дня ў дзень – шэсць дзесяткаў гадоў. І тысячы людзей наведалі за гэты час яго скінію, дзесяткі сталі вучнямі – ці не таму, што дзверы ў яе заўсёды адчынены, што ў ёй няма столі, што... само неба з'яўляецца ёй столлю. Бо паэзія Максіма Танка – адкрытая, незамкнутая, дэмакратычная. Яна не закрывае сабой святла, а толькі пашырае яго. Ноччу ж з паэтавай скініі бачны зоры, але яны – не халодныя зрэнкі пустых сусветаў, а блізкія і разгаданыя – вобразамі ў паэтавых прызнаннях:**

*Дзед мой – Хведар,*
*Са сваім верным*
*Тубам-ганчаком...*
*Па логавах сузор'яў*
*Дзесь цікуюць*
*За Мядзведзіцай Палярнай.*

**А зоры ў сваю чаргу сочаць за паэтам, які заходзіць у сваю скінію – пастаяць, паслухаць. І памаліцца Слову!**

**Алесь ПАШКЕВІЧ**

# ПАЭЗІЯ ЛЁЗНАГА ЧАЛАВЕКА

**Калі я прымаю на рукі кнігу, сваім прыемным цяжарам яна весяліць мне далоні.**

**Калі я яе разгортваю, з балонак вылятае чароўная дзея, адбываецца цуд.**

**Знаходжу верш і бачу перад сабой іншасвет. Мне няма ўжо справы да кантэксту, не цікавіць жыццяпіс пісьменніка. Я – адзіны кантэкст. Верш – адзіны прамоўца. І няма шчытнейшай і прасцейшай сувязі.**

**Я прымаю на рукі кнігу «На этапах» (факсімільнае выданне) Максіма Танка, лёзнага чалавека.**

**Лёзны чалавек – выраз неперакладальны. Кажучы груба, гэта бомж, але без адцення пагарды. Нялюбасць да гэтых людзей у XIV, XV, XVI стст. выявілася ў Статуце ВКЛ усіх выданняў. Іншая назва для іх была «гультаі», а гнаць іх мусілі нават з корчмаў. Тады так звалі п'яніц і абібокаў.**

**У XVII і XVIII стст. гэты грамадскі стан значна пашырыўся за кошт дробнай беззямельнай шляхты, што зрывала соймікі па «прапанове» Радзівілаў ці Сапегаў.**

**Пры Станіславе Аўгусце Панятоўскім, апошнім каралі супольнай дзяржавы, з людзей лёзных набралі вайсковыя аддзелы. Гэта ўваходзіла ў агульную праграму пашырэння войска да 100 тысяч жаўнераў. Ужо пры паўстанні з дыктатарам Тадэвушам Касцюшкам у 1792 годзе гэтыя злучэнні найлепей паказалі сябе ў змаганні з расейскімі акупантамі.**

**Лепш адкінуць параўнанне людзей лёзных з маскоўскімі бомжамі, жабракамі, усялякім збродам, без якога не ўяўляецца цвінтар праваслаўнага храма. То адзнакі іншай культуры.**

**Напрыканцы XVIII ст. лёзнымі людзьмі была пераважна шляхта. Падобная сітуацыя была ў Японіі з часоў Хідэёсі й Такугавы. Самураі, што згубілі гаспадара, ганьбілі свой род, абвяшчаліся па-за рамкамі закона. Такіх звалі «ронін» – «што сплывае па водных хвалях». Ронінам быў Сіншэн Міямота Мусасі, непераўзыдзены дагэтуль майстар мяча. Згубіўшы зямлю і ўсялякія повязі з грамадствам, лёзны чалавек вяртаецца да ранейшага «воўчага» стану. Натуральна, што ён змагаўся лепей за тых, што час ад часу браліся за зброю, абараняючы «залатую вольнасць». Яму няма чаго губляць, апрача ўласнага жыцця. Калі жыццё – адзіная хадавая манета, яно перастае быць дарагім. Гэткія Марксавы пралетарыі.**

**Ёсць «сапраўдныя» і «несапраўдныя» прадстаўнікі гэтага стану. Сапраўдны лёзны – лёзны па духу. Матэрыяльныя наступствы не абавязковыя. Несапраўдных мы часта бачым у пераходах метро, на цвінтарах і інш. У Заходняй Беларусі сапраўдным лёзным чалавекам быў Максім Танк.**

**Паводле аповедаў маіх дзядулі і бабулі, заходнебеларускае насельніцтва было досыць апалітычным. У гутарках рэдка закраналіся зносіны паміж дзвюма дзяржавамі. Да СССР ставіліся павaжна. Напэўна, гэта тычыцца не толькі Наваградчыны (Нясвіж, Гарадзея).**

**Максім Танк выглядае выключэннем на гэтым відарысе, што тлумачыцца феноменам паэта. Лёзнасць духу не лёзнасць цела, хоць часцей яны імкнуцца да суладдзя. Гэта з'ява выліваецца ў лірыцы – стварaецца лірычны герой.**

**Прыклад «чыстага» лірычнага героя ў вершах Уолта Уітмена. Таго героя сусвету, якога мы бачым, сапраўды не існавала. Але ёсць праўда твора, дзе сам паэт выступае ў духоўнай праяве – звышгероі, архетыпе ўсіх людзей.**

**Лірычны герой паэзіі М. Танка – ён сам.**

**Лёзны чалавек згубіў усё, што можа згубіць чалавек. Засталося неад'емнае – жыццё, цела. Па сутнасці, ён згубіў толькі ілюзіі.**

**Калі болей нічога не трымае карабель у порце, ён сплывае ў вандраванне. Гэта стан няспыннасці руху, хаця той, хто вандруе, застаецца на месцы. Немагчыма вандраваць з картай у руках, бо тады гэта падарожжа звычайнага чалавека. Вандруюць толькі лёзныя. Лёзны, найперш, губляе ілюзіі стаўлення да свету. Ён пачынае ўспрымаць свет. Гэта і дае магчымасць вандравання, стварае перспектыву незнаёмага. Застаецца «Я» і «Сусвет». Для лёзнага Танка Сусвет – Беларусь. Гэта ўсё, што ў яго засталося. Яго гоняць «па этапах», і вандраванне няспыннае.**

*Сны, што мінулі, што асталіся*
*са мною,*
*зь ценьмі бяроз спадарожных*
*спляліся.*

*Іду па шляху пясчаным, няроўным.*
*Кій і торба на плечах песень*
*вандроўных,*
*і ад вастрогу і да вастрогу плятусь –*
*Беларусь ты мая, Беларусь!*

**Вандраванне – натуральны стан лёзнага чалавека. Найгалоўнае – суцэльнае зліццё з навакольным. Гэта не патлумачыш. Гэта чароўна, прыўкрасна й балюча.**

*Як скрыпяць калёсы ў полі адзінока,*
*Пад цяжкай сялянскай бядой.*
*Вось спачну мо трохі ў туманах*
*вішнёвых,*
*Затапіўшы вочы ў дальнюю зару,*
*І далей пайду я празь лясы, дубровы*
*Па тваіх дарогах, Беларусь.*

**Лёзны ўспрымае ўсё, як сваю хату, сваю сялібу. Згубіўшы малое, ён набывае цэлы сусвет. Адчуваеш гэтую «сталую змянлівасць» у кроках вандравання – у І. Гётэ:**

*Когда в Бескрайнем, повторяясь,*
*Течет поток извечных вод,*
*И тысячи опор, стыкаясь,*
*Дают единый мощный свод,*
*Тогда, струясь из каждой вещи,*
*Жизнь полнит светлый кубок свой,*
*И все, что рвется, все, что хлещет,*
*Есть вечный в Господе покой.*

**У М.Танка:**

*Цяжка ісьці, хоць змарыліся ногі, –*
*ўсё ж не вярнуцца працёртай*
*дарогай*

*і не спачыць у застыўшым бары..*
*Трэба ісьці і ісьці да зары.*

**У яго ж:**

*І маніць лес, каб затрымацца*
*на шляху...*
*Не спачываць жа тут*
*ў сасновым ціхім шуме...*
*Так шмат ня пройдзеных*
*дарог і родных ніў і шэрых вёсак!*

**Феноменам М.Танка было не гэтак змаганне, якое з'яўляецца ўсё ж больш ці менш агульным, але ягоная сацыяльная і духоўная роля. Гэта феномен лёзнага чалавека. Таму ён незвычайны для звычайных людзей.**

**Калі я ішоў пешшу з Лепеля да Полацка, памятаю вочы людзей, што пазіралі на мяне з хат. Яны дзівіліся, як можна начаваць увосень у лесе, калі снегам засыпана ўсё навокал. Як яны прымалі мяне...**

**Для І.Буніна ёсць два выразныя станы жыцця, спосабы існавання – каханне і яго адсутнасць.**

**Для лёзнага чалавека існуюць – вандраванне і яго адсутнасць:**

*Я зьбіўся ў замеці праклятай.*
*Блукаю ўжо каторы дзень.*
*Хто я?*
*Свой!*
*Можа, нават чулі.*
*За мной шлюць гончыя лісты,*
*Мяне шукаюць катаў кулі...*

**Згадваючы змагарнасць М. Танка, згадаў бы тыя аддзелы, што так моцна змагаліся за край. Згадаў бы Міямота Мусасі – людзей, якія не баяцца ўжо нічога, калі ўжо няма чаго больш губляць.**

*І хоць сьціла й паперы ня маю,*
*Песьні пішу на маўклівых мурах,*
*Песьні пішу на калючых дратах,*
*На хмарах, што па-над турмой*
*Пралятаюць.*
*............. ...... .. ....*
*І на варштаце нагрэтае ў горне*
*новай зары гнецца звонкая сталь,*
*гнецца сталь песьні ў руках*
*маіх чорных;*
*я – сэзановец, каваль.*
*....... .. ..... .. .....*
*Я ў кожным пажары,*
*я полымя брат;*
*я ў кожным удары*
*жалезных лапат..*
*Я ў скаргах і сьлёзах*
*удоў і сірот*
*Я ў шуме бярозаў,*
*я сам веснаход.*

**Але вандраванне, некалі пачаўшыся, мае некалі скончыцца.**

*Я песьні бяру свае ў дальні паход.*
*Іх трэба расьсеяць вясной*
*на разлогах,*
*Каб заўтра на струнах,*
*на новых дарогах*
*Нам зь песьнямі стрэціць*
*свабоды прыход.*

**Для ўзнікнення ў беларускай літаратуры такога лірычнага героя быў складзены грунт. Гэта адбылося цалкам натуральна. Не маючы свайго парадку, сваёй дзяржавы, сваёй «Сарматыі», людзі робяцца лёзнымі, беспрытульнымі. І доля іхняя – вандраванне.**

**Так паўстаў у паэзіі Максім Танк, гэтак жа і зьнік. Таго Танка мы страцілі з «уз'яднаннем» Заходняй і Усходняй Беларусі.**

**Вось сімвал усяе творчасці паэта – у трох ягоных радках:**

*Якая цёмная*
*На «Усходніх Крэсах» ноч!*
*Пажары толькі ў ноч такую бачны.*

**Я загортваю кнігу. Яна сваім цяжарам паліць мне далоні, і я не здатны болей яе трымаць.**

**Міхась БАЯРЫН**

МЫ

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК



*Пра тое, як...*

# АПАВЯДАННІ





# ПРА ТОЕ, ЯК Я ПАСЛЯ РЭФЕРЭНДУМУ НА ШПАЦЫР ВЫЙШАЎ

А што, калі рэферэндум мінуўся, то ўжо й не жыць?! І нават на шпацыр забыцца?! Не, спадары дарагія, вы сабе як хочаце, а я шпацырну й на гэты раз. Вось і сусед мой, герой працы калгаснае, на пратаптун вечаровы таркануўся, і студэнты з Мадагаскара таксама абцасамі па асфальце застукалі. І не толькі яны. Дык чаго ж і мне не шпацырнуць!

Сусед мой са студэнтамі мадагаскарскімі бліжэй туды, дзе Дом без балконаў, паслізгаў. Ну й няхай. А я – душа багемная – у кафэ малочнае ківільнуў.

Заходжу я ў кафэ малочнае і мастака Р. бачу. Мастак Р. над шклянкаю сядзіць і, трэба сказаць, над шклянкай поўнаю, некранутаю. І так задуменна сядзіць, што, па ўсім відаць, пра шклянку сваю і забыўся зусім. Не бачыць яе і ўсё тут.

Ці трэба тлумачыць вам, спадары дарагія, чаму гэта пітушчы мастак Р. пітвом грэбуе?

Не трэба, адкажаце вы, бо цяпер і вяроўка ўцяміць можа, чаму мастакі грэблівыя такія – рэферэндум жа адбыўся!

Маеце рацыю, шаноўныя, таму й тлумачыць не буду. Лепей па сваю поўную да бармена падсунуся.

Бармен незнаёмы мне, але ветлівы. Пачуў ён словы мае першыя і яшчэ больш у лагоду пашыўся. Сядайце, кажа, да маўклівага таго (і на мастака Р. паказвае), ён таксама на мове «разговарывает». Разам вам зручней будзе інтэлігенцыю нацыянальную паказваць.

Паслухаўся я бармена ветлівага і да мастака Р. падсуседзіўся.

– Ты чаго? – пытаюся.

– А ты што, не ведаеш? – адказвае.

– Ведаю.

– Ну, калі ведаеш, то і ты сядзі так, як і я сяджу.

І хоць не надта спадабалася мне прапазіцыя такая ўпадніцкая, аднак чалавек я згаворлівы, таму скарыстаў параду мастака Р задуменнага і ўжо праз хвіліну нейкую таксама ў задуменнасць усунуўся над сваёю шклянкаю поўнаю.

І сядзелі б мы так маўкліва да самых пеўняў чырвоных, інтэлігенцыю нацыянальную паказвалі б, каб гэта бармен ветлівы не падышоў і не пацешыў гаворкай таварыскаю: я, хлопцы, беларус таксама «сазнацяльны» і пачаў ужо было да мовы «прыабшчацца» роднае, аднак, самі бачыце, «прыабшчыцца» не паспеў. Рэферэндум жа. .

– Бачым,– адказалі мы.

– Дык што ж мне рабіць, хлопцы? – спытаўся бармен ветлівы.– Імкнуцца далей да «прыабшчэння» ці не?!

– Адкажы чалавеку,– сказаў мне мастак Р задуменны,– ты ж пісьменнік.

Я, вядома ж, адказаў бы, параду даў бы хвацкую, ды мне тэлефон дапамог, зазваніў якраз, і бармен ветлівы паляцеў трубку падымаць.

Мы тым часам, дзякуючы бармену ветліваму, на хвіліну забыліся інтэлігенцыю нацыянальную паказваць і свае поўныя выпілі.

Бармен, пагаманіўшы з некім, сумны вярнуўся, але з пляшкаю адкаркаванаю, і шклянкі нашыя парожнія зноў поўнымі зрабіў:

– Частую, хлопцы. У гэты момант вам як ніколі выпіць трэба!

– А што так?! – удакладнілі мы ўстрывожана.

– Шмара мне тут адна пазваніла. Кліча паглядзець, як сцяг беларускі з Дома безбалконнага скідваць будуць. Але я не пайду...

Выпілі мы, з барменам ветлівым абняліся па-брацку і з кафэ малочнага, як па лёдзе, ног не падымаючы, выехалі.

Пакуль да Дома без балконаў падымаліся, мастак Р. са мною раіцца пачаў:

– Што рабіць, не ведаю. Ты ж пісьменнік, падкажы?!

– Падкажу,– адказваю,– толькі сюжэт давай.

– А сюжэт такі,– прамовіў мастак Р задыхана,– у вёску, дзе я пазалетась хату з яблынямі купіў, хоць не едзь!

– А што, і тут рэферэндум? – здагадліва пытаюся.

– Ага, рэферэндум,– маркотна згаджаецца,– да хаты я майстэрню прыбудоўваць пачаў і мне цэменту з цэглай забракавала. Я да старшыні сельсавецкага. А ён мяне за парог адразу. Ясна, чужы я чалавечак тутака. Чужы за тыдзень сваім не стане, таму і праз тыдзень, калі я патыкнуўся яму на вочы, ён зноў мяне за парог стаптаны выправіў Крутануўся я тады вакол офіса непрыступнага, маракуючы, як гэта падкалупнуць старшыню ветліва. Бо адчуваю і не толькі лобам, чаравікамі нават: ёсць у яго і цэгла, і цэмент, а тое, што ён гаворыць «няма», дык гэта ж так – для заплёву вачэй. Дык вось, маракую і раптам – што ж я бачу на дзвярах ягоных сельсавецкіх! Эстэтыку бачу блытаную. І як толькі яе з першага разу не ўзеўраў!

Зноў яму на вочы, але ўжо смела і з пытаннем капытазбіўным:

– Вы да ўлады новае нармальна?

– Нармальна.. – адказвае, а ў вачах, бачу, страшок лёгкі пракінуўся. Невялікі страшок такі, але ўсё-ткі.

– Не зусім,– кажу,– вы да ўлады новае нармальна!

– Як гэта... не зусім?! – удакладняе, пад сталом нагой буксуючы.

– А так,– навучаю яго,– сцяг беларускі павесілі, а герб бэзсэсэраўскі пакінулі!

Мой старшыня тут і калатнуўся, на стол пасунуўся. Бачу, самы час яму гешэфцік падкінуць. Я і падкінуў.

– Абяцаю,– кажу,– за два дні «Пагоню» такую вырабіць, што да Масквы даскача, а вы за яе цэмент з цэглаю натрусіце!

– Натрушу,– з палёгкаю згаджаецца,– толькі з «Пагоняй» не марудзь.

А я й не марудзіў. «Пагоню» вырабіў як мае быць, а ён, шчырая душа, машыну цэглы з цэментам пад самыя яблыні мае прытарабаніў ..

Мастак Р. змоўк замаркочана, бо мы да Дома без балконаў падышлі якраз і на ягоным даху альпійскім высотнікаў мужных угледзелі. Высотнікі мужныя ў гарнітурах адпрасаваных сцяг беларускі здымалі. З долу на высотнікаў разявакі глядзелі з суседам маім, героем працы калгаснае, ды са студэнтамі мадагаскарскімі.

– Дык што ж мне рабіць, нават не ведаю?! – зноў спытаўся мастак Р замінораны, усё пра свайго старшыню сельсавецкага думаючы.

Я, вядома ж, параіў бы, што рабіць яму беднаму, ехаць у вёску, ці не, а калі ехаць, то як са старшынёй наконт сімволікі новай прыструнsocket. Але тут мне сусед мой дапамог, за якім услед я на шпацыр вечаровы таркануўся. Ён выняў з кішэні зорку сваю залатую і сказаў:

– Вяртаюць сцяг наш, дзякуй богу, але без сярпа і молата. Дык вы, як пісьменнік, парайце, калі ласка, ці трэба мне з гэтай зоркі залатой саскрабаць серп і молат?!

Я, вядома, і суседу параіў бы, што яму, шчасліваму, з сярпом ды молатам на зорцы сваёй рабіць, за які напільнік брацца, але тут мне зноў дапамаглі. Гэтым разам высотнікі мужныя. Адзін з іх, што ў гарнітуры быў найбольш адпрасаваным, з даху мужна перагнуўшыся, напрамілы бог пачаў у разявакаў аўтаручку прасіць, каб гэта аўтографы ставіць на лапіках, надзертых культурна са сцяга беларускага. Учуўшы просьбу такую слёзную, сусед мой, зорку схаваўшы, а аўтаручку выхапіўшы, подбегам папёр яе на дах альпійскі Дома без балконаў

І тут, спадары дарагія, з гонарам за сябе і за сваё становішча інжынерна-душэўнае я пра людзей нашых падумаў. Сапраўды, якія ў нас людзі на Беларусі цудоўныя, шчырыя, даверлівыя! Адным словам, рэферэндумныя людзі! І бармен, і мастак Р., і герой працы калгаснае. Цэняць пісьменнікаў, не могуць без парады пісьменніцкай абысціся!

Радасна на маёй душы стала, цёпла, зусім сонечна.

А тут яшчэ і студэнты з Мадагаскара весялосці падкінулі. Не, яны не пыталіся ў мяне як у пісьменніка, што ім рабіць – «прыабшчацца» ці не «прыабшчацца», ехаць у вёску да старшыні ці не ехаць, здзіраць серп і молат з зоркі залатой ці не здзіраць. Яны проста ва ўсе раты смяяліся і ў ладкі гучна пляскалі.

– А ў вас што за радасць такая, хлопцы мае белазубыя?! – недаўменна пытаюся.

Вялікая радасць,– адказваюць,– у самым лепшым будынку Мінска наша пасольства адкрылася!

– У самым лепшым?! А ў якім гэта? – здзіўлена перапытваю.





– Ды ў гэтым вось! – і хлопцы з Мадагаскара на Дом без балконаў паказалі, над якім ужо новы сцяг макава зеляніўся.

І тут прычыну радасці іхняе я канчаткова зразумеў, калі яны свой родны, чырвона-зялёны, сцяг нада мною ўзнялі і запялі басам гімн нацыянальны Рэспублікі Мадагаскар.

*21 мая 1995*

# ПРА ТОЕ, ЯК Я НА ДОМ БЕЗ БАЛКОНАЎ ПАГЛЯДЗЕЦЬ ЗАХАЦЕЎ

Дзіўнага тут нічога нямашака, што раніцы аднае мне на Дом без балконаў паглядзець захацелася. Любяць жа французы правінцыйныя ў сваіх мястэчках правансальскіх з ранку самага на мосце пастаяць ды на ваду паглядзець. А наш Дом без балконаў хіба горшы за ваду французскую?! Не, не горшы. Вось таму й захацелася.

Выйшаў я на вуліцу ў штанах светлых, святочных, бо Дом без балконаў – першы дом краіны нашае, таму ў цёмных штанах ісці глядзець на яго непатрыятычна неяк.

План глядзення майго такі малянуўся – выберу лавачку ў скверы каля фантана, у якім хлопчык голы з гусаком стаіць, сяду і глядзець буду Як бачна, зусім просты план, курортны нават

Так і зрабіў – выбраў лавачку, штанамі сваімі светлымі прыляпіўся да яе і стаў глядзець.

Аднак жа доўга не ўседзеў гэтак. Дрэвы, хай на іх, столькі веццяя зялёнага вакол сябе павыпускалі, так шчытна Дом без балконаў ухуталі, што натхнення ніякага.

Мусіў я хлопчыка з гусаком аднаго ў фантане пакінуць і на вуліцу спадара Карлы выбірацца.

Выбраўся на вуліцу спадара Карлы, а на ёй не дрэў, дык хлопцаў у світках казённых што маку насыпана. Дручкамі гумовымі пакалыхваюць і надта ж пільна мяне з усіх бакоў аглядаць пачынаюць. Гнаць не гоняць, пашпартам маім двухмоўным не цікавяцца, але ж аглядаюць пільна.

Ад увагі такое я нават прытаміўся зрокава, таму каб адпачыць крыху, борздзенька скокнуў на вуліцу спадара Фрыдрыха і, павярнуўшы на вуліцу спадара Сяргея, выбіўся да бібліятэкі Нацыянальнае.

Не хлушу, калі кажу «выбіўся», бо й на гэтых вуліцах з-за хлопцаў у світках казённых нідзе нельга прыпыніцца было, каб гэта на Дом без балконаў паглядзець лірычна. Нават пазайздросціў быў французам правінцыяльным – глядзяць сабе на ваду й глядзяць, і ніхто ім не замінае.

Стаяць жа каля бібліятэкі Нацыянальнае мне дужа спадабалася. Дрэў няшмат і хлопцаў у світках казённых не так густа панатыкана. А да ўсяго да гэтага яшчэ і студэнтка на лавачцы кніжку перагортвае. Сядзіць гэтак сонечна, ножкаю імправізацыйна паварушвае, калготкі чорныя амаль на ўсю даўжыню паказвае.

Праз хвіліну нейкую я нават і пра Дом без балконаў забыўся. Што ж, думаю, самае імгненне са студэнткай гэтаю літаратуру цікавую гартануць. Падступаю па-балетнаму, кампліментў з сябе выштурхоўваць пачынаю, а студэнтка на ўсе мае штукі фліртовыя раптам прамаўляе заклапочана:

– У вас на задзе штаны ці то ў ваксе, ці то ў сажы!

Вось табе й маеш!

Падзякаваў я студэнтцы шчыра, хлопчыка з гусаком са злосцю ўспамінаючы – дакладней, тую лаўку каля фантана, на якой сваімі светлымі нахапаўся я ці то ваксы, ці то сажы. Мусіў быў у хол бібліятэкі Нацыянальнае хавацца і дзеля блізіру, ззаду сябе не надта бачачы, памахаць ніжэй спіны далонямі абедзвюма.

Гэта ж трэба, пра хлопцаў ахоўных падумаў, з усіх бакоў аглядалі мяне на вуліцы спадара Карлы, ва ўсе вочы глядзелі на мяне на вуліцы спадара Фрыдрыха, падазрона зіркалі на

вуліцы спадара Сяргея, а ніводзін з іх так і не сказаў па-сяброўску, заклапочана: «У вас на задзе штаны ці то ў ваксе, ці то ў сажы!»

Маркотны выйшаў я з бібліятэкі Нацыянальнае і каля доміка афіцэрскага прыпыніўся, вачыма па ўсіх баках студэнтку шукаючы. Яна ж за мной у бібліятэку не пайшла, а некуды сюды, да афіцэрскага доміка, шпацырнула.

Дык вось, студэнтку па ўсіх баках шукаю і раптам чую ўжо знаёмае:

– У вас на задзе штаны, малады чалавек, у нейкай пляме чорнай.

Крута азіраюся і жанчыну маладую бачу, прыгажуню бальзакаўскую такую, у блакітны шыфон загорнутую.

Дарэчы, тут адхілюся крыху на абзац невялікі – удакладню наконт прыгажунь бальзакаўскіх. Прынята думаць, што ўсе яны саракагадовыя. Але ж гэта толькі для Еўропы так і для самога Бальзака. Нашыя ж бальзакаўкі, беларускія, значна маладзейшыя і ні ў чым не саступаюць студэнткам юным. Асабліва па адхіленні ўвагі мужчынскае ад Дома без балконаў.

Дык вось, падзякаваў я і бальзакаўцы шчыра – спадарыня, кажу, і вы мяне ад непатрыятычнасці ратуеце! – а яна ад падзякі маёй здрыганулася і ў бок метро пашпіліла. Я тады ў афіцэрскі домік на імгненне ўшыўся, каб гэта зноў чарнату непатрэбную на людзях не збіваць.

Вядома ж, і ў доміку афіцэрскім пра хлопцаў у світках казённых не забыўся. Прыкладна тое ж, што і ў бібліятэцы Нацыянальнай, падумаў – таксама мне клапатуны народныя! Ад шкарпэтак да патыліцы аглядалі, а каб хто з іх хоць бы каўкнуў, што з маім задам робіцца, дык не дачакаешся...

У метро, куды я за бальзакаўкай пагнаўся, новае здарэнне з маімі светлымі ўчынілася.

Перад кабецінай, што ў будцы шкляной тапырылася, крутануўся я сюды-туды, у кішэнях цесных круглячок ружовенькі старанна шукаючы, а кабеціна тут жа й змеціла ўсё:

– Гэта што ў цябе на сядле робіцца?

– Ці то сажа, ці то вакса,– кажу ўпэўнена.

– Дык абцярыся, бо такім я цябе не ўпушчу, й не думай! – кабеціна ў будцы сваёй варухнулася пагрозліва.

– Дык абціраўся ўжо і ў бібліятэцы Нацыянальнай і ў доміку афіцэрскім! – крыўдліва сказаў я, адчуваючы, як незваротна знікае ад мяне шыфон блакітны бальзакаўкі маладое. На кабеціну нават злаваць пачаў, хаця дарма. Злосць, дарэчы, заўсёды дарэмная. А калі я сам злуюся, то яна дарэмная ўдвая. А ў гэтым выпадку асабліва, бо менавіта дзякуючы кабеціне метроўскай, што ў будцы шкляной пагрозліва варухнулася, праз некалькі хвілінаў я... Аднак пра ўсё яшчэ скажацца.

– Ідзі вось туды! – кабеціна на дзверы ў кутку паказала (заўважу· дзверы такія на кожнай станцыі метро ёсцека і з іх, дзвярэй гэтых, звычайна міліцыянты выходзяць).– Там, у канцы калідора, каля пакоя 19-га, умывальнік стаіць...

Апынуўся я ў канцы калідора доўгага, каля пакоя 19-га ўмывальнік знайшоў і свае светлыя замываць пачаў. Замываю гэта старанна, літарай «с» назад выгнуўшыся, і раптам... Студэнтка юная ў калготках і бальзакаўка маладая ў шыфоне ў калідор уваходзяць. Я ледзьве паспеў за ўмывальнік схавацца.

Што за дзіва такое?!

Крыху да схованкі маёй не дайшоўшы, яны ў пакой 19-ты далікатна пастукаліся, і з пакоя 19-га бас камандзірскі пачуўся:

– Хто?

– Таварыш маёр, дазвольце? – за сябе і за студэнтку юную лапатнула бальзакаўка ў шыфоне.

– Дык я пытаюся: хто?

– Старшы лейтэнант Сініцына і малодшы лейтэнант Сазонава,– зноў за сябе і за студэнтку лапатнула бальзакаўка.

– Заходзьце! – дазволіў «таварыш маёр», і мае німфы ўвайшлі.

У мяне нават шкарпэткі пахаладзелі. Вунь яно што! З прастадушнае дапамогі цёткі метроўскае я выкрыў яўку казённую! Ах, студэнтка, ах, бальзакаўка! Ах, мае німфы вайсковаабавязаныя! Хто б мог падумаць, што вы..

Аднак у пакоі 19-м загаманілі, і мусіў я вухам да дзвярэй прыкласціся, каб ужо канчаткова ўпэўніцца, што здагадка мая праўдзівая. Сапраўды, тут яўка.

Бальзакаўка дакладваць пачала:

– Таварыш маёр, вакол палаца нічога падазронага не выяўлена...





«Вакол палаца?! Якога палаца? А-а, гэта яны так Дом без балконаў называюць!» – сцяміў я

– .. праўда, круціўся дурань адзін у штанах белых, – гаманіла далей бальзакаўка,– і пабеларуску размаўляў

Вядома, асабліва напружвацца мне не трэба было, каб здагадацца, якога гэта дурня бальзакаўка на ўвазе мела. Я ўсміхнуўся, але тут усмешка мая таркай па губах праехалася, бо маёр сваім голасам басавітым абвясціў·

– Калі заўтра зноў каля палаца з'явіцца – забірайце!

– Забяром!!! – у адзін голас выгукнулі бальзакаўка і студэнтка юная.

Само па сабе, што пачуўшы такое, я, не дыхаючы, з калідора доўгага, падземнага на свет белы на дыбачках пашнураваў

І думка мая апошняя была такая хоць Дом без балконаў і не горшы за ваду французскую, але з заўтрашняга дня буду толькі на Свіслач глядзець.

*23 мая 1995*

# ПРА ТОЕ, ЯК Я З ПРЭЗІДЭНТАМІ СУСТРАКАЎСЯ

Мяне тут неяк на сустрэчу з прэзідэнтамі запрасілі і запрасілі перш за ўсё таму, што грамадзянін я паслухмяны і да ўсяго яшчэ няцямлівы. У запрашальным білеце так і сказана было: « .запрашаем Вас, бо Вы паслухмяны і няцямлівы...»

Праўда, хоць і няцямлівы я, але сказаць мушу: няхай жыццё нашае поўны няўтык, аднак жа з прэзідэнтамі сустрэцца можна. І нават з двума. Чужым і сваім.

Дык вось, пашэнціла мне ў цудоўнай зале пасядзець і на двух прэзідэнтаў паглядзець, ад чужога пачуць. «Мы хорошо покушали...», а ад свайго: «Ну, вы нас панімаяця. »

Жыццё нашае спрыяе, каб гэта пасля заяў такіх дзяржаўных у мяне, паслухмянага ды няцямлівага, два пытаннейкі накруціліся. Пытаннейка першае да прэзідэнта чужога: «Што ж гэта значыць. мы хорошо покушали?» А пытаннейка другое, само па сабе, да прэзідэнта свайго: «А гэта што за штука такая... Ну, вы нас панімаяця?..»

Аднак жа досыць пра жыццё нашае па стале лыжкаю шкрабаць. Так і пра мастацтва забыцца можна.

Дык вось, каб не забыцца – сустрэча з прэзідэнтамі не задоўжылася, кароценькай выдалася Гэта, напэўна ж, таму, падумаў я, каб у мяне часу было больш на роспыты мае лагодныя.

І я ўжо рыхтануўся быў, успамінаючы мову партыі роднай, сваё першае пытанне штурхануць, як тут нечакана ўзвіўся над прэзідыумам голас кантрольны:

– Вапросаў ня будзя! У празідэнтаў очань мала ўрэмя!

Мне ад загаду такога нават і не ікнулася, праўда, падумаць падумалася: быў бы я грамадзянінам непаслухмяным, то з месца пракрычаў бы пытанні свае насуперак усім галасам кантрольным. А так мусіў быў залу цудоўную моўчкі пакінуць, пытанні свае лагодныя паперадзе сябе пагнаўшы.

Паспрабаваў было сам здагадацца, што ж гэта значыць-такі «мы хорошо покушали...» і «ну, вы нас панімаяця...», але ж праз няцямлівасць сваю генетычную не здагадаўся ніяк.

Дзякуй богу, з радыё пазванілі, пра сустрэчу з прэзідэнтамі ў прамым эфіры расказаць папрасілі. Уёнтак добры выпаў да прэзідэнтаў саміх звярнуцца, каб гэта патлумачылі яны пытанні мае лагодныя.

Дык вось, як толькі мяне да мікрафона адкрытага падсунулі – калі ласка, сказаў я, прэзідэнты дарагія, патлумачце мне, паслухмянаму ды няцямліваму, наконт «хорошо. .» і «ну, вы нас. », а то я сам аніяк не датумкаю.

Сказаў так і пераможцам сябе адчуў, таму вярнуўся з радыё задаволены. Стаў адказу

чакаць. І не марна, трэба сказаць, чакаў Пазванілі мне хутка. Праўда, не прэзідэнты, а нейкі спадар Мукін.

– Вы ад свайго імя пытанні прэзідэнтам у адкрытым эфіры задавалі ці ад імя нейкай партыі? – строга спытаў спадар Мукін.

– Ад свайго,– шчыра адказаў я.

– Дык вы што, сапраўды не зразумелі, што прэзідэнты на ўвазе мелі?

– Не зразумеў

– Чаму гэта? – спадар Мукін вельмі здзівіўся.

– А таму, што я грамадзянін паслухмяны, але няцямлівы,– зноў я шчыра адказаў.

– Гэта добра, што вы такі,– пахваліў мяне спадар Мукін,– але вельмі кепска тое, што вы сваімі пытаннямі прэзідэнтаў абразілі!

– Абразіў?! – я так напалохаўся, што ажно ап'янеў ад страху

– Абразілі,– строга пацвердзіў спадар Мукін.

– Абодвух?!

– Абодвух.

– Спадар Мукін, але ж я шчыра хацеў уцяміць і пра «мы хорошо. », і пра «ну, вы нас. »!

– Суд разбярэцца, шчыра вы хацелі ці не,– пачуў я самае жахлівае.– Гонар прэзідэнтаў трэба бараніць, таму я і мае таварышы падаём на вас у суд!

– Спадар Мукін,– зусім заняпалым голасам прамовіў я,– а вашы таварышы хто гэта?

– Людзі, якія са мною працуюць!

А дзе ж вы працуеце?

– У медпраекце! – злосна адказаў спадар Мукін і кінуў трубку

Вось табе й верашчака на закусь!

Добранькі клопат – судзіцца!

Не, у нашым жыцці лепей ужо вешацца, чым судзіцца!

Сказаў я сабе гэтак афарыстычна і вырашыў у Мукіна і ў сябрукоў ягоных за прэзідэнтаў абодвух прабачэння папрасіць.

Што ж, думаю, сустрэну ў судзе Мукіна і медпраект ягоны крыўдлівы і, суддзі слова сказаць не даўшы, адразу выбачацца кінуся. І не толькі выбачацца кінуся, але й паабяцаю шчыра больш пытанняў такіх лагодных наконт «хорошо» і «ну, вы нас. » не тое што ў адкрытых, але і ў закрытых мікрафонах не баўкаць болей.

Аднак жа добра тое, што робіцца добра, а тут пакуль пруха адна ні паперкі ў суд, ні медпраекта мукінскага. Замоўкла ўсё, як у ступе без таўкача дубовага. Як і не было нічога. Паспрабаваў было медпраект па даведках розных пашукаць – не знайшоў

Што ж гэта такое, маракую знябожана, няўжо мяне, паслухмянага ды няцямлівага, напалохаць напалохалі і пакінулі назаўсёды, каб гэта я ўжо далей сам палохаўся.

Дарэмна падумаў – не пакінулі. На ўрадавы прыём паклікалі. У запрашальным білеце зноў-такі растлумачылі, чаму паклікалі – « .запрашаем Вас, бо Вы паслухмяны і няцямлівы...»

На прыёме ўрадавым усё ласкава было, усё пачціва. Сам прэзідэнт гасцей прымаў Кожнаму слова шчырае казаў, інтэлігентнае. І мяне не абмінуў словам гэтым:

«Слухаў я выступленне Ваша па мікрафоне адкрытым. Дзякуй за пытанне. Даруйце, што не адказаў на яго. Заняты вельмі. Ведаеце, столькі клопату І да ўсяго яшчэ я чакаў, што першы адкажа мой калега, прэзідэнт чужы. Ён адказаў Вам?»

У голасе прэзідэнта нашага столькі было цеплыні бацькоўскай, што я ледзьве не захлынуўся ад хвалявання ўдзячнага:

– Не, не адказаў

«Бачыце, і ён заняты. Але ж я прасіў адказаць Вам свайго памочніка Мукіна.. »

Дык вунь дзе медпраект хаваецца, ахнуў я! І не чуючы што кажу, слёзна выдыхнуў:

– Мукін мне судом пагражаў

«Як судом?! Судзіць вас? Паслухмянага ды няцямлівага?! Гэта ўсё адно, што судзіць маю надзею! – шчыра абурыўся прэзідэнт і тут жа мяне супакоіў.– Не бойцеся, суда не будзе. А Мукіну за гэта мы падшукаем працейшую працу, калі ён з працай інтэлектуальнай не спраўляецца!»

І назаўтра быў абвешчаны строгі ўказ аб скасаванні медпраекта і аб накіраванні кіраўніка ягонага спадара Мукіна працаваць на плошчу Незалежнасці ў якасці дадатковага святлафора.

*28 чэрвеня 1995*



# Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

## МЫ



*Пазбыўшы нябыт, ты з'явіўся на свет,*
*Каб свету здзівіцца.*
*Калі ты званар ці калі ты паэт,*
*Жыві на званіцы.*

*Няхай на зямлі хоць патоп, хоць пажар,*
*Хоць ліха ды войны,*
*Калі ты паэт ці калі ты званар,*
*Ты лішні, ты вольны.*

*Няма ў цябе тут ні сяброў, ні радні,*
*Няма і не трэба.*
*Усё тваё там, дзе сляпыя агні*
*Халоднага неба.*

# ПАЭМЫ

# ПРОШЧА

I

Зноў вецер на ўзлеску агнём залатым
Асіну палошча.
За ветрам за тым і за ўзлескам за тым
Ёсць возера Прошча.

На возеры тым, на блакітнай вадзе
Бялеюць лілеі.
Душа мая там, як на Боскім судзе,
Баліць і святлее.

Яе тое возера ў воды свае
Празрыста ўлюбіла.
Да дна таго возера не дастае
Нячыстая сіла.

Святлее ў тым возеры храм на гары
Званіцай высокай,
І спіць на званіцы званар да пары
Глыбока,
Глыбока.

У белых лілеях яму так даўно,
Так соладка спіцца,
Што снамі ягонымі ўсыпана дно
Да самай званіцы.

Усмешка блукае ў яго на губах,
Як ветрык на ўзлеску...
Стаіць нерухома вада ў берагах —
Ні хвалі, ні ўсплеску.

Дрымотна сваім і чужым берагам —
Ні ўсплеску, ні хвалі,
Нібы не схавалі ў тым возеры храм,
Нібы пахавалі.

Вякамі сплываюць над возерам тым
Лілеі аблокаў —
Над храмам, над крыжам яго залатым,
Званіцай высокай.





2

Ён жыў на званіцы, бязногі званар,
На храмавай вежы.
Сачыў з-пад нябёс, дзе патоп, дзе пажар,
Дзе вораг на межах.

Прыкуты да звону, да лёсу свайго,
Глядзеў на абшары,
І цёмныя хмары плылі да яго,
І светлыя хмары.

Пад храмам люстэркам ляжала вада,
Лілеі люляла,
І ў тое люстэрка цягнула нуда —
Аж вочы смактала.

На раме люстэрка шумелі лясы,
Палі красавалі,
І рыкі звяроў, і людзей галасы
На вежу ўзляталі.

Адтуль, дзе спрадвек майстравалі яны
Калыскі і труны,
З ядой і вадой падымала збаны
Вар'ятка Матруна.

Яна на калені ставала ў куце
На звон памаліцца —
І ўсё мармытала: «На згубу расце
Краса-Мілавіца».

Кавалак у горла не лез званару,
Як, слінячы губы,
Шаптала вар'ятка: «Атруты збяру
На згубу, на згубу...»

Так дні праміналі, вятрамі гады
Хісталі званіцу...
Нявестаю князь, уладар малады,
Абраў Мілавіцу.

«Красу-Мілавіцу, дачку каваля!?
Ой, княжа! Ой, смелы!..»
І ўздрыгнула пад капытамі зямля
Суседніх удзелаў.

За новым ганцом скача новы ганец
З пагрозай адною:

«Як пойдзеш з дачкой каваля пад вянец —
Мы пойдзем вайною.

Твой шлюб — гэта ганьба для нашых дачок,
Абраза цяжкая...»
І князь закруціўся між іх, як ваўчок,
Як воўк за сцяжкамі.

На плошчы шторання натоўп віраваў,
Народ, князю любы,
І голас Матруны яго свідраваў:
«На згубу! На згубу!»

Прамоўцамі, быццам балотная гразь,
Мясіліся словы.
—На згубу яе!
—І яго!
—Ён не князь!
—Ён зяць кавалёвы!

Разгублена варта стаяла наўзбоч,
Гатова прадацца.
І з тварам чарнейшым за чорную ноч
Князь клікнуў дарадцу.

«Скажы, што рабіць?» — ён дарадцу спытаў.
Быў рады старацца
Заўсёды дарадца. З паклонам устаў
І мовіў дарадца.

«Казырная карта
адна на стале,
На ўсё твая воля.
Як хочаш жаніцца — жаніся, але
Не князь ты ім болей.

З натоўпу сабраць пераможную раць —
Пустая спадзеўка,
Не стане ніхто ваяваць, паміраць
За простую дзеўку.

Калі ж адрачэшся цяпер ад яе —
Набычацца шыі,
Успомняць: каваль з Мілавіцай — свае,
А тыя — чужыя.

Як толькі адчуюць тваю слабіну —
Пра сілу забудуць.
Ты ў пастцы:





суседзі рыхтуюць вайну,
Народ прагне бунту.

І ўсё праз адно. І парада адна:
Мы ўлада. Мы суддзі.
Не стане нявесты — не прыйдзе вайна
І бунту не будзе.

Нявеста твая заняможа ўначы.
Ёсць зёлкі ў Матруны».

І, гледзячы ўбок, князь прамовіў:
—Лячы.
Мне сёння прыснілася кроў на мячы.
Рабі, што прыдумаў.

3

Ён жыў на званіцы. Цар-рыба плыла,
Мінаючы сеці.
Адна ў званара Мілавіца была,
Адна ў цэлым свеце.

Начамі ён бачыў: два цені здаля
Ішлі, каб спаткацца,
Адзін — ад хаціны старой каваля,
Другі — ад палаца.

Як бралі адзін аднаго за руку,
Спаткаўшыся, цені,
У звоне матляўся ён на языку
І біўся аб сцены!

Яму нават ногі, якіх не было,
Нясцерпна смылелі,
Як рыбамі цені плылі на святло,
Збіралі лілеі.

Прыкуты да звону, да лёсу свайго,
Маліўся ён, плакаў,
Каб выраслі кіпці і крылы ў яго
Драпежнага птаха.

Ён сэрца б князёва штодня вырываў
З крывёй, каб напіцца!..
О, як ён кахаў яе, як раўнаваў
Красу-Мілавіцу!

Цар-рыбу, што ў Прошчы спрадвеку жыла,
Прасіў, каб ніколі
Красу-Мілавіцу бяда не знайшла
Ні ў лесе, ні ў полі.

Цар-птушку, якая вяршыла палёт
Над Прошчай спрадвеку,
Схаваць Мілавіцу прасіў ад нягод,
Ад крыўды і здзеку.

Цар-рыбу прасіў і Цар-птушку прасіў,
Што знали ўсё самі,
А сам ён праспаў Мілавіцу, прасніў
Вяшчуннымі снамі.

У снах тых пісаў з Мілавіцы абраз
Князёвы дарадца.
Князь мовіў: «Старайся», дарадца ў адказ:
«Я рады старацца».

І жах у тых снах працінаў кожны раз,
Як сталь нажавая,
Калі любаваўся народ на абраз:
«Дальбог, як жывая!»

4

Стагналі званы, галасілі званы
На белай званіцы,
Як неслі ў князёвы скляпы-курганы
Красу-Мілавіцу.

Гудзелі званы, знемагалі яны,
І чулася ў гудзе:
«Не будзе нявесты — не будзе вайны
І бунту не будзе».

Нібы звар'яцеў на званіцы званар,
Вяшчаючы люду,
Што скрозь і паўсюды патоп і пажар,
І ворагі ўсюды.

Цар-птушка ляцела, Цар-рыба плыла,
Мінаючы сеці.
Адна ў званара Мілавіца была,
Адна ў цэлым свеце.

У белых лілеях ляжала яна,





Нібыта жывая,—
Ды ўжо муравалася ў склепе сцяна,
Сцяна межавая.

Магільшчык зрабіў сваю справу, і поп
Зрабіў сваю справу.
А з плошчы ніяк не сыходзіў натоўп
І прагнуў расправы.

Глядзелі дарадца і князь, як сычы.
Расправа блукала:
«З чаго яна раптам заснула ўначы,
А ранкам не ўстала?»

«Вяшчунна мне снілася кроў на мячы»,—
Князь думаў у спудзе.
Дарадца на вуха: «Не бойся. Маўчы.
Нічога не будзе».

А слова крывёй набракала, як клоп:
«Атрута... Атрута...»
«Матруна»,— дарадца шапнуў, і натоўп
Ускрыкнуў: «Матруна!»

5

На межах князёвых стаяла вайна.
Расправа блукала.
Пра гэта не знала Матруна — яна
Нічога не знала.

Але за пагібель нявесты-красы,
На радасць народу,
Яе за сівыя цяглі валасы
Пад меч, на калоду.

Цар-птушка ляцела. Цар-рыба плыла.
«Я не вінавата,
Я зелле зварыла, я зёлкі дала»,—
Крычала вар'ятка.

Дарадца на плошчу прывёў каваля:
«Вось меч табе катаў.
Ты б княжыча няньчыў, садзіў на каня.
Суцешся адплатай».

Пазногцем спрабуючы вострую сталь,
Гаротны, суровы,

Каваль адказаў: «Не на тое каваль,
Каб секчы галовы.

Бог даў Мілавіцу і ўзяў яе Бог,
Куды – не дазнацца...»
«Як скончыцца ўсё, дык адразу ў астрог»,–
Падумаў дарадца.

І крыкнуў: «Даказана ведзьмы віна!
Гэй, варта! Гэй, каты!»
І ўпаў з неба голас: «Мана! Не яна,
А князь вінаваты!

Не ўзяў Мілавіцу, каб Бог яе ўзяў,
Каб плакаў убогі!..»
Каваль перад князем і шапку не зняў,
І плюнуў пад ногі.

«Бунт?!.» – крыкнуў дарадца, і выбухнуў бунт!
З вачамі сляпымі,
Як смерч, ён круціўся, вяршыў самасуд
Усіх над усімі.

Вар'ятка Матруна, сівая сава,
Крычала: «Свабода!..»
Кацілася за галавой галава
З крывавай калоды.

Ад бунту сп'янелыя, як ад віна,
Гулялі халопы,–
І рушыла ў межы князёвы вайна
Пажарам, патопам.

Спяшаліся князя
князі ратаваць,
Палілі, тапілі,
На бунт насылалі за рацямі раць,
Мячы ўсе
ступілі.

6

Званар галадаў. Яго смага гняла.
І ў сне ці ў прыпадку,
З крывёй на званіцу збаны падала
Матруна, вар'ятка.

«Ты што гэта,– сцяўся званар,– ты чаго?»





«За мой паратунак
Ты голас падаў – гэта рэха яго»,–
Сказала Матруна.

На белай званіцы сядзелі яны
Над чорнай зямлёю,
І зняў ён званы, і падвесіў збаны
З людскою крывёю.

Унізе люцела, свістала, гула
Нячыстая сіла,
І кроў закіпела, бы ў пекле смала,
І ўсё затапіла.

Яна разлілася ў лясы і палі
Праз межы, граніцы,
І, як да каўчэга, ляцелі, плылі
Звяры да званіцы.

А стуль, дзе нячыстая сіла жыла,
Люцела ў народзе,
З крывавым усхліпам калода ўсплыла –
І меч
на калодзе.

7

Раіліся зоры, як іскры ў кастры,
І храм засыпалі.
Званар і вар'ятка, як брат пры сястры,
Абняўшыся, спалі.

Хай спяць,
забываюць, хто свой, хто чужы
Быў некалі з імі,
І ластаўка ім, і каршун на крыжы
Хай стануць сваімі.

Хай сняцца ім спевы знямелых званоў
І ластаўка сніцца,
Што ў спевах званоў абярнулася зноў
Красой-Мілавіцай.

Каршун, страпянуўшыся неба абняць,
Пазнаў яе раптам...
Ім гэтак не спаць, як, абняўшыся, спяць
Званар і вар'ятка.

Краса ім лілеямі пальцы спляла
І побач заснула,
І белай лілеяй званіца плыла,
І ў Прошчы танула.

Князёва душа, што жыла ў каршуне,
Над Прошчай кружыла,
Крычала, нібыта згубіла на дне
Усё, што любіла.

8

Пазбыўшы нябыт, ты з'явіўся на свет,
Каб свету здзівіцца.
Калі ты званар ці калі ты паэт,
Жыві на званіцы.

Няхай на зямлі хоць патоп, хоць пажар,
Хоць ліха ды войны,
Калі ты паэт ці калі ты званар,
Ты лішні, ты вольны.

Няма ў цябе тут ні сяброў, ні радні,
Няма і не трэба.
Усё тваё там, дзе сляпыя агні
Халоднага неба.

Усё тваё там, тут нічога твайго,
Ты сведкаю толькі
Нябытнасці свету, вар'яцтвам яго
Ад бойкі да бойкі.

Хай сыдуцца ў сечы з братамі браты,
Не кайся, не енчы,
Пакінь ім мячы і занятак пусты,
Як цацкі малечы.

Хай паляць сялібы і гвалцяць сясцёр,
Не енчы, не кайся,
Трымайся за іскры, за дым, за касцёр,
З нябёс не спускайся.

Сынам не бацькі і бацькам не сыны,
Да Боскае кары
Няхай у нянавісці любяць яны
Таго, хто ўладарыць.

Няхай выбіраюць





сабе ўладароў
І птушкам, і рыбам.
Калі ты з паэтаў ці са званароў,
То зроблены выбар.

Пакінь, як кратоў, невідушчых братоў
У норах іх цесных.
Званіца твая – карабель без бартоў
На хвалях нябесных.

Хай рынецца свет на цябе аднаго –
Не бойся расправы.
Усё тваё там, тут нічога твайго,
Ні ганьбы, ні славы.

Не дайся падману,
як раб або цар,
Жывыя зямлёю,
У зоры ўзіраюцца, вымыўшы твар
Слязьмі і крывёю.

І кроў іх, і слёзы – раса на траве.
Няславяць ці хваляць –
У хвалі нябеснай Цар-рыба плыве,
Цар-птушка
над хваляй.

9

Мітынговыя вуліцы, поўныя ярасцю плошчы
Я пакіну аднойчы і рушу да возера Прошчы,
Што сінее на роднай зямлі васільком на радне
І царкву са званіцай ашчадна хавае на дне.

Па збалелай дарозе
з камянём непазбыўнай віны
Я ўвайду ў тое возера і разгайдаю званы,
І, аблашчаны Прошчай, за ўсіх, каго проста люблю,
Памалюся, паплачу і свечку ў царкве запалю.

Залацістаю рыбай да берага свечка сплыве,
Залацістай змяёю слізне па шчаслівай траве,
І пчалой залатою паляціць над палямі яна,
Над вадой, над зямлёю, якая ва ўсіх нас адна.

Аднакрылую свечку
з царквы, што ўсплывае са дна,
Мне над возерам п р о ш ч ы

трымаць ад цямна да відна,
Вакол возера бераг
адзін,
і нікуды з яго,
Як бы мы ні штурхаліся — не спіхнуць нам
адзін аднаго.

Як бы мы ні шалелі ў натоўпах ад лютых страсцей,
Паміж намі нямашака прышлых, нязваных гасцей,
Толькі мы
паміж намі —
і нам не над прорваю жыць,
А над Прошчаю жыць.
Так нядоўга,
як свечка гарыць.

# ІНДЫЯ

I

У сны ўвайшлі твае сланы.
Ступалі за сланамі сны
I не належалі мне болей.

Іх сніў
не ў сутарэннях болю,
А ў храме радасці
манах.

Я з босых ног ягоных прах,
Схіліўшыся, сабраў рукамі,
I прахам асвянціў чало...

I, паўшы ніц, спытаўся:
— *Свамі,**
Скажы мне:
што са мной было?

2

— У сны твае

* Свамі — святы.





ўвайшлі сланы,—
Сказаў манах.— Але яны
Сваім існці павінны шляхам.

Чало, што асвянціў ты прахам,
Вадой асвенчана святой.

Шлях з веры ў веру — шлях не твой.

3

«Чаму?» — спытаўся я не ўслых.

Не ўголас ён сказаў: «Ты з тых,
Чый шлях — зваротны.
Да чужых
Святых
ты рушыў са сваімі».

«Святыя могуць быць чужымі?» —
Здзівіўся я.

Нібыта ў шкло
Задымленае, глянуў Свамі,
I дым шкляны праплыў між намі,
Пусты, як тое, што прайшло.

4

—Устань,— сказаў манах.— Ты ніц
Дарэмна падаеш, прыкуты
Да саркафагаў і грабніц
Англійскіх могілак Калькуты.

Ты ў Індыі,— казаў мне Свамі,—
Але дарма марнуеш дні,
Упёршы вочы ў камяні.
Пустыя сны пад камянямі.

Усе, хто зараз сніць іх тут,
Дарма прайшлі свой шлях пакут,
Канаючы ад малярыі.

—Не,— я сказаў.—
Бо тут
Марыя.

— Ты знаў яе? — спытаў манах.

5

Гаруда, белы Божы птах
Ляцеў — далёка ад Калькуты,
І двух аблокаў парашуты
Нёс тым, хто страціўся ў гарах.

— Марыя, нам уніз пара,—
Прасіў я, змучаны гарамі.

«Ты знаў яе?» — пытаўся Свамі.

6

Мандара, Божая гара
Вяршыняй падпірала неба.

«Знямогшы без вады і хлеба,
Аслепшы без павадыра,
Заблукаўшы шлях — з якой пары я
І для чаго я тут, Марыя?»

—На тое, каб адолець шлях.

7

«Ты знаў яе!» — сказаў манах,
Падаў задымленае шкло,
І, як пры сонечным зацьменні,
Я ў шкло зірнуў...

Мільгалі цені,
Глядзеў я, што са мной было.

8

Увесь у жоўта-залатым
Стаяў манах на небасхіле,
Упэўнены ў спрадвечнай сіле
Таго, што свет заве пустым.
—Тут выйсце ў неба,— мовіў ён.—
Пераступаю я закон,
Наблізіўшы да зор жанчыну.





Ды шлях адолены. Прычыны
Для апраўдання мне стае,
Каб паказаць дарогу тую,
Дзе Веду зведаеш святую,
Марыя! Зоры ўсе — твае...

І ён накінуў на яе
Апратку жоўта-залатую.

9

—А хто за мной?
—Няма каму.
—А спадарожнік мой?
—Ён следу
Твайго не ўбачыць, бо яму
Час не настаў спасцігнуць Веду.

Ён вернецца. А ты — ідзі.

10

—Ты судзіш, Свамі?
Не судзі,
Я знаў яе, таго даволі.

Глядзі, як шкло іскрыць на сколе,
Ды што ў тых іскрах для сляпца?

Зваротны шлях — сляпы. Ніколі
Яго не пройдзеш да канца.

Па ім
        вяртаешся ні з кім.

11

Плыў над зваротным шляхам дым
Ад Індыі да Беларусі...

—Я не хачу ісці па ім,
А незваротнага — баюся.

Шлях там,
        дзе ўперадзе — сляды.

12

—Той шлях,— сказаў манах,— нікуды,
Па тых слядах мільёны люду
Сышліся ў гурт, у гарады.
У храмы іх, у іх суды
Ты б з Індыі вярнуўся, ды
Сюды прыходзяць адусюды —
Адсюль ісці няма куды.

13

Я ўніз ішоў.
Гара з гарою
Перагукаліся, сырою
Прасцінай поўз па схілах снег...
Лавіна!
Я дарма пабег
Па камянях,
па скалах слізкіх...
Дні прабягаючы, гады,
Не змог я збегчы гэтак нізка,
Каб падаць не было куды.

14

Лавіна падала —
на схіле
Раз'юшана, у самай сіле
Дагнала, душна абняла.

—Марыя! — крыкнуў я.— Марыя!..—
І ўкрылі крык снягі сырыя.

15

Манах сказаў: «Яна дайшла
Дарогай Вед амаль да межаў,
З якіх звароту ўжо няма,
А ты вярнуў яе. Дарма».

16

Я не вяртаў. Лавінай снежнай
Яна вярнулася сама
Па камянях, па скалах слізкіх...





17

—Ты дзе была, Марыя?
—Блізка.
—Чаму на могілках англійскіх
На камені тваё імя?

—Бо шлях адолела дарма,—
Сказаў манах.— Бо не жанчыне
Пакінуць свет дарогай Вед,
Бо светам стаўся ёй паэт
Англійскі ў афіцэрскім чыне.

18

За нораў дзёрзкі і бунтоўны
Ён з метраполіі раптоўна
Адпраўлены ў Калькуту быў.
Тут ён гібеў, страляўся, піў,
Блукаў, зваротны шлях згубіў —
І ў дом патрапіў малітоўны.
Бог ведае, што за хімеры
Жылі ў англійскім афіцэры,
Ды выдумаў сабе паэт,
Што вернецца місіянерам
Дамоў, што прагне новай веры
Стары ягоны добры свет.

Ён кінуў піць. Пісаў увішна
Евангелле ад Рамакрышны,
Ствараў хімеру: Веру Вер.

Як сноб, на англіцкі манер
Хрыста аспрэчваў афіцэр.

Паслаў ерэтыка Ўсявышні
У горы.
Перад ім гара
Мандара ўстала — брама ў неба.

Аслаблы без вады і хлеба,
Аслеплы без павадыра,
Караскаўся ён за хімерай
Дарогаю, якой не верыў,
Бо верыць не прыйшла пара.

І скінула яго гара
Лавінаю...

Яго ў снягах
Знайшла Марыя ледзь жывога,
Адняньчыла, нібы малога,
І, не адпрэчыўшы зямнога,
Згубіла свой нябесны шлях.

19

—Вам не ўзляцець,— сказаў манах,—
Пакуль зямля цяжарыць крылы...

20

...Яна знайшла мяне, накрыла
Апраткай жоўта-залатой,
Сказала: «За мяжой пустой
Сырая снежная магіла —
І ў ёй усё, што я любіла».

21

«Шлях з веры ў веру — шлях не той?» —
Спытаўся я,
і з вуснаў строгіх
Пачуў адказ: «Адзін са многіх».

22

—То ў чым віна мая, Марыя,
Калі парывы ветравыя
Нясуць, нібыта дым шкляны,
Душу
зблуканымі шляхамі?

23

—Перад усімі,— мовіў Свамі,—
Нябесныя шляхі віны.
Зямным — зямное.
Дзеці самі —
З малога цешацца яны.—

І шкло іскрылася між намі,
Клубіўся ў ветры дым шкляны.





—І Веда Вед,
І Вера Вер —
Хімерныя, калі на згубу,
Адняньчаны, ідзе да шлюбу
Паэт, англійскі афіцэр.

Калі спасцігнуць Веду свету
Жанчыну абірае лёс,
А тая таямніцу гэту
Лавінай кідае з нябёс
Пад ногі выхрысту-паэту,
То ўсё дарма: і рух, і мэта,
Куды б дарога ні вяла...

24

—Марыя, ты ўсё ж там была.
Скажы мне, што там?
—Дзе?
—У Бога.
—Нічога там няма. Дарога.

25

Сінеча холаду начнога
Над Гімалаямі плыла.
Сыходзіліся ў храм начны
Індусы —
там спявалі хорам,
Там пакланяліся яны
Таму, пра што і думаць сорам
У Англіі...

Крывёй жывой
Жыццё бруілася, як брага,
Густой хісталася травой
У хвалях Інда, водах Ганга,

Гатовае па волі Брамы
Само сабой ахвяраваць,
Яно глядзела ў вочы Ямы,
Не баючыся паміраць,

Спазнаючы сябе, вякамі
Зямную трушчыла кару
І ўзносілася ўвысь хрыбтамі
Высокай Хары і Меру,

Каб там, дзе ўжо няма нічога,
Дзе абрываецца дарога
І зноў вяртае на зямлю,
Змяя пацалавала Бога,
І Бог пацалаваў змяю.

26

—Злуеш, Марыя?
—Не злую.

27

—Адзін аднаму вы не суддзі,—
Сказаў манах.— Яна праз *суццi**
Прайшла, застаўшыся ўдавой.

Той афіцэр англійскі, той
Паэт, сасланы за разбой,
Сектантам стаў,
ахвяраваў
Марыю, што жыла ў Марыі,
Прызначыўшы яе кастру,
Як сам сканаў ад малярыі...

28

За ёй падняўшыся ўгару —
Адзін спускаўся ўніз з гары я:

«Марыя, калі я памру,
Дзе мы сустрэнемся, Марыя?»

—Тут, дзе маланкі шараві́я
Высокай Хары і Меру,
У храме, лотасам сагрэтым,
Дзе Вішну абвіла змяя;

Тут, толькі тут, бо ў свеце гэтым
Ёсць Індыя, адна планета,
І ўся астатняя зямля.

Чакай свой час, сваю пару.

* Суцці – абрад спальвання ўдавы ў дзень пахавання мужа.





29

—Марыя, калі я памру,
Ты скажаш, што там?
—Дзе?
—У Бога.

30

«Нічога там — адна дарога
Ды зор ахвярнае святло...»

31

—А ты б хацеў, каб там было
Што-небудзь? — запытаўся Свамі.

—Каб Індыя была...

32

Над намі
Нябёс задымленае шкло
Мігцела зорамі і снамі.

Са сноў сыходзілі сланы.

33

Ступалі след у след яны
На свой зваротны шлях.
Манах
Мне ў прыгаршчы насыпаў прах,
Сказаў: «Ідзі, нясі дадому,
Развей на родных берагах.
Не суддзі мы адзін аднаму».

—Марыя!..—
голас у гарах
Прапаў, не чутны мне самому.

Гаруда, белы Божы птах,
Сарваў з Мандары
кветку *сому*
І кінуў на зваротны шлях.

У НАС

# Уладзімір СЦЯПАН



*...а вы сварыцеся, як чужыя...*

# НАВЕЛЫ





## БРАТЫ

«Грушы падалі ў гразь Плясь! Плясь!..»–гэты няхітры вершык склаў гадоў у адзінаццаць вучань пятага класа Стасік Хамяк, які вырашыў, што абавязкова будзе паэтам. Вершык запомнілі і калі-нікалі згадвалі як бацькі, так і сябры-аднакласнікі...

Антон, яшчэ даўно, як толькі нарадзіўся брат, зразумеў, што цяпер: цацкі, цукеркі, кніжкі – усё малому І пакрысе Антон Хамяк люта ўзненавідзеў малодшага брата–плаксівага, марганцава-ружовага Стасіка, які тады яшчэ вершы не складаў, а адно пранізліва выкрыкваў два словы: «Дай!?» і «Не!»

Гадоў у сем Антон вырашыў забіць Стасіка. Калі маці з чырвоным тазам, поўным вымытай бялізны, выйшла ў двор, дзе ўзялася развешваць прасціны і кашулі,– Антон пасадзіў малога на падаконне, а сам схаваўся ў спачывальню. Ён чуў, як грукнула рама, упаў і раскалоўся вазон з колкім шарам кактуса. Двухгадовы брат выпаў з чацвёртага паверха. З вуліцы пачуўся крык і енк. Антон пачуў пранізлівы плач.

Праз паўгадзіны маці вярнулася са Стасікам на руках. Яна была ў слязах, рот непрыгожа крывіўся, маці хапала паветра, як рыба, выкінутая на бераг. Яна так нікому і не дазволіла дакрануцца да малодшага сына.

Ад таго няшчасця ў Стасіка Хамяка застаўся над левым вокам ружовы шнар.

У свае трыццаць пяць Антон меў цвёрдае перакананне, што справядлівасці на свеце няма. Бо нават бацькі, калі што якое, апошняе аддадуць лайдаку Стасіку, а не яму, Антону Толькі два гады пажыў малодшы брат на прыватнай кватэры, як бацькі вырашылі размяняць трохпакаёўку, каб у Стасіка быў свой куток, свае сцены.

Доўгі чатырохпавярховік, аплецены ржавай павутой пажарных драбін і балкончыкаў, нагадваў корак ад шампанскага. Шмат якія вокны былі расчыненыя, і з іх ляцела на вуліцу аглушальная музыка, лаянка, падобная да сабачага брэху, сабачы брэх, падобны да смеху, нехта паліў, страсаў попел і сплёўваў на жоўклыя клумбы. Дзе-нідзе на маленькіх балкончыках, як на грабеньчыках, умураваных у цагляную сцяну, сядзелі разамлелыя галубы.

Першыя дні чэрвеня выдаліся задушліва-пякельнымі. Нават бясхмарны блакіт нябёсаў здаваўся гарачым, як перакулены, выцягнуты з духоўкі эмалевы сподак. Але, калі забыцца на спёку і глядзець праз акно на суседнія дахі, то ўражанне было дзіўным. Млява круціўся і павольна ападаў на гарадок бялюткім снегам лёгкі тапалёвы пух...

Браты і бацька сядзелі на кухні і пілі самагонку, маці гадзіну таму сышла ў краму па цукар. Мужчыны паспелі распрануцца, па расчырванелых тварах збягалі бліскучымі слязінкамі дробныя кроплі поту.

–Налівай!– загадаў Язэп Хамяк Стасіку, дзыньккнуў відэльцам па рыльцы трохлітровага слоіка, а потым узяў з місы яйка, крутнуў па стале і хрустка ўдарыў аб край патэльні

Шпокнула пластыкавая накрыўка, рэзкі дух самагонкі змяшаўся, перамог блакітны тытунёвы дым і папоўз, паляцеў, падхоплены скразняком ад акна. Хутчэй закруціўся тапалёвы пух, абрыдлівы і ліпкі.

– Можа перадыхнём, адпачнём,– прапанаваў Стасік і пачаў жаваць цёмна-зялёнае пёрка цыбуліны.

– Давай па поўнай, пакуль яе няма!– азірнуўся на дзверы і загадаў малодшаму брату Антон.

Бацька згодна хітнуў доўгай, па-чарапашы лысай, галавой, пракаўтнуў сліну і падсунуў на сярэдзіну стала сваю шклянку. Стасіку падалося, што ў бацькі пад белай скурай спіны выгнулася бамбукавае вудзільна, так выразна напяўся хрыбетнік. Глуха, з хрустам, разбілася яйка аб стол.

– Зноў усмятку!– абыякава, як да жонкі, сказаў Язэп і аблізаў жаўток з пальцаў.

Мужчыны чокнуліся і выпілі. Стасік хутка ўсклаў капронавую накрыўку на слоік.

– Брат, давай згуляем,– прапанаваў Стасік і падкаціў да Антона зваранае яйка.

– Хопіць вам сварыцца!– бацькава галава падалася ўперад, выслізнула разам з цёмнай апаленай шыяй з вузкіх плячэй.

–А ты маўчы і закусвай, а то зноў заснеш пад сталом.– Старэйшы сын злосна бліснуў вачамі на бацьку, і той змоўк, застыў, як дырыжор, з відэльцам ва ўзнятай руцэ.

Потым Антон прыдзірліва агледзеў яйка, на доўгім твары з'явілася спроба адшукаць

якую зачэпку і адмовіцца, але яйка было бездакорна круглае, свойскае, колеру кавы з малаком Ён заціснуў яго ў вялікім кулаку

– Паехалі!– Стасік падсунуўся да брата, а потым скрывіўся – Так не пойдзе, расцісні пальцы

Яйка хруснула ў руцэ Антона.

– Вось і ўся гульня, брат!– задаволена засмяяўся Стасік.

– Ты абдурыў. Вы ўсе мяне дурыце!– Антон цяжка вылез з-за стала і шпурнуў яйка ў сметніцу

– Супакойся, ніхто цябе не падманваў, проста табе «па жыцці» не шанцуе.

– А табе?

– А мне шанцуе,– паціснуў шырокімі плячыма Стасік і здзёр накрыўку са слоіка

Антона пачало калаціць. Запалка зламалася, а другая апякла пальцы.

Язэп Хамяк змрочна ўтаропіўся на пукаты вогненны жаўток на алейна чорным, як начное неба, чыгуне патэльні Стасік плюхнуў у сваю шклянку гарэлкі і нетаропка выпіў

– Што ты распараджаешся, як быццам ужо гаспадар!– прычапіўся да малодшага брата Антон.

– Магу наліць і табе, але, на маю думку, табе хопіць. . А вось з бацькам я вып'ю,– Стасік пацягнуўся да слоіка

На доўгім твары Язэпа Хамяка з'явілася і застыла шчаслівая ўсмешка.

– І лядоўню, сынок, табе аддадзім і канапу са сталом!– прамармытаў Язэп і дзеўбануў відэльцам у пукаты жаўток.

– Усё яму, усё: кватэру, лядоўню. – Антон стаў у куце і пазіраў на бацьку з братам, як на заклятых ворагаў

– Сын, у цябе ж усё ёсць!– прамовіў бацька.

– А яму ўсё мала,– уставіў Стасік.

Ды пайшоў ты ведаеш куды!– грукнуў кулаком па лядоўні Антон, і на яго твары бліснула кропля.

– Не сварыцеся, хлопцы,– Язэп спалохана і разгублена пазіраў то на малодшага, то на старэйшага сына.

– Ведаеш, бацька, калі б яго воля, відаць, ён мяне забіў бы. . Але Бог сілы не даў,– Стасік падсунуў крэсла і сеў да бацькі.

– Што ты кажаш, сынок, як табе не сорамна.

– Грушы падалі ў гразь. Плясь! Плясь!– здзекліва, як мацюкі, прамовіў вершык Стасік і ўзяў у рукі яшчэ цяжкі слоік.

– Пастаў гарэлку Гэта мая,– падаўся да стала Антон

– Бяры, мне не шкада. Я табе нічога не шкадую, хочаш, поўную шклянку наплюхаю, з верхам

Антон схапіў слоік, падняў і пачаў піць з рыльца. Гарэлка цякла па падбароддзі, па вострым кадыку, па грудзях, а ён усё глытаў і глытаў, быццам вырашыў утапіць адвечную крыўду, спатоліць невыносную смагу

Бацька з малодшым сынам спалохана сачылі за празрыстай вадкасцю, якая плёскалася і пералівалася са слоіка ў Антонаў рот. Калі самагонкі засталося на дне, Антон акуратна паставіў слоік на стол.

– Цяпер ты задаволены?– пацікавіўся Стасік, абхапіў шырокае рыльца рукой і ў тры глыткі дапіў гарэлку

– Я вас ненавіджу – прасычэў Антон на нахабны смех малодшага брата.

– Ты зайздросціш мне,– Стасік выцер мокры рот, вылез з-за стала і падышоў да акна. Ён кончыкамі тонкіх пальцаў дакрануўся да налітага крывёй шнара над левым вокам

Старэйшы брат стаяў у куце, і па яго твары цяклі слёзы

Бацька п'яна хістаўся за сталом і марна спрабаваў падчапіць відэльцам слізкі жаўток. Браты глядзелі адно на аднаго і маўчалі.

Язэп Хамяк паспрабаваў падняцца, але аб'ехаў і ссунуўся пад стол Пакуль немалады мужчына спрабаваў выкараскацца, малодшы з сыноў гідліва моршчыўся і сачыў за бездапаможнымі спробамі п'янага падняцца на ногі.

– Я ведаю, ты хацеў мяне забіць, брат. Ты пасадзіў мяне тады на падаконне, ты жадаў маёй смерці,– малодшы цёр свой чырвоны шнар. У ягоных вачах з'явіўся шалёны бляск, а твар збялеў. Валасы прыліплі да лба.

– Так, хацеў,– сухім і цвярозым голасам прашаптаў Антон

Стасік сеў на падаконне і перакінуў ногі на вуліцу.

– Штурхні, штурхні, можа стане лягчэй,– сказаў Стась і падняў рукі





Гэтага Антон не стрываў Ён рэзка ўдарыў брата ў плечы і адскочыў ад акна. Грукнула аконная рама. Упаў на падлогу вазон з кветачкай. Пачуўся глухі ўдар і ўскрык.

Антон гучна смяяўся. Востры кадык калаціўся. Бацька інстынктыўна рвануўся да акна. На падлогу паляцеў посуд.

Стасік стаяў на клумбе, п'яна хістаўся і размахваў перапэцканымі зямлёй рукамі

– Стасік! Сынок!– Язэп Хамяк пераваліўся праз падаконне.– Што ты там робіш? Хадзі дамоў, як малога, пачаў угаворваць бацька.

Антон баяўся наблізіцца да акна, баяўся зірнуць на вуліцу І невядома, чаго больш было на яго твары, ці расчаравання, што брат застаўся жывым, ці радасці, што малодшаму зноў пашанцавала. .

Праз дзесяць хвілін Стасік быў на кухні Ён размазваў кроў, якая цякла з носа, абтрасаў зямлю і шаптаў: «Нічога страшнага, брат, усё добра, ты ні пры чым, я сам»

Бацька абдымаў сына і ручніком выціраў кроў з твару.

– Стасік, сынок, што ж вы робіце? Зараз маці прыйдзе, вернецца, а вы сварыцеся, як чужыя...

– Га́ды!– крыкнуў Антон і ўскочыў на падаконне

– Стой!– крык Стася паляцеў у расчыненае акно следам за Антонам .

Удар быў глухі, з непрыемным хрустам, быццам нехта кінуў на стол ужо разбітае зваранае яйка.

Калі бацька з малодшым сынам выбеглі на вуліцу, Антон нерухома ляжаў на каналізацыйным люку. Тапалёвы пух прыклейваўся да акрываўленай галавы.

# ПАЭТЫ

Мужчыны штодня, не зважаючы на кепскае надвор'е, выходзілі на шпацыр. Яны насоўвалі на самыя вочы капелюшы, падымалі каўняры паліто і няспешна ішлі асфальтаванай, а потым слізкай у плытkіх калюгах сцежкай ускрайкам лесу да стромага берага ракі Маршрут быў заўсёды адзін і той жа.

– Ты шмат паліш,– абыякава заўважыў Б.Г., высокі, у шэрым паліто, з дагледжанымі сіваватымі вусамі, і пастукваў вастрыём складзенага парасона па камлі елкі.

– Звычка, без цыгарэт не магу,– адказваў і глядзеў на кволы агеньчык, заціснуты ў ракаўцы далоняў, другі мужчына і пажадна зацягваўся

– А я кінуў . Прыхапіла сэрца і кінуў назаўсёды. Б.Г. паглядзеў на бліскучае вастрыё парасона і ўздыхнуў

– Шкадуеш?

– Сны бывае дзікунскія бачу Палю і палю ў сне, а калі прачынаюся– кашаль і галава баліць. А так нават і не цягне

– Каму што .– глыбока зацягваўся спадарожнік.

Высокі, з прыхаваным раздражненнем, кідаў позірк на зямлісты твар Б.Ц. і крывіўся

«Куды яму яшчэ паліць, і так хворы У труну прыгажэйшых кладуць»,– думаў высокі і прыўздымаў каўнер.

Вандроўкі па мокрым, халодным лесе былі змушанымі. Так склалася, што мужчыны амаль разам прыехалі ў Дом творчасці, а тыя, хто цяпер тут адпачываў, былі не з іхняга асяроддзя

Прозвішчы паэтаў пачыналіся на адну літару, а фотаздымкі і артыкулы з біяграфічнымі звесткамі месціліся ў літаратурных даведніках ці не на адной старонцы.

Ім было пра што пагаварыць, але яны больш маўчалі, пазіралі на дажджавую смугу, на туман, на голыя, як штыкетнік, дрэвы

Звычайна яны даходзілі да невялікай, закатанай бетонам пляцоўкі, на якой чарнеў расціснутым павуком след вогнішча, і спыняліся

– Ты, кажуць, зноў ажаніўся?– Б.Г. схаваў рукі ў кішэні і скінуў з пляцоўкі штоф з адбітым рыльцам, а потым зірнуў на свой чаравік.

– Так,– выдыхнуў у задуменні воблачка дыму Б.Ц. і пахукаў на азяблыя пальцы

Далёка ўнізе пачуўся звон разбітага шкла.

– Гэта чацвёртая.

– А якая розніца. Трэцяя, пятая – гэтая першая

– І, відаць, апошняя...– Б.Г. прыслухаўся да шуму ракі.

– Хто ведае ..– прамармытаў і пачаў пасміхацца Б Ц.

Б. Г сціснуў зубы і згадаў, што любілі расказваць пра спадарожніка. Яго твар адразу зрабіўся такім жа, як у калегаў-зайздроснікаў

Гэта былі гісторыі, якія паўтараліся. На гулянках па розных нагодах Б Ц. з'яўляўся ахвотна, гаварыў мала, больш слухаў. Калі за сталом была жанчына, то звычайна яна сыходзіла з Б.Ц., а калі жанчын было некалькі, то з ім знікала самая прывабная, без папярэджванняў і развітанняў– незаўважна. І мужчын дзівіла тое, што Б.Ц. ніколі нахабна не заляцаўся, не сыпаў, як іншыя, бязглуздымі кампліментамі, не чытаў сваіх вершаў і не спяваў, заплюшчыўшы вочы Ён пазіраў на жанчыну сумнымі, як у паляўнічага сабакі, вачамі, і тая, як зачараваная, крыху вінавата ўсміхалася ў адказ. Хапаліся Б.Ц. звычайна са спазненнем.

– Ведаеш, нават мая жонка і тая цябе паважае,– сказаў Б.Г. і павярнуўся да ветру спінаю. Ён яшчэ хацеў дадаць, што і яго дваццацігадовая дачка, чые паводзіны немагчыма вытлумачыць, і тая чытае вершы Б.Ц. з захапленнем і зайздрасцю, але стрымаўся

Б.Ц. глядзеў на чорныя камлі елак і нешта мармытаў Потым на яго зямлістым твары з'явіўся выраз разгубленай радасці.

– А ведаеш, я ж іх люблю. Усіх.– Б.Ц. наблізіўся да краю стромы

«Ты іх любіш, а я ненавіджу І цябе ненавіджу Тваю неўладкаванасць, тваіх жанчын і дзяцей, тваіх прыхільнікаў, якія на цябе моляцца і толькі мараць, каб ты паклікаў іх за сабой Блазен, гнюсны блазен, вось ты хто»,– падумаў высокі, але сказаў іншае

– Хутка рака замерзне

– Будзе ціха-ціха, як на вясковых могілках, нябесна-сінія крыжы, скамянелая зямля і галінка, пагойдваецца і звініць, калі кранае сіні крыж.– Б.Ц. узяўся выкалочваць цыгарэту з пакамечанага пачка.

– А дзе ты хочаш, каб цябе пахавалі?– раптам павярнуўся Б.Г і спытаў, гледзячы ў твар свайму спадарожніку

Б.Ц. задраў галаву, і востры кадык сутаргава, як мыш у мяху, тарганууся. Потым Б.Ц. глыбока зацягнуўся.

– Ведаеш, а я не збіраюся паміраць, не збіраюся – на твары Б.Ц. з'явіўся сполах, глыбока пасаджаныя вочы згаслі.

Як не збіраешся? Будзеш жыць вечна.– Непрыемна хмыкнуў высокі.

– Рака замерзне дні праз два, дзеці будуць коўзацца, будуць крэсліць лёд канькамі,– паспрабаваў спыніць размову Б.Ц.

Высокі напружыўся і падышоў на крок бліжэй.

– Ты ніколі не адказваеш на пытанні, робіш выгляд, што не разумееш .. Гэта твая даўняя звычка – недагаворваць, унікаць адказу.

Б Ц. разгублена паціснуў плячамі

– Халадна, зябка. Пайшлі адсюль. Хочацца выпіць.– Ён таропка павярнуўся і падаўся да сцежкі

Б Г. узрадаваўся. Нарэшце, за колькі дзён ён змог вывесці Б.Ц. з заўсёднай абыякавасці, дакрануцца да той кропкі, да таго нерва, які баліць.

– Пачакай, пойдзем разам, я не хацеў цябе пакрыўдзіць.

– Пакрыўдзіць,– выдыхнуў Б.Ц. і азірнуўся

Бралася на мароз, і хутка цямнела. На плыткіх калюгах зіхцела храбусткая скарынка лёду, а асфальтаваная сцежка зрабілася слізкай Б.Ц. колькі разоў спатыкнуўся і ледзь не ўпаў, а потым знік з вачэй

Б.Г. асцярожна ступаў па зямлі, не ўзыходзячы на сцежку, і задаволена пасміхаўся У яго на душы было радасна, так, як не было даўно.

Нарэшце ў цемры цёпла засвяціліся вокны Дома творчасці

Перадпенсіённага ўзросту адміністратарка адклала газету і кіўнула.

– Вам званіла жонка.

– І што?

– Сказала, што будзе чакаць вашага званка... А што вы сёння не разам?

– Так атрымалася, дзякуй – Б.Г. зняў капялюш і зірнуў на сваё адлюстраванне

Ён выглядаў выдатна, нават шчокі паружавелі ад свежага паветра, а на сіваватых дагледжаных вусах зіхцела некалькі кропель-ільдзінак.

Праз гадзіну, перад вячэрай, Б.Г. пагрукаў у нумар Б Ц. Ніхто не азваўся. Б.Г націснуў на ручку і зайшоў у пакой, набрыняты ўстойлівым пахам дыму На пісьмовым стале ляжала некалькі пакамечаных старонак і стаяла попельніца, поўная недапалкаў Б.Г карцела разгарнуць старонкі, але ён стрымаўся, знізаў плячамі і падаўся на вячэру, упэўнены, што Б.Ц. сядзіць за сталом і без усялякага інтарэсу чытае меню на сняданак і абед. Але спадзяванні былі марнымі Б.Ц. на вячэры не было, і гэтая акалічнасць сапсавала апетыт Б.Г Ён пачаў нервавацца і доўга не мог вырашыць, якія стравы замовіць на заўтра.

Пасля вячэры Б.Г зазірнуў у цёмны пакой свайго знаёмца, а потым вярнуўся ў пустую рэстарацыю, дзе афіцыянткі прыбіралі посуд. Адна з жанчын з цікавасцю паглядзела на высокага, прыгожа апранутага Б.Г , а потым падміргнула.

– А ваш прыяцель у нашай кухні.

– Дзе?– зыркнуў на маладзіцу Б.Г.

– У бакоўцы, прама, а потым праз калідорчык направа.

У кухні смярдзела хлёркай і спаленай рыбай. Дзве павархі ў брудных, заплямленых халатах здзівіліся, калі заўважылі Б.Г

Ён прайшоў вузкім калідорчыкам і апынуўся перад дзвярыма, на якіх вісеў замок. Пачуўся жаночы смех. Б.Г намацаў дзвярную ручку і тарганyў

У маленькім пакойчыку, застаўленым скрынямі, за сталом сядзеў Б.Ц. са шклянкай і пляскатай бутэлькай у руках.

– Ой!– схамянулася жанчына.– Праходзьце, праходзьце да нас.

Б.Ц. задраў галаву, і востры кадык сутаргава кіўнуўся.

– Што ты тут робіш?

– Маўчы, бачыш, яна спалохалася – Б.Ц. паставіў на стол бутэльку і прапанаваў госцю сесці.

– І сапраўды, вы так нечакана,– вінавата прамовіла трыццацігадовая брунетка і паднялася са свайго месца. Яна была ці не ўдвая маладзейшая за мужчын, а таму адразу разгубілася.

– Даруйце, яго не было на вячэры. .

– І ты спалохаўся .– перапыніў госця Б.Ц.– Я тут – не хвалюйся. Ведаеш, што я думаю... З кожным годам прыгожых жанчын усё больш і больш.

– Канешне, так, так,– гучна пагадзіўся госць.

– І яшчэ . Жанчын, у якіх святло ў вачах, усё менш і менш, а таму і паэтаў менш і менш. У паэтаў вочы, як у мёртвай рыбы· халодныя, цьмяныя, як у жанчын, і гэта жахліва.

Кінь, супакойся – Брунетка падняла шклянку і зірнула ў твар Б.Ц.

– Даруй, у тваіх вачах агонь не згас.

Б Г паглядзеў на жанчыну і зразумеў, што Б.Ц. не памыляецца. У вачах трыццацігадовай афіцыянткі і сапраўды было нешта мяккае і гарачае Ён зглынуў сліну і адразу ж раззлаваўся на Б.Ц. .

«Курва!»– падумаў ён пра свайго таварыша і афіцыянтку адначасова.

Два дні мужчыны не сустракаліся. Афіцыянтка ўсміхалася, калі бачыла Б.Г., але не размаўляла, яна абслугоўвала іншыя столікі. Нумар Б.Ц. быў замкнёны, а сам гаспадар у рэстарацыі не з'яўляўся.

На трэці дзень мужчыны сустрэліся ў вестыбюлі і як заўсёды, быццам нічога не здарылася, пайшлі на шпацыр.

Было халодна і суха. Паветра аж звінела. Дыхалася лёгка. Адразу за дзвярыма Б.Ц. спыніўся і пачаў запальваць цыгарэту Кволы агеньчык дрыжаў у ракаўцы далоняў

– І што, яна лепшая за іншых?– Б.Г. наставіў каўнер.

– Лепшая, горшая, ты не пра тое гаворыш. Яна маладая, ёй хочацца, яна не стамілася.

Мужчыны дайшлі да бетоннай пляцоўкі, бліскучай і слізкай Было неверагодна ціха. Рака маўчала Пад нагамі звонка храбусцеў лёд.

– Ты задаволены жыццём?– схаваў за абыякавасцю цікаўнасць Б.Г.

– Задаволены,– спакойна адказаў Б Ц. і наблізіўся да краю пляцоўкі.

Строма была вышэйшая, як пяціпавярховы дом. Б.Ц. трымаў рукі за спінаю і ўглядаўся ў далягляд, прамаляваны халодным паветрам За яго спінаю ценькнуў лёд.

Б.Г з усяе моцы ўдарыў Б.Ц. у спіну і адскочыў назад. Краявід здрыгануўся і застаўся нязменным Бліскучы край пляцоўкі, тонка прамаляваны далягляд.

– Усё,– прашаптаў высокі мужчына.– Ён сам паслізнуўся, было так коўзка...

Б.Г асцярожна наблізіўся да краю пляцоўкі і зірнуў пад строму І тут яго сэрца сціснулася ад халоднага жаху .

Б.Ц. у сваім цёмным паліто ляцеў над бліскучай стужкай замерзлай ракі. Ляцеў павольна, паўтараў усе павароты, і яго лёгкі цень слізгацеў па празрыстым, як бутэлечнае шкло, лёдзе.

# ПЁТАР І СЫН

Прайшоў спорны жнівеньскі дождж з бліскавіцамі і глухімі хрыпатымі грымотамі Яблыневы сад маўкліва зазіраў у расчыненыя вокны дома Цяжкія нізкія хмары павольна сплылі на ўсход, і выглянула сонца. Зазіхацелі ў вечаровых бурштынавых промнях вымытыя дажджом буйныя яблыкі, раскінулі свае чуйныя пялёсткі ружовыя ды белыя мальвы. Абцяжаранае дажджом і пладамі галлё ледзь заўважна пахіствалася, рыпелі падпоркі. Пад дрэвамі стаялі ў траве кошыкі і вёдры з сабранымі гаспадаром ападкамі Ціўкалі і пераляталі з галіны на галіну натапыраныя пасля дажджу вераб'і.

На прасторнай верандзе пілі, закусвалі ды няспешна гаманілі Пётар з сынам. Бацька не хаваў радасці ад сустрэчы з Анатолем, ён расчуліўся і час ад часу, тоячыся, рукавом вайсковай кашулі выціраў ярка-сінія, валошкавыя вочы

– От зноў тытунь вочы есць, каб яго. .– хаваючы сапраўдную прычыну, казаў Пётар і адварочваўся, каб сын не бачыў слёзаў

– А вы, тата, пакаштуйце маю,– прапаноўваў Анатоль, пагладжваў рэдзенькія вусікі і падсоўваў на рог стала цупкі пачак цыгарэт. – Яны, тата, мякчэйшыя .

Пётар дужай цёмнай далонню змёў з цыраты парушынку попелу

– Ай не, сынок, дзякуй, у мяне ад цывільных адно кашаль,– пабухкаў у кулак бацька і з удзячнасцю паглядзеў на сына, а потым на вабны стракаты пачак і зграбную бліскучую запальнічку.

Пакаштуйце, пакаштуйце, што іх шкадаваць. .

– А ведаеш, я выйшаў на досвітку ў двор і аж спалохаўся, такі туман– нават пальца не відаць. Вярнуўся і маці кажу, што, відаць, Анатоль цягніком прыедзе, ноччу... Каб жа яна ведала, дык не пайшла б да сястры

– Лётаюць самалёты, тата, толькі плаці, ды ў горадзе туману і не было, здаецца.

– А тут быў, нізка ж, лагчына, сапраўдны, як па восені,– стаў тлумачыць Пётар, пазіраючы на бутэльку гарэлкі, якую прывёз сын.

– Гляджу – яблыкі добрыя,– сказаў Анатоль, спрытна падхапіў бутэльку і разліў па чарках.

Пётар па-гаспадарску агледзеў сад, пабеленыя камлі старых яблынь, галіны ў зіхоткіх кроплях і ўрачыста падняў чарку

– Даўно такога не было, каб на ўсіх дрэвах ды так густа. Падпорак аж не хапіла, давялося ў лес ездзіць тры разы,– сказаў Пётар і кульнуў чарку Потым падхапіў кавалачак ружовай паляндвіцы, скрылёк памідора і пачаў смачна жаваць.

Анатоль таксама выпіў, але замест таго каб закусіць, адкінуўся на спінку крэсла, выцягнуў з пачка доўгую цыгарэту, пстрыкнуў запальнічкай і зацягнуўся.

– Галоўнае, каб навальніцы, ветру ды градабою не было, а то ўся праца кату пад хвост пойдзе.– Пётар паклаў на талерку відэлец і прыгладзіў сіваватыя валасы.

Анатоль паліў і пазіраў на вершаліны яблынь, на бурштынавы сонечны шар, які нетаропка, урачыста хіліўся да захаду. На яго твары было задавальненне, ён мружыў валошкавыя вочы і стоена пасміхаўся, слухаючы бацьку

– Даўно такога ўраджаю не было. Пятнаццаць скрыняў наліву здалі з маці.

– Куды?

– Як куды? На вінзавод, вядома. А вось штрыфель думаем завезці ды прадаць.

Анатоль перавёў позірк на рупліва дагледжаны агарод, на парнік, на доўгія грады і кучаравыя кусты памідораў ды гуркоў.

– Добра ў вас тут. . – Ён крыху памаўчаў.– А я ішоў вуліцай, дык ні ў кога такіх яблыкаў не бачыў

Пётар успрыняў словы сына як пахвальбу Яго валошкавыя вочы на бронзавым памаладзелым твары зазіхацелі яшчэ ярчэй

– Ды адкуль у іх, гультаёў, што будзе Сад жа, сынок, даглядаць трэба, гадаваць. Хадзіць за дрэвамі, як за тымі малымі дзецьмі, глядзець. Падразаць па вясне ды па восені, абкопваць, гной падкладаць, тады і будзе што





– Памятаю, памятаю,– пасміхнуўся і падміргнуў бацьку Анатоль,– выкідалі мы з табой гной па восені з хлява, дык ты мне нагу віламі прапароў

– Ну бывае, не згадвай благое,– лагодна сказаў Пётар.

– Ды гэта я так.

Пётар падаўся да сына, абапёрся на стол і загаварыў цішэй, так, нібыта іх падслухоўваюць.

– Ведаеш, Толік, а я ўжо дошачак на пілараме замовіў, габлюшак нацягаў, цвічкоў назапасіў, скрынь нараблю-намайструю, а ў канцы жніўня здымем увесь штрыфель і завязу прадам, усё капейка добрая будзе Яблыкі ж гэтым годам слабыя, ніякія, толькі ў нас і ўрадзіліся, у цане будуць.

– Правільна, тата, кажаце, нашто ж нам столькі

– Каб жа ж ты толькі бачыў, як ён цвіў-буяў, што снегам быў засыпаны, а пчолкі гудуць-шумяць, кветак было мора.. І туман не пабіў, і вусень не аб'еў ..– задуменна прашаптаў Пётар і зірнуў на бутэльку

Сын перахапіў позірк і разліў па чарках.

– За ўсё добрае,– падняў сваю Пётар.

– За вас, тата, за вашу працавітасць.

Пасля таго як выпілі, Пётар не стрываў

– Ну, сынок, давай тваю адну спорчу, відаць, дарагія.– Пётар асцярожна выцягнуў цыгарэту з пачка, уважліва агледзеў – Амерыканская

– Амерыканская, амерыканская, тата, семнаццаць нашых,– пстрыкнуў запальнічкай Анатоль.

На цыгарэце заставаліся цёмныя сляды ад потных пальцаў Пятра. Ён глыбока зацягваўся і па-дзіцячы пускаў блакітны духмяны дым праз нос.

– Цукеркамі нібыта пахнуць,– гледзячы на шэры цыліндрык попелу, сказаў Пётар, але слабаватыя.

– Нічога сабе цыгарэты, ёсць і лепшыя,– удакладніў сын

– А мы з маці падумалі, калі добра яблыкі прададуцца, то купім табе, Толік, скураную куртку, а сабе каляровы тэлевізар

Сын нічога не адказаў. Пётар ашчадна зацягваўся, але па яго твары было відаць, што цягарэта яму не падабаецца.

– Ну давайце, тата, па апошняй,– прапанаваў Анатоль.

– Чаму гэта па апошняй?– Пётар расціснуў кароценькі недапалак, які пачаў апякаць пальцы – Можам дабавіць, калі што, мы ж дома, каго баяцца. Толькі ты, сынок, закусвай

Пётар, пакуль Анатоль разліваў гарэлку, накалоў на відэлец лустачку сала з цёмнымі бурачковымі праслойкамі мяса і падаў сыну.

Яны чокнуліся і выпілі

– Добра ідзе сталічная,– выдыхнуў Пётар.

– А што гэта, цвіль ці што?– скрывіўся Анатоль і паднёс да вачэй відэлец з вэнджаным салам.

– Што ты, сынок, крыўдзіш, не можа быць, пакажы!

Пётар падаўся праз стол да сына Той паднёс відэлец да бацькавага твару і з усяе сілы дзеўбануў у вока

– Цвіль! Цвіль!– закрычаў Анатоль, гледзячы на перакошаны болем і сутаргай бацькаў твар

Бурштынавае сонца павольна завальвалася за абцяжараныя пладамі дрэвы.

# ПАГАВОРЫМ

Гаспадыня трохпакаёўкі зірнула на гадзіннік, потым на пліту У духоўцы апетытна сквірчэла, патрэсквала Чысцюткую і светлую кухню праціналі промні, зіхацелі на вымытым посудзе, на пластыку, ззялі і плавіліся ў тонкім шкле высокіх келіхаў, раставалі ў пукатым гарлачы, поўным гатаванай вады. Густы водар пірагоў з грыбамі і мясам надаваў усяму святочны настрой Жанчына акуратна прысела на край канапкі, разгладзіла складкі шаўковай спадніцы, зняла і павесіла на спінку крэсла фартух у дробныя кветачкі

Яна была ў чаравіках на высокіх тонкіх абцасах, у бялюткай карункавай кашулі Чорныя ў атрамант валасы былі гладка прычасаны і схоплены на патыліцы касцяным грабеньчыкам У вушах паблісквалі завушніцы з зялёнымі, пад колер вачэй, каменьчыкамі, па шыі збягаў залаты ланцужок, а зграбны крыжык хаваўся пад карункамі. Рэгіна каторы раз прыдзірліва агледзелася, папраўіла півоні ў крышталёвай вазе, ад дотыку жаночых рук адзін ружовы пялёстак упаў на белы абрус. Рэгіна ўзяла яго кончыкамі пальцаў, паднесла да вачэй, а потым паднялася і выкінула ў сметніцу. Абышла кватэру, паўсюль была чысціня і парадак, але не тая, якую робяць знарок, на свята, а па ўсім было відаць, што ў гэтай кватэры заўсёды так чыста і светла, утульна і ціха.

Калі стрэлкі гадзінніка зліліся ў адну чорную рысу і на імгненне застылі ў наструнёнай непахіснасці– ажыў званок– тройчы меладычна блямкнуў і змоўк.

Рэгіна прайшла ў перадпакой, на імгненне спынілася перад люстэркам, абцягнула сукенку, папраўіла спружынку локана, які пахістваўся каля скроні, падміргнула свайму адлюстраванню: дагледжанай, прывабнай трыццаціпяцігадовай прыгажуні, якая ведае сабе цану А потым знарок расшпіліла яшчэ два маленькія маціцовыя гузікі.

– Вось так будзе лепш,– сказала сама сабе, скінула ланцужок і павярнула ключ

У парозе стаяла невысокая жанчына ў пацёртых блакітных джынсах і швэдары з высокім каўняром Яе дробны вастраносы тварык крывіўся, а вочы за шкельцамі акуляраў выдавалі вялізнымі, як сподкі, поўныя гарбаты.

– Праходзьце,– прахалодна-ветліва прапанавала Рэгіна і саступіла, збочыла.

Жанчына апусціла коратка пастрыжаную галаву і нерашуча ўвайшла ў кватэру. Яна трымала ў руках доўгі страката-вясёлкавы парасон і колькі імгненняў вагалася, бо не магла вырашыць, што з ім рабіць.

– Давайце пакінем яго тут.– Рэгіна ўзяла парасон і паставіла пад люстэрка, побач з шафай

– Вы Рэгіна Мікалаеўна?– сцвердзіла і адначасова спытала госця.

– Так, гэта я, а вы Алена. .– атрымалася паўза.

– Алена Міхайлаўна,– прыйшла на дапамогу госця; па тым, як яна гэта сказала, было відаць, што яе рэдка калі звалі па бацьку.

Рэгіна прыдзірліва і можа крыху грэбліва, але з прыязнай усмешкай агледзела жанчыну-падлетка, якая падалася бездапаможнай і разгубленай Алена адказала такім жа позіркам, адно без усмешкі.

– Вы прыгожая,– сказала госця без зайздрасці.

– І не кажыце,– паціснула плячыма Рэгіна і на імгненне разгубілася ад шчырасці жанчыны-падлетка.– Праходзьце Не скідайце абутку.

– Нам трэба пагаварыць,– ужо ў кухні нервова сказала госця і папраўіла каўнер швэдара. Яе маленькія, не схопленыя станікам грудзі ўзняліся.

Рэгіна гэта заўважыла, і яе поўныя, падмаляваныя вусны раскрыліся пялёсткамі півоні.

На стале з'явіліся крышталёвыя чаракі на высокіх танюткіх ножках, з шоргатам і трэскам распакаваўся пачак цукерак, з лядоўні гаспадыня дастала сподак з тонка пакроеным, амаль празрыстым лімонам. Бутэлька каньяку стала апошняй кропкай і бадай самай важкай.

– За знаёмства,– сказала Рэгіна і паспрабавала зазірнуць у вочы сваёй госці. Але яе позірк, як па тонкім лёдзе, адно слізгануў і не змог прабіцца да цёмна-бурштынавых, амаль каньячных вачэй.

Алена падняла сваю чарачку і зрабіла маленькі глыток, такі маленькі, што колькасць напою не зменшылася. Рэгіна выпіла адразу і наліла сабе яшчэ.

– Частуйцеся Цукеркі, лімон, а потым я згатую каву.

– Дзякуй

Госця памаўчала, а потым рашуча, адным глытком дапіла каньяк. Тое ж самае зрабіла і гаспадыня.

– А дзе вашы дзеці?– спытала, як спатыкнулася Алена.

– У маіх бацькоў. Навошта ім усё гэта бачыць.

– Так, так.

Рэгіна перахапіла позірк Алены і наліла.

– Я ж не звер які люты... Я чалавек, жанчына, маці. . Пакуль усё добра – пра бяду не думаеш. Я разумею... Мы з ім розныя. Стасік ціхі, спакойны, заняты сваімі справамі. . Усё было на мне: дом, дзеці. Вось кватэру нарэшце атрымалі, толькі і жыць... Я ўсё разумею... Ён вучоны, дысертацыю напісаў, а я хто? Дзеці падраслі, і тут такое... Ён сказаў, што сыходзіць, што ўсё скончылася Мяне як варам абдало, слова мовіць не магла. Сказаў, што сустрэў каханне, пра якое можна толькі марыць... Ён жа дома цвіка забіць не можа, а тут закахаўся. Я адразу зразумела, што гэта сур'ёзна.

Алена падняла сваю чарку і адным глытком пракаўтнула каньяк, так, як п'юць лекі, горкія, але неабходныя. На яе твары з'явіліся ружовыя плямы, а потым з-пад акуляраў пабеглі па шчоках слёзы, рот скрывіўся.

– А што мне з таго... Адна засталася, нікому не пажадаю, але лёс мой, відаць, такі Гары яно ўсё гарам, такое каханне. Не пара мы з ім. Я хто – ветэрынар на санстанцыі, ён фізік, вучоны

– Супакойцеся, ціха папрасіла Алена і паклала сваю далонь на цёплыя пальцы Рэгіны.

– Даруй, не стрывала.. А ведаеш?. У яго ж страўнік хворы, язва па восені адкрылася Я і травы яму запарвала і ежу гатавала, каб на працу насіў. Баялася, каб рака не было. Стасеў брат родны за месяц згарэў, з'еў яго рак... Дзякуй Богу, абышлося ўсё, па вясне праверылі– язва зарубцавалася, як не было, доктар здзівіўся, не паверыў

– Ведаю, Рэгіна, ведаю. – з сумам і болем выдыхнула Алена.

– Вось так, такія справы Вось яно жыццё, як павярнулася, выкруцілася.

– Кахаю я Станіслава, даўно кахаю,– прамовіла Алена і па выразу яе дробнага тварыка стала зразумела, што ёй зрабілася лягчэй, што яна сказала самае галоўнае, тое, дзеля чаго прыйшла.

– Я яго не трымаю... Дзяцей шкада. Вялікія ўжо. Не ведаю, як ім сказаць-растлумачыць.

– Яны могуць прыходзіць, калі заўгодна, я ж не супраць,– Алена ўзяла цукерку і надкусіла

Густы чырвоны лікёр пабег па пальцах і цяжкай кропляй упаў на белы абрус.

Жанчыны яшчэ доўга гаварылі і пілі маленькімі чарачкамі каньяк. Іх вочы былі вільготнымі і пачырванелымі ад слёз, пальцы перапэцканыя ліпкім вішнёвым лікёрам

Рэгіна расказвала пра сваю працу, пра тое, што з самае раніцы ставіць пячаткі на мяса і выдае даведкі на гандаль. Гаварыла пра мужчын, якія ліпнуць да яе, як тыя мухі, а яна адно думае пра сваё няўдалае жыццё

– Калі мы пазнаёміліся – я ж была прыгожая, неразумная, звычайная местачковая дзяўчына.

– Ой, ты і зараз прыгожая,– не стрывала госця і перапыніла гаспадыню

– Цяпер усё, я, як тая кветка, адкрасавала і звяла, адно можа водар застаўся А ты маладая, разумная..

Чаракі звонка пацалаваліся, каньяк пераліўся праз краі.

Давай каву згатуем,– прапанавала Алена.

– Калі ласка, гатуй,– махнула рукой Рэгіна і расплакалася.

Пад каву жанчыны дапілі каньяк. Алена зірнула на вялікі мужчынскі гадзіннік на тонкім запясці і пачала збірацца.

Яны развіталіся, як старыя сяброўкі, адно не абняліся ў парозе і не дамовіліся пра наступную сустрэчу

– Я і не думала, што ты такая разумная, такая чулая, такая... Павер, я не хацела.

– Не трэба мяне суцяшаць, не трэба

Дзверы зачыніліся, шчоўкнуў замок, ланцужок заняў сваё месца. Твар Рэгіны імгненна змяніўся Яна зірнула на сваё адлюстраванне З фацэтнага шкла пазірала незнаёмая жанчына.

– Сучка Не будзе па-твойму,– працадзіла скрозь зубы Рэгіна – Яна не хацела. . Не ха-це-ла Ха! Сучка!

Рэгіна з цокатам высокіх абцасаў увайшла ў кухню, спынілася перад сталом.

Белы абрус у кроплях цёмнага лікёру, надкусаныя цукеркі, чаракі з чырвонымі ад памады краямі. Яна схапіла абрус за край і сцягнула ўсё на падлогу .. Раскрыла лядоўню, з маразільніка выцягнула чорную цэлафанавую торбу і паставіла на чысты стол Прысела і з шоргатам і шамаценнем пачала разгортваць цэлафан На стале з'явілася заінелая мужчынская галава.

Рэгіна правяла далонню па рэдкіх папяловых валасах, потым сціснула мужаву галаву ў далонях, прыўзняла і пацалавала ў цвёрды халодны рот.

– Ні-ко-му я ця-бе не ад-дам, ні-ко-му!

На вуснах жанчыны зіхацела колькі вялікіх і халодных кропель.

У кухні ўтульна пахла півонямі і пірагамі з грыбамі і мясам.

# Бэла ХАМВАШ



*...З усіх людзей, якіх я на працягу жыцця ведаў, Бэла Хамваш найбольш заслугоўваў азначэння «мудрэц».*

Дж. Чорба







# СОН

Многія любяць спаць, многія падрэмваць, гэтак лунаючы між спаннем і няспаннем Ды нямногія бачаць сны Што праўда, у снах малавата прыемнага. Але заўжды ёсць нешта ад містэрыі Юнг, сучасны выкладчык ведаў у гэтай галіне, навучыў нас паважліва ставіцца да прыснёнага, бо ў снах досвед значна больш Часам сны – нават паэзія Ці рэлігія. А можа, тое і другое

Мне прыснілася: ранняе дасвецце. Я знаходжуся ў нейкай замкнёнай прасторы Усведамляю, што гэта пчальнік, а разам і майстэрня Да такой высновы прыходжу, заўважыўшы рэчы і прылады, якія скарыстоўваюцца ў пчалярстве Толькі-толькі пачынае развідняцца. А каля стала пры акне хтосьці нешта робіць. Ён стаіць, павернуты ў профіль, я аблічча ягонага не бачу выразна. Але па тым, як рухаецца, пазірае, падымае руку, асабліва, як трымае галаву, а ў рэшце рэшт па тым, што знаходзіцца тут, я непасрэдна ўпэўніваюся, што пчаляр – Ён.

Ён узводзіць руку і расчыняе акно. А звонку перад акном сабралася безліч кволых, шкляністых, але надзвычай мяккіх і чуллівых, істотаў, якія быццам бы створаны з нечага дрыгністага і своеасабліва лётаюць. Велічынёю ў дробны блінок, на двух крылцах – нешта ад матылька, нешта ад птаха – яны бязгучна залятаюць у памяшканне Я ведаю, што гэта душы. І пчаляр акно расчыніў спецыяльна дзеля таго, каб упусціць да сябе душы, якія сабраліся тут за ноч.

Затым Ён пераходзіць да супрацьлеглай сцяны, дзе размешчаны шэрагі дзверцаў, за якімі ці то вуллі, ці то печы Усярэдзіне цёмна, нічога не відаць, але адчуваецца наяўнасць там нейкай электрычнай цеплыні. Душы нябожчыкаў спачываюць у гэтых вуллях ці печах і праходзяць адпаведнае таямнічае пераўвасабленне, каб маглі потым зноў вярнуцца на зямлю.

Новапрыбыўшыя душы размяркоўваюцца па вуллях. Навідавоку, што яны ў знемозе. Некаторыя напружваюць астатнюю сілу, каб дапнуцца прытулку А Ён сочыць за ўсімі з той неапісальнай бязмежнай цярплівасцю, якая, уласна, і ёсць Ён.

Пасля таго, як душы заляцелі, Ён няспешна зачыняе дзверцы печаў. Перад апошнімі дзверцамі затрымліваецца, раздумвае, потым глыбока запускае руку ў вулей і шукае нешта. Вымае адну душу, падносіць да акна і разглядае.

Адсюль у жыццё душы накіроўваюцца, нібыта, прыгожыя, дыяментна-светлыя, празрыстыя і зіхотка-чыстыя – такія, як сонечна ясная душа малога дзіцяці. А вось сюды ўсе прыбываюць у стане разгубленасці, разбітасці. Мяккія, далікатныя, дрыгністыя, крыштальныя, празрыстыя, птахааблічныя цёплыя малыя душы, якія могуць зіхацець колерамі вясёлкі, вяртаючыся з жыцця, да пчаляра трапляюць разбітымі, запэцканымі і бляклымі. Дзе-якія і дарэшты бруднымі, цьмянымі.

Пчаляр трымае ў руцэ душу, якую выняў з вулля. Тая, небарака, аддыхваецца

# БЭЛА ХАМВАШ – ТВОРЦА, ЯКОГА ЯШЧЭ ТРЭБА АДКРЫЦЬ,

## альбо АЛЬТЭРНАТЫЎНЫ ПОГЛЯД НА СВЕТ *(Фрагмент)*

**Хоць жыццёвы шлях творцы не вытлумачвае ягоных твораў, сам па сабе жыццяпіс можа быць характэрны для адпаведнай эпохі, апроч таго можа прадухіліць і дзе-якія памылкі ў разуменні твораў. Таму не лішне прывесці шэраг звестак пра Хамваша, тым болей, што гэта яшчэ не дастаткова прызнаная асоба нават у сябе на радзіме.**

**Нараджаны Бэла Хамваш 23 сакавіка 1897 года на тэрыторыі тагачаснай Венгрыі ў Эпер'ешы (цяпер Прэшаў, Славакія). Бацька Ёжаф – пратэстанцкі святар, выкладчык венгерскай і нямецкай моў і літаратур, займаўся літаратурнай працай; і маці не пазбаўлена мастацкай адоранасці; у сям'і, апроч сына, было яшчэ тры дачкі. Неўзабаве пераехалі ў Пожань (Браціславу), дзе бацька пачаў выкладаць у пратэстанцкім ліцэі. Юны Бэла ўспрымаў школу як катаргу, аднак любіў музыку, займаўся кампазіцыяй, апантана чытаў. У адзінаццаць гадоў, на канікулах, ездзіў з бацькам у Парыж і ў Мюнхен. Гэта адзіны выпадак ягонага выезду на Захад. Матуру здаў у 1915 годзе. Запісаўся ў кадэцкую школу і ўсяго праз некалькі**

спакваля, яшчэ не зусім усведамляючы таямнічае пераўвасабленне, якое ў ёй адбылося і адбываецца. Яна досыць брудная Відавочна, гэта душа з цяперашняй эпохі Мне пра гэта ніхто не кажа, але ў сне чалавек шмат чаго разумее і без дадатковых тлумачэнняў Пчаляр доўга глядзіць, ківае галавою, урэшце кажа. «Гаротніца, табе ўжо і вяртацца хутка, час надыходзіць, а ты ўсё ніяк не акрыяеш Калі ж даастатку ачысцішся?»

Пасля гэтага асцярожна вяртае душу ў вулей і зачыняе яго

# ЛЮСТЭРКА

## Славалюбнасць і самалюбнасць

Кажуць, чалавек адрозніваецца ад іншых істотаў прыроды тым, што ён самалюбны. Тэза няправільная Кожнай істоце гэта ўласціва Больш таго, у чалавека быццам бы нават меней, як у жывёлаў, самалюбнасці. Бадай, не таму, што ён лепшы, а таму, што дурнейшы. Лепш гэтак: таму, што самалюбнасць жывёлы цвярозая і пільная Яшчэ лепш· бо гэтая самалюбнасць аб'ектыўная. І чалавек жадае, каб тое, што робіць, яму было карысна. Ды «зусім малая колькасць людзей мае дастаткова розуму на тое, каб быць самалюбнымі». Эгаізм чалавека, трэба прызнаць, наўрад ці карысны. Чаму? Таму што не цвярозы і не пільны, г.зн. ён суб'ектыўны

Чалавек ад астатніх істотаў у прыродзе адрозніваецца не тым, што ён самалюбны, а тым, што суб'ектыўны. Жывёльны эгаізм ёсць бесстаронні, у гэткай нават меры, што пра яго можна сказаць: эгаізм без зацікаўленасці. Ён без інтарэсу, таму што безасабовы Асоба ж наносіць шкоду і прыроднай самалюбнасці чалавека. У яго бракуе розуму, каб магчы сапраўды быць самалюбным Пільнасць і цвярозасць гасяцца ў ягонай зацікаўленасці. Нішто па-за ім самім не цікавіць чалавека. «Толькі на тое адчуванні маю, што мяне складае»,– кажа адзін французскі паэт. Чалавек шукае не выгоды, а сябе самога. Таму ён не бесстаронні. Humano par excellence – не самалюбнасць, а славалюбнасць. Свет – люстэрка.

Толькі сябе самога хоча ды імкнецца бачыць чалавек і таму адзіна сябе самога здольны бачыць. Блакітным ёсць неба, але блакіт гэты – ён сам. Калі ён некага палюбіць, дык любіць надуманы варыянт сябе самога. Бачыць не свет, а свае выявы. У яго няма адносінаў да рэчаіснасці, ёсць да самога сябе. Ён знаходзіцца перад люстэркам і так жыве

Люстэрка – нішто іншае як вугал, заняты адносна свету Становішча жывёлы такое, што яна сябе ставіць між існых рэчаў, сваё Я змяшчае ў свет. Нават і не вылучае з свету, а пакідае ў ім Таму свет жывёлы – асяроддзе. Свет чалавека –люстэрка Бо ён сябе вылучыў з рэчаў і заняў становішча, пункт гледжання на свет, каб прамень погляду

**месяцаў апынуўся спачатку на ўкраінскім, а потым на італьянскім франтах. Двойчы паранены, але значна цяжэй перажыў псіхічны крах: нервовы зрыў і шпіталь. Адмовіўся прыняць ваенныя ўзнагароды. Распад Аўстра-Венгрыі, рэвалюцыйныя падзеі і ўтварэнне новых дзяржаў з новымі межамі. Сям'я вымушана была пакінуць Браціславу, Чэхаславакію, таму што бацька адмовіўся даваць прысягу новастворанай дзяржаве. Дэталь, на цяперашні час не ўсім зразумелая, хоць безумоўна значная для сям'і Хамвашаў і для таго часу. Справа ў тым, што бацька, прысягнуўшы былой дзяржаве, паводле тагачаснага разумення маральных абавязкаў, не мог адмяняць сам прысягу ранейшую, каб некаму даць другую. Перабраліся ў Пешт, дзе Бэла на працягу 1919 –1923 гадоў вывучаў венгерскую і нямецкую мовы і літаратуры, цікавячыся таксама іншымі прадметамі – наведвае лекцыі па філасофіі, эстэтыцы, музыцы, нават па медыцыне. Прагна знаёміцца з творамі сусветнай літаратуры і філасофіі не толькі сучасных аўтараў, але і даўнейшых, ажно да містыкаў. Спрабуе зарабляць на хлеб журналістыкай, але потым кідае. З большай ахвотаю займаецца агародніцтвам, гандлюючы сам і на рынку. Нягледзячы на тое, што мае ўжо публікацыі ў часопісах, сталай працы сабе не знаходзіць ажно да 1927 года, калі ўдаецца атрымаць сціплую пасаду бібліятэкара ў Пешце, на якой, плённа скарыстоўваючы доступ да кніг дзеля новых сваіх прац, застаецца да 1948 года. Чытае і чытае, а таксама піша. Праблему адзіноты, недахопу сяброў-суразмоўнікаў спрабуе вырашыць утварэннем гуртка**





пераломваўся і адбіваўся ад паверхні рэчаў Таму чалавек замест рэчаў заўсёды бачыць сябе Аб'ектыўнасць жывёлы ёсць не што іншае, як аб'ектыўна прыняты лад паводзінаў, спосаб трымацца, чалавекава ж суб'ектыўнасць – той касы вугал, які ён бярэ ў адносінах да свету Тое, што чалавек пад такім вуглом можа бачыць, ёсць адзіна ягонае адлюстраванне Сітуацыя чалавека ў свеце –люстэрка

## Маска

Можна было б падумаць, што чалавек выбраў такі вугал люстэрка і пазіцыю, каб больш бачыць. Улічваючы, што глядзіць ён не на свет і не здольны бачыць нічога акрамя сябе самога, дык, адпаведна, глыбей зазірае, перспектыва ў яго глыбейшая і багацейшая Можа, гэта і лепш – ён так бачыць дакладней і болей Ды гэта не так.

Люстэрка ёсць, уласна, тое, што вока прыпыняе на нечым, пра што ніводная істота ў свеце нічога не ведае Уся прырода, схаваная ад сябе самой. Ніхто не можа ўглядзецца ў свае вочы. Ды люстэрка – не вочная стаўка чалавека з самім сабою. Наадварот Істота сябе тады бачыць, калі яна размяшчаецца ў свеце проста, бесстаронна, цвяроза. Бачыць сябе тады, калі, уласна, не бачыць. Тады ён пад прамым вуглом. Тады ўсярэдзіне. Гэта касмічнае ўгнежджванне істотаў у прыродзе – выразна і праўдзіва бачыць свет, адпаведна ж гэтаксама бачыць сябе.

Люстэрка бярэцца пад скошаным вуглом, і адбітае ў ім –не Я, а маска. Маска – гэта не Я, не Ты. Не чалавек і не свет Знаходзіцца між імі, але не на прамой лініі, змешчана ўскос, у накірунку адбітай лініі Кепства люстэрка не ў тым, што яно падманнае, а ў тым, што бясплоднае Адпаведна, яно бясплоднае не таму, што падманнае, а падманнае таму, што бясплоднае

Кажуць. «Ісціна таксама абылганай можа быць». Таму што выказанае чалавекам можа быць ісцінай толькі тады, калі адкрываецца. Што б я ні казаў, калі гэтым прыкрываюся, я лгу. І ісціну магу скарыстаць так, што яна для мяне будзе абалонкаю. Цяпер, калі чалавек кажа: «І хлусню магу скарыстоўваць, каб з яе дапамогаю ўвесці ў зман», я ведаю, што такое маска.

Славалюбнасць датычыцца не самога чалавека, а маскі. Агульнавядома, што чалавек існуе толькі тады, калі знікла маска. Між тым, маска дарагая – даражэйшая за чалавека. Бо чалавек дарэмны, а за маску трэба плаціць. Дарэмны? – Так: непадкрэслена, проста, чыста і цвяроза Трэба плаціць? – Так: мусова пакінуць непадкрэсленасць, прастату, чысціню, цвярозасць. Праз гэта маска даражэйшая і праз гэта яна патрэбная Бо нямала каштуе Яна пагляднейшая, хлуслівейшая, жывейшая, багацейшая, уразлівейшая Гэта тое, што называецца праўдаю маскі Праўда маскі дачыненне мае не да таго, што выказвае, бо выказвае яна хлусню, а да таго, што хавае, бо хавае яна ісціну.

**«Востраў» і заснаваннем аднайменнага часопіса (выйшла ўсяго тры нумары) сумесна з Каралем Кэрані, вядомым спецыялістам па міфалогіі. Але гэтая справа працягвалася нядоўга, як і першы шлюб, што пасля сямігадовых пакутаў скончыўся разводам.**

**У трыццатыя гады Хамваш працуе вельмі плённа – піша рэцэнзіі, артыкулы, эсэ, змяшчаючы іх у газеты, часопісы, альманахі. У 1937 годзе ён бярэ шлюб з Каталінай Кемень... (Цяпер яна захавальніца і каментатар непублікаванай рукапіснай спадчыны Бэлы Хамваша.)**

**Вайна. Хамваша тройчы мабілізуюць. У 1942 годзе ў складзе венгерскага кантынгенту ён апынаецца на рускім фронце. Перад баямі за вызваленне Будапешта вайсковае падраздзяленне, у якім ён служыў, перадыслацыруецца. А Хамваш становіцца ваенным дэзерцірам у акружаным горадзе. «Год 1945. Будапешт вызвалены, але дом Хамваша разам з бібліятэкай, рукапісамі, з усімі прыкметнымі вынікамі папярэдняга жыцця разнесла бомба», – піша К.Кемень. Старанна збіраныя кнігі, спецыяльная літаратура, падрыхтаваныя ўжо рукапісы, нататкі і выпіскі «на наступныя 500 гадоў працы» – усё ператварылася ў пыл і попел. З плёну некалькіх дзесяцігоддзяў літаратурнай і навуковай актыўнасці засталося толькі тое, што друкавалася раней – кніга эсэ «Нябачнае здзяйсненне» (1943) і прыкладна 250 меншых-большых тэкстаў, якія публікаваліся газетамі і часопісамі.**

**Адпаведна свайму разуменню свету, з пакорлівасцю філосафа, які глядзіць на свет у цэлым і з вялікай перспектывы, без адчування трагедыі, з пэўнай самаіроніяй ацэньваю-**

## Разбіванне люстэрка

Перад люстэркам стаіць той, хто не здольны бачыць штосьці апроч сябе. Але бачыць ён не сябе, а маску Бо люстэрка адбівае не ісціну, а хлусню.

Маска ж – не бог, а ідал. З-за гэтага лёс чалавека, які ў выніку ёсць не што іншае, як увасабленне арганічнага жыцця ў боскіх плоскасці і прасторы, накіроўваецца якраз у супрацілеглы бок ад таго, куды меўся ад пачатку. Славалюбнасць – не абагаўленне, а штосьці адваротнае Маска ёсць ідал, ілжывы бог. Скрозь прывід боскага, адпаведна, скрозь прывід чалавечы Ды што такое прывід чалавечы? – Паводзіны, якімі чалавек вылучаецца з прыроднага парадку рэчаў і таму застаецца самотны і суб'ектыўны Адсюль славалюбнасць humano par ekselans. У славалюбнасці чалавек прымае ўсе прывіды абагаўлення, а тут усё застаецца як прывід і маска. Выява боства без боства. Ідал І гэта маска ў люстэрку, што вяртае погляд чалавеку.

Славалюбства знікае не ў славалюбстве, а на ступень ніжэй. Люстэрка застаецца. Увесь час паказвае і будзе паказваць маску. І хто б ні паглядзеўся ў люстэрка, заўжды будзе бачыць тое, што бачыць. Гэта жахлівая іронія ўладкавання свету: пакінута рэчам і людзям быць такімі, якія ёсць, і жыць усім такім лёсам, які абралі. Няма папярэджанняў, направак. Нават горш: усе пакінуты ў стане, каб і не заўважалі, як у іх з-пад ног знікае грунт Чалавек прападае не ад славалюбнасці, а з-за сутнасці становішча, занятага ў адносінах да самога сябе Адпаведна, не праз тое, да чаго адносіцца, а на ступень глыбей· становіцца лжывы не паводле таго, што бачыць альбо думае, нібыта бачыць вочы ў вочы, а паводле таго, як успрымае ўбачанае Таму ніколі з славалюбнасці не дойдзе да таго, што чалавек стане славалюбны. Той, хто кажа. «Я не славалюбны», сваёй славалюбнасці нават не кранае, ён яе хавае, а значыць, ілжэ. Такі чалавек не бывае адкрыты і пахіснуты славалюбнасцю, бо свет яму і надалей не забараняе глядзець у люстэрка гэтулькі і гэтак, як хоча, і не забараняе хлусіць. Свет ніколі не скіне маскі з чалавека. Ён павінен распасціся разам з маскаю, павінен прапасці ў масцы і на масцы Знішчэнне закранае не маску, а тое, што за маскаю: ісціну Бо ісціна аддзяляе хлусню. Знішчана будзе не тое, што хавала аблічча, а самое аблічча, што хавалася. А гэта зноў ісціна маскі маска застаецца ісцінай, далей падманвае. Нават і тады, калі за ёю ўжо нічога няма.

Ці можна стаяць так, каб промні не пераломваліся і не адбіваліся? Так, каб погляд проста сягаў скрозь прастору і дасягаў таго, на што скіраваны. Так, каб чалавек бачыў скрозь люстэрка? Якая магчымасць у чалавека бачыць наскрозь, прычым так, каб промні ягонага погляду закраналі не адлюстраванне ягонай маскі, а свет? Ці абавязкова разбіваць люстэрка?

Яшчэ, апошні раз: ісціна маскі Усё застаецца так, як было, і такое, якое ёсць. Становішча чалавека ў свеце мяняецца толькі ў адным выпадку: толькі тады ён можа стаць пад прамым вуглом і можа апынуцца сярод рэчаў, калі разаб'е, ды не люстэрка,

**чы знішчаныя рукапісы, Хамваш усё пачынае зноўку. І выяўляе неверагодную актыўнасць, незвычайную пасля высілкаў у адзіноце. Умовы краіны пасля вызвалення патрабавалі кампенсацыі ўсяго таго, што раней было прапушчана, каб наталіць прагу чытачоў, якія не маглі атрымліваць самага лепшага і самага каштоўнага з сусветнай літаратуры. І асабіста Хамвашу патрэбныя былі большыя магчымасці ў публікацыі сваіх твораў. Таму ён ангажыруецца, каб у выдавецкай дзейнасці нагнаць адставанне ад свету – распачынае выданне бібліятэчкі, якая б прадстаўляла творы філасофіі, прыродазнаўчых і грамадскіх навук, тэорыі мастацтва, псіхалогіі; рыхтуе анталогію сусветнай літаратуры. Складае праект «Сто кніг» сусветнай літаратуры, ад старажытнай кітайскай да сучаснай (захаваліся толькі вельмі сціслыя нататкі пра кожны запланаваны том, але і яны ўяўляюць значную каштоўнасць). Прапаноўвае Дзёрдзю Лукачу, каб узяў удзел і дапамог у выбары кніг для выдання. Атрымлівае адказ, што такія кнігі магчыма будзе выдаць хіба праз дваццаць гадоў. Ягоная, напісаная ў суаўтарстве з жонкаю, К.Кемень, кніга «Рэвалюцыя ў мастацтве, абстракцыя і сюррэалізм у Венгрыі» (1947) натыкаецца на непрыманне (Дз.Лукач) і вострыя закіды. Раней Хамваша не прымалі колы рэакцыянераў і клерыкалаў, цяпер адштурхоўваў супрацьлеглы бок. У хуткім часе была праведзена нацыяналізацыя выдавецкіх установаў, 1948 год – якраз пачатак сталінісцкай эпохі ў Венгрыі. Хамвашавы серыйныя выданні забаронены, перапынены,**





а тое, што знаходзіцца ў люстэрку – ідала. Маска таму праўдзівая, што ісціна залежыць ад яе. Свет толькі тады можа стаць бачным, калі чалавек убачыць бога, а не ідала. Вось чаму Мантэнь піша. «Il faut oster le masque aussi bien des choses que des personnes» – трэба скінуць маскі з людзей і з рэчаў.

# ДОСЫЦЬ ГЭТЫХ АХВЯРАЎ

*(Аналіз сакральнага)*

Малому паляку, народжанаму ў канцы мая тысяча дзевяцьсот сорак першага года, цяпер дваццаць гадоў Бацькоў ягоных забілі ў імя нейкай праўды, а немаўля ў сене, у хляве засталося. Карчмару не хапіла духу прапароць яго віламі, хоць потым ён не ведаў, каяцца за гэта ці не каяцца.

Аднойчы ў цягніку я бачыў такі твар. Страх таіўся ў вачах: ці то нападаць, а ці ўцякаць, гатоўнасць да таго і да другога. Вочы тыя больш не баяліся, яны ўтароплена чакалі. Ніколі я не бачыў больш няёмкага чакання: думаю, чакалі яны Месію і здзіўляліся, чаму ж ён не з'явіўся, калі, паводле іхніх дакладных разлікаў, ужо даўно павінен быць тут Людзі іх не цікавілі, краявіды тым менш. Хлапчук не зважаў на тое, што вакол яго, не пазіраў у акно. Ён упёр рукі ў лаву, сеў на іх і пагойдваўся, ды не дзеля забавы, а, бадай, каб хоць неяк падганяць час. У школу ён, відавочна, не хадзіў, навучацца рамяству не браўся і ніколі не возьмецца. Рэчы для яго значэння не маюць. Пра будучыню ён не задумваецца, сям'ю не створыць, дом не збудуе, пра маёмасць не клапоціцца і ні да чаго акрэсленага не імкнецца. Ніхто яго не любіў і ён не любіць нікога, за адным, хіба, выключэннем.

Праз гэтага хлапчука я згадаў таго паляка, што жыве каля Брэста, пад блакітным небам, сярод хвояў і варон. Ды паляк яшчэ самотнейшы. Магчыма, не ведае нават, што такое чыгунка, ведае толькі, што такое голад, вошы і рызманы. У сям'і карчмара, дзе ён гадаваўся, ставіліся да яго не горш, чым да сваіх дзяцей, але ён быў у цяжар. Мы тут цяпер усе адзін аднаму ў цяжар. Ужо і нянавісці няма, адна толькі прыкрасць, прыкрасць. Дзіця ведае, калі яно замінае, і таму большасць дзяцей хоча прыносіць карысць. Быць лепшымі, як раней. Так з'яўляюцца кар'ерысты. Яны паслухмяныя, выдатныя вучні і ўзорныя грамадзяне. І толькі ў крайніх выпадках бунтаўнікі.

Разнеслася вестка, што прыйшлі вайскоўцы, неістотна, у якіх шапках, назганялі шмат вясковага люду, сабралі на падворку карчмы, бо ў яе былі высокія сцены. А потым павялі ў бок лесу Не вярнуўся адтуль ніхто. Расказваючы, карчмарова жонка брала такі тон, які паказаў, што яна добрая

Вельмі цяжкія суадносіны нябесных целаў на канец мая тысяча дзевяцьсот сорак

**знішчаны нават ужо падрыхтаваныя кнігі. І сам ён страчвае пасаду бібліятэкара. Застаецца без працы і без магчымасці друкавацца.**

**Надыходзіць самы цяжкі і самы плённы перыяд жыцця Хамваша. Ён спрабуе адысці ў цень, перабіраецца ў лясную хаціну, там займаецца землеробствам, наймаецца ў падзёншчыкі. Але пры ўсім гэтым узвышаецца над падзеямі дня і нават сваёй эпохі: нягледзячы на такія ўмовы (цяжкія нястачы!), ён умее знайсці раўнавагу, а то і перавагу, становішча, у якім апынуўся. Пачынае рэалізоўваць свае даўнія планы і задумы – піша. Такая адасобленасць, незалежнасць ад усіх і ўсяго – нездзяйснядьная і да таго ж падазроная сама па сабе ў сістэме, дзе калектыў узняты над жыццём, а тым болей над індывідам, дзе ідэалам становіцца уніфармаванасць. Каб захіліцца ад падазрэнняў з боку ўладаў, Хамваш афіцыйна рэгіструецца як «земляроб» і апрацоўвае агарод сваяка ў Сентандрэі.**

**Мы яшчэ і не ведаем усяго, што напісаў ён за той час. Здаецца, уратаваны-такі (відаць, быў у кагосьці на руках, чытаўся) рукапіс ранняга перыяду, прысвечаны духоўнай традыцыі чалавецтва «Scientia sacra». А тым часам ствараюцца «Unicornis. Фрагмент па тэорыі рамана» (1948), вялікі раман «Карнавал» (1948 –1951), «Silentium» (1949), «Tabula smaragdina».**

**Але неўзабаве аказваецца, што і «статус селяніна» цяжка захаваць. Хамваш «актывізуецца» і – у далечыні ад Будапешта, ад бібліятэк – працуе чорнарабочым, а пазней кладаўшчыком, заўгасам будоўлі электрастанцыі на Верхняй Цісе. «На выхадны прыяз-**

першага года. З тых, хто нарадзіўся ў крытычную гэтую пару, ведаю, некаторыя паміралі ад невядомых хвароб як немаўляты. Пэўна, не маглі вытрываць. Тады была залатая кан'юнкцыя ў сузор'і Быка, а вакол яго – вялікі стэліум Гэта такая магчымасць выкіду канцэнтраванага шаленства, што мы толькі цяпер пачынаем разумець, калі ўжо позна і калі рыхтуемся да яшчэ большых магчымасцяў. Людзі, у той час народжаныя, не здольны радавацца, але і шмат пакутаваць таксама. Яны пры нараджэнні перажываюць такое ўзрушэнне, што не ведаюць нічога іншага, як толькі чакаць палёгкі ад нябесных сілаў. Бо яны ж існуюць? А чаго можна хацець ад іх? Ёсць дастаткова моцныя людзі, але ніхто не ведае, што важна. А што ведаюць? Што трэба сцерагчыся, каб не адступіцца, але той, хто сцеражэцца адступніцтва, ужо адступаецца.

Залатая кан'юнкцыя – гэта сустрэча Юпітэра з Сатурнам, гэта, уласна, канстэляцыя Месіі, вядомы дом у час нараджэння Хрыста ў знаку Рыбаў склаў выразную апазіцыю пункту нараджэння і апынуўся пад дзевяноста градусамі адносна лініі Сонца – Месяц. Правільны крыж. Месія – істота, якая ўвасабляецца з вельмі высокіх сфераў і якой вядома тое, што чалавеку недаступна.

Залатая кан'юнкцыя ёсць канстэляцыя ахвяры Нечуваны знак пытання, бо калі чалавек вытрывае ў ахвяры, ён нічога не атрымлівае ад жыцця, але яму належыць слава. А калі ён усё ж такі імкнецца да шчасця, моцы, голасу, павінен здрадзіць ахвяры, і атрымае ўсё, чаго хоча, ды славу страціць і ў высокія сферы, з якіх увасабляўся, ніколі не зможа вярнуцца.

Тады сустрэча ахоплівала стэліум Меркурыя, Венеры, Марса і Урана Сусветнае значэнне выяўляецца, калі паглядзець, што адбылося ў другой чвэрці сорак першага года. Войны супраць сербаў, грэкаў, напады на Крыт, Афрыку і Расію. Хто не ўсведамляе, што гэта шаленства, выкліча сумненне ў сябе самога наконт поўнага розуму.

Свет у непапраўным стане пагібелі. Гэта недвухсэнсоўна можа пацвярджацца не паводле таго, што чыніцца зло, а паводле таго, як верыцца ў зло. Паводле спадзявання ў поспех зла, з чым людзі не толькі змірыліся, але і радуюцца агіднай радасцю, і лыпаюць вачыма, і адпаведным тонам канстатуюць: рэальнасць. Бясплённы любы захад з намаганнямі прадухіліць катастрофу. Пра яе толькі гавораць. Чаго хочуць? Спраў.

Пры спробах спасцігнуць розумам канчатковы вынік на пэўным этапе, якраз там, дзе ўзнікала разуменне, мозг заўжды спыняўся. Не як залева. Не як агонь. Не, як кажуць, звонку. Гэта ад чалавека, які б мог спыніць усё ў перадапошні момант. Дык не Эфектыўная супрацьсіла паскоранай пагібелі знаходзіцца ў кожнай руцэ і не скарыстоўваецца. Няма больш кону Няма надзеі. Ёсць толькі тое, што робіцца, і яго вынікі. Чалавек спачатку пераадольваў моц вонкавых сілаў, тым самым здабываючы веды на ўтаймаванне сябе самога. Толькі б зразумець. Толькі інтэлектам, замест таго, каб усёй істотай. Толькі б усвядоміць, а не здзейсніць. Справы, заўжды справы.

Майсей у пустыні хацеў паставіць шацёр Гасподні і абвясціў, каб усе неслі, што могуць. І зносілі шмат аксаміту, шоўку, золата, срэбра. Нарэшце Майсей сказаў

**джае дахаты, мяняе кнігі, а ў панядзелак раніцою вяртаецца з цяжкім рукзаком. На працягу больш як дзесяці гадоў досвіткамі і познімі вечарамі ён піша там значнейшыя свае творы, з пункту гледжання як аб`ёму, так і вартасці ў спадчыне» (К.Кемень). Тады ствараецца двухтомны «Patmos».**

**Калі адпрацавана тое, што патрабавалася дзеля мінімальнай пенсіі, Хамваш пакідае будоўлю. У шэсцьдзесят сем гадоў... «Вяртаецца да свайго нязменна ўлюбёнага занятку – працы ў садзе. Абрэзка дрэў – яшчэ два раманы, падвязка вінаграду – і яшчэ адзін зборнік эсэ, а пасля гэтага зацішша. Свой апошні твор, што тады рыхтаваўся, «Scientia aeterna», Хамваш пакінуў у нататках, мабыць таму, што ўім самім гэтак аформлены быў твор, які ўзнік з матэрыі чалавечага жыцця, гэта быццам бы канчатковая форма таго, што прападае, так што няма сэнсу яго дапісваць» (К.Кемень). А потым яшчэ з`явіліся раманы «Сільвестар», «У адпаведным гледжанні», «Менавіта». З таго самага перыяду паходзіць і зборнік эсэ «Патаемны пратакол».**

**Смерць надышла 7 лістапада 1968 года.**

**Першыя тэксты Хамваш апублікаваў у 1919 годзе. Праніклівыя чытачы ўжо тады маглі заўважыць неардынарнага пісьменніка і мысляра. Ды калі з'явілася першая кніга, хоць ёй папярэднічалі публікацыі на некалькі кніг, Хамвашу было ўжо сорак сем гадоў. І гэтая першая самастойная кніга, «Нябачнае здзяйсненне» (1943), выйшла не ў лепшы час, таму і не дзіва, што засталася недастаткова прыкмечанай; а зрэшты, яна і глыбінна**





нецярплівыя і сярдзіта· «Хопіць гэтых ахвяраў». Вызначальнае – нешта, што не рэч. Так жанчына ахвотней аддае сваё цела, каб не аддаваць сябе Найлягчэй нешта за грошы выкупіць, а сябе самога цалкам для сябе захаваць. Людзі не адкрываюцца адзін аднаму, і цешацца жыццём сваім самі ўпотай Нікому нічога. Знайсці куток цёмны і там усё аднаму высмактаць. Адзінае, што б магло прыпыніць пагібель –адзінае, але здзяйсненне яго вымагае ахвяраў, і ад яго вымушаны адмаўляцца. Толькі не адмаўляцца. Нікому не хочацца, і таму хваля пры хвалі ўсё горш. Кожны адцягвае за сабою ўсіх астатніх. Спыніцца? Ніхто не жадае. Чаго менавіта яму? І чаму якраз цяпер?

Чуваць было, што людзі гавораць пра здарэнні, бо людзі не гавораць ні пра што іншае, акрамя як пра здарэнні. Каго забралі. Каго забілі. Не стала бульбы Хлеб кепскі, але пазаўтра і такога не будзе. Ужо прыбываюць. Якія? Чаго? Гэтае ліха не можа нават здзейсніцца, яно распачалося толькі дзеля таго, каб быць надзейна загубленым.

Можа, кепска толькі з-за таго, што не ведаем, што ж такі адбываецца. Бадай, перспектывы; калі хтосьці ведае перспектывы, адразу становіцца лепш. Поспех. Ды ведаем мы, што адбываецца, вельмі добра ведаем, бо ведаюць якраз тыя, хто дачынны. Заўжды застаецца нейкая малюсенькая іскрыначка, што не ўсё бессэнсоўна. Хто ведае? Нешта заўсёды перашкаджае, каб усё было адкінута. Можа, ён – баязлівец, і не адважваецца вывесці ўсе вынікі. Можа, не бачыць выразна. Можна дапусціць, што ўсё гэта –толькі падахвочванне?

Увесь час, пакуль нехта проста трымаецца праўды, ён паводзіць сябе як мага цішэй, сціплей, нешматслоўней. А як толькі пачне хлусіць, набывае фенаменальнае красамоўства, словы ў яго вірують, і ён штукарствамі ды пышнай красамоўнасцю апраўдвае сябе. Неспадзявана становіцца дасціпны, натхнёны, з багаццем доказаў і пераканаўчай сілай голасу.

Нічога істапраўднага немагчыма ўсвядоміць, апроч таго, што я – гэта я.

Калі гэты змрочны час ёсць конавы і калі ён неадменны, адзінае, што я магу зрабіць – захаваць чысціню свайго жыцця. Гэта бясспрэчна, як смерць. Калі ёсць выйсце, дык яно хіба ў тым, што асабістай чысцінёй заклікаецца чысціня свету. Гэта яшчэ болей бясспрэчна.

Чалавек страціў адчуванне важнасці. Якія ахвяры толькі за самое жыццё! А колькі прыніжэнняў за кавалак ежы. Колькі здрадніцтва. Канец? Ды так і гэтак – усё адно. Кажуць, нібыта жыццё за ўсё мацнейшае і найдалей сягае. Сапраўды Але як! Вернасць краіне мае сэнс толькі да таго, пакуль яна не стане помстаю таму, што большае за жыццё. Калі нехта зведае, што такое боль за жыццё, прападзе не гэтае наджыццёвае, а жыццё. Праз гэта любы кампраміс неразумны. Любая ахвяра, якую чалавек дае проста за жыццё, гнюсная. Нікому не прызнаю кампетэнтнасці ў пытаннях жыцця, апроч Збавіцеля. Ні ад прыніжэння, ні ад безуважнасці, ні ад пагарды, ні ад кпінаў, ні ад голаду, ні ад страты волі, ні ад галечы, ні ад вошай не пакутую так, як ад сваёй хлусні.

Але тое, што складае маё «я» – гэта не я, а самастойная істота, якая жыве ў аслабленай незалежнасці, гэта хтосьці прыродны, але няма непрыроднейшага за яго.

**супрацьпастаўлялася свайму часу. Адразу пасля вайны Хамваш захапіўся больш думкамі пра абнаўленне грамадства і культуры, як пра публікацыю сваіх тэкстаў і выданне іх кнігамі. Пры ўсёй занятасці выдавецкімі праектамі і перакладамі з розных моў (грэчаскай, моў Далёкага Усходу), ён усё ж такі падрыхтаваў разам з К.Кемень кнігу «Рэвалюцыя ў мастацтве, абстракцыя і сюррэалізм у Венгрыі» (1947) – выданне, якое яму непасрэдна створыць цяжкасці, ведучы ў нязноснае і безвыходнае становішча. За тыя гады Хамваш здолеў надрукаваць яшчэ некалькі эсэ. А вось з 1947 года актыўны літаратар і мысляр не змог надрукаваць ані слова; і водгукам на ягоную творчасць было глухое маўчанне. Ён дваццаць гадоў яшчэ будзе ствараць на поўную сілу, пакуль смерць надыдзе, а за гэты час у друку не з'явіцца нічога. І пра яго таксама не пісалася, не магло: Бэлы Хамваша, як быццам, не існавала. На самым пачатку шасцідзесятых гадоў выдадзенае першае пасляваеннае даведачнае выданне («Новы венгерскі лексікон», 1960) артыкула пра Бэлу Хамваша не змяшчае. Няма тэкстаў пра яго і ў шасцітомнай гісторыі венгерскай літаратуры (1964 – 1966). Сціплая нататка ёсць толькі ў «Венгерскім літаратурным лексіконе» таго перыяду.**

**Маўчанне будзе працягвацца і пасля Хамвашавай смерці, якая, дарэчы, таксама ніяк не адзначана. І ў рэшце рэшт толькі праз амаль сорак гадоў (Пешт, 1985) выйдзе другая самастойная кніга Бэлы Хамваша – ягоны першы раман «Карнавал». У тым самым годзе часопіс «Літаратура» апублікаваў аб`ёмную Хамвашаву працу**

Я ніколі яго не прыму, ды і ні на міг не адважуся ад яго адрачыся. Я ў наканаванай роспачы ад ягонай непапраўнасці, а яшчэ ж патрэбны і сталы кантроль, бо ён ператворыцца ў кар`ерыста альбо пачне зайздросціць дыктатарам. Які цуд, што гэтае «я» не можа без мяне; я – люстэрка для яго, яно – люстэрка для мяне, мы бачныя адно ў адным, беспамылкова і неаддзельна; і я мушу яго прыняць, нягледзячы на тое, што хацеў бы ад яго вызваліцца, нашу яго з сабою за межы і выказваю асаблівую адданасць, хоць і не люблю. Не магу яму здрадзіць. Так сказана ў Евангеллі, і чалавек, задумаўшыся пра гэта, не здольны рабіць нічога, акрамя як перад Нябачным, Адзіна Жывым упасці ніц і загаласіць. Важна не тое, што будзе, а тое, што ёсць. Тут праз гэта павінен кожны прайсці, каб туды трапіць. Куды? Кожная душа павінна паспытаць мяса, як сказаў апостал. Важна толькі, каб чалавек без здрады свету кінуў адзін-адзіны погляд на абетаваную зямлю хоць бы з яе межаў. Супраць таго, што ёсць, ён не пратэстуе. Не прыспешвае канец пагібелі, ды і не стрымлівае яго. Важныя не гады, а цяжар цемры, што прыціскае чалавека. Тут, аднак, не можа быць палёгкі і не павінна яе быць, гэта прыналежнасць пагібелі. Ці то бязглуздая добразычлівасць, ці то канец свету, але найгорш разумным быць. Кожнаму трэба аддаць ягонае, а д`яблу нічога.

Няма сэнсу давяраць камусьці важныя справы, калі ён не адпавядае патрабаванням. Без карысці навучанне, адукацыя, школа, кнігі. Велізарныя намаганні я прыклаў, набіраючыся гэтай жахлівай інфармаванасці ў неістотнасці.

Не ўсведамлялася, што такое пустая састарэлая ранейшая навука, нудная, быццам раманы Золя, і што такое новая, больш дзёрзкая, якая аддана служыць жахлівым марам і тэрору, але ўжо існуе і навейшая за яе, толькі навука, і ёй мы аддадзены, нягледзячы ні на што, разам з нашым адзіным жыццём Рэчы. Не ўсвядомлена, што такое мастацтва, ці то старое, ці то новае, з ягонай рафінаванай разбэшчанасцю. І што такое вера, якая не можа нічога, акрамя як ныць. І што такое думкі, якія прыдумаліся з-за таго, што хваравітыя. Зноў рэчы. Што гэта за свет? Розум ёсць таямніца. Куды ён вядзе? Нікога не шануе той, хто не здатны ні на што іншае, як толькі весці разлік пра тое, што яму не належыць. Чаравікі, адзенне – хіба яны мае? Глядзіш у кардонную скрынку, дзе кашуля, шкарпэткі, насоўка, мыла Маё? Не трэба. Апроч сябе, няма нікога і няма нічога. Ды найлепш у чаканні. З пустымі рукамі, і нічога патрэбнага. Ён чакае. Рэчы яму не патрэбны. Чаканне – калі няма яшчэ рэчаў, але і няма таго, чаго чакаеш. Нават грахам сваім не аддадзены, і гэта яму не належыць. Зваліліся яму на галаву, гэтаксама, як тыя лжэбацькі, тая карчма, хлеў, праца і мыла. Бадай, пакуль чалавек тут, не бачна, што грэх – паняцце істоты, якая, усё вызначаючы, не разумее нічога, нікога, нават мухі. Не ўмее сябе паставіць у сцерпныя адносіны з светам, бо той цяжар, які прыціскае свет,–не гравітацыя, а грэх чалавека, і каб дасягнуць чысціні, усё трэба адкінуць, усё, нават жыццё, нават здавальненне. Не застаецца нічога іншага, апроч намаганняў усталяваць нябеснае царства.

Гэта дзіўнае непаразуменне – дапамагаць іншым, тады як мне самому патрэбна дапамога, весці гаворкі пра чысціню, у той час як сам я чысціні не маю. Ні слова не

**«Фрагменты па тэорыі рамана», якая пісалася адначасова, а дакладней, непасрэдна перад раманам «Карнавал».**

**Насуперак спадзяванням прыхільнікаў творчасці Бэлы Хамваша, буйныя «афіцыйныя» выдавецтвы ніяк не адважваліся друкаваць усю спадчыну гэтага аўтара. Толькі драбнейшыя, «альтэрнатыўныя», выдаўцы паспрабавалі задаволіць цікавасць чытачоў. Бадай, 1987 год мог стаць пераломным. Якнія дзевяностыя ўгодкі Хамвашавы. Тады выйшла ў свет другое выданне ягоных эсэ пад назваю «Дух і экзістэнцыя» (Пешт) – кніга, што ўключыла тэксты, якія друкаваліся ў часопісах з 1938 па 1947 год, а таксама аб`ёмную штудыю К.Кемень. Прыводзяцца там і ўспаміны аднаго з рэдактараў, паэта Дж.Чорбы: «...Лічу, што з усіх людзей, якіх я на працягу жыцця ведаў, Бэла Хамваш найбольш заслугоўваў азначэння «мудрэц». Я заўсёды ў ім бачыў нейкага Сакрата 20 стагоддзя. Па-першае, з-за ягонай бадзёрасці разумення жыцця, здольнасці ўзняцца над рэчамі і ўмення глядзець на іх з нейкай надчасавай ураўнаважанасцю; а па-другое, з прычыны зусім неверагоднай плённасці ягонага мыслення. За ўсім гэтым хавалася не толькі рэдкая духоўная сіла, але і велізарная адукаванасць. На якую б тэму ні зайшла гаворка – пра літаратуру, музыку, жывапіс – Бэла Хамваш лёгка імправізаваў невялікія лекцыі. І не падаючы звесткі даведнікаў, а нязменна са сваім арыгінальным падыходам. Рэальнасць жыцця ён любіў гэтаксама, як і свет думкі».**

**У тым самым годзе выйшла кніга «33 эсэ Бэлы Хамваша» з выдатным падборам вядомых раней твораў 1934–1984 гадоў.**





прамаўляць, толькі чакаць. Велічнасць Бога ў тым, што ён не рэч, ніяк не рэч, і няўлоўны, і нябачны, не падлягае вылічэнню і недасяжны, і не прымусовы, і не машынальны, і не падманны, і не адчужаны; а той, хто застанецца ў рэчах, ніколі да яго не паспее, той яго ніколі не прадчуе нават Сутнасць рэчаў у тым, што яны парожнія. Улада рэчаў Падпарадкаванне нічому Цямніца, створаная тут, называецца светам. Жах ад думкі, што з'явішся ў гэты свет як добры чалавек, а тым больш як святы. Гэта яшчэ цяжэй, як быць багатым Гэта недарэчнае і аблуднае вераванне. Чалавек і не здольны ні на што іншае, як толькі схавацца і праглынуць сябе самога, прагна і паспешліва. Кар'ерызмам дасягнуць шчасця нябеснага. Быць добрым. Фу. І рай – цямніца, зняволенне шчаслівых, з усім унутраным і вонкавым камфортам, з нязменнымі паслугамі асалоды, а пры гэтым і з чыстым сумленнем Каласальны лагер, дзе сервіруюцца рэчы. Чалавек гарыць у нікчэмнасці Падпарадкавацца рэчам, потым спасылацца на сям'ю і на дзяцей, што трэба ж неяк жыць, злачынствы чыніць з бруднай адданасцю краіне і людству Дзіўна. Чаму рэальнасць называецца містэрыяй і чаму чалавек, які спазнаў рэальнасць, называецца містычным? Ніхто не можа адкупіць такое, пакуль сам ты не будзеш чысты – а тады?

# ДРЭВЫ

*(Дзева)*

Калі ад чыгуначнай станцыі рушыць да Провы, у даліне Хадашэр, якая зялёнай застаецца нават у самыя засушлівыя леты, на ўсходнім адкосе можна ўбачыць некалькі бярозак. Між іншых, усярэдзіне, знаходзіцца хоць і не большая за астатнія, але такая, што ў вочы кідаецца найперш; настолькі яна прыкметная, што чалавек, яе ўгледзеўшы, толькі праз пэўны час заўважае, што там яшчэ дрэвы ёсць, а дакладней, што няма, бо іншыя дрэвы інакшыя

Бярозка тая, уласна, не дрэва, а кветка. Што ёсць мараль кветкі? Квітненне Лагоднай усмешкай раскрыцца свету Вось толькі б чалавек меў сотню вачэй, каб мог усё гэта бачыць.

Калі хтосьці кажа, што бяроза дзявоцкая, ён, бадай, памыляецца. Больш дакладна было б часам, вельмі рэдка, пра маладое свежае дзяўчо сказаць, што яно бярозападобнае. Гэткае ж гонкае, гэтаксама зіхаціць расою, такое простае і светлае, што наблізіцца да яго можна толькі праз адно – пяшчоту Яно цнатлівае Абсалютна не ў тым крыўдна імаральным значэнні, якое прапаноўвае філасофія маралі, і не ў тым груба ірэальным сэнсе, якім карыстаюцца медыкі Цнатлівасць – гэта не фізіялагічны стан, ён не залежыць ад якіх бы ні было зменаў Там, дзе цнатлівасць ёсць, яе немагчыма адабраць, немагчыма страціць. Хіба можна страчваць у каханні? Страчваюць якраз

**А самым значным адкрыццём стала выданне пад адной вокладкай трох зборнікаў эсэ – «Silentium», «Патаемны пратакол», «Unicornis». Усё паводле рукапісаў, упершыню друкавалася, ды, на жаль, без інфармацыі пра тэксты.**

**Адзін толькі часопіс «Наша жыццё» (Eletunk) У Самбатэі выдатна адзначыў дзевяностагоддзе з дня нараджэння пісьменніка, прысвяціўшы яму цалкам вераснёўскі нумар. Там надрукаваны тры новыя эсэ, некалькі Хамвашу прысвечаных вершаў (адзін з іх напісаны вядомым Шандарам Верашам, на якога ўплываў Бэла Хамваш), нізка артыкулаў пра Хамвашаву творчасць, а таксама ўразлівыя фотаздымкі, што даюць уяўленне пра Хамваша і ягоную эпоху. Ненатольны голад чытачоў выявіўся ў той акалічнасці, што рэдакцыя неўзабаве мусіла рэпрынтна перавыдаць нумар; зацікаўлены, аўтар гэтых радкоў таксама звярнуўся з просьбаю выдзеліць асобнік, ды так і не змог яго атрымаць. У згаданым часопісе друкуецца верш Гезы Сеча «... І не такія» разам з невялічкай нататкаю; абодва тэксты вартыя перакладу і ўвагі тых, хто нешта ведае пра лёс Бэлы Хамваша:**

**... І НЕ ТАКІЯ**

*Прысвячаецца Адысею і Бэлу Хамвашу*

**1. Не было абавязкова есці лотас.**

**2. Але выгодна было есці лотас.**

**3. Коса глядзелі на таго, хто не еў лотасу.**

**4. Тады ж якраз і туга было з ежаю.**

**5. Так што дзень пры дні станавілася ўсё больш тых, хто брыдка паміраў маральна.**

тады, калі няма кахання. Цнатлівага кахання няма? Свежага і бесклапотнага. Простага і чыстага. Як бярозка. Няма слоў, такіх пяшчотных, як гнуткія галінкі? Няма рухаў, такіх далікатных, як бязгучнае трымценне лістоты? Няма абдымкаў, якія б нарасталі так, як бяроза вырастае з глебы? І тое цнатлівае каханне, тыя пяшчотныя словы, тая мілая ўсмешка немаўляці, тыя бярозападобныя абдымкі хіба не мараль кветкі? Расцвісці – хіба не значыць раскрыцца свету нямой беллю, заглыбіцца ў сваю чароўнасць, як зіхоткі прамень святла на гладкай паверхні вады?

Чысціня можа быць і цялесная Гэта няпраўда, што багі з мармуру, з цвёрдага, зіхоткага, белага каменю ажно да самай сярэдзіны. Сапраўдная цнатлівасць – не чысціня мармуру. Толькі жывое цела можа быць цнатлівае, тое, што дае чыстыя сокі, чыстыя повязі чыстую плоць, чыстую кроў, чыстыя валасы, чыстую скуру

*reines Herzens zu sein:*
*das ist das höchste, was Weise ersannen*
*und Weisere taten*

жыць з чыстым сэрцам, гэта тое, пра што мудрыя думаюць, а яшчэ мудрэйшыя робяць. Захаваць чысціню нараджэння, накарміць чысцінёю матчынага малака, пераняць чысціню твараў, якія ёй усміхаюцца, чысціню сонца, паветра, вады, хлеба, любові бліжняга, сваіх дзяцей, багоў і чысціню смерці Каб хто запытаўся, што такое нявіннасць, яна б паглядзела на таго, як птушка альбо зорка. А каб так глядзелі зямныя істоты, існавалі б толькі чыстыя сэрцы. Свет – празрысты, як шкло, толькі шкло гэтае мяккае, цёплае, жывое; такое жывое, што не вытрывала б, каб мы не ўсміхаліся Там, дзе ўзнікае, жыццё чыстае і любае – pleasure which there is in life itself – там асалода, якая ў жыцці самім. Не аддаліцца ад пачатку значыць застацца цнатлівым. Этрускі на знаках надмагільных сваім жонкам выбівалі кветкі – не імёны, не гады, не азначэнне стану, не што іншае Што кажа такі надмагільны камень? Тая, што спачыла тут, здольная была так, як мудрацы толькі думалі

# ГАЛАШЭННЕ

## 1.

Запісана галашэнне індзейскага племені, якое жыве ў джунглях Амазонкі. Усяго шэсць з паловаю тактаў. Калі сыграць на інструменце, яно нічога не ўяўляе Толькі чалавек можа надаць яму выраз. Але не з трэніраваным горлам і пастаўленым голасам Акультураная істота не прымае ні элементарнай чуласці, ні енку без артыкуляцыі. А галашэнне – і адно, і другое Гэтаксама, як і ўсё, што з джунгляў прыходзіць: такое ашаламляльна простае, што нават самым віртуозным артыстам хіба ў выключных выпадках паддаецца, і такое неачэсана грубае, як быццам жывёльнае. Без сумнення, існуе дасканаласць, створаная джунглямі, а пазней не дасягнутая нікім і ніколі Гэта элементарная чуласць. Між тым, чуласць такая ўмее толькі енчыць. Індзейскае галашэнне – касмічна манументальны неартыкуляваны енк. Гэта галасы якія чалавек прыглушае ў сабе, калі стане побач з нябожчыкам Цывілізаваны чалавек усхліпвае, ці плача, ці рыдае, ці прычытае А з індзейца без завады і непасрэдна вывяргаецца галашэнне Кожны можа пазнаць: гэта тое, што ўва мне таксама існуе, існавала, толькі я ўжо яго не здольны выразіць.



## 2.

Гук не ёсць матэрыял мастацтва, а калі ёсць, дык на той самы чын, як дрэва – матэрыял агню. Гук у музыцы гарыць, падобна, як слова ў песні гарыць, як колер на карціне гарыць. Мастацтва – гэта здольнасць падпальваць і распальваць матэрыял, каб ён запалымнеў Толькі своеасаблівым полымем Матэрыял агню – гук, колер, камень,– у гэтым полымі ўспыхваюць разам з агнём жыцця і смерці, хараства і бессмяротнасці.

Свет пачынае гарэць. Спярша ў агні жыцця, потым у агні душы, тады ў агні слова, у агні гуку, у агні колеру, у агні духу, у агні дабрыні, ісціны, радасці, болю, пакуты, смерці, бессмяротнасці

## 3.

У навейшы час гаворыцца, што мастацкі твор не ўзнікае без намеру. Намер называюць мастацкім жаданнем, Kunstwollen. Rigl, які ўвёў гэтае паняцце, лічыць яго прыдатным дзеля азначэння асноўнай сітуацыі, што папярэднічае мастацтву. Гатоўнасці, без якой немагчыма творчае здзяйсненне. Прадугледжваецца, што яе зыходны пункт у чалавеку Найперш трэба хацець. Нічога не адбываецца без намеру. Мастацкае жаданне ёсць суб'ектыўная рыса, гатоўнасць, намер, усведамленне мэты, планаванне Самы важны крок да мастацкага твора – крок псіхалагічны: хачу стварыць.

Калі нешта разбурае такую тэорыю, дык гэта музычнае праперажыванне Разбурае дашчэнту Бо ці то дзікун з Неандэртальскай даліны, ці то немаўля, пачуўшы плёскат ручая, гром, шавяленне ў вадасцёку, смех, свіст – хто б і што б ні чуў, ён ведае, што жыве ў музычным акіяне без берагоў, у буяным моры гукаў, гэтаксама, як жыве ў бурлівай бязмежнасці слоў, колераў, пахаў, красы, душы. Усё, што чуецца, ёсць музыка. Ад апафеозу арыі сапрана да рыпення варотаў. Гэты музычны акіян бушуе, ці лашчыць, ці раздражняе, ці ўсыпляе, а ў вушы чалавеку гамоніць, пяе, бубніць, грукае, звоніць.

**6. І бракавала, далібог, варыва з лотасу.**
**7. Таннай лотасавай гарэлкі таксама, яе пілі маральныя**
**беспарточнікі.**
**8. Высунуў галаву з-пад зямлі**
**зямны грэх, забыццё.**
**9. У сталоўцы Палконскай новабудоўлі**
**той, пра каго гаворка, адмовіўся ад лотасу.**
**10. Ніхто ўжо і ўвагі не звяртае на яго.**
**11. «Санкілоты і пачвары ад нараджэння, –**
**мармыча ён сам сабе, –**
**... народжаныя пачварна і пачварна змерлыя».**

*** Бэлу Хамвашу, чорнарабочаму ў Цісапалконі, які не забыўся яшчэ на той перыяд чалавецтва, калі нараджэнне, смерць, воля і веды ўспрымаліся толькі як чатыры пары года – ці чатыры паднябессі – аднаго адзінага слова; духоўнаму і маральнаму светачу і чысцільшчыку вокнаў, які пісаў так, як мора само з сабою размаўляе.**

**(У 1955 годзе ў Венгрыі жыў адзіны чалавек, які мог не толькі пагаварыць з Гераклітам, Будам, Лаа Цзы і Шэкспірам на матчынай мове кожнага з іх, але і паспрачацца з імі. Каб гэтыя чатыры прарокі чалавечага духу раптам прыляцелі ў Цісапалконі і звярнуліся да першага, які трапіўся, рабочага, а ім быў бы якраз Бэла Хамваш, ды потым тры ночы правялі ў размовах (днямі Хамвашу трэба было мяшаць тынкоўку, а госці, магчыма, дапамагалі б яму) – э, што б яны тады падумалі: калі ў гэтай краіне просты рабочы гэткі, дык якімі быць могуць адукаваныя людзі? Але, агледзеўшыся, усё б зразумелі.)**

**Дзеля паўнаты інфармацыі, можа, варта дадаць, што паэт Геза Сеч – венгр з Румыніі, які цяпер жыве на Захадзе.**

**Пра тое, як успрымаюцца, чытаюцца і вусна каменціруюцца тэксты Б.Хамваша, сведчыць таксама тая акалічнасць, што ў пешцкім часопісе «Новае пісьмо» (Uj irás) за снежань 1987 года тры паэты прапанавалі свае вершы па канцэптуальнай дамове, адным з агульных патрабаванняў якой было тое, што верш, апроч усяго, павінен уключаць два радкі, узятыя з твораў Бэлы Хамваша. (...)**

**З-за таго, што творы Хамваша не друкаваліся, з-за самога зместу гэтых твораў і маральнай трываласці іхняга аўтара, Хамваш стаў у нейкім сэнсе міфам; ён мае сваіх паклоннікаў, прыхільнікаў, даследчыкаў, захопленых папулярызатараў. Гэтым карыстаецца «самвыдат»: апроч некаторых ксеракопій рукапісаў да мяне дайшлі і даходзяць па меншай меры тры серыі (дзве з Будапешта і адна з Джэра), якія тыражуюць сістэматычна і распаўсюджваюць паасобныя творы Бэлы Хамваша невялікага аб'ёму (...) Такім чынам пашыраецца і культ Бэлы Хамваша; нягледзячы на тое, што афіцыйнага выдання збору няма, можа з часам аказацца, што Хамваш – якраз самы чытэльны пісьменнік. Хоць такое распаўсюджванне нясе і пэўную небяспеку – скажэнне тэкстаў, паўтарэнне памылак, дэфармацыя сэнсу; усё гэта ненаўмысна, але такая рэальнасць. Вось чаму неабходнае філалагічная надзейнае выданне, якое найлепш магла б здзейсніць Хамвашава ўдава – Каталіна Кемень.**

**Д-р Сава БАБІЧ**

*Пераклаў з сербскай*
*Іван ЧАРОТА.*

**4.**

На беразе мора, калі пачынаецца прылiў, хваля набяжыць на пясок, разальецца, выраўняецца і адступіць. Новая хваля набяжыць і таксама адступіць. Ды кожная пакідае свой след на пяску, лінію, куды яна сягнула. Гэта лінія хвалі, як тое, што засталося азначанае на пяску – хваля З далечыні і з першага погляду ўяўляецца, нібыта яна складае адзіную дугу ўздымаў і спадаў. Зблізку ж відаць, што вялікая акрэсленая дуга ўтворана мноствам меншых уздымаў і спадаў, але і меншыя складаюцца з многіх яшчэ меншых уздымаў і спадаў Вялікая хваля ёсць склад незлічоных дробных хвалек.

Калі чалавек у змроку, пры надыходзе прыліву, сядзіць на беразе, нічога не робячы, акрамя таго, што мора слухае, з такой увагаю, як слухаюць пад час канцэрта спевака альбо піяніста, альбо вольнага жаўрука, ён заўважыць, што лёгкі, пульсуючы гоман хваляў, іхнія парыўныя накаты, пенлівыя ўздыхі ўяўляюць сабою музыку багатую і глыбокую – як арганныя творы, сімфонія Моцарта альбо хор з «Пакутаў паводле Мацвея» І тады ён пачынае разумець на пяску запісаныя вялікія дугі, значэнне меншых выгінаў і яшчэ меншых уздымаў ды спадаў. Рыса перайтвараецца ў агучаную ноту. Ноту якой музыкі? Акіянскай музыкі. Хто яе можа выканаць? Акіян. Адна за адной находзяць хвалі, наступная сцірае папярэднюю. Мора імправізуе і не паўтараецца. Ніколі два разы не гучыць тое самае Запіша, змые, зноў запіша; шуміць, гудзе, бушуе зноў і яшчэ, набягае, супакойваецца, разліваецца; прыхлыне і адхлыне.

**5.**

Каб чалавек азваўся ў буяным свеце гукаў музыкай, падобнай да шапацення крылаў чайкі і поклічаў ветру сярод канатаў на мачтах, не патрэбна жаданне Тое, што патрабуецца, значна прасцейшае Каб мае вучні змоўклі, кажа евангеліст, каляні пачалі б енчыць. Вядома ж, для музыкі не патрэбны ніякія планы, намеры, усведамленне мэты, суб'ектыўная рыса. Наадварот, яны лішнія А патрэбнае – якісьці, задушлівы і моцны жах, нейкае надлюдскае і надзямное задушлівае дыханне Плач дзіцяці, аркестр, песня, гуканне самі па сабе ўяўляюць толькі кроплі музычнага акіяна. Калі чалавек слухае музыку, піша Гарвій, ён мае ўражанне, што гэта не справа пачуццёвага ўспрымання, а ўрачысты запавет, вестка з надлюдскога свету

**6.**

Усе ведаюць: шчаслівы чалавек не мае сваёй літаратуры. Не мае жывапісу, філасофіі, красамоўства Не мае і музыкі Гэта заўжды гора. Гожае гора. Упрыгожванне гора – і ёсць наогул мастацтва. Гэта нібы каменя енк. Усе творы мастацтва, ад хароў Эсхіла да сімфанічных паэм Стравінскага, любы гул машыны, бзыканне мухі, грукат цягніка, увесь акіян гукаў – такі енк. Гора ад таго, што вучні змоўклі

Чаму дзіця ў пялюшках змаўкае, калі яму заспяваюць? Чаму калоціцца дзікун, пачуўшы незнаёмы зык? Чаго чалавек сядзіць на канцэрце? Нашто прыслухоўваецца да вуркату і плёскату прыліваў, да шапатлівага подыху ветру? Чаму яго непасрэдна кранае кожная кропля з акіяна гукаў? Каменне.

Стэнлі піша, што, вандруючы па Конгу, параўнальна лёгка зносіў нэндзу, страх, голад, спёку, хваробы, атрутную жамяру. Аднак яго амаль да вар'яцтва даводзіла тое, што негрыцянскія вёскі адна адной тэлеграфавалі барабанным боем. Барабаны ўяўлялі сабою выдзеўбаныя калоды з напятай скурай Гучалі яны і ўдзень і ўначы глухім, аднастайным, цёмным рокатам, рэха йшло скрозь і няспынна Як толькі сціхалі ў адной вёсцы, азываліся ў другой Хто чуў калі-небудзь негрыцянскі тамтам, уяўляе, што гэта такое. Гэта камень.

Адчайны, зрушаны камень, калі сарвецца ў прорву, рынецца безнадзейна і незваротна. Вучні змоўклі, і камень енчыць. Нічога іншага не існуе, толькі ноч, і нічога, акрамя падзення ў гэтую ноч

**7.**

Музычнае праўражанне – гэта маўклівы енк каменя Стварыць музыку азначае не што іншае, як паглыбіць усведамленне, што вучні змоўклі, і заенчыць, як камяні Цяпер можна было б паставіць пытанне, на чым грунтуецца пасыл, быццам бы пачатак у самім чалавеку? Што за пустая і назойлівая пыхлівасць? Чаго тут можна хацець? Дзе тут намер, суб'ектыўная рыса, гатоўнасць, план, жаданне твора? Чаго я магу схацець, калі раптам даведаюся, што вучні змоўклі? Увесь свет буяе ў гуках, усхваляваны акіян гукаў ёсць не што іншае, як выццё каменя, і бурлівае мора гукаў хвалюецца, налятае на бераг і адступае, плешча, клякоча, раве, пеніцца, хваля запісваецца на пяску, каб наступная ўсё змыла, а за ёю яшчэ адна і яшчэ. Ці тут ад нейкага Kunstwollen – ці ад нейкага асабістага жадання мастацкага твора.

**8.**

Ніводзін мастацкі твор не ўвасобіў музычнага праўражання і музычнай пратворчасці выразней за індзейскае галашэнне ў шасці з паловаю тактах, запісанае ў джунглях Амазонкі. Вось чаму гэтая песня агульнапрымальная і чаму брутальная Агульнапрымальная, бо яна не што іншае, як праўражанне, крык параненага ад болю ў акіян гукаў; а брутальная, бо неартыкуляваная і мае элементарную моц, як джунглі. Гэтая песня, падобная да толькі што прымітыўна завостранай каменнай сякеры, несамавітая, нязграбная, неачэсаная Ды ў тым якраз і ёсць яе сэнс недасяжны як непасрэдна

# НАКОНТ ПОЛЯ ПРЫЦЯГНЕННЯ БЭЛЫ ХАМВАША

**Такое поле, відаць, існуе, і той, хто ў яго трапляе, становіцца не толькі спажыўцом, але і праваднiком своеасаблівай творчай энергіі.**

**Яскравы прыклад – даўні знаёмец прафесар Сава Бабіч, які ўжо пераўвасобіў на сербскахарвацкую мову каля 3000 старонак Хамвашавых тэкстаў і падрыхтаваў працу (звыш 1000 старонак) з аналізам спадчыны гэтага творцы і яе ўспрымання. Спачатку напрошвалася меркаванне: дзівак-чалавек. Ды ягонае захапленне абыякавым не пакінула і мяне. Калі ж надарылася магчымасць у двух штрышках адрэкамендаваць венгерскага філосафа і пісьменніка беларускім чытачам («ЗНО», Культура, 1994), навідавоку была цікавасць нашага асяроддзя. Тады нічога не засталася, акрамя як працягваць і паглыбляць знаёмства.**

**У працэсе, што называецца, хоцькі-няхоцькі мусова было самому разабрацца, чым такі прыцягвае Бэла Хамваш. І вось нешта пачало акрэслівацца. Гэта не выкрышталізаваныя меркаванні спецыяліста, нават не аформленыя дарэшты назіранні; удалося хіба пазначыць накірункі думак і пачуццяў пры аматарскім узаемадзеянні з вельмі спецыфічнымі творамі пакуль што малазнаёмага аўтара.**

**Майму пакаленню давалі філасофію праз дыямат і гістмат. Усё, што па-за «матамі», абвяшчалася недамысленасцю, а таму і ўвагі не вартым. Прымалася гэта на веру? Хутчэй, не. Што, зрэшты, веды па філасофіі, а таксама і цікавасць да яе, скіроўвала адпаведна. З крытычных афіцыёзных прац выцадзіўшы дзе-якія імёны, дэфініцыі, тэзы, маладыя людзі абвяшчалі сябе прыхільнікамі экзістэнцыялізму, неатамізму, структуралізму, трансцэндэнталізму і яшчэ сяго-таго, што, па сутнасці, ім нагадвала (таксама ў даведніках апісаныя) «сем цудаў». Больш-менш падобным і засталося. Таму што неадольным было традыцыйнае стаўленне да філасофіі. Прынамсі, куды ні кінь, усюды – тры крыніцы і тры састаўныя часткі плюс пяцікрылаты тэзіс: «Філосафы толькі рознымі спосабамі тлумачылі свет, а справа заключаецца ў тым, каб змяніць яго».**

**Не паспелі мы ўцяміць, што і як тлумачылі. Заўважалі, што без асаблівых тлумачэнняў змяняюць і свет, і нас. У выніку – дазмяняліся.**

**Між тым, аказваецца, як да нас, так і пры нас тварылі філосафы з іншым разумен-**

вывергнутай Яна – як той камень, што абрынуўся ў ноч. Касмічна манументальнае неартыкуляванае галашэнне, элементарны і неадольны выплеск. Племя індзейцаў стаіць каля нябожчыка, усе раптам уседамляюць, што сталася Вучні змоўклі. І ў той момант не могуць нічога іншага зрабіць, акрамя як шалёна завыць. Галашэнне – гэта чорнае полымя, як базальт, цяжкае, як кіпарыс, цёмнае. Безнадзейны жаласпеў каменя, што абрынуўся ўначы

А свет гарыць, спярша ў агні жыцця, потым у агні душы, тады ў агні слова, ў агні гуку, ў агні колеру, ў агні духу, палае густа, зіхотка, парыўны, дымліва, шугліва, трапятліва, яснымі і чорнымі языкамі ў полымі пакуты, смерці, бессмяротнасці.

## УЗНІКНЕННЕ ДЗЯРЖАВЫ

Даліна звужаецца, і падарожнікам з краёў далёкіх даводзіцца ісці па цясніне.
Шмат падарожнікаў – з'яўляюцца гандляры,
шмат гандляроў – з'яўляюцца рабаўнікі,
шмат рабаўнікоў – з'яўляюцца паліцыянты,
дзеля ўзаконення паліцыі з'яўляюцца чыноўнікі,
дзеля абароны чыноўнікаў з'яўляюцца вайскоўцы,
шмат вайскоўцаў – з'яўляюцца курвы,
дзеля праслаўлення курваў з'яўляюцца паэты.

## МЕДЫТАЦЫЯ Ў ЗМРОКУ НА ВЯРШЫНІ ГАРЫ, альбо МЕТАФІЗІКА ЧАЛАВЕЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

Востравам называецца кавалак сушы, з усіх бакоў акружаны морам Дэфініцыя эгзактная, дакладная; але, апынуўшыся першы раз на востраве, дзе мог падняцца на гару і агледзець усё навокал, я быў уражаны Зусім інакш раскрылася дэфініцыя; мяне расчуліла.

Прабыў я там два тыдні і рэгулярна апоўдні, калі спадала гарачыня, хадзіў на гару. Сядзеў там на прыступках перад невялічкай капліцай у п'янлівым паху жоўтага размарыну. Чытаў, пераважна ўголас, каб і мора чула. А калі азіраўся, поглядам абводзячы край берага з усіх бакоў, смяяўся і паўтараў· востраў.

**нем сваёй справы. Аднаго з іх – відаць, нямногіх – мы цяпер адкрываем. Гэта Бэла Хамваш.**

**Ён адметны тым, што не імкнецца да сістэматызацыі, якая нагадвае рахункаводства і непазбежна пераходзіць у схематызацыю: дазваляецца выкінуць усё, захаваўшы дэфініцыю, фармулёўку – і гэтага дастаткова. Ён праціўнік «прынцыпу, дактрыны» як «цямніцы». Для яго, калі нават браць «справу тлумачэння», галоўнае – рэагаванне, заклік удумацца, угледзецца, услухацца, усмакавацца... Ім вядзецца пошук выйсця з «крызіалогіі». Адсюль – асцыентызм, аглабалізм, апалітызм. Хоць і гэтыя азначэнні мала што самі па сабе кажуць. Бо ў Хамваша сустракаем неверагодна глыбокія навуковыя веды, у тым ліку дачынныя да асэнсавання космасу, гісторыі зямных цывілізацый і палітычных зменаў таксама. Але гэта спалучаецца з пранікненнем у таямніцы дробнага, на першы погляд, для філасофіі. Хамваш надзіва тонка распрацоўвае якраз гэтыя аспекты – філасофія віна, садавіны, харчавання, псіхалогія збору кветак...**

**А можа тут і хаваецца найлепшы спосаб «змяніць свет»? Пакідаючы гэтае пытанне адкрытым, усё ж такі нельга не заўважыць, што Бэла Хамваш – бадай, як ніхто з мысляроў свецкіх – імкнецца да абсалюту, гармоніі, раўнавагі. І творы ягоныя заўжды паўстаюць самі па сабе як увасабленне гарманічнасці. Тым нават, што**





У паўднёва-ўсходнім кірунку, на мяжы далягляду, знаходзіўся горад. Удзень ён хаваўся за мроівам, а бачны бываў толькі тады, як падаў змрок і запальваліся агні. На востраве пражывала недзе паўтары сотні рыбакоў, параход на тыдзень два разы дастаўляў пошту, так што для мяне адзінай сувяззю з культурным светам былі гэтыя далёкія агні Мне гэта не замінала дый не спрыяла, я проста прымаў да ведама, што там дваццаць, а мо і больш, тысяч людзей, занятых звычайнымі сваімі справамі

Паварочваюся да рыбацкага паселішча. У крайнюю хату на тачцы прывезлі дровы. Чалавек бярэ калоду на плячо, нясе крокаў дзесяць і кладзе. Вяртаецца, вымае другую калоду, адносіць, кладзе Тачка апусцела. Тады чалавек бярэ адзін кругляк зноў, прыладжвае на козлы, здымае пілу з цвіка, убітага каля дзвярэй, і рэжа. Адрэзаўшы, падымае цурку, ставіць яе на пень, дастае сякеру, сячэ, адкладае сякеру Потым збірае паленне, складае ў кош і заносіць у хату Коратка, значыць. здымае, падносіць, бярэ, кідае, адносіць, збірае, заносіць.

Аднойчы яназіраў, як будуецца вялікі жалезны мост, па якім павінны хадзіць цягнікі, машыны, вазы, людзі, войска. Рабочы бярэ цвік і забівае Уласна, адзін здымае з воза ліст жалеза, нясе на мост і кладзе Пераймае другі, падымаючы і прыкладаючы куды трэба. Дастае цвік са скрынкі Кладзе яго на агонь. А калі напаліцца, вымае, дапасоўвае і забівае. Толькі дзеля таго, каб чалавек праз мост перанёс тое, што узяў, паклаў, зняў, перадаў ці склаў

Альбо задумваюся, што сам раблю, устаючы раніцою: высоўваю ногі з-пад коўдры, скідаю піжаму, бяру збан, лію з яго ваду, стаўлю збан, бяру мыла, намыльваюся, лію на сябе ваду, здымаю ручнік, кладу яго, бяру кубак, накладаю пасту на шчотку, запіхваю яе ў рот, потым вымаю, апранаю касцюм і абуваю чаравікі, раскладаю рэчы па кішэнях. Коратка. бяру, стаўлю, здымаю, кладу, скідаю, нясу, адкладаю.

Вось над чым я раздумваў там на востраве, на вяршыні гары, у змроку, без асаблівай меланхоліі ды без зласлівасці, гледзячы на далёкія агні. Думалася пра тое, што ж робяць многія тысячы людзей на гэткім скучаным месцы. Што яны робяць? Працягваюць звычайную дзейнасць? Складваюць дровы, будуюць мост, прыбіраюцца. Інакш кажучы· здымаюць, падносяць, бяруць, кідаюць, адносяць, збіраюць, заносяць. Многія нават не паводле завядзёнкі, а цярпліва ці з захапленнем, сур'ёзна, з пераканаННем, ганарыста, прафесійна; ды здымаюць, падносяць, бяруць, кідаюць, адносяць, збіраюць, заносяць. Гэтай дзейнасці мы звычайна прыпісваем сэнс. Калі нам нехта перашкаджае, злуёмся, калі ж робіць заўвагу – стараемся навучыцца як след. Немаўля ўжо бярэ матчына малако, прымае ў свой страўнік, а лішак выпускае. Бярэ і кідае бразготку. Пазней у школе бярэ пёрка, абмакае ў чарніла, прыкладае да паперы. Усё гэта надзвычай важна.

Без іроніі.

**Пераклаў з сербскай**
**Іван ЧАРОТА**

**адметна спалучаюць мыслярства з прыгожым пісьменствам.**

**І вось тут недзе можна шукаць ключ да глыбейшага разумення фенаменальнасці зместу і патэнцыяльнай ролі Хамвашавай спадчыны, прырода якой у многіх адносінах выяўляе феномен сумежжа. Што маецца на ўвазе? Акрамя адзначанага, тое, што сама асоба творцы з'явілася і фармавалася на сумежжы геапалітычным, этнічным (Аўстра-Венгрыя, венгры – славакі), веравызнаўчым (каталіцызм – пратэстантызм, уніяцтва), сацыяльным (сям'я святара, інтэлігента; біяграфія маргінала пазней). Варта ўлічваць таксама прыналежнасць да мяжы, пераходу эпох. Роўна як і спалучэнне ў творчасці паслядоўнай веры з бязбожніцтвам, старажытных ведаў з дасведчанасцю новых разломных часоў, неймавернага актывізму з непаўторнай рэфлексіўнасцю. А яшчэ нельга забывацца на той конавы псіхаэмацыянальны злом, што адбыўся пасля першай сусветнай вайны і скіраваў на шлях літаратурна-філасофскі... Многае можна ставіць у гэты шэраг. Хоць грунтоўны разбор названых асаблівасцяў не можа быць простым, безапеляцыйным.**

**Карацей, вось некалькі рысачак, што наводзяць на адказ, чым прыцягальны Бэла Хамваш аўтару гэтых нататкаў асабіста. Ды, хочацца верыць, і многім іншым. Беларусам, як прадстаўнікам шматаспектнага сумежжа, ці не больш як астатнім.**

**Іван ЧАРОТА**

# Леў АКІНШЭВІЧ



*У Вялікім Княстве Літоўскім мы выразна бачым грамаду пераходнага тыпу, у якой змагаліся паміж сабой заходнія й усходня-эўрапейскія ўплывы.. Змаганьне дзьвюх цывілізацыйных асноваў гэтак і ня прывяло да здаровай і арганічнай іхнай сынтэзы.*

## *Пра Льва АКІНШЭВІЧА*

**Як ні дзіўна, артыкул пра Льва Акіншэвіча ўжо (ці яшчэ?) паспеў трапіць у першы том «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Здаецца, ніякай блытаніны (у адрозненне ад шмат якіх іншых прысвечаных эмігрантам энцыклапедычных даведак) у гэтым артыкуле няма.**

**Акіншэвіч сапраўды нарадзіўся ў 1898 годзе ў Пецярбургу, сапраўды вучыўся ў Кіеўскім універсітэце і ваяваў у першую сусветную вайну на Румынскім фронце. Цяжка абвергнуць і такі ўдакументаваны факт, як прыняцце ім у 1918-м грамадзянства Беларускай Народнай Рэспубліці.**

**З 1921 года імя Льва Акіншэвіча фігуруе ў спісах навуковых супрацоўнікаў Украінскай Акадэміі навук, а з 1925-га – актыўных аўтараў беларускага часопіса «Полымя» і карэспандэнтаў Інбелкульта. Было б, прынамсі, незразумела, каб яго імя не трапіла і ў іншыя спісы, што складаліся ў больш магутных установах. У 1933-м прафесара Нежынскага педагагічнага інстытута Л. Акіншэвіча абвінавацілі адначасова ў беларускім і ўкраінскім буржуазным нацыяналізме. Напрыканцы трыццатых гадоў карысным для апальнага гісторыка быў прызнаны клімат ужо назаўсёды адарванага ад Беларусі Смаленска.**

**Пасля другой сусветнай вайны Акіншэвіч пераехаў з Заходняй Нямеччыны ў ЗША, дзе працаваў у цэнтры вывучэння СССР, не губляў сувязі з «Беларускім Інстытутам навукі й мастацтва» ў Нью-Ёрку.**

**Пяру «двойчы нацыяналіста» належаць апублікаваныя ў розны час па-беларуску, па-ўкраінску і па-ангельску працы з гісторыі казацтва на Беларусі, беларускага, украінскага і польскага права, а таксама гістарыяграфічныя артыкулы і даследаванні. Усё доўгае жыццё (памёр у 1980 г.) Льва Акіншэвіча займалі не толькі канкрэтныя праблемы мінуўшчыны, але і філасофія гісторыі, аб чым лішні раз сведчыць артыкул, прапанаваны чытачам «Крыніцы».**

**Уладзімір АРЛОЎ**

# ПРА «ЦЫВІЛІЗАЦЫЙНЫЯ АСНОВЫ» БЕЛАРУСКАГА ГІСТАРЫЧНАГА ПРАЦЭСУ

Бяспрэчная рыса найнавейшае філязофіі гісторыі – ейная адмысловая ўвага да вывучэньня паасобных камплексаў г зв. «культурна-гістарычных цыкляў» ці «цывілізацыяў». Гэты кірунак апраўдваецца тым, што пры больш глыбокім знаёмстве з гісторыяй паасобных людзкіх грамадаў, усё з большай і большай выразнасьцяй выступаюць рысы нераўнамернасьці, нятоесамасьці, апрычонасьці гістарычнага разьвіцьця паасобных народных групаў Усё ясьней становіцца, што супольны й тоесамы шлях агульнага разьвіцьця ўсіх людзкіх грамадаў адшукаць цяжка. Усё больш выразна зазначаецца й неаднолькавасьць гэтага гістарычнага разьвіцьця. Прыкладам, нават Марксу й Энгельсу давялося вылучыць адмысловы «азіяцкі спосаб вытворчасьці», які яны знаходзілі ў гісторыі Кітаю й старадаўнага Эгіпту, і гэты «спосаб» выразна выломваўся із стройнай нібы схэмы «сацыяльна-эканамічных фармацыяў», што прыходзяць на зьмену адна аднэй у гісторыі сьвету

Справа аднак выходзіць далёка за межы Кітаю й Эгіпту, бо цэлы шэраг людзкіх арганізацыяў таксама мае тэндэнцыю выломвацца із схэмы агульнага й аднолькавага (у васноўных рысах) людзкога прагрэсу. Усё ясьней робіцца, што ўсе схэмы прагрэсыўнага разьвіцьця народаў сьвету ў запраўднасьці абапіраюцца на нібы «клясычным» прыкладзе гісторыі Заходняй Эўропы. З часам сталася ясным, што й сама гісторыя гэтай апошняй ня ёсьць адзінай і бесперапыннай, што яна лучыць у сабе адменныя самастойныя цывілізацыйныя цыклі антычнага (грэка-рымскага) й мадэрнага (раманагерманскага) тыпу.

Шэраг рысаў сучаснай заходня-эўрапейскай цывілізацыі выразна аддзяляюць ейнае разьвіцьцё ад разьвіцьця іншых людзкіх грамадаў. Апошнія ня ведалі й ня ведаюць такога выразнага й юрыдычна абгрунтаванага падзелу джяржаўнае ўлады, як гэта было ў заходня-эўрапейскім фэодалізьме. Яны не стварылі на базе вынікаў фэодалізму грамады з усталенымі правамі грамадзянаў дзеля ўдзелу ў дзяржаўным кіраўніцтве й кантролю над ім Яны ніколі не дайшлі да таго кансэквэнтнага выніку асабістае волі, пэрсанальнае ініцыятывы й цвёрдасьці прынцыпу прыватнай уласнасьці, які стварыў клясычныя ўзоры заходня-эўрапейскага (а за ім і амэрыканскага) «капіталізму». Мы тут

бярэм адно праўныя й гаспадарчыя катэгорыі Але можна й трэба гаварыць і пра адменныя прынцыпы ў вагульна-культурным, рэлігійным, маральным ды іншым жыцьці й прагрэсе розных людзкіх групаў

За асобную й адмысловую рысу заходняй цывілізацыі F S. C. Northrop («The Taming of the Nations» New York. 1952. бач. 186-213) уважае ейную рымскую спадчыну й, асабліва, засвоеныя ёй канцэпцыі цьвярдых і агульна-зьвязваючых усё жыхарства прынцыпаў рымскага права. У гэтай думцы ёсьць шмат праўды

Гэтая заходняя цывілізацыя была й у сваёй аснове ёсьць адзінай, ня гледзячы на стракатую адменнасьць ейных паасобных нацыянальных кампанэнтаў Пра гэта так пісаў расейскі славянафіл Н.Данілеўскі, адзін з заснавальнікаў тэорыі культурна-гістарычных «цыклічных тыпаў». «Гэта, у сапраўднасьці, гісторыя аднаго цэлага. Як ніхто ня думае аб асобнай цывілізацыі Атэнаў ці Спарты, гэтаксама няма чаго гаварыць пра асобную гісторыю Францыі, Італіі ці Нямеччыны. Такой гісторыі ў сапраўднасьці няма зусім, а ёсьць толькі гісторыя Эўропы з францускага, італьянскага, ангельскага ці нямецкага гледзішча»... («Россия и Европа», б. 110).

Ці пануе «клясычная» цывілізацыя Заходняе Эўропы на прасторы ўсяго эўрапейскага абшару? І ці належаць да гэтага цывілізацыйнага комплексу народы, якія засяляюць шырокія прасторы Ўсходу Эўропы? На гэтыя пытаньні даваліся розныя адказы. Калі расейскі гісторык Паўлаў-Сільванскі першы заявіў пра існаваньне фэадалізму ў Расеі, ён гэтым самым ставіў гісторыю Расеі на адну роўню з гісторыяй Захаду Калі савецкая гістарычная навука прыймае гістарычную схему Маркса-Энгельса, дык яна гэтым самым ізноў ставіць расейскую гісторыю на адзін шлях з гісторыяй Захаду. Калі ўкраінскія гісторыкі В Ліпінскі й С. Тамашэўскі ставяць пытаньне пра заходнія асновы культурнага й палітычнага разьвіцьця ўкраінскага народу, яны гэтым самым вылучаюць гэты ўсходня-эўрапейскі народ з кола культурнага цыклю Ўсходняе Эўропы.

Што да народу расейскага, дык ягоная культурная своеасаблівасьць і адменнасьць ягоных гістарычных шляхоў вызнаюцца цяпер шмат кім з гісторыкаў за бясспрэчныя. Адкінутыя й запярэчаныя ў свой час ідэі расейскіх славянафілаў і расейскіх народнікаў, якія верылі ў магчымасьць для Расеі мінуць капіталістычны шлях разьвіцьця, шмат у чым у наш час здаюцца ня гэткімі ўжо сьмешнымі й галаслоўнымі.

«У расейскага народу,– піша расейскі філёзаф нашага часу,– была вялізарная сіла стыхіі й параўнальная слабасьць формы. . У народаў Заходняе Эўропы ўсё шмат лепш выясьнена й аформлена, усё падзелена на катэгорыі й ўсё нязьменнае Расея ніколі ня была ў заходнім сэнсе краінай арыстакратычнай, як ня сталася яна й буржуазнай». (Н. Бердяев «Русская идея» б. 6).

«Расейцы, – піша А. Тойнбі, – былі хрысьціянамі й шмат хто зь іх і цяпер зьяўляюцца імі, але яны ніколі ня былі хрысьціянамі Захаду Расея была наверненая ў хрысьціянства ня з Рыму, як Ангельшчына, але з Канстантынопалю й, нягледзячы на іхнюю супольную хрысьціянскую аснову, усходняе й заходняе хрысьціянства былі заўсёды адно да аднаго далёкія, а часам – адно аднаму антыпатычныя й варожыя». («The World and the West», p. 4)

«Ра́сея, – пісаў ужо згаданы намі Н Данілеўскі, – не належыць ані да эўрапейскага дабра, ані эўрапейскага зла, як-жа можа яна належыць да Эўропы?» (там-жа, б б. 60-61) «Яе ня жывілі,– кажа ён,– ніводзін з тых карэньняў, празь якія Эўропа ўбірала як добрыя, гэтак і шкодныя сокі беспасярэдна зруйнаванага ёю антычнага сьвету, не кармілі яе й тыя карэньні, якія чэрпалі жыўнасьць з глыбіні нямецкага духу Ня была яна й часткай адноўленай Рымскай імпэрыі Карла Вялікага, якая творыць нібы супольны камель, праз падзел якога паўстала ўсё галінастае эўрапейскае дрэва,– не ўваходзіла да складу той тэарэтычнай фэдэрацыі, якая заступіла сабою Карлаву манархію,– ня зьвязвалася ў вадно агульнае цела фэодальна-арыстакратычнай сеткай, якая (як у часе Карла, гэтак і ў часы свайго рыцарскага красаваньня) ня мела ў сабе нічога нацыянальнага, а была ўстановай агульна-эўрапейскай у поўным сэнсе гэтага слова. Пасьля, калі настаў новы век і пачаўся новы парадак рэчаў, Расея таксама ня брала ўдзелу ў змаганьні з фэодальным прыгнечаньнем, вынікам якога на Захадзе было забясьпечаньне тэй формы рэлігійнае свабоды, якая называе сябе пратэстанцтвам. Ня ведала Расея й гнёту, а зь іншага боку й ўзгадавальнага ўзьдзеяньня схалястыкі, ды ня вырабіла тэй свабоды думкі, якая стварыла новую навуку» (там-жа)





Ня будзем разглядаць тут пытаньне, ці мае слушнасьць Данілеўскі ў дэталях свайго супроцьстаўленьня Расеі Заходняй Эўропе. Для нас даволі будзе прызнаць яму частковую слушнасьць, каб ужо шмат у чым зразумець іншыя цывілізацыйныя асновы расейскае культуры.

Наступным і заканамерным будзе пытаньне: дзе ў гэтым цывілізацыйным камплексе канчаецца Расея й пачынаецца Ўсходняя Эўропа ў цэласьці? Пытанне гэтае можа быць пастаўленае ў шмат якіх плашчынях. Можна, прыкладам, аднесьці да Ўсходня-Эўрапейскага культурна-гістарычнага камплексу саму Расею, далучыўшы да яе хіба ейных цюркскіх, усходня-фінскіх ды мангольскіх падданых. Гэта мы знойдзем ня толькі ў згаданых вышэй украінскіх гісторыкаў, але й у найноўшых працах у ангельскай мове Оскара Галецкага. Можна, зь іншага боку, паставіць пытаньне й пра ролю іншых усходня-эўрапейскіх народаў: беларусаў, летувісаў, украінцаў ды інш. Куды належыць іхная гісторыя? Ці былі гэта далёка высунутыя на ўсход арганічныя часткі Заходняй Эўропы? Ці, наадварот, гэта былі арганічныя часткі Эўропы Усходняй, адно тэрытарыяльна бліжэйшыя да Захаду й якія з гэтае прычыны пераймалі ад гэтага Захаду шэраг ягоных рысаў і культурных асаблівасьцяў? Ці, нарэшце, гісторыя гэтых народаў зьяўляецца гісторыяй глыбокіх нутраных канфліктаў, якія вынікаюць з прычыны паміжлежнага, «міжкультурнага» палажэньня іхных земляў?

Усё гэта вельмі паважныя праблемы, й ад іхнага вырашэньня шмат у чым залежыць уся ацэна гісторыі гэтых народаў ды праўдзівае разуменьне яе.

Трэба адразу адкінуць спробу падыйсьці да вырашэньня згаданых праблемаў з пазыцыі тых ці іншых палітычных інтарэсаў нашае сучаснасьці. Расейская імпэрыя, якая на цэлыя стагодзьдзі палучыла пад сваёй уладай шматлікія й разнародныя народы й нацыі Усходняе Эўропы, мае гарачых абаронцаў і зацятых ворагаў. Якраз выходзячы з гэтых пачуцьцяў і пераконаньняў, шмат хто з гісторыкаў Усходняе Эўропы й дае кірунак сваім гістарычным паглядам. Сумліўна, ці гэта справядліва.

Расейская імпэрыя, як і ўсё на сьвеце, зьявішча часовае. Усходняя Эўропа магла быць палітычна нязлучаная ў вадну цэласьць (як гэта дагэтуль ёсьць з Эўропай Заходняй) і усё-ткі тэарэтычна быць адзіным цывілізацыйным цэлым І наадварот, яна можа быць злучаная ў вадно дзяржаўнае цела, але ўсё-ж быць разнародным у сваім агульна-культурным зьмесьце камплексам. (Гэткім яна ўжо, без усялякага сумлеву, й бывала, улучаючы ў сябе выразна заходніх фінаў ці палякаў ды выразна далёка-ўсходніх манголаў або карэйцаў). Само злучэньне ўсходня-эўрапейскіх народаў,–калі яно ўжо мела стацца – зусім не абавязкава мусіла адбыцца пад эгідай расейскае Масквы. Вельмі лёгка палітычным цэнтрам Усходняе Эўропы мог стацца ўкраінскі Кіяў ці беларуская Вільня, або й татарскі Сарай-Бэркэ. Мы ведаем, што спробы й змаганьне за гэткае першынство іншых, нерасейскіх народаў, запраўды мелі месца.

Падыходзячы з гэтага гледзішча спэцыяльна да гісторыі беларускага народу, трэба сказаць, што яна не дае выразнага й апрыёрнага адказу на пытаньне, арганічнай часткай якога «культурна-гістарычнага цыклю» было ягонае гістарычнае разьвіцьцё. А калі гэтак, дык трэба зьбіраць матар`ялы, якія могуць нам сказаць штоколечы ў справе вырашэньня гэтае праблемы. Тут, у гэтым артыкуле, можна закрануць хіба самыя агульныя (й далёка не вычарпальныя) аргумэнты.

У часы «князёўскія» (X – XIII стст.) беларускія княствы, бясспрэчна, менш за ўкраінскія й расейскія, мелі тэндэнцыю да злучэньня ў ваднэй «рускай» цэласьці. Звычайна гэта тлумачаць тым, што тут была асобная князёўская дынастыя. Гэтае тлумачэньне мала пераканальнае Нам думаецца, што яны вылучаліся нечым іншым і ў першую чаргу як відаць, тым, што глыбіня супольных культурных уплываў (перадусім – уплываў бізантыйскіх) тут была меншая. Не малую ролю іграў таксама мамэнт расавай і культурнай блізіні да старых суседзяў (а магчыма й старых родзічаў), народаў «балцкае» групы – да лятувісаў і латышоў. Блізіня ды моц сувязяў з Заходняй Эўропай была тут ці не асабліва поўнай

Ці рабіла гэта беларускія княствы часткаю Заходняй Эўропы, вылучаючы іх з усходня-эўрапейскіх камплексаў Кіяўскае імпэрыі й Суздальскае зямлі? Сьцьвярджаць гэта немагчыма: князёўская Беларусь была, агулам бяручы, усё-ж у коле палітычных і культурных уплываў усходня-эўрапейскага, «славяна-бізантыйскага» цыклю

Ці прынесла якасныя зьмены новая эпоха, калі зарганізавалася вялікая «Літоўская» імпэрыя й калі (XIV–XVII стст ) беларуская культура й мова сталіся асноўнай базай

палітычнай і культурнай сувязі паміж паасобнымі й рознымі часткамі вялікага цела гэтае імпэрыі? Каб даць адказ на гэтую праблему – трэба вырашыць некаторыя ейныя часткі Аднэй зь іх мае быць пытаньне пра гістарычныя заданьні, якія ставіў перад сабой «Літоўскі» дзяржаўны саюз, другой – пытаньне пра кірунак і шлях культурных уплываў і ар`ентацыяў

Яшчэ Макіявэлі ўважаў, што «арганічнай» рысай кажнай дзяржаўнай арганізацыі, калі яна здаровая дзяржаўная арганізацыя, з`яўляецца нахіл да пашырэньня ейных межаў У наш час з гэтым паглядам ня шмат хто мог-бы пагадзіцца. Але наш час – гэта час перамогі тэндэнцыяў стрымліваньня й абмяжаваньня вольнай гульні ў сфэры міждзяржаўных дачыненьняў На гэта, ведама, ёсьць свае прычыны Ды мы цяпер гаворым пра Вялікае Княства Літоўскае й пра часы Макіявэлі Для тае эпохі ягонае цьверджаньне ня было памылковым.

Як здаровы й моцны арганізм XIV–XVI стст (гаворым цяпер адно пра гэты пэрыяд) Вялікае Княства Літоўскае вяло палітыку завяваньняў Гэтая палітыка даўгі час была ўдалай, а ейны кірунак быў выразны: ён ішоў па лініі змаганьня дзеля задзіночаньня вакол беларускае Вільні ўсіх галоўных частак усходня-эўрапейскага цыклю Мы ведаем, што арганічным удзельнікам у дзяржаўным жыцьці Літвы-Беларусі быў побач зь беларускім і лятувіскі народ, да іх пазьней далучылася асноўная частка ўкраінскага жыхарства Прыдняпроўя, частка ва й часова ўваходзілі сюды й часткі заходня-расейскіх княстваў. Даўгі час Віленскі князь быў найбольш магчымым кандыдатам на галаву вялікае ўсходня-эўрапейскае імпэрыі, што лучыла ў сабе ўсю асноўную прастору Ўсходняе Эўропы.

Мы гаворым пра гэты працэс таму, што гісторыя Ўсходняе Эўропы не тварыла дагэтуль магчымасьці сужыцьця (хоць-бы й далёка ня мірнага) розных нацыянальных самастойных дзяржаўных адзінак, як гэта было ў Эўропе Заходняй Тут адзін арганізм імкнуўся стаць гегемонам над іншымі й, галоўнае, якраз тут ён здолеў гэтага дасягнуць.

Мы ведаем, што гэтая вялікая гістарычная наважнасьць літоўска-беларускіх князёў – злучыць пад знакам Віленскае Пагоні ўсю Усходнюю Эўропу – у канцы закончылася няўдачай. Вялікі паход на ўсход і поўдзень зьмяніўся палітыкай абароны перад усходам і поўднем, саюзу «Літвы» з Польшчай, вялікімі ўдачамі Масквы. Не беларуская Вільня, а расейская Масква сіламоц злучыла пад сваёй уладай народы вялікіх прастораў усходня-эўрапейскай раўніны. На даўгія гады расейская культура стала дамінантным выказьнікам творчых праяваў сваеасаблівага генія ўсходня-эўрапейскіх нацыяў.

Чаму гэтак сталася? Нам адказваюць. вайсковыя няўдачы «Літвы» Ці гэта можа здаволіць нас? Матар`яльныя рэсурсы Вялікага Княства Літоўскага ня былі меншымі за рэсурсы Маскоўскага гаспадарства. Кажуць яшчэ: сацыяльны антаганізм паміж шляхтай і сялянствам. Але ці-ж ня было гэта скрозь у тагачасных дзяржавах? Нам кажуць. змаганьне спалячанае шляхты зь вернымі старой культуры народнымі масамі, змаганьне вуніі й праваслаўя. Але чаму мела месца гэтае змаганьне й у чым прычыны ўсёй ягонай гарачыні?

Мяркуем, што ўсе гэтыя факты мелі сваё значаньне, але асноўнай прычынай паразы «Літвы» быў дэманстратыўны выбар ейнай элітай заходняга (а ня ўсходняга) шляху Адразу зробім заўвагу: гэты выбар і гэты шлях абяцалі й запраўды далі вельмі памысныя вынікі Яны адкрылі жывую крыніцу больш сьпелае заходняе культуры й з гэтай крыніцы пілі ды ёй жывіліся найлепшыя дзеячы беларускага й іншых народаў Вялікага Княства І калі мы гаворым пра гэта, як пра прычыну паразы, дык маем на ўвазе тое, што заходняя культура прывівалася да іншага культурнага пня. Гэта рабіла новую расьціну, хай і часова, але слабой. А перад ёй стаялі іншыя ўсходня-эўрапейскія грамады, усё менш і менш закранутыя заходняй культурай, далей-жа на ўсход незакранутыя зусім, ёй арганічна чужыя. Яны наважна супраціўляліся заходняй плыні й чым больш «заходняй» рабілася «Літва», тым мацнейшай і наважнейшай была сіла іхнага супраціву.

Чым паўнейшай была вэстэрнізацыя Вялікага Княства Літоўскага (у васнове якраз гэтак мае быць названы працэс вялікіх палітычных і культурных зьменаў XVI–XVIII стст.), тым большы яна сустракала адпор як унутры краіны, гэтак, і асабліва, звонку – з паўдня й з усходу Калі вялікі князь прыняў каталіцтва й каталіцкі клер атрымаў шэраг прывілеяў, ды калі беларускі й лятувіскі шляхціч загаварыў папольску,– супраціў набыў яшчэ большую вайстрыню. Вось-жа ў самым працэсе ўсё большай і большай вэстэрнізацыі «Літвы» мы бачым нейкі дзіўны парадокс: чым паўнейшым і, здавалася-б, больш плённым ён быў – тым слабейшай і менш задзіночанай рабілася нацыянальная грамада.

Праўда, такога наважнага выступу супроць вэстэрнізацыі, як гэта было, прыкладам, на Ўкраіне ў часы Багдана Хмяльніцкага, на Беларусі-Літве ня было Але й тут быў у сярэдзіне XVII ст. казацкі рух. І тут было войстрае змаганьне паміж каталіцтвам і вуніяй з аднаго боку, і праваслаўем зь іншага. Было-б дзяцінствам думаць, што гэтае змаганьне было толькі выяўленьнем пэўных рэлігійных адменаў Ягоная абвойстранасьць і глыбіня гавораць нам пра іншае – пра вялікае змаганьне дзьвюх культурных асноваў.

Час вялікае Літоўска-Беларускае дзяржавы зьяўляецца часам вялікіх культурных здабыткаў. Ці ня першым зь іх было стварэньне дасканалай сыстэмы праўных нормаў, сабраных у славутых Літоўскіх Статутах. Зацемім: Літоўскія Статуты праводзілі ў беларускую (украінскую, лятувіскую) грамаду вялікія прынцыпы праўнай сталасьці, праўнай адказнасьці, значаньне прыватнае ўласнасьці й г.д. Гэта былі вялікія прынцыпы рымскае, а пазьней і заходня-эўрапейскае цывілізацыяў Але ўспрыймаліся яны беларускімі праўнікамі не мэханічна, а творча перапрацоўваліся на базе старых, адвечных праўных звычаяў княжае эпохі. Жыцьцё, аднак, уносіла ў гэтую тэарэтычна-сталую пабудову юрыдычных правілаў сваю карэктыву, робячы часта беларуска-лятувіскую грамаду краінай шляхоцкіх праўных парушэньняў

У Вялікім Княстве Літоўскім, як у пэўнай цэласьці, мы выразна бачым грамаду пераходнага тыпу, у якой змагаліся паміж сабой заходнія й усходня-эўрапейскія цывілізацыйныя ўплывы. Некаторая, прынамсі вонкавая, перамога першых, адштурхнула ад Беларуска-Літоўскае дзяржавы суседнія землі з усходня-эўрапейскай культурнай асновай. Гэта аддало іх у канцовым выніку ў рукі Масквы. У самой-жа дзяржаве змаганьне дзьвюх цывілізацыйных асноваў гэтак і ня прывяло да здаровай і арганічнай іхнай сынтэзы. У гэтым была прычына, што ў канцы XVIII ст. Вялікае Княства паслабленае й нутрана вычарпанае, стала лёгкай здабычай Расеі.

Мінулі стагодзьдзі. У іхным часе беларуская грамада ня жыла творчым культурна-палітычным жыцьцём, аддаючы свае лепшыя сілы, сваіх найздальнейшых сыноў, ці расейскай ці польскай культурам. Сама-ж Беларусь заставалася краем, дзе спробы русыфікацыі мелі больш вонкавыя ўдачы, пакідаючы краіну ўсьцяж у тым-жа палажэньні наяўнасьці дзьвюх – заходняй і ўсходняй – эўрапейскіх культурных асноваў.

Вялікі рух беларускага нацыянальнага адраджэньня другой паловы XIX й першай паловы XX стагодзьдзяў меў перад сабой ня толькі заданьне адрадзіць ці пабудаваць нацыянальную народна-беларускую культуру. Перад ім павінны былі паўстаць і іншыя заданьні, а сярод іх адно з найважнейшых – вызначэньне «цывілізацыйнай базы» для гэтае пабудовы. У сувязі з гэтым наяўнасьць «шляхоцкіх» і «сялянскіх» плыняў у беларускай літаратуры й культуры не гаворыць адно пра «клясавую» аснову гэтых адменаў. Наяўнасьць «каталіцкіх» і «праваслаўных» тэндэнцыяў гаворыць ня толькі пра розьніцы ў рэлігійных паглядах. Культурнае «русафільства» ці «палянафільства» ня былі адно перажыткамі «адукацыйных уплываў». Справа, бясспрэчна, была больш складанай.

Беларуская культура яшчэ ня вырашыла гэтых праблемаў Да гэтага часу на згаданым шляху стаялі пераважна вонкавыя перашкоды. Трэба спадзявацца, што здабыўшы магчымасьці вольнага разьвіцьця, яна дасягне таго, чаго не ўдалося вялікай Беларуска-Літоўскай дзяржаве XIV–XVIII стст.. здаровай, арганічнай, да апошняй грані праведзенай сынтэзы сваіх цывілізацыйных асноваў І для ўдачы гэтае справы ёсьць запарука: вялікая любасьць і вялікая ахвярнасьць, якая была асновай беларускага адраджэньня, пачынаючы ад ягоных першых крокаў

Гэтая любасьць і гэтая ахвярнасьць неабходныя для творчага працэсу будовы ўсёй нацыянальнай асновы. Дасягнуўшы гэтай сваёй сынтэзы, беларускі народ будзе мець перад сабой вялікія творчыя магчымасьці. І хто ведае, можа – карысныя ня толькі для яго аднаго. Бо, магчыма, яны асьвецяць новым сьвятлом зь беларускай Вільні ці Менску й вялікія прасторы іншых усходня-эўрапейскіх земляў

***«Запісы Беларускага Інстытуту навукі й мастацтва». N 2 (4), 1952.***

Аляксандр ЧАРНІЦКІ



*Часткова правільны тэзіс, што «гісторыя не паўтараецца», прадугледжвае зніклыя аб'екты існуючымі для працэдуры даследавання.*

**Арнольд Дж. Тойнбі.**

# КАЛАБАРАНТ





Тэорыя простага (непашыранага) перасялення душаў сумліўна ўжо толькі таму, што дарэшты зацяганая, а яе яскрава выяўленая механістычная афарбоўка прыкметна нават дальтонікам Пагадзіўшыся з тым, што душы, мяняючы носьбітаў, перабіраюцца з пакалення ў пакаленне адвечна, мы мусім пагадзіцца і з тэзаю пра нязменнасць агульнай колькасці душаў у ходзе эвалюцыі А між тым нават не надта ўважліваму назіральніку бачна, што агульная колькасць душаў расце, нягледзячы на зніжэнне колькасці вакансіяў па асобных відах, пачынаючы, скажам, са стэгацэфалаў і бялугаў, памнажаюцца статкі свойскай жывёлы, фруктовых дрэваў, чалавечых асобінаў, не кажучы ўжо аб прусаках і трыхаманадах. Зразумела таксама, што той колькасці душаў, якая ёсць у наяўнасці, заўтра не будзе хапаць і таму патрэбнае пастаяннае падсілкоўванне ад Першародзіцы, ад той Вялікай Ідэі, якая калісьці ажывіла Сусвет (зазначым таксама, што падсілкоўванне гэтае павінна расці ў пэўнай прагрэсіі але яна нас у дадзены момант не цікавіць).

На Вышняй Пераклічцы якая-небудзь кволая душачка, што паспела паслядоўна пабываць толькі ў абалонцы гладыёлуса, мурашкі і курыцы, пачуўшы свой парадкавы нумар «дзесяць квадрыльёнаў восемсот дваццаць трыльёнаў шэсцьсот пяцьдзесят тры мільярды дзевяцьсот сем мільёнаў трыццаць шэсць тысяч пяцьсот сорак чатыры», бадзёра гукне ў адказ «тры плюс!» і дасведчаны ў гэтай справе сведка зробіць выснову, што курыца была цалкам дабрадзейнай і яе душу хутчэй ад усяго чакае павышэнне асабіста-прававога статуса; выглядае верагодным яе засяленне ў будучага генерала ці нават у пеўня. Арыфметычная познамка (плюс альбо мінус), якая падвешваецца да лічэбнага індэкса, называецца дэтэрмінантам і пры размеркаванні мае часам вызначальнае значэнне незалежна ад мацёрасці прэтэндэнтак; у даным выпадку пераважае, як бачым, маральнае стымуляванне: будзеш сябе добра паводзіць, да прыкладу, у целе сабакі,– атрымаеш пры наступнай раздачы ордэр на кінолага. Існуе, праўда, праблема выбару сістэмы каардынат: маральнае з пункту гледжання стафілакока цалкам амаральнае і непрымальна з пазіцыі санітарнага ўрача.

Тут трэба заўважыць, што на нябёсах, дзе Першародзіца распачкоўваецца й загадвае прапіскаю, нягорача. Усё гэта адбываецца на вышыні дзесяці тысяч метраў па-над роўніцай мора пры тэмпературы, як вядома ад сцюардэс, мінус пяцьдзесят градусаў. Менавіта ў такіх умовах выседжваюць душы шматгадовыя чэргі, прычым сітуацыя ўскладняецца бюракратычнымі выбрыкамі ў органах рэпрадукцыі й недастатковай кваліфікацыяй супрацоўнікаў Аддзела Маркетынгу, што хранічна выклікае прадукаванне ўсё новых і новых душ, не падмацаванае наяўнасцю працоўных месцаў Спецыялісты называюць гэткую з'яву д'інфляцыяй і звязваюць яе перш ад усяго з наяўнасцю такіх фактараў, як скарачэнне пагалоўя носьбітаў, хімізацыя кармоў, азонавыя дзіркі і нацыянальнае адраджэнне Апроч таго, працу Галоўнай Свядомасці істотна гамуюць аперацыі з астранамічна вялікімі лічбамі. Пераход на найноўшыя кампутарныя сістэмы, лічбавы запіс і оптыка-валаконныя інфармацыйныя сеткі, які ажыццяўляўся ў апошнія дзесяцігоддзі, не даў прыкметных вынікаў: нізкія тэмпературы зводзяць на нішто ўсе перавагі машыннага інтэлекту, практычна паралізуючы дзейнасць паўправаднікоў.

Душа нумар 2.708 695 214.190.437 (сто шэсць мінус) чакала народзінаў аўтара амаль дваццаць пяць гадоў За гэты час зямля практычна не патрабавала падмацунку; душы зляталіся мільёнамі й праглі немаўлятаў; калі б душы мелі цела, не йначай завялася б карупцыя: убіцца без чаргі ў цялушку каштавала б пяцьдзесят тысяч шэкеляў (блізу $ 17 000).

Небарака дарэшты змучылася, балазе нічога добрага ў сувязі з мінусам за апошнюю біяграфію не чакала. Аднак вердыкт, які быў вынесены ў нетрах, стаўся надзіва суровым нават па жорсткіх крытэрыях Адэкватнай Адплаты. Прадпісвалася: другі раз запар, без перадыху, запоўніць абалонку гуманоіда, падвід «Б»; данай абалонцы атабарыцца ў межах таго ж дзяржаўна-адміністрацыйнага ўтварэння, дзе жыла папярэдніца, гіпертрафіраваць няздольнасць хаваць галаву ў пясок пры наяўнасці відавочнай гнюснасці – ізноў-такі, паўторна! Карацей кажучы, належала зноў ляпіць расейскага інтэлігента.

Крыўда была такой пякучай, што душа памерла б, калі ўмела. Угневаная, яна сарвалася з нябёсаў– сланоў раздавалі, як заўсёды, у бязмежным прысенку Парадызу– і ўляцела ў хлопца, які кагадзе нарадзіўся[1] на беразе цёплага возера-мора. У адпаведнасці з інструкцыяй яна адключыла адсекі, запоўненыя памяццю мінулых ста

шасці гісторыяў (абавязковы крывадушны акт дазваляў прыкінуцца цнатліваю) і стала жыць у цяпершчыне.

У хуткім часе дзіцёнак пачаў худнець. Ягоная маці, а таксама ўчастковы педыятр і патранажная сястра вычарпалі абойму разнастайных дыягназаў. За тры тыдні дзіцёнак ператварыўся ў дыстрофіка – складкі сіняй скуры паўзверх кволых костачак; вузел, сплецены з блакітных чарвей не жылец. Душы б парадавацца ўпотай: хутка «сто шэсць мінус» ператворыцца ў «сто сем плюс». Нетры Першародзіцы здаўна балдзеюць ад убогіх і, расчуленыя, лепяць ім без разбору пазітывы.

Такім чынам, надарыўся рэальны шанц атрымаць праз колькі гадоў чаргі цёплае мейсца ў семені якога-небудзь доўгажыхара–секвоі, эўкаліпта альбо дуба, у найгоршым разе, адагрэцца, адаспацца, адпачыць; а там, глядзіш, чалавецтва зноў знікне, ці наадварот, зажыве на сваю пацеху, без нянавісці і псавання нерваў і, нават калі дубовае жыццё з нейкіх там прычынаў атрымае мінуса, можна будзе не баяцца адпраўкі ў людзі.

Так ці прыкладна так разважала б усякая нармальная душа. Душа дыстрофіка, аднак, захлыналася ад крыўды на жорсткасць Першародзіцы. Да таго ж паспела выявіцца ўстаноўка на пухліну ў сектары Прыстойнасці, скажонае гэтай пачварнасцю светаадчуванне перастае падпарадкоўвацца якім бы там ні было стандартам у выпадку іх супярэчнасці бязглуздай касмапалітычнай ідэі ўсеагульнага гуманізму.

У парушэнне рэгламенту наша Душа, якую мы і надалей мерымся называць з вялікай літары, папоркалася ў тайных спратах, чхаючы ад пылу, і натрапіла на вялікія веды са свайго даўняга жыцця ў канцы пятнаццатага стагоддзя Бабця-павітуха з племені інкаў (інкі на той час і не падазравалі аб існаванні еўрапейцаў)–неацэнны досвед; укласці ў людскія галовы разгадку было справаю тэхнікі.

– Мне здаецца,– сказала раптам патранажная сястра,– у вас кепска ідзе малако. Яго даволі, але дзіцёнку не хапае моцы высмоктваць. Сцэджвайце і карміце з бутэлечкі.

.. Вышэйзгаданы хітрык выклікаў шмат наступстваў.

Па-першае,– і гэта, вядома, для нашага тэксту не галоўнае,– з дапамогаю бабуляў аўтар раз'еўся да дзесяці гадоў да памераў невялікай свінні, дзякуючы чаму пазнаёміўся з гастрытам і халецыстытам; пазней, у дзевятым класе, у вантробе выявіліся лямбліі, на прыдушэнне якіх было змарнавана тры тыдні ў дзіцячай гарбальніцы.

Па-другое, узламаўшы аднойчы табу, Душа і надалей, як гэта заведзена ў людзей, дзялілася з носьбітам досведам мінулага існавання. Хлопец з лёгкасцю– падсвядома, як яму падалося, – мог уявіць сябе кароўкай-багоўкай, кураслепам, рымскім цэнтурыёнам, канём Пржавальскага, пітэкантрапам, бледнай спірахетай, вожыкам, снежным чалавекам, падасінавікам, акулай, запрададзенай у рабства суахілянкай, галернікам, лемурам, ліванскай хвояй, алігатарам, прыгонным селянінам, камаром, белай акацыяй.. Пра індзейскую акушэрку мы ўжо згадвалі. У семнаццатым стагоддзі менавіта гэтая Душа жыла ва ўпакоўцы легендарнай Молі Хэтчыт (Molly Hatchet)– жрыцы кахання, што лячгала кліентаў, якія яе не задавальнялі, аб чым мы, рэч зразумелая, глыбока смуткуем.

І толькі адзін запаснік заставаўся зачыненым; складзеныя там у штабелі мегабайты цьмяна зіхцелі, падобна складу абагачанага ўрану; ад невыказнасці на стэлажах адбываўся разагрэў, і саладжавы архіўны пах, сумуючы, вырываўся з-пад няшчыльна прыладжанай накрыўкі. Хлопчык уздрыгваў і непакоіўся, сілячыся ўспомніць, але неўзабаве супакойваўся, прылашчаны сваёй патронкаю. Згаданая накрыўка была пазначана шыльдачкай з індэксам скразной нумарацыі. «Сто шэсць».

Такім чынам, мела месца супрацьстаянне, у якім мы не бачым анічога незвычайнага. базіс канфліктаваў з надбудоваю, падвал з гарышчам, мінулае з цяпершчынай Немагчыма сказаць, колькі доўжылася б гэтае пакутлівае змаганне частак унутры непадзельнага цэлага, калі б не праверааны сродак дзеля развязвання шматлікіх, у тым ліку й глабальных праблем. Пасля таго, як наш герой пакінуў пубертатны перыяд, атрымаў сіні дыплом, пераспаў з добрай сотняй спакрэвічаў з падвіду «А» і апублікаваў першыя літэкзерсісы, на вуліцах з`явіліся танкі

Кепска ўкладзены асфальт малапрыдатны для перасоўвання цяжкой тэхнікі. тракі гусеніц яму цалкам супрацьпаказаны. Тут і там трашчала пакрыццё маставых і ходнікаў, ракаталі магутныя рухавікі і хрыпелі каманды. Часцінка Душы, пазначаная як «сто шэсць мінус», нудзілася і хварэла за брынклівымі шыбамі; аўтару бракуе ўмельства параўнаць яе з птушкай, што б`ецца ў клетцы,–гэта па сілах тым, хто называе драмадэра каралём





пустыні, завяршэнне пабудовы аб`екта– выйсцем на лінейку гатоўнасці, сярэдзіну лета– экватарам года, а нафту – чорным золатам. Выкідыш надарыўся дзякуючы лёгкай стралковай зброі: пад гукі спраўных аўтаматаў, што далялі з праспектаў і пляцаў, строгі архіварыус ператварыўся ў Пандору; Душа здалася самой сабе.

– Цю-ю-у, расчаравана прамовіў аўтар, зазірнуўшы ў куфэрак.

Скрозь пыл яркага і сухога ліпеня ў вёску па брыдкай шашовай грунтоўцы ўпаўзала танкавая калона; каля таго месца, што называлася аколіцай, тырчаў драўляны слупок з паказальнікам: «Радкі»

Пра вайну – ці ёсць што ў свеце больш сумнае? У садзе, што гіпнатызуе і дзе сярод псіхадэлічных блюзаў шпацыруюць па іскрыстых сцяжынках пад ручку Патрыярх з Цынцынатам і Воланд з Генры Мілерам, данай тэме не знаходзілася месца, і толькі далікатна-элегантныя флюіды адэкалону «Ігнорыюс» лунялі па азімуту .

Аўтар утаропіўся ў акно, якое працягвала бразгаць: некалькі ягоных землякоў білі доўгімі чэргамі кудысьці ўздоўж вуліцы з-за перакуленага «рэно» – здаецца, мадэль мінулага года. Аграмадны пляскаты танк (вытанчаны мадэрновы дызайн) круціў за іхнымі спінамі даўжэзным носам, удакладняючы прыцэл.

І гваздануў. У КАПДАСА[2] на супрацьлеглым баку адарваўся бетонны каптурок пад'езда, каб ператварыцца ў зярністую купу з галінамі арматурнага дроту; ударная хваля. Грукат, відаць, таксама быў паважны, але перапонкі яшчэ не аднавіліся пасля самога стрэлу.

Галоўны танк зарыкаў, і калона зноўку рушыла наперад. Кінутая надоечы на краі яра саракапятка на ўсякі выпадак мадыфікавалася ў металалом Па-над ім у бледна-блакітнай бязветранасці гарэла хваінка; яе душа, безумоўна, пойдзе на павышэнне. З падворка прыцягнуўся мой дзед – стэрэатыпна босы, у кашулі навыпуск – і, убачыўшы асколкі, энергічна абклаў мацюгамі варагуючыя бакі. Апошнімі днямі язык дзедаў набыў дзіўную нястрыманасць. Прыструньваючы дзеда, засіпела гамзатая паперына рэпрадуктара і вельмі скажоны Левітан распачаў чарговае прызнанне (калі чую гэтага карузліка, заўсёды ўяўляю, што ён сядзіць у студыі не ў крэсле, а, пардон, на унітазе).

Немец у вёсцы, а маскалі яшчэ размаўляюць,– вось дзіва!– усклікнула бабуля, каб неўзабаве змоўкнуць пад пагрозай маіх брывоў: кабеты паталагічна не здольныя ўцяміць, што іхныя рэплікі гучаць недарэчна падчас трансляцыі навін.

Полацак яшчэ не пакінуты; але пра гэта маглі й змаўчаць. Зрэшты, што значыць– змаўчаць? Такое кашчуннае дапушчэнне магло быць закінутае ўглыб часу толькі з усяведнай вышыні сто сёмага існавання. Спакуса выдаць сённяшняе разуменне за пазаўчарашняе, відаць, яшчэ не раз узнікне перад намі, таму парупімся трымаць рэгулятар аб'ектыўнасці ў становішчы «мах.».

Першая танкавая калона праехала без прыпынку праз Радкі на світанні і блізу абеду магла з'явіцца ў Полацку. Нашы напэўна вырашылі ўчыніць там Барадзіно, нездарма ж цягам апошніх дзён яны ў такіх лютых колькасцях адступалі, хаця дарога ўздоўж былой польскай мяжы была ідэальным месцам для засадаў; у вёсцы мне патлумачылі, што яе адмыслова пабудавалі з безліччу паваротаў. Напэўна, з немцамі вырашылі ўправіцца за адным свістам, не марнуючы часу на бязладныя ар'ергардныя баі. Што ж, пачакаем дзень-другі.

Дзякуючы падобнай разважлівасці я не пабег адсюль ні дваццаць другога, ні дваццаць трэцяга, ні наступнымі днямі Паступова клубок слушных довадаў рабіўся, вядома ж, больш пышным і старых не хацелася кідаць у невядомасці, і рабіцца панікёрам у чыіх бы там ні было вачах, і разрываць летні план, так удала пачаты датэрміновай здачай сесіі, і флірт з Гануляй не быў даведзены да лагічнага шчыльнага тупіка (па маіх падліках, каб заехаць у тупік, трэба было змарнаваць яшчэ каля чатырох вечароў)...

Усё запраграмавана: кожны крок кожнага жаўнера – нават нямецкага! – дакладны і акуратны, няма чаго мітусіцца Ціхенькія Радкі яшчэ не чулі страляніны, а кананада, што далятала аднекуль з-за свету, успрымалася як нейкая прыродная з'ява Тут ніхто не бачыў ні забітых, ні параненых, і нават чырвонаармейцы, што адступалі на ўсход, не набылі яшчэ банальнага выгляду акружэнцаў Напэўна, бяскроўная вайна непазбежна ўспрымаецца як вучэнне – прынамсі, да тае пары, пакуль яна не адкарэкціравала ваш распарадак дня і меню. Спадзеючыся на геній нашых палкаводцаў, я цвёрда разлічваў на своечасовае сканчэнне вакацыяў; першага верасня пачынаецца восеньскі семестр,

і ўвесь фізфакаўскі паток, дзелячыся ўражаннямі, пасядзе ў амфітэатры, за сценамі якога будзе шумець праспект Маркса, а крыху далей, за Манежным пляцам, будуць непарушна стаяць Крамлёўскія вежы

Такім чынам, адбіўшыся ад бабулі, якая мерылася накарміць нас абедам, я выправіўся на шпацыр, упрыгожыўшы скальп моднай газетнай панамай Успаміны аб паўдзённым сквары на паветры яшчэ прыдадуцца суровай зімой 1941–42 гадоў. А то і не прыдадуцца. Што ж тычыцца лета, дык яно выдарылася хрэстаматыйным- якім, па сутнасці, ніколі й не было, на гэта потым звернуць увагу многія гісторыкі. Нечуваная справа: паўночна-заходняя Беларусь, дзе трое з чатырох дзён хмурацца, як абрабаваныя інкасатары, стамілася ад сонца!

Танкі – дванаццаць рылаў – стаялі ля сельсавета, над якім кавалкам выпетранай ялавічыны вісеў flag. У двары, вакол памерлага тры гады таму колавага трактара разлегліся потныя экіпажы. Вонкава яны нічым не розніліся ад нашых: чорныя камбезы, рубчастыя шлемы, ларынгі; сюды падаў цень ад будыніны і квартэта рослых бярэзін, адмыслова пакінутых пры пабудове Не, з ларынгафонамі мы трохі далі маху – савецкія танкі і самалёты не былі радыёфікаваныя на пачатку вайны, не паспелі.

Частка атрада дурэла ля студні – дакладна так, як гэта пакажа потым кінематограф Самаўпэўненыя, вясёлыя хлопцы балабонілі штосьці па-нямецку (ну, вядома, па-нямецку) і па чарзе заміналі адно другому піць з вядра. У доме, ля разнасцежанага акна смалілі цыгарэты людзі больш сталыя, у той жа чорнай уніформе- няйначай, афіцэры Старшыня сельсавета яшчэ заўчора ўліўся ў адступальны манеўр Чырвонай Арміі, каб дабрацца на цягачы да райцэнтра й атрымаць там указанні наконт эвакуацыі. У выніку арганічная патрэба ў кіраўніцтве пазбавіла яго ролі правадыра захопленага праціўнікам населенага пункта, а аднавяскоўцы, адпаведна, былі пазбаўленыя відовішча пакідання службовага апартамента, якое многіх бы ўсцешыла. Калі хтосьці не выяўляў жадання зарабляць працадні звыш нормы, старшыня прыходзіў у госці і шугаў у печ вядро вады; марознымі ранкамі гэта пераконвала, прычым рабілася ад энтузіязму, бо фармальна галава мясцовай улады да калгаса дачынення не меў... Дарэчы, першы гаспадар сельсаветаўскага будынка шляхціц Уладзь Невядомскі дваццаць адзін год таму таксама збег акурат за два дні да прыходу конніцы Тухачэўскага і цяпер, калі даць веры чуткам, жыў як той Адам у раі дзесьці ў Англіі[3].

Магчымасць памацаць баявую тэхніку выклікае ў кожнага, нават самага мірнага мужчыны, ірацыянальны кайф; мы бачым у гэтым доказ значна меншай вартасці прадстаўнікоў падвіду «Б» адносна падвіду «А». Я прабіраўся вузенькім калідорам між танкамі і штыкетнікам і ў душы змагаўся з уласнымі пачуццямі, перш за ўсё з пачуццём задавальнення ад блізкасці гарачай брані заваёўнікаў Немцы, што завіхаліся ля студні, заўважылі мяне і прыціхлі; хтосьці нават памахаў рукой Я вымушаны быў няўцямна кіўнуць у адказ, і ў тую ж хвіліну вясёлае баруканне выбухнула з новаю сілаю – так звычайна паводзяць сябе дзеці пры з`яўленні незнаёмага чалавека, кожнаму хочацца паказаць, што ён тут галоўны.

Ну-с, цяпер, калі мы дамагліся пэўнай праўдападобнасці сітуацыі (хаця і дапусцілі, зусім свядома, адну хібу – за якую мусім прасіць прабачэння – згадаўшы пра чырвоныя эскадроны, якія і сапраўды вызначыліся ў кампаніі 1920 года, але не ў той мясціне), дазволім сабе ненадоўга – да вечара – перарваць аповед. Гэта ўзбадзёрыць прыспанага чытача.

Нягледзячы на ўсе тыя нюрыкі[4], што скаланалі свет цягам апошніх паўтара тыдняў, дэфініцыя «млява бягучая» па-ранейшаму ўдала характарызавала жыццё Радкоў. Раён не паспеў (і ўжо ніколі не паспее) наладзіць мабілізацыю з-за выпадковай бомбы, што патрапіла ў памяшканне райваенкамата ці не ў першы дзень вайны, душы камісара і яго намесніка выправіліся на Вышнюю тусоўку непасрэдна з працоўных кабінетаў Масавых развітанняў не было, і мужчыны наваліліся на багаты першы ўкос. Асаблівага хвалявання ў звязку з прыходам немцаў ніхто не адчуваў· у Радках не жылі габраі. Публіка была апалітычная і працавітая, так ужо надарылася, што ўсе камсамольскія і партыйныя экземпляры гуртаваліся на цэнтральнай сядзібе, у вёсцы Рудня. Кагадзе запушчаная машына, якая павінна была паведаць свету пра фашыстоўскія злачынствы, толькі-толькі набірала абароты, а побыт жыхароў уз`яднаных тэрыторый наогул прымушаў з вядомым скепсісам ставіцца да прапаганды.

Карацей, зацятаму урбаністу не было чаго рабіць. Сузіранне нябёсаў, лясоў, палёў





і рэкаў не дае мне ніякага enjoj, а адсутнасць звычных выгодаў страшэнна раздражняе. Адносіны да такога, выключна вясковага спосабу забойства часу, як рыбная лоўля, настолькі безапеляцыйна адназначныя, што здолелі працяць генерацыю і цалкам захавацца ў сто сёмым жыцці. У дадатак да ўсяго гнюсная бібліятэка, створаная на базе лікбезу, месцілася аж у Рудні. Калі б не Ганулька, я б усім сэрцам ірваўся ў Маскву, далей ад гэтай шэрай узбочыны Незразумела нават – чым тут займацца, калі дзяўчына ў рэшце рэшт, развядзе калені Хіба што закахацца. Далібог· гледзячы на семнаццацігадовую Ганку, якая вярнулася ў бацькоўскі пяцісценак адпачыць ад Полацкай педвучэльні, пачынаеш думаць, што беларускі – самыя прыгожыя ў свеце. Раней я схіляўся да масквічак, але на факультэце нікога з напаўмаёй Ганулькай і блізка паставіць нельга: адна толькі сексапільна-негроідная пабудова грудзей і сядніцаў чаго вартая!

Тры даўжэзных гадзіны адваляліся мы на прырэчным пяску і разышліся па хатах, каб падсілкавацца перад вечаровай сустрэчай. Як заўсёды пасля такога атупізму, я цюпаў па калёснай каляіне лёгкімі вінтамі, радуючыся, што сённяшняя геліядоза была не надта вялікай. Бабульчына галашэнне пачуў ля весніц, мая маці падобная да яе. калі крычыць на бацьку, вушы закладвае.

Гаўно-доля працягвала гушкацца ў гамаку па-над нашым куратнікам. У сакавіку кватуху-рэкардсменку сцягнуў хтосьці з лясных братоў – тхор, відаць, ахвяра апырскала свой апошні шлях: чырвонае на белым У траўні ад вадзянкі падохла маладзенькая раба. Пару пісклятаў нядаўна задрала наша вартаўніца, беспародная сука Ліра (калі б мне насралі ў міску, таксама не стрываў бы) Сёння знікла чорная курыца, гонар і краса, адзіная ў калекцыі, што мела мянушку – Ларэта Я, дарэчы, так і не даведаўся ў дзеда– чаму ён яе гэтак назваў Урбаністаў не цікавіць флора з фаунай. Магчыма, дзед выцягнуў гэты германізм з субцітраў якой-небудзь пошлай меладрамы: па суботах у Радкі наведвалася перасоўка

Ларэту, рэч зразумелая, сцягнулі захопнікі, цалкам працаздольная лагема. усялякай падзеі павінна садзейнічаць другая падзея. Памятаю, вечарам таго дня, калі мы з бацькамі ўехалі ў маскоўскую камуналку, прыцёгся сусед, поўная падабізна сённяшніх лімітчыкаў, і спытаў: ці гадуем мы змеяў. «Каго!?» – «Змеяў!» Лапаць наступіў у агульнай прыбіральні на вужа, якога падкінуў хтосьці з падшывальцаў, і адразу вырашыў, што новыя жыхары гадуюць ядавітых гадзюк.

Бабуля была няўцешнаю.

– Зараз пайду да іхняга начальніка!– гукала яна кожнае пяць хвілін, слёзныя залозы пад праектнай нагрузкай

– Так,– няўпэўнена згаджаўся дзед,– павінна ж быць людзям нейкая ўлада Савецкай, мабыць, ужо й няма. . Вось і шыбу пабілі.

– Літасць пераможцы – рэч ненадзейная,– красамоўна казаў я па-беларуску, наіўна спадзеючыся ажывіць час пошукамі Ларэты ў чужым штабе.– Але ж спытаць можна.

Дыспут скончыўся выправаю хадакоў да сельсавета, з выпадку дыпламатызму мы з бабуляй абуліся

Ці варта апісваць усё гэта падрабязна, ці не даць чытачу ясную і спрошчаную схему замест нудотнай двухвёрсткі? Што ж, ужывём вядомы стылістычны штамп. Пагналі. Без знакаў-прыпынакаў.

Вартавы на ганку сустрэў нас з цікавасцю місіянера і адразу ж даклаў і хутка бабуля ўсчала лямант у сценах нядаўняга сельсавета а я разглядваў варанёную штуку на чэраве ў жаўнера здагадваючыся што гэта аўтамат і праз хвіліну прагрукатаў бліскучымі ботамі сівагаловы афіцэр у кіцелі і высокай фуражцы з чырвонай пысай і маланкамі ў вачах за ім цялёпалася смаркатая бабуля а потым дзве каманды дзве хвіліны два шыхты ў двары перад трактарным трупам і допыт і раўнадушныя твары танкістаў і невядома адкуль і навошта ў такую спёку такая скураная пальчатка хвацка па шчоках ні хера сабе лінейная рэакцыя ў чувака і ўтуленыя ад удараў галовы і заплаканая бабуля і я сам заняты сваімі вачамі ды д'ябал з ёю з Ларэтай магла й да суседзяў збегчы у рэчцы магла ўтапіцца дурная ў Вушачцы ну і парадкі ў іх з-за чужой паўптушкі па пысах як пры цару а яшчэ культурны народ шкада я ангельскі вучыў штосьці ж трэба сказаць каб супыніць аднак дзякуй богу яны і самі ўрэшце ачуліся хтосьці з шыхта звярнуўся да афіцэра выслухаў вякнуў штосьці панура і вярнуўся ў дом а жаўнеры сталі ў кола палезлі ў кішэні і раптам адзін з іх парадным крокам клянуся я хроніку бачыў ведаю як на парадах ходзяць ляснуў

абцасамі два пальцы да пілоткі ад шлема рубчастага мазгаўня адпачывае і працягвае штосьці і штосьці кажа і шчака як і ва ўсіх чырвоная а бабуля спалатнела і не плача а ён упарта піхае як не ўзяць грошы зразумела маркі ў Нямеччыне маркі і пфенігі здаецца на іх хутка можна будзе тры курыцы купіць але мы гэтага не ведаем а папросту стаім і хоць ты праваліся.

Халтурны метад, нічога не скажаш; бац – і старонка гатова За адным выдыхам, можна будзе яшчэ разок паспрабаваць, але гэта пазней І што асабліва каштоўна. ніякіх табе дыялогаў, якіх я цярпець не магу.

Змучаны хатнімі размовамі пра паход да немцаў, я ледзь-ледзь дачакаўся першых зорак-зорачак (праз трыццаць гадоў з'явіцца песенька «Спи-и-и, ночь в и-ю-ле только ше-е-есть часов[5]), каб сустрэць у прызначаным месцы – як заўсёды, каля фермы,– Ганку і шалець ад бляску яе вачэй Чуткі пра Ларэту паспелі жвавым рабаком двойчы абабегчы Радкі, і яна, зразумела, усё ведала, але аповед відавочцы й нават удзельніка – рэч, як вы разумееце, зусім іншая.

Катаклізмы любой прыроды ўзводзяць жаночую падатлівасць у квадрат, за выключэннем выпадкаў некаторых вірусных інфекцый. Сёння Ганула выдала мне нарад-допуск практычна да ўсіх сваіх круглявасцяў, пагоркаў і лагчынаў; заставаліся толькі праблемы з пэўнымі поласцямі У адначас я здзейсніў адкрыццё між паліраваных дзявочых седніцаў рос хвост.

Ну, не хвост, а хвасток, і нават не хвасток, а хутчэй, нейкі купаж, як у эрдэльтэр'ера ці, скажам, у баксёра. Лішнія пазванкі хвастца тырчалі пад скурай цвёрдай пірамідкай, яна так і сказала, калі я іх намацаў:

– Не чапай мой хвасток.

Але я пачаў яшчэ больш натхнёна лашчыць даланёю жывую паліроўку, мацаючы гэтую штуку, не раўнуючы як тая лэдзі, што ў мінулым стагоддзі спакушала Гуінплена. У тую ж хвілю мяне апанавала нейкае няўцямнае хваляванне. штосьці адбывалася там, пад рэбрамі, у дальніх, непадпарадкаваных мозгу, спратах; штосьці лезла вонкі, і я трашчаў па швах, выяўленых свойчас Вялікім Зыгмунтам У кактэйль дадамо нястрымныя ганульчыны вохі, яе шалёныя выгінанні на маёй грудзіне, нарэшце, разуменне таго, што рудымент эрагенны, а супрацiў інерцыйны, і што трэба хуценька прыладзіць клічнік у адпаведнасці са штатным раскладам. У гэтае імгненне нашы і перамаглі: зенітка аглушальна стрэльнула, у засеках лопнулі падгнілыя ніткі і, пакуль маё дрэва перантваралася ў банальную піську, стала зразумелым, што вышэйзгаданая Molly Hatchet таксама была хвастатая

Ганка не пачула грукату майго стрэлу і працягвала бездапаможна торгацца, у семнаццаць гадоў гэта распаўсюджаная памылка. «Заўтра не спудлую!»– паабяцаў я сам сабе і пакрысе вярнуў дзяўчыну ў зладжаны намі ў капе сена мікракосм.

А палове трэцяй я дапамог Ганне ўлезці ў акно хаты, патрымаўшыся напаследак за неспадзяваны адростак, і пацёгся дадому ў прадчуванні хуткай вікторыі

Я ўжо казаў, што не люблю country У горада ёсць адна безумоўная перавага; а менавіта: пахі летняй ночы, якія раскідвае цёплы вецер, безнадзейна блытаючыся ў галінах. Каб абмінуць танкавую стаянку, я пайшоў дахаты раўналежнаю вулкаю (у Радках іх акурат дзве), і неўзабаве цалкам астыў ад гарачых і доўгіх пацалункаў

Дзесьці далёка загула шаша. Я зайшоў у цёмную кухню, сцягнуў навобмацак у дзеда папяросіну з запалкамі і вярнуўся да весніц. Святла не было бачна з-за безлічы зігзагаў на дарозе – гэткія траекторыі атрымліваліся, калі старажытныя рыцары прабівалі сцяжыны на п'яных конях. На такіх дарогах зручна рабіць засады, апроч таго шматлікія зігзагі з'яўляюцца хітрамудрай абаронай ад авіяцыі: нямецкія самалёты не здольныя рабіць такія петлі, а нямецкія кіроўцы наўрад ці дзячаць яе стваральнікам за іхную пякельную працу.

Ад зацяжкі закружыўся кацялок– як гэта бывае ў кожнага, хто рэдка паліць, гук трасы нарастаў; скрозь бліжні гаёк прабілася палымніца. Выгін дарогі – за ім мост праз Вушачу – пачаў выпіхваць машыны Ляскат пацвердзіў, што гэта зноў танкі, але калі калона пад'ехала да хаты, выявілася, што танкаў усяго шэсць, а за імі – мноства грузавікоў з цыстэрнамі, гарматамі, пантонамі, жаўнерамі, часам пракідваліся чорныя легкавушкі. У кодабах грузавікоў зіхцелі агеньчыкі, і яны перамігваліся з маім, як адзіны дружна паміраючы Тытунь. Калі сельсаветаўскія госці пойдуць разам з гэтай калонай, значыць





яны папросту чакалі гаручага.

Бліскучая здагадка! Раніцою Радкі прачнуліся без чужынцаў

Асмялелыя аднавяскоўцы спантанна сабраліся ля былога панскага маёнтка. Вярнуўшыся са сходу, дзед распачаў няўцямны спіч, які, каб не стамляць чытача, падам тэзісна ў расейскім перакладзе

– ад вясковага сцяга засталося толькі дзяржальна–парэзалі, відаць, на анучы (пазней даведаўся, што вермахт карыстаецца шкарпэткамі);

– чырвоныя ядвабныя анучы– гэта арыгінальна;

– іншых слядоў захопнікі не пакінулі, апроч купкі смецця поруч з дашчаным дамком у глыбіні сельсаветаўскага двара, ды, вядома, адбіткаў гусеніц на сухой гліне;

– ах, пардон, не абышлося без улюбёнай танкавай штукі· плот на рагу агарода старой Піліпаўны быў развернуты і ляжаў покатам;

– пры Гітлеру не будзе калгасаў

Дзед роблена бадзёрыўся, пару разоў нават здушана рагатнуў, а блізу абеду выставіў на стол кілішкі, але я, толькі за гадзіну да таго прадраўшы вочы, адмовіўся з прычыны недарэчнасці дзённага піцця Іншая рэч – адвячоркам, дзеля натхнення. Затое нечакана згадзілася бабуля, і неўзабаве старыя вырашылі згуляць у ноч, паваліўшыся на свае старажытныя-гучныя-мяккія лежакі

Пакуль я піў малако з конаўкі і блукаў, узіраючыся ў лагоду на маршчыністых тварах, узнікла адчуванне непрацуючага радыё, такое бывае ў жыцці. Крутнуў ручку. Так яно і ёсць. У самы прыпар сіесты, як і надоечы, я выбраўся на вуліцу Скрозь папяровы капялюш і ЦМА[6] сонца прабірала да гіпафіза. Я зайшоў у пахілую пуньку сельпо.

Там не было хлеба.

Прадаўшчыца некуды знікла, і гэта выратавала мяне – героя і аўтара – ад нудотнай балбатні, абавязковай у вясковых крамах.

Я ўпершыню, бадай, задумаўся аб пераемстве часоў, выразна ўбачыўшы яго разрыў у маўклівым радыё і адсутнасці хлеба. Захацелася прамовіць уголас што-небудзь пампезнае, і я сказаў:

– Апошнія вакацыі

Наперадзе брамка выпусціла незнаёмага мужыка ў пільчаку на голым целе Ён падхапіў рыдлёўкаю каровіну ляпёху, скоса зірнуў у мой бок і пацягнуў калгаснае гаўно на свой агарод. Я пайшоў клікаць Ганку, каб пайсці на рэчку.

Дзеля клішыраванай завершанасці данага фрагмента аповеду дарэчы будзе выказаць здагадку, што ў гэты міг герой упершыню адчуў неспакой за бацькоў; у гэтым неспакоі прысутнічаў таксама элемент самалюбавання – «Нязнайка ў тыле ворага», напісаў бы Мікалай Носаў, калі б нарадзіўся крыху раней; зрэшты, было відавочна, што самалюбаванне хутка растае· Маскву, здаецца, ужо бамбілі

.. Анюта дала прыкладна а другой гадзіне ночы. Як сказаў бы К.Сіманаў, я яе «пабярог», гэта значыць ускочыў у сакральную хвіліну й акрапіў рэдкую рыжаватую дубровачку Правінцыйны хлопчык не быў бы такім далікатным. Сяброўка перацярпела ўвесь сеанс, ані разу не войкнуўшы; толькі парывіста дыхала, як я сам у мінулым годзе пры рэзекцыі фурункула на жываце

Мы ляжалі ля аборы, на прыцiснутай да зямлі капе і слухалі грузных жывёлаў за сцяною. Яны варушыліся, бразгалі нейкай фурнітурай, пераступалі з нагі на нагу, сралі, чвякалі й зрэдзьчасу каротка рыкалі з-за тых кашмараў, якія сніліся ім у вечнай няволі. Неба, як ніколі, падыходзіла для ўрока астраноміі.

– Быццам няма вайны,– сказала пяць-хвілін-таму-дзяўчына.

Па-апякунску нядбайна цмокнуўшы яе ў сасмяглыя вусны, я стаў паказваць сузор'і, тлумачыць эфект Доплера й падзенне знічак. У Радках забрахаў сабачы верхавод Джэк-кабель Піліпаўны Ягоны сіплы бас, які я беспамылкова пазнаваў і ўдзень і ўночы, сведчыў пра каўказскіх прашчураў Брэх падхапілі астатнія сабакі. Праз бязладную брахню прарэзаўся дробны і гучны ляскат. Я не паспеў зразумець, бо кулямётную страляніну чуў дагэтуль толькі ў фільмах пра грамадзянскую вайну Грымнуў выбух- ён быў задужа глухі – як палкай па бочцы. Мы ліхаманкава апраналіся.

– Спакуха, спакуха, – мармытаў я, выпростваючы ў сацінавых трусах мокры фалас. Блытаючыся ў апліках недарэчнага станіка, плаксіва лепятала Ганула:

– Мама-тата-мама-тата.

Яшчэ выбух. Аўтаматы задзяўблі ў некалькі смычкоў. Можна было супакоіць сябе якім-небудзь глупствам– прыкладам, што ў немцаў пачаліся вучэнні,– калі б не людскія крыкі, якія даляталі з бліжняга канца вёскі. Іх тэмбравая гама была родам з Інферна. Страха аднае з крайніх хат пусціла слуп светлага сярод начнога цямноцця дыму; яго кінулася даганяць зграя вогненных лісіных хвастоў

– Мама-тата-мама...

Ганя рынулася па дарозе, да Радкоў метраў трыста.

– Ты што?– я ледзьве перахапіў яе.– Псіхбальніца!

Загарэлася яшчэ адна хата. Нейкія дзіўныя выбухі – коркі ад бутэлек. І зноўку крыкі–ці можна жыць далей, гэтак крычаўшы? Адна з партыяў сабачай аркестроўкі патанула ва ўласным віскаце.

Каб разабрацца ў сітуацыі, трэба затаіцца, пойдзем, Ганулька, ціхенька-ціхенька, пазаддзем-агародамі, ёсць у драўлянай вёсцы надзейны схоў – куча жалеззя на сельсаветаўскім двары. Яна, будзем верыць, не згарыць. І думка на астачу: «У лес бы » Гэта проста фіксік нарадзіўся, не хутка адчэпіцца.

Падбіраючыся да жалезнай ламаччыны, мы заўважылі некалькі постацяў, якія маўкліва беглі ў адваротным накірунку – да фермы, да лесу; хто мог падумаць, што ў дальніх ад шашы хатах бяспечней? Шалёны бег людзей, якія ад страху абмачыліся, не можа не ўражваць. Калі яны шчасна ратуюцца, дык адным з наступстваў бывае смыленне нацёртай прамежнасці. Паколькі надалей ім, як правіла, даводзіцца жыць абы-як, неўладкавана, запалёнае скурнае покрыва прычыняе пэўныя нязручнасці.

Вось так, спатыкаючыся па купістых плантацыях гародніны, мы набліжаліся да пажару; гарэлі ўжо, мабыць, з дзесятак хат– траціна вёскі. Страляніна не перапынялася Заплаканы Ганьчын тварык выглядаў сямігадовым у зухаватым вогненным святле

З-за трактарных зубчастых колаў нам адкрылася дзея, у агульных рысах увекавечаная потым усімі відамі мастацтва з мэтаю прадукавання дэнацыфікаванага нашчадка

Маладая кабета– не будзем ускладняць аповед згадкамі пра яе цяжарнасць– бегла са спавітым у безліч пялюшак дзіцёнкам, а следам, неяк без ахвоты і імпэту, бег трушком аграмадны эсэсавец у чорным.

– Марына, суседка ваша, – першай пазнала Ануля, яна гаварыла спеўна, як гэта бывае ў істэрыцы ці калі трацяць прытомнасць.

Нязручна было Марыне бегчы басанож па засохлай гразі, ды яшчэ з дзіцёнкам на руках; трэсліся пад мяшком начнухі яе буйныя формы, галасіў шырокі рот, матляліся з пляча на плячук вызваленыя ад шпілек цяжкія валасы. Праз хвілю мы ўпершыню пабачылі, як страляе шмайсер і што бывае потым.

Марыніну кашулю на спіне адразу ў трох месцах запэцкала чорным, яна спынілася, схапіла дзіцёначка пад пахі, а другую руку закінула назад– як бы гразь змахнуць. І павалілася на жывот, падабраўшы пад сябе сваю ношку.

Я заціснуў Ганульцы рот.

Фашыст нагнуўся, каб задзерці Марыне кашулю. Не адводзячы вачэй, ён скінуў да шчыкалатак нагавіцы Пажар цудоўна асвятляў дэталі.

Я закрыў Ганульцы вочы

Аўтамат ляжаў у метры ад захопленага некрафіла. Апошняга слова, зрэшты, я тады не мог ведаць – складана апісваць падзеі на сто шостым паверсе з вышыні сто сёмага, на што мы наракалі і раней. Тут лёгка панурыцца ў эклектыку і, такім чынам, заслужыць незадаволены пагляд Абрама Тэрца[7], і так ужо не раз заслужылі. І наогул тэрмін «некрафілія» ў даным выпадку выглядае даволі няўдалым эўфемізмам.

Да разнасцежаных брамаў – крокаў пятнаццаць, не болей. Плюс яшчэ пяць – да зброі. Мяне працяў агідны пот. У мёртвым штылі дружна патрэсквалі хаты. На фанаграме, прысланай з «Парадыз Рэкордз», гэтага амаль не чутна, толькі плач, брэх ды бязладная трасканіна. Калі правёў позірк на шмайсер, гукавое суправаджэнне адключылася: я аглух.

Забудземся на хвілі ваганняў – яны былі марныя. Эсэсавец устаў, памачыўся на Марыну і нацягнуў штаны. Падхапіўшы чорную пілотку і аўтамат – бязважкі ў магутных руках– ён увайшоў у браму, агледзеў трактар і накіраваўся да ганка Ад майго спохвату захрыпела, задыхаючыся, Ануля Неўзабаве ў сельсаветаўскіх вокнах адбіўся барвовы світанак, і немец пайшоў. Па шырокай Марынінай спіне збегалі ў пыл чорныя гірлянды. Стрэлы, што гучалі злева і справа, паволі перамясціліся за нашы хрыбціны; напярэдзе





ўсё было скончанае, адно плакалі на ланцугах абгарэлыя сабакі ды падсмажаныя каровы рыкалі ў дымных хлявах.

Вогненная гарачыня, якой дыхала былая сядзіба пана Невядомскага, прымусіла выбегчы на вуліцу. Ганка пачала ванітаваць, і яна доўга мучылася з пустым страўнікам. З цяжкасцю перавярнуў Марыну на спіну: дзіцёнак, відаць, не дыхаў. Я абванітаваў паўметровы ліст лопуху цягуткай і смуроднай слізэю.

Зорную чараду даглядаў жаўтлявы ветах– долька лепшага мандарына з Елісееўскага гастранома. Дымныя калоны, народжаныя ў Радках, рупіліся прыхаваць далікатэс. Нарэшце, уцёршыся, Ганула наважылася, як яна сама сказала, «ісці дадому»; але я інстынктыўна перашкаджаў. Не буду сцвярджаць, што менавіта ў гэтае шчымлівае імгненне ў душы маёй узнік алгарытм помсты: я памкнуўся наперад і, на шчасце, заўважыў, што забойцы – «каты Радкоў», як ахрысцяць іх газеты па той бок фронту, сыходзяць з вёскі.

Я трымаў Ганулю за руку, і ў яе чамусьці былі скачанелыя пальцы. Крайнія хаты, ад якіх яшчэ паўгадзіны таму ляцелі да выратавальнай армады дрэваў імклівыя постаці, гарэлі як паходні, і на нас хвалямі накочвалася цяпло сухіх бярвенняў Калі перад вачыма не засталося болей сляпучага полымя, зрэнкі хутка адаптаваліся. Мы, прыгінаючыся, падкраліся да будкі-прыбіральні напрыканцы апошняга гарода, шчыльна аточанай кустамі адцвілага бэзу.

– Шагом марш!– даляцелі словы сцішанага загаду.

Атрад, пастроены ў калону па двое, гадзюкаю папоўз уверх па дарозе, да фермы, дзе зусім нядаўна, пасярод свежага сена і месяцовага святла надарылася дэфларацыя Іх было блізу трыццацёх чалавек.

– Ебёна мать,– сказаў нехта ў задніх шыхтах, пакрываючы голасам сваім мернае тупаценне,– яйца сопрели...

Ён яшчэ штосьці сказаў, але мы не разабралі словаў. Пад маёй далонёю зварухнуўся Ганульчын хвосцік. Я застыў, зніякавелы: я напоўніўся замараччу, як кішэчнік шлакамі пры тыднёвай зацвердзі. Мы, аднак, устрымаліся ад каментароў, спрабуючы знайсці тлумачэнне таму, што пачулі і пабачылі. У паветры вісеў едкі пах пажару.

Дзверы аборы злёгку рыпнулі. Аўтаматная чарга, рык аганізуючай рагулі. Яе, здаецца, выцягнулі і пачалі разбіраць на кавалкі, але, пакуль не заняліся роўным зіхоткім агнём сцены, амаль нічога не было відаць. З дзікага рыкання соцень траваедных глотак склалася какафонія. Чорныя чалавечкі на тле вогнепырскай фермы пакавалі ў ранцы ялавічную выразку. У салому, на якой мы сядзелі, патрапіла іскра і пачала хутка расці

Праз колькі хвілінаў атрад збіўся ў купу, потым стаў шыхтом і пашыбаваў да лесу; дзяўчына палічыла, што можна заплакаць уголас. Забыўшыся, яна даволі гучна пукнула. І, набраўшы ў лёгкія дымнага паветра, аўтар пагнаў юных каханкаў у Радкі, і яны пайшлі па вуліцы і не разнімаючы рук сцярожка абміналі мёртвых людзей і так дайшлі да коміна Ганулінай хаты і ўбачылі ейнага перапэцканага сажай бацьку які ляжаў непадалёку а маці не знайшлі і пацягнуліся лямантуючы амаль ва унісон туды дзе вёска сустракалася з выгінастаю шашой і здзівіліся што хата цэлая і пагледзелі на дзеда з бабуляй знявечаных ля ўваходных дзвярэй так што і ў хату не ўвайшлі цяпер стала зразумелым чаму выбухі здаваліся глухімі гэта гранаты ў хатах ірваліся і тады мы залезлі ў акно майго пакоя і выкінулі ў сад пярыну коўдру і падушку і ляглі між яблыняў гатунку белы наліў абняліся паспрабавалі заснуць усхліпваючы а праз паўтары гадзіны загула ваенная дарога ажыла фарамі як мінулай ноччу і мы з Ганулляй выйшлі на ўзбочыну і ўзнялі рукі каб спыніліся вялікія плямістыя грузавікі самаходныя гарматы на гусеніцах і бронетранспарцёры і знайшоўся перакладчык у немцаў шмат хто з камандзіраў расейскую ведалі таму што раней у Нямеччыне нельга было вучыцца ваяваць і я растлумачыў што да леснічоўкі вядзе не толькі сцяжына ад згарэлай фермы але і дарога да якой яшчэ кіламетраў сем мне дзед паказваў і нам дапамаглі залезці ў кабінку але на развіліне перасадзілі ў бронетранспарцёр і следам паслалі грузавік з жаўнерамі так мы і ехалі сярод хвояў пакуль мне не здалося што ўжо недалёка і тады адключылі маторы і пайшлі пешкі але стала ўжо зусім светла а леснічоўка ўсё не з'яўлялася і жаўнеры нерваваліся таму што баяліся засады але вартавыя праспалі а шостай раніцы пасля ўежнай вячэры цяжка ўтрымацца і дзынкнулі абедзве шыбы і грымнулі дзверы а яны ўпокат на падлозе надта стаміліся а да дваіх што на нарах не паспелі выспацца немцы адразу ахову прыставілі

начальнікі рэч зразумелая і допыт правялі а астатніх прымусілі на падлозе сядзець і чакаць але нядоўга таму што дакументы ў начальнікаў былі ў парадку толькі акцэнт надта моцны а іншыя зусім нямецкай мовы не ведалі як жа так яшчэ ж Луначарскі казаў без замежных моваў культурны чалавек немагчымы карацей гэтых зладзеяў у чорным пачалі забіваць ля высознай сасны строга па чарзе такая ў іх педантаў завядзёнка некаторыя на каленях прасіліся іншыя глядзелі з-пад ілба а адзін нават пабег а мы з Ганулям глядзелі і нам зусім не было моташна а калі таго самага паставілі я да афіцэра падскочыў які крычаў увесь час «Фоя!» і блытана распавёў пра Марыну потым пра дзеда з бабуляй потым пра Ганьчыных мама-тата-мама-тата нарэшце пра кароў і мне далі ружжо а дакладней не ружжо а вінтоўку а можа карабін яны з аўтаматаў не расстрэльвалі і я прыцэліўся і некрафіл стаў рыкаць напэўна каб не так страшна было чакаць не выпадала і рукі мае зусім не дрыжэлі і я націснуў ледзь-ледзь і не па цэнтры а ў левае вока ўвайшло і аддаў карабін а адзін немец працягнуў пачак цыгарэтаў і Ганулі прапанаваў і яна ўзяла навучыш кажа вядома адказваю гэта вельмі проста толькі шмат дыму не ўдыхай але яна ўсё адно закашлялася і я пальцамі пстрыкнуў глядзі маўляў птушка паляцела і тут мы заўважылі што высозная хвоя на тры метры ўвышыню запырскана крывёю.

Наспеў час і падвесці рысу Але яна, рыса, наўрад ці атрымаецца простай, хутчэй ад усяго будзе падобная да ваеннай дарогі, зручнай для засадаў і нязручнай для авіяцыі, якая і дагэтуль віецца ўздоўж гістарычнай дэмаркацыі, пакрытая шэрым асфальтам, які не цярпіць зімы – па ёй з Полацка возяць у наварку «рызіну» карпатлівыя прыватнікі

Няма патрэбы пераказваць усю далейшую раскрутку вакацыйнага лета нашага героя. Ён быў пастаўлены на харчовае забеспячэнне ў пяхотным батальёне, паўроты якога здзейсніла экспедыцыю да леснічоўкі ў беларускім лесе. Дзяўчына Ганка дапамагала пэўны час ў батальённым палявым лазарэце, але потым была накіраваная ў жаночую выведшколу; болей пра ейны лёс нам нічога не вядома, аднак на happy end у даным выпадку разлічваць не даводзіцца. Душа пад нумарам 2.708.695.214.190.437 вызвалілася ад сто шостай цялеснай абалонкі падчас кароткага Ельнінскага рэнесансу, калі будучы герой Савецкага Саюза Флёраў учыніў прэзентацыю рэактыўных снарадаў Немцы хутка ачомаліся ад віскату птушак, што зляталі са сталёвых рэек, і капітану Флёраву давялося знішчыць унікальную тэхніку Далёкія нашчадкі гераічнага капітана, як потым высветлілася, былі на гэта не здольныя, і ГРАДы– нашчадкі «кацюш»,– патрапілі на службу ў маладыя вусатыя войскі, якія з поспехам выкарыстоўваюць іх у баях супроць горных населеных пунктаў Такім чынам, дэнацыфікаваць нашчадкаў не ўдалося.

У адну з пятніц, калі, як заўсёды, ладзіў пасяджэнне Страшны Суд, нашай Душы, пасля лаканічнага ўступу Пракурора і кароткага абмену думкамі Сталых Чальцоў, выдалі прысуд-пасведчанне аб сканчэнні сто шостага працоўнага сезона з мінусавым дэтэрмінантам і пазнакай: «Калабарант». Душа заікнулася было пра касацыю і парушэнні працэсуальнага кодэкса (у прыватнасці, адвакат быў прызначаны толькі ў чацвер, гэта значыць напярэдадні, да таго ж стала вядома, што ён былы вучань Пракурора па Прававаой Акадэміі), але, згадаўшы, што на Зямлі ідзе бітва за Маскву, махнула нябачнаю рукой і, лунаючы па-над перыстымі аблокамі, паляцела займаць бясконцую чаргу.

г. Наваполацк.

**Пераклаў з рускай мовы**
**Вінцэсь МУДРОЎ.**

---

**[1] Клерыкалы сцвярджаюць, што адухаўленне адбываецца задоўга да нараджэння, ці не адначасна з першым дзяленнем аплодненай яйцаклеткі. На гэтай хісткай падставе яны – спрэс мужчыны! – патрабуюць забароны спаронаў.**

**[2] Камітэт па Дамове аб Спыненні Агню.**

**[3] Гэта, бадай што, не мае адносінаў да нашых раскопак: у 1981 годзе Джордж Харысан запісаў кружэлку «Дзесьці ў Англіі».**

**[4] Гібрыды нюнікаў і хірыкаў.**

**[5] С.Намін – Р.Гамзатаў.**

**[6] Цвёрдая мазгавая абалонка.**

**[7] Абрам Тэрц: «Мастацтва дастаткова цякучае, каб улегчыся ў любое пракрустава ложа. Яно не трывае аднаго – эклектыкі».**



# ПІЛІПІКІ ЯНО

*«Піліпікі»–нізка аповедаў Б.Пятровіча.*

*Назва яе паходзіць ад імя галоўнага героя Піліпа, якога аўтар прымушае рабіць і думаць тое, што звычайна не робіць і не думае звычайны чалавек. Да першай публікацыі «П » аўтар даў такі каментар: «П » пісаліся не жартам, не ўсур'ёз і не дзеля выпендрону. Яны проста пісаліся. А таму не задавайце пытання. а навошта яны напісаны? Ні мне, ні сабе. Бо ўсё, што ніжэй гэтых слоў, не вартае нават гэтых слоў».*

**(З нявыдадзенага яшчэ энцыклапедычнага даведніка).**

***

Піліп ссек дрэва. А яно не падае. Зачапілася галінамі за суседзяў і стаіць. Піліп пахістаў яго, адвёў ад пня– вісіць. Не падае.

Ноччу быў моцны вецер. Піліп прыйшоў да дрэва назаўтра ранкам. Дрэва ляжала выпрастаўшыся на зямлі.

Піліп абсек сучча. А дрэва і кажа:

– Ану прычапі назад!

***

Стрэльба ў Піліпа заўсёды вісела на сцяне. Незараджаная. А каб яна раз у год не выстраліла, Піліп заломваў яе напалам. А на выпадак, калі ўсё ж такое здарыцца, руля была скіравана ў столь.

Аднойчы ўвечары прыйшоў Піліп з працы дамоў, а ў бетоннай столі шчарбіна, быццам хто ўяе добры зарад шроту ўсадзіў. Вось тады і паверыў Піліп, што мы не адны ў Сусвеце, а, мажліва, і на Зямлі.

***

Піліп пісаў ліст бацькам у іншы горад. І так яму захацелася замест кропкі ў канцы апошняга сказа паставіць коску, што ён не вытрымаў і паставіў.

А потым доўга сядзеў і думаў· што б гэта яшчэ дапісаць?

Так, не дапісаўшы нічога, ён і паслаў ліст з коскай у канцы.

Праз тыдзень, з лістом у руках, прыехаў да Піліпа бацька–школьны настаўнік.

– Сынок,– абрадавана сказаў ён, убачыўшы Піліпа,– а мы з маці падумалі, што цябе забілі ..

– З-за коскі,– здагадаўся Піліп.

– З-за яе, заразы...

***

Піліп сустрэўся на вуліцы з прэзідэнтам. Былым. Нос у нос. І не размінуцца ім: злева лужына справа лужына.

Піліп падскочыў, каб прэзідэнт прашмыгнуў пад ім, ды той не здагадаўся: стаіць, як укапаны. І ні ўзад ні ўперад.

Так і не размінуліся.

***

Шаснаццаціпавярховік стаяў на гары (узгорку) і быў самым высокім будынкам у горадзе. Піліп захацеў пасяліцца ў ім на апошнім паверсе. Аказалася, займаў будынак інстытут І тады Піліп захацеў працаваць у ім. І ўладкаваўся. Прыбіральшчыкам-кур'ерам. З першага паверха ён насіў паперы на шаснаццаты і прыбіраў сходы са сто першай прыступкі да двухсотай.

Узбегшы на шаснаццаты паверх, ён абавязкова выкройваў хвілінку, каб вызірнуць у акно. І млела ягоная душа ад птушынага палёту вачэй. А сэрца ад жаху хавалася недзе ніжэй за калені. І тады прыгадваў ён свой аднапавярховы райцэнтр і шаптаў: «Ці думаў ты, бацька, што сын твой некалі ўздымецца так высока!»

***

Сярод менскіх мастоў быў у Піліпа адзін любімы. Доўгі такі мост Праз чыгунку

Стаяў на ім Піліп і жыццём любаваўся. Не так і часта рабіў ён гэта, але на тым месцы, дзе спыняўся ён заўсёды, асфальт спачатку прагнуўся (так падалося), а потым сцёрся да бетону Бетон, у сваю чаргу,– да металічных прэнтаў І іх, урэшце, Піліп адшліфаваў сабою да бляску Вельмі ж падабалася яму стаяць на гэтым мосце, менавіта на гэтым месцы.

***

Лапавухая Неферціці падабалася Піліпу Ён і так, і гэтак круціў здымак на старонцы з кнігі пра Старажытны Егіпет і не знаходзіў хібаў у ідэальнай жаночай галоўцы. Асабліваe замілаванне выклікалі аттапыраныя вушы і ненатуральна доўгая шыя.

Толькі гледзячы на Неферціці, Піліп прызнаваўся сабе, чаму гэтак позна ажаніўся: ён шукаў сярод навакольных жанчын свой ідэал. А яго, ідэалу, як вядома, не бывае тады, калі ёсць ты. Ён альбо ўжо быў некалі, альбо яшчэ будзе. Калі цябе не будзе.

***

У тэатры Піліп быў двойчы. У адзін і той жа дзень. Спачатку ранкам, калі набываў білет у касе, а потым– увечары, у зале.

Піліпу больш спадабалася ўвечары. Сядзець было мякка, зручна, і ён нават трохі падрамаў Аднекуль грала музыка, па сцэне хадзілі і бегалі нейкія людзі, нешта гаманілі, спрачаліся між сабою, але Піліп іх не слухаў

Ён ведаў, што ў тэатр людзі ходзяць адпачываць, і ён адпачываў..

***

Піліп згвалтаваў жанчыну Не тое, каб згвалтаваў, але ўзяў сілаю. Не тое, каб сілаю, але на ўсе ягоныя просьбы яна аднеквалася. Не тое, каб аднеквалася-адмаўляла, але і не дазваляла. Не тое, каб не дазваляла, але рукі ягоныя адпіхвала. Не тое, каб адпіхвала, але і не падпускала да сябе. Не тое, каб не падпускала, але адпіхвала. Не тое, каб адпіхвала, але і не дазваляла дакрануцца. Не тое, каб не дазваляла, але і згоды не давала. Не давала. І тады Піліп яе згвалтаваў Не тое, каб згвалтаваў, але праз пэўны час Піліпу стала сорамна, а жанчына заплакала. Калі яна заплакала, Піліп зразумеў, што правільна зразумеў ейныя аднекванні і адпіхванні. І камень спаў з ягонай душы

***

Неяк у выхадны, гуляючы па горадзе, Піліп зайшоў у мастацкі музей. Набыў квіток на нейкую выставу ці то нямецкага, ці то ўкраінскага мастацтва.

Піліпу спадабалася, што людзей у зале было няшмат Значна менш, чымсьці на вуліцы. І тым больш менш (значна менш!),–чымсьці ў любой краме. Людзі паважна хадзілі паўз карціны на сценах, заклаўшы рукі за спіну, спыняліся ля якой-небудзь і разглядалі Піліп таксама заклаў рукі за спіну і спыніўся. Але няўдала. На карціне была намалявана голая жанчына. Зусім голая, як у кіно бывае. Піліп сумеўся. Ціхенька агледзеўся, ці не бачыць яго хто-небудзь за гэтакім заняткам. Здаецца, нікому тут да яго не было ніякай справы. Але ўсё адно– няёмка. І Піліп падышоў да іншай карціны.

Яна яму спадабалася Там было на што паглядзець На карціне стаяў стол Са стала звісалі дзве гусіныя шыі, далей на ім ляжала разнастайная садавіна і гародніна. Чаго там толькі не было· і яблыкі, і грушы, і разрэзаны ўпоперак лімон, і вінаград, і дыня, і морква, і капуста, і вішні з чарэшнямі, і гуркі з памідорамі. Словам, усё, што душа (страўнік) пажадае Свежае, адборнае, як на выстаўку А злева ляжаў кумпяк так апетытна адрэзаны, што ў Піліпа слінкі пацяклі, а справа–вэнджаная рыба, таксама смачна раскладзеная Піл пу нават падалося, што ён пачуў ейны пахучы водар. Піліп прачытаў назву· «Нацюрморт з гусямі» Запомніў Адышоўся трохі і зноў вярнуўся да ўпадабанай карціны

Заклаўшы рукі за спіну, прастаяў каля яе Піліп мо гадзіну, знаходзячы ўсё новыя і новыя падрабязнасці, дакладна вымалёваныя мастаком. Да таго дакладна, што гусі былі як жывыя (у сэнсе–надта падобныя, хоць і забітыя).

Да закрыцця выставы, як даведаўся Піліп– нашай, беларускай: могуць жа!– паспеў ён прывесці да гэтае карціны сваю жонку, дзяцей, трох сяброў, а потым цешчу. І ўсім яна (карціна, вядома) вельмі спадабалася

***

Прыдумаў аднойчы Піліп показку Пра Лукашэнку Хацеў расказаць жонцы, аднак перадумаў: не зразумее. Хацеў расказаць сябрам, ды пабаяўся: заложаць. Хацеў расказаць простым сустрэчным, але не асмеліўся падысці да іх: сорамна. Хацеў запісаць: асадкі не знайшоў, а дзеці якраз у школе былі Прыйшлі дзеці, ды тут яго жонка некуды паклікала.

Так і прапала показка– забылася. А шкада: як-ніяк фальклор.

***

У кавярні, за столікам, ля акна, сядзела трое. Піліп стаў чацвёртым. «3+1=4» – падлічыў Піліп Падсвядома.





Падышоў афіцыянт, узяў заказ. Адзін з тых, хто сядзеў за сталом да Піліпа, устаў і пайшоў у прыбіральню. За сталом засталося трое. (4-1=3).

За суседнім сталом таксама сядзела трое. А ўсяго ў кавярні было пяць столікаў Адзін з іх быў заняты цалкам: за ім сядзела чацвёра, а за двума было па два чалавекі. (Усяго: 3+3+4+2+2=14). Тут вярнуўся той, хто хадзіў у прыбіральню. (14+1=15).

Такім чынам у кавярні было 15 наведнікаў А ўсяго магло б быць 20. (5x4=20). Пяць крэслаў было пустых. (20-15=5). Калі лічыць па століках, то гэта выглядала так: 0+1+0+2+2=5. Пустых.

У сярэднім за адным столікам сядзела па тры чалавекі. (15:5=3). А не сядзела па аднаму. (5:5=1).

Але Піліпавы разлікі перапыніў новы наведнік, які зайшоў і сеў за столік ля ўвахода-выхада. Трэба было пачынаць спачатку: (3+1=4), (4+4+4+2+2=16), (20-16=4), (0+0+0+2+2=4), (16:5=3,2), (4:5=0,8). .

У гэты момант зайшоў яшчэ адзін чалавек. Піліп пачаў лічыць з ім, але раптам трое ўстала і выйшла. Піліп вярнуўся ў пачатак падліку.

Прынеслі першае. Піліп з'еў Прынеслі другое. Піліп пачаў есці. Прынеслі трэцяе. Піліп даеў другое. Выпіў трэцяе.

Пакуль ён еў, сітуацыя ў кавярні істотна змянілася. Два столікі наогул былі пустыя. За двума сядзела па аднаму І толькі за Піліпавым трое. Значыць, засталося пяцёра. (0+0+1+1+3=5).

Піліп разлічыўся і выйшаў. (5-1=4).

***

У час адпачынку Піліп дзень за днём сядзеў перад акном сваёй кватэры і назіраў за вуліцай. Да прыпынку насупраць падыходзіў аўтобус і набіты людзьмі ад'язджаў. Дзеці пераходзілі вуліцу ў прызначаным месцы і ішлі ў школу, а потым са школы. Дарослыя перабягалі дарогу абы-дзе блізка перад машынамі і кіравалі да чаргі ля крамы. «Каторы дзень гляджу хоць бы адна аварыя»,– падумаў Піліп. І тут жа затармазіў імклівы «Мерседэс», завіхляў, закідаўся па дарозе ўлева-ўправа і ўрэзаўся ў «Жыгулі».

«Ну, нарэшце.. »– падумаў Піліп і адышоў ад акна.

***

Купіў Піліп гадзіннік. Не першы ў жыцці, але, дасць Бог, і не апошні. Адзеў на руку– прыгожа. А, галоўнае, зручна. Выйшаў з дому– зірнуў, колькі часу, зайшоў у аўтобус– зірнуў, прыехаў да працы– зірнуў і г.д. А самае прыемнае– гэта калі ў Піліпа першы раз спыталі· «Колькі часу?»– і ён, паважна ўзняўшы руку, зірнуў, адказаў і адчуў сябе патрэбным чалавекам. Значыць, не дарэмна ён нарадзіўся, не дарэмна жыве на свеце, калі ў пэўны момант, у пэўным месцы ён аказаўся патрэбным пэўнаму чалавеку. Можа, ён нарадзіўся, і жыў, і гадзіннік набыў толькі дзеля гэтага моманту.

***

Піліп хацеў зайсці ў лякарню, а зайшоў у кнігарню. Памыліўся дзвярыма, якія былі побач.

У кнігарні Піліпу захацелася набыць кніжку Ён і не думаў купляць яе, аднак надта ж жаласліва пазірала на яго жанчына з вокладкі. Піліп узяў кнігу і памкнуўся пайсці да касы. Але за кнігай паказалася яшчэ адна з такою самаю жаласліваю жанчынаю. За ёю– яшчэ адна, яшчэ... І ўсе гэтак вымольна пазіралі, што калі браць, дык трэба было браць усіх. Піліп пералічыў свае грошы, перамножыў на жанчын і згроб з паліцы ўсе кнігі.

«Няйначай, аўтар»,– падумала касірка і з павагай паглядзела на Піліпа...

***

Піліп набыў канапу Па аб'яве. Не зусім старую, але добра ўжо б/у (альбо па-беларуску– б/к ці п/к). Перавёзшы з сябрам канапу дахаты, Піліп прысеў на яе. І яму спадабалася: мякка, зручна– умелі ж раней рабіць. Піліп лёг– яшчэ лепш: канапа ласкава падалася пад спінаю, узяла яе ў свае абдымкі, і ні спружына табе не выбіваецца, ні стружка не коле.

Піліп даў паляжаць сябру І таму спадабалася. А калі жонка фыркнула. такую старызну прыпёр, асадзіў яе:

– Не вазнікай!

***

Піліп зняў боты і паварушыў пальцамі– добра... Піліп абуў пантофлі прайшоўся па пакоі– добра. Піліп выйшаў на гаўбец і шырока ўдыхнуў грудзямі свежае паветра– кхе-кхе-кхе.

***

На цыферблаце гадзінніка ў гомельскім аэрапорце былі напісаны лічбы ад аднаго да трыццаці. Піліп прыкінуў· значыць, у тутэйшых сутках павінна быць 60 гадзін. Аказалася не: то былі вагі.

***

Апошні раз у лесе Піліп быў летась. Ці пазалетась. Зрэшты, няма розніцы. Галоўнае, што даўно. І вось учора выбраўся ён у грыбы. Адзін, без жонкі «А на халеру яна там,– падумаў ён,–баба на караблі ніколі шчасця не прыносіла...»– і пайшоў

Лес сустрэў яго лёгкаю гаманою лістоты і птушынымі перасвістамі. «Ну як у кіно табе,– падумаў Піліп,– а раней жа я гэтага не заўважаў... Трэба ў лесе бываць часцей...»

Пад першай жа асінай Піліп знайшоў падасінавіка, пад першай жа бярозай– абабка...

У гушчар Піліп не заходзіў, з закінутых лясных дарог не сыходзіў, і таму праз нейкую гадзіну ягоны цэлафанавы мяшэчак быў амаль поўны. Піліп усміхаўся сам сабе, прыгадваючы два баравічкі, якія знайшоў ён пад маленькай ялінкай. Як ні хітрыла яна, як ні хавала іх лапкамі– Піліп грыбы забраў

Вяртаючыся дамоў, Піліп зноў завярнуў да той ялінкі. «Добры ўспамін прыемна прыгадаць,– падумаў ён,– і не раз... Хай будзе гэтая елачка вечным помнікам грыбам, якія я знайшоў тут...»

То было ўчора. А сёння ранкам Піліп збегаў да той ялінкі, на сваё грыбовішча, каб першым з менчукоў забраць баравічкі, што выраслі пад ёй за ноч. І знайшоў. Не пад ялінкай, праўда, а побач. Дамоў вярнуўся ён героем. А жонка сустрэла яго– нібы пугай секанула:

– Ужо пахмяліцца збегаў, скаціна... У-у-у, я б цябе задушыла зараз...

Ну што мог адказаць ёй Піліп?

***

У краме, у чарзе Піліпу наступіла на нагу прыгожая дзяўчына. Наступіла і не сыходзіць. Ёй гэтак, пэўна, ямчэй было: далей відаць. Піліп цярпеў-цярпеў і не вытрымаў· ціха, ціхенька выцягнуў сваю нагу з-пад вастранькага абцасіка дзяўчыны. І тая вельмі незадаволена гэтак глянула на яго: проста апаліла злосцю, потым паднялася на дыбачкі і вызірнула наперад. Піліп тады асцярожна, асцярожненька падсунуў нагу пад абцасік дзяўчыны.

Дома, паціраючы стаптаныя да сінякоў пальцы, ён думаў: «Добра, што кілбасы хапіла ўсім, а то б дарэмна адстаяў гэтакую чаргу».

***

Піліп любіў чытаць газеты. Любой свежасці. Бывала, купіць у краме што-небудзь і просіць, каб загарнулі ў газету Апошнім часам у крамах газетаў не стала, трэба ісці туды са сваёй ці з цэлафанавым мяшэчкам. А адкуль узяць сваю, калі яе Піліп гадоў пяць ужо не выпісваў.

І таму палюбіў Піліп купляць семкі. Бабулькі заўсёды загортвалі (насыпалі) іх у найцікавейшыя ўрыўкі артыкулаў ці старонкі кніг (Ці не адтуль у Піліпа Неферціці?) Піліп чытаў іх без пачатку, альбо без канца, альбо без аднаго і другога разам. Чытаў і астатняе дадумваў. І так прывык, што цяпер, нават купляючы газету ў шапіку, ён спачатку раздзірае яе на кавалкі, складвае абы-як, частку выкідвае, і толькі потым– чытае.

***

На хрэсьбінах у брата Піліп напіўся. Як свіння. Прыйшоў дахаты ўвесь у бруд выкачаны, быццам ім нехта ў футбол гуляў Раніцаю памыўся, памацаў сіняк пад вокам, замазаў ёдам рану на шчацэ і цяжка ўздыхнуў· о, як не хацелася яму ісці пахмяляцца. Але што паробіш– трэба: не зразумеюць, пакрыўдзяцца. І скупая мужчынская сляза скацілася з падбітага вока.

***

Піліп сустрэўся неяк з вядомым пісьменнікам, якога ведаў па тэлевізары. Не тое, каб сустрэўся, а проста стаялі яны побач у чарзе па хлеб. Дачакаўшыся, калі пісьменнік зірне на яго, Піліп сказаў: «А я вас ведаю,– і схлусіў,– чытаў вашыя кнігі...» Пісьменнік ажыў пацінуў Піліпу руку і сказаў: «Вельмі прыемна, вельмі прыемна». Піліп запісаў потым у заведзеным з гэтае нагоды дзённіку· «Цікава, а што запісаў у сваім дзённіку пра сустрэчу са мною пісьменнік?»

***

У аўтобусе Піліп сустрэў філосафа. Пырскаючы слінаю, той казаў:

– Чалавек нараджаецца ў пакутах і дзеля пакутаў. Усё жыццё нашае, якім бы шчаслівым яно ні здавалася камусьці,– ёсць пакуты. І таму асалоду ад жыцця трэба шукаць у пакутах.

Піліп анічога не зразумеў, зразумеўшы асноўнае: жыццё-пакуты-шчасце. Запомніў А выйшаўшы з аўтобуса– забыў

***

«Што дазволена Юпітэру,– падумаў Піліп,– тое дазволена і мне, бо калі я сярдую, я, як і Юпітэр, не маю рацыі, а калі я сярдую, то найлепшы сродак астыць для мяне– папіць піўца»,– з гэтымі думкамі Піліп расчыніў жончын вацок і дастаў пяцёрку. Расчынены вацок нагадваў жончын рот у немым крыку І Піліп паклаў грошы назад.

***

Піліп купаўся ва ўнутраным басейне пяцізоркавага гатэля ў Турцыі, куды ўрэшце прыехаў па тавар, і злавіў жабу Звычайную, зялёную, якіх у нашых балотах і канавах сотні. На дзіва збегліся паглядзець усе насельнікі гатэля. Галоўны адміністратар і па сумяшчальніцтву вялікі знаток рускіх *наташ* і, адпаведна, казак, сказаў па-турэцку: «Царэвна-лягушка»

Піліп трымаў жабу за заднія ногі, і яна кідалася цэлам наперад, направа, налева, спрабуючы вырвацца. Нарэшце ёй гэта ўдалося. Яна плюхнула ў ваду і... знікла там, быццам і не было яе. Народ яшчэ трохі пастаяў і разышоўся.

Піліп вылез з басейна, выцерся шырокім ручніком і пайшоў у свой нумар. І ахапіла яго такое пачуццё, нібы пакупаўся ён дома, у Змітровай сажалцы, і ад таго было добра на сэрцы і радасна на душы.

***

«Калі ад трох адняць тры, будзе нічога,– думаў Піліп, закаханы ў розныя падлікі,– а нічога– гэта, у даным выпадку, нуль. Ці наадварот· калі ад трох адняць тры– будзе нуль, а нуль, у даным выпадку, і ёсць– нічога. А калі да нічога дадаць нуль, што будзе: нічога ці нуль? Хутчэй– нічога, бо калі да чагосьці дадаваць нуль, то сума не змяняецца: ні змяншаецца, ні павялічваецца і тое «штосьці» застаецца самім сабою. Значыць, усё-ткі нічога. Ага. Пуста-пуста, як у даміно. Не, не як у даміно, а як у маіх кішэнях. Заракаўся гуляць з дзяржаваю ў латарэю. Згуляў І трох рублёў як не было. Пуста. А мог бы выпіць сем куфляў піва. Сем! Альбо два сёння, два заўтра, два паслязаўтра і адзін– пасляпаслязаўтра»

Піліп згорбіўся і ўвайшоў у свой двор. Ён яшчэ не ведаў, што жонка пра тыя тры рублі ведае і чакае іх дамоў

***

На дрэве вісела тры грушы. Па ўсім– спелыя, сакавітыя. Піліп сарваў адну і з'еў Смачная. Сарваў другую. Салодкая. З'еў Захацелася яшчэ. Дастаў і трэцюю. Толькі першы раз адкусіў, як прыляцела аса і стала кружляць вакол яго. Піліп падумаў· «Занясу я гэтую грушу жонцы і пачастую яе».

***

Вяртаючыся з лецішча ў горад на электрычцы, Піліп пазнаёміўся з адною жанчынаю. Не тое, каб пазнаёміўся, але сядзелі яны побач. Была яна крыху маладзейшая за Піліпа, што якраз найбольш і падабалася яму Спачатку ён доўга, з паўдарогі, сядзеў поруч з ёю моўчкі, а потым, калі пераязджалі рачулку, спытаў у яе:

– Як вам удалося вырасціць такія цудоўныя памідоры?

Жанчына, сціпла апусціўшы вочы, зірнула на вядро, поўнае чырвоных і жоўтых вялізных памідораў, і сказала:

– Гэты гатунак я сама вывела на сваім участку Каму ні скажу– ніхто не верыць.

Піліп паверыў ёй адразу і таму больш з ёю не загаворваў.

***

У заапарку Піліп упадабаў вярблюда. Патрэбная жывёліна. Карабель, так бы мовіць, пустэльні. Хай і непрыгожы ён, але непрыгожае ў ім якраз тое, што адрознівае ад іншых: горб.

Піліп пайшоў да выхаду з заапарка, набыў тры чабурэкі і прынёс вярблюду Вярблюд з'еў усё, нават лівер. «Непераборлівая жывёліна»,– падумаў Піліп, прыгадаўшы, што вярблюд харчуецца дома ў пустэльні калючкаю, якую і назвалі вярблюджаю.

Паглядзеў Піліп на вярблюда і закарцела яму ўбачыць калючку тую, што вярблюджай назвалі. Пачакаў кармлення. Але– дзе там–есці вярблюду прынеслі бярэмя звычайнага сена.

«Жыццё– суцэльныя расчараванні»,– хацеў падумаць Піліп, але не падумаў, бо пабаяўся падацца сабе занадта разумным.

***

Прыйшоў да Піліпа нейкі чалавек і, спытаўшы ягонае прозвішча, паведаміў яму, што ён патомны шляхціц. Так па ўсіх кнігах выходзіць.

Піліп здзівіўся, аднак паверыў незнаёмцу. Асабліва, калі той сказаў, што ў Піліпавых продкаў было вялізнае радавое памесце (так ён сказаў) пад Мазыром.

Піліп не ведаў гэтага, аднак заўсёды падазраваў, што ён не просты чалавек, а патрэбны для чагосьці. Вось не было б яго– і знік бы з твару зямлі магутнейшы шляхецкі род...



**Барыс ПЯТРОВІЧ**

